Потым жа ён вучыўся і на ўсходзе, у Візантыі, і ў франкаў – у іх мячы былі найлепшыя. У яго было шмат часу. Шмат жыцьцяў праходзіла ў паходах, а калі ён адпачываў ад іх, то станавіўся кавалём. Каваў мячы для ваяроў цела, і духу.

Працаваць з вагнём яму падабалася. Так жа, як і працаваць з пэндзалем. Каваль, і, да таго ж, мастак. Можа, для кагосьці гучыць дзіўна, але ж ён нічога дзіўнага ў гэтым ня бачыў. Накіды зброі, нажоў, мячоў ляжалі ў яго ўсюды. Ён заўсёды трымаў пад рукой невялікі нататнік для эскізаў. Часта ж маляваў і проста краявіды. І яшчэ любіў маляваць яе. Вось яна сядзіць зь вялікай чашкай кавы, і глядзіць на сумны восеньскі лес. Яе чорныя хвалі валасоў вольна цякуць па сьпіне, пухнаты вязаны жакет, як шэрае воблака, зваліўся з аголенага пляча, пад ім – тонкая ільняная сукенка. На нагах гольфы і скураныя боты. Сьветлы, празрысты тварык грэецца ў кававай дымцы, вузкі носік удыхае пару. Раз-пораз яна прыкладаецца да чырвонай грубай гліны кружкі па-дзіцячы пухлявымі ружовымі вуснамі маленькага рту.

- Хто прыйдзе? Адзін чалавек, замовіў у мяне меч. Хоча багаты, можна сказаць, герцагскі. Пафасны. Ну і, канешне ж, каб працаваў. Навошта яму такі, ня ведаю. Бо ж на рэканструктара не падобен. Нейкі такі … мажор. Ён усьміхнуўся. Пацягнуў каву зь вялікай кружкі.

Я яму накідаў зрабіў – вось, цэлы нататнік. Ён разьвярнуў шырокі малескін. Ды лязо ўжо, лічы, адкаваў. Ён фламберг хоча. Чаму – не патлумачыў. Можа, проста прыгожа, прыгожы меч, прыгожае слова. А можа і для чагосьці. Я ўжо амаль скончыў. Складаная праца, доўгая. Цяпер засталося толькі рукаяць зрабіць – дзяржальна. Ну і так, аздобы дадаць. Рэканструктары, яны розныя мячы просяць – і аднаручныя, і палутарныя, і двуручныя, толькі фламберг у мяне яшчэ ніхто не заказваў. Ды неяк каваў я яго. Шчыра кажучы, каваў для сябе. Адкуль ён ведае, што ў мяне такі вопыт ёсьць? – гэтае пытаньне прагучэла так, быццам бы ён задаў яго сабе самому.

- А чаму ты, золатка, пытаешся, хто да нас прыйдзе? – раптам ён узьняў на яе вочы. Гэта толькі што прыйшло ў яго галаву. Адкуль яна ведае, што менавіта сёньня да іх прыйдзе нехта

асаблівы?

Яна паціснула плячыма.

- Мне здалося, што сёньня нехта павінен прыйсьці. Проста так, інтуіцыя. Яна не сказала яму, што менавіта з гэтай нагоды ён адпусьціў адпачыць памагатага - напэўна, чалавек не хацеў, каб яго бачылі. Адкуль яна гэта ўсё ведала – яна ня ведала і сама. Проста інтуіцыя. Сёньня яна прачнулася, і падумала, што павінен прыйсьці нехта. Можа, яна бачыла нейкі асаблівы сон. Ды толькі яна яго не памятавала. А вось вынік гэтага сну – упэўненасьць – застаўся. І яна не памылілася. Раптам яшчэ нешта прыйшло ёй на вум.

- Каханы, ты будзь асьцярожны з гэтым чалавекам. Ён ня просты, - раптам вымавіла яна.

- Мяркуеш? – ён сур'ёзна пагледзеў на яе.

- Ведаю – ціха адказала яна, і ізноў адпіла глыток кавы.

Раптам на дарозе пачуўся шум. Шапаценьне шынаў па насыпаных каменьчыках. Нехта спыніўся на палянцы перад домам, за дрэвамі, выйшаў з машыны, і зараз крочыў сюды.

Высокая постаць у кароткім чорным скуратым паліто-жакеце, у сьветла-шэрых штанах дарагога касьцюму. Твар чалавека хавалі вялікія чорныя акуляры-авіятары. Ён быў коратка стрыжаны, сьветлыя валасы блішчэлі на сонцы, вусы і кароткая барада ж былі цемнаватымі, больш каштанавага адценьня. Худы, як шэст, але ж гібкі і стройны, ладна складзены, чалавек упэўнена прайшоў праз двор, і накіраваўся да веранды.

- Нешта ён рана!

Ён павярнуў галаву на шум аўто. Яна, нібы ўспомніўшы, нацягнула на плечы пухнаты ангорскі жакет – з косаў, сама вязала, мяккі, як воблака, намагаючыся запахнуць паўпразрыстую ільняную сукенку. Ніякай касьметыкі ў яе на твары не было, яна толькі ўмылася пасьля сну, ды яе ружовая мяккая скура і не патрабавала ніякага дадатковага

аздабленьня. Чорныя высокія бровы і чорныя вейкі, ды вялікія шэрыя вочы, як халодная вазёрная вада. Мяккія вусны, дзіцячы твар, але ж і адначасова жаночы, прыгожы, вузкі, крыху сур'ёзны, крыху капрызны, а больш – летуценны, задуменны, з вачыма, як у палахлівай лані, вялікімі, бліскучымі. Нярвовы, тонкі, празрысты твар. Узьнёслы, вылучаючы спакой, і сумнаваты. Яна да сябе даўно прывыкла, і нічога асаблівага ў люстэрку ня бачыла. Так, прыгожая дзяўчына, а на яе думку – дык і ня самая прыгожая. Рысы ня яркія, тонкія, рот маленькі, вусны не пухлявыя, як цяпер модна, можа, гадоў пяцьсот таму ён і быў бы прыгожым, але ж цяпер месца гэтай прыгажосьці засталося ў царкве ды карціннай галерэе. Нехта казаў ёй, яна нагадвала Мадонну – вузкімі бледнымі шчокамі, вялікімі вачыма, сумнымі, узьнятымі дугой бровамі. Плачучая мадонна – ёсьць такія прыгожыя гішпанскія лялькі. На яе часта зьвярталі ўвагу, аднак так, што яна не разумела, ці прыгожая яна, ці нават прывабная, альбо наадварот.

Ёй, як і ўсякай нармальнай дзяўчыне, канешне ж, хацелася быць прыгожай. Ды і, шчыра кажучы, яна была ўпэўнена, што прыгожая і ёсьць. Аднак нешта нібыта падказвала ёй, што для гэтага сьвету яна была дужа прыгожай. Такой прыгожай, што ён быццам бы ня мог умесьціць яе прыгажосьць. І тых, хто ўмесьціць яе ня мог, яна палохала. Надта тонкім было яе цела, надта ўзьнёслым – твар, і сумнымі – вочы. Яна выглядала дзіўна, як сказаў ёй аднойчы нехта з хлапцоў, што спрабаваў заляцацца да яе. Алекс жа жадаў ад яе сексу, з гэтым было ўсё проста, тут нічога ня скажаш. Да таго ж, яна была маладзейшай за яго, і яе волю можна было поўнасьцю падпарадаваць сабе. Ды і тое, што ён зь ёй рабіў, напэна, ня стала б цярпець ніводная дзяўчына. Яна ж яго кахала тады, так яна думала. Ён жа наогул не кахаў яе, як здавалася ёй. І толькі цяпер яна зразумела, што такое вялікае, дарослае каханьне. Такое, якім яно можа быць. Ад якога зносіць галаву, калі мужчына поўнасьцю бярэ на сябе адказнасьць за лёс жанчыны – і за яе душу, і за цела. Калі становіцца для яе Богам, як і яна для яго становіцца яго душой.

Ён быў ранімым, пяшчотным. Але ж ён быў і моцным, вялікім, дужым, такім, што ў бойцы гуляючы справіўся б і з некалькімі

такімі, як Алекс. Ды яна наогул яго ў бойцы не ўяўляла. Ён біцца ня ўмеў. Забіваць умеў, як жартаваў ён. Таму ўсялякіх сутыкненьняў пазьбягаў. Ды, гледзячы ў яго пільныя вочы пад чорнымі бровамі і не хацелася ніякіх зь ім сутыкненьняў. Аднак так здарылася, што яны сустрэліся, і ён пакахаў яе. І – забраў. Забраў адусюль, і з гораду забраў, і з сучаснага жыцьця. І ад Алекса, і ад бацькоў, якім было ўсё роўна, дзе і зь кім жыве іх дачка. Забраў, і прытуліў да сябе. Каб яна была толькі зь ім, разам, каб кахала яго, так жа моцна, як і ён кахаў яе. А яго каханьню не было межы, і яна гэта ведала.

Чалавек прайшоў праз паляну, і ўзьняўся на веранду. Ён паўстаў, і працягнуў яму руку. Яны павіталіся, і ён ададвінуў стул, запрашаючы госьця прысесьці.

- Можа, кавы? – гасьцінна запытала яна, устаўшы, накіроўваючыся да кава-машыны.

- Дзякуй, не адмоўлюся. Госьць зь цікавасьцю узьняў на яе вочы. Імгненьне аглядаў яе, агледзеў усю – з ног да галавы. І раптам яе працінула думка-успамін. Гэтага чалавека яна ведае! Яна бачыла яго. І ён бачыў яе. І таму цяпер вывучаў з такой цікавасьцю. Праўда, тады было цёмна, і, можа, ён яе не спазнаў. А можа і спазнаў. Ну і што. Якая розьніца. Усё роўна гэта ўсё засталося ў мінулым. Яна націснула кнопку, і ў тонкую фарфоравую чашку палілася духмяная кава, ствараючы густую залацістую пену.

Дзяўчынка, напаўаголеная, у тонкім шэрым кардыгане, пад якім, здаецца, было толькі нешта накшталт сарочкі – бялізны, з густымі хвалямі чорных валасоў, заложаных за вуха, маленькае, ружовае, як ракавіна, пачала старанна рабіць каву. Паставіла тонкую фарфоравую чашку, акуратна адчыніла тугую крышку, падумаўшы, выбрала зь некалькіх каробачак адну капсулу. Нават ня запытала яго, усё ужо вырашыла сама. Раптам яна павярнулася да яго.

- Скажыце калі ласка, вам якую каву – эспрэса ці вялікую? Моцную, ці, можа, арома?

- Я ў гэтым не разьбіраюся. Ён усьміхнуўся. – Зрабіце эспрэса, і

моцны. А можна і арома. Як жадаеце. На ваш густ – я ўпэўнены, у вас ён выдатны. Яна паружавела, і адначасова пабялела. Тонкае ружовае адценьне яе шчочак зрабіла яе скуру яшчэ больш белай, празрыстай.

- Дазвольце – здагадаюся. Ваша дачка? – запытаў ён чалавека, які сядзеў насупраць. – Бо ж вы дужа падобныя.

Той глянуў на яго – глыбокімі вачыма з-пад чорных, густых, прамых броваў. Крыху ўзьняў іх у адказ на пытаньне.

- Не, - коратка вымавіў. І ўсьміхнуўся.

- Унучка? – яму чамусьці хацелася даведацца, кім прыходзіцца дзяўчына гэтаму чалавеку.

- Жонка, - коратка адказаў каваль, і ў яго на імгненьне адняло мову. Чалавеку перад ім было ўжо добра за сорак. Можа, каля пяцідзесяці. Вызначыць яго ўзрост было складана: чорныя валасы, ў якіх яшчэ не з’явіліся сівыя ніткі, але ж твар, постаць, рухі выдавалі чалавека сталага, крыху маруднага, нясьпешнага. Ён нагадваў вялікі дуб, ці – камень. Нейкага старажытнага ідала, высечанага з цёмнага граніту.

Дзяўчыне ж, пэўна, не было і дваццаці. Не падлетак, але ж зусім маладая.

Раптам мужчына пацягнуўся, павёў плячыма – шырокімі, чаго ён, надзіва, не заўважыў, бо спачатку чалавек крыху горбіўся, пэўна, з-за высокага росту.

Тут, седзячы зь ім за адным сталом, ён са зьдзіўленьнем разглядаў, якія ў яго шырокія грудзі, вялікія рукі, моцныя цяглы.

- Ну канешне, ён жа – каваль. Працуе ўсё жыцьцё рукамі, - падумалася яму. – Таму і цяглы, і такія шырокія далоні, і моцныя пальцы, і плечы – як галіны раськідзістага дрэва. Раптам яму захацелася апісаць гэтага чалавека. Можа, нават і ў форме верша. Быццам бы перад ім сядзеў вялікі волат са старажытных паданьняў.

- Ды я не заўсёды быў каваль. Чалавек быццам бы адказаў на яго думкі – дзіўна.

- Дагэтуль мне прыйшлося парабіць яшчэ і нешта іньшае. Ён пакачаў галавой, быццам бы прыпамінаючы нешта.

- Павандраваць прыйшлося. Але ж цяпер гэта ўсё у мінулым. Цяпер я – проста каваль.. ды яшчэ крыху мастак.

Ён кіўнуў.

Дзяўчынка паднесла і паставіла перад ім чашку з кавай. З фарфоравай глыбіні ціха падымалася тонкая пара. Скура дзяўчыны была таксама празрыстай, нібыта фарфоравай, пальцы – тонкімі, далонькі – маленькімі і вузкімі.

Кардыган, шырокі ў горле, ізноў зваліўся зь яе пляча. Пад ім была тонкая ільняная сарочка-сукенка на шлейках, упрыгожаная вязанымі карункамі.

Калі яна нахінулася, у выразе ён убачыў яе маленькія белыя грудзі з набухлымі ружовымі саскамі. Толькі імгненьне, і яна выпрамілася.

- Якая ў вас прыгожая сукенка, - вымавіў ён. – Дызарнейская проста.

- Дзякуй. Я сама вязала карункі. Ірландскія. А сукенка зусім простая. Яна ўсьміхнулася яму, і ізноў папраўіла кардыган. Мужчына насупраць глядзеў на іх, быццам бы ўсьміхаючыся вугалкамі вуснаў.

Быццам бы чытаў яго, як кнігу, - падумалася яму. – Адкрытую для яго кнігу.

- Ты ж жадаў гэтую дзяўчыну, - раптам пачуў ён у галаве яго нізкі, уладны голас. – Але ж струсіў. І цяпер яна належыць мне. Як і заўсёды яна мне належыла. І нікому іньшаму. Таму, лічы, што струсіў ты не дарма. Але ж тое, што ты струсіў, цяпер ня зьменіш. Ты нават не паспрабаваў узяць жанчыну, якую пажадаў. А жадаеш ты яе цяпер моцна. Я ж гэта бачу. Не хлусі мне, рыцар. Ніколі не хлусі. Бо я бачу цябе наскрозь – усе твае

думкі, жаданьні, страхі. Бачу тваё сэрца. І бачу ў ім агонь. Мне гэта падабаецца, бо інакш я б ня стаў каваць для цябе меч. Але ж ты яго яшчэ не атрымаў. Хто ты такі, каб валодаць маім мячом? Падумай.

Ад думак, запоўніўшых яго галаву, ён садрыгнуўся. Дзяўчына адышла, і ціхенька села побач з высокім чорным чалавекам – кавалём. Той ахінуў яе рукой па сьпінцы крэсла. Яна ж, як і не заўважаючы, быццам бы гэта нармальна, што яна тут напаўаголеная, і яе ахінае рукой чалавек ледзь ня ў тры разы старэйшы за яе, узяла танюткі ломцік сыра, палажыла яго на хлеб, намазаны маслам.

- Бярыце аладкі, - прапанавала яна. – Ці, можа, дайце, я вам палажу. Чалавек побач кіўнуў – палажы госьцю, хай пасьнедае, і яна ізноў узьнялася, нахінулася, працягнула руку праз стол, узяла яго талерку – ён ізноў убачыў яе грудзі ў выразе, на гэты раз – поўнасьцю (быццам бы яна ня ведае! – падумалася яму), і палажыла яму некалькі прыгожых ружовых картафляных аладак, паліўшы іх сьмятанай.

- Ну, у нас так. Кава-кавай, а нармальная ежа павінна быць. Чалавек з чорнымі валасамі і барадой ізноў усьміхнуўся – паказаў белыя зубы.

Цяпер ён нагадваў яму пірата. Ці – рабаўніка, нейкага Робін Гуда. Яго шэраватая ільняная кашуля, вышытая па ворату, была распахнута на шырокай шыі. А можа, і нейкі князь – прама са старонак гістарычнай кнігі, - падумалася яму.

- Меч твой амаль гатовы. Хочаш глянуць? Чалавек узьняўся ў весь свой высокі рост. – Пайшлі.

Ён пасьледваў за ім праз двор, абыйшоў двухпавярховы шырокі дом скандынаўскага тыпу, за якім месьціліся гаспадарчыя пабудовы. Кузьня стаяла на беразе возера.

- Тут во пабудаваў, - вымавіў чалавек. Яго цяжкая рука абвяла краявіды вакол.

- Зручнае месца. І прыгожа, і вада блізка. А ўзыходы тут якія!

Хоць карціны малюй. Ды я і малюю, бывае.

- А вы яшчэ і мастак? – ветліва пацікавіўся ён.

- Ну, так. Спрабую. Можа, нешта і атрымоўваецца. У мастацтве, як і ў кавальскай справе, і ў збройнай, галоўны вынік – уздзеяньне. Калі глядзіш на малюнак, і разумееш: у сэрца трапіў. Мастацтва павінна быць вострае, як лязо. Тут не павінна быць пытаньняў – ці гэта таленавітая карціна, ці не. Калі гэта ад Бога, яно адразу трапляе ў сэрца. Не ведаю, як лепш растлумачыць.

- Я разумею. Ён нахіліў галаву. Яны прайшлі ў кузьню – вялікую, сучасную. Дарагі, зручны горан, не тутэйшае выробы. Такі горан як добрая машына каштуе. Але ж накавальня была старая, простая. І ўсе прылады – быццам бы з даўніх вякоў. Не было ніякіх механічных прыстасаваньняў – толькі молаты рознага памеру ды шчыпцы, ды ручныя пілы.

- Не давяраю я машынам. Толькі вось, горан надбаў, каб метал распальваць дакладна, да тэмпературы. Можна было б і па-старажытнаму ўсё рабіць, нават і вугаль самому паліць, ды навошта. А вось каваць я люблю. Тут машынам ды прыладам месца няма. Метал, ён павінен руку адчуваць. Адразу да рукі прывучацца. Як нараджаецца ён ад рукі майстра, так і будзе служыць – верна – руцэ таго, каму яго гэты майстар перадаў. Бо ж меч – гэта як частка цела, і таму ў ім, як і ў целе, павінна быць душа. А яна ў ім і ёсьць. У гэты вось я сам часьціну сваёй душы ўклаў. А гэта ўжо нямала. І ты працягнеш укладаць сваё – далей.

Чалавек падышоў, і адкінуў халсьціну. Паказалася вялікае, нагадваючае хвалю лязо.

Ён здзівіўся: “Прыгожа!”.

- Ну, так. Каваль, як ён называў яго пра сябе, усьміхнуўся. – Прыгожа, а будзе яшчэ прыгажэй. Як дакую, загартую, ды адпаліраю яго. Будзе блішчэць, як вада пад сонцам.

А дзяржальна табе якое? Я тут вось намаляваў. Чалавек адкрыў

вялікі, дарагі нататнік – молескін, паказваючы яму розныя варыянты – і з грыфонамі, і з арлінымі крыламі, і з ваўчынай галавой.

- І ўсё гэта вы зможаце зрабіць? Ён зьдзівіўся.

- За асобную плату – чаму не. Змагу. Чалавек ізноў усьміхнуўся – паказаў белыя зубы, якія бліснулі пад густымі чорнымі вусамі, агладзіў кароткую бараду.

- Падстрыг, непрывычна. А была доўгая, да грудзей.

- Мне таксама зручней з кароткай. Ён між волі агладзіў сваю бараду, якой, у параўнаньні з барадой каваля, быццам бы і не было. Так, юначы пушок.

- Доўгая хораша зімой у лесе. А з жанчынай лепш кароткая. Вочы каваля прама глядзелі на яго, быццам бы чыталі яго думкі.

- У вас прыгожая … жонка, - ледзь вымавіў ён.

- Так. Я ведаю. Дужа прыгожая, такіх і на сьвеце не бывае.

- І даўно яна з вамі? – раптам нечаканае пытаньне сарвалася зь яго вуснаў.

- З пачатку восені. Зь верасня. Гэта калі мерыць гэтым часам. А так – усё жыцьцё. А яно ў мяне было не кароткім. Многія сотні год.

- Вар’ят? – падумалася яму. – Ці проста – арыгінал?

- Мне здаецца, я яе ведаю, - раптам вымавіў ён, сам не вядома чаго.

- Праўда? Ну, тое можа быць. Чалавек пільна глядзеў на яго. – Яна зь Мінску. Можа, дзе сустракаліся.

- А чаму цябе яе самому не запытаць? Можа, і яна цябе ведае? – раптам вымавіў ён.

- Я ня думаю, што гэта такое знаёмства, каб яна мяне ўспомніла. Хутчэй за ўсё, я проста ўбачыў яе, і быў уражаны яе прыгажосьцю. Але ж знаёмства насамрэч між намі не было. Я нават ня ведаю яе імя.

- Летыцыя, - падказаў чалавек.

- Летыцыя! – раптам грукнула ў яго ў сэрцы. Канешне, як ён мог забыць.

Ён бачыў яе тады з гэтым, чарнявым рокерам – Алексам. Прыгожая, нібы крыху замарожаная дзяўчына, з чорнымі, як ноч валасамі да пояса. Ён думаў – фарбаваныя, але ж, прыглядзеўшыся, зразумеў, што свае такія – бліскучыя, цяжкія, як ноч. Тварык дзяўчыны быў зусім юны, тонкі і прыгожы, як у анёла. Яму было дзіўна бачыць з Алексам такую дзяўчыну. Звычайна ён прыходзіў зусім у іньшай кампаніі – яркіх, паўнаватых, з формамі кабетаў, з баявым раскрасам, у абцягваючых заклікальна сукенках. Якія не саромеліся і застацца ў клюбе, і абслужыць не толькі яго, але ж і яго сяброў. Алкаголь і рэчывы пры гэтым прылагаліся – алкаголь зь яго боку, а рэчывы Алекс прыносіў. Ды вось прывёў гэтую дзіўную дзяўчыну. Дзіўная – гэта першае, што ён пра яе падумаў. Тонкая, высокая. Напэўна, мадэль. Валасы да пояса, як грыва. Ці - як шаўковы покрыў, ці вэлюм. Быццам бы дзяўчына закрывалася гэтымі валасамі ад усяго сьвету. Яе цела, тонкае, як трасьцінка, з маленькімі грудзямі, было абцягнута срэбнай тканінай плацьця, не кароткага, за калена. Сьпераду тканіна была сабраная ў качэлі, на шыі трымалася на цэпачцы. Нейкая галівудская сукенка, прывабная, дарагая, але ж і халодная, адштурхваючая адначасова. Тонкая сьпіна адкрытая, ды яе чамусьці страшна крануць. Цікава, якія там грудзі пад гэтымі качэлямі? – падумалася яму. – Напэўна, прыгожыя. Невялікія. Ён крыху пафантазіраваў, уяўляючы, якое цела хавае гэтая яе складаная сукня.

Але ж, на яго думку, дзяўчына была халодная, як лядышка. І скаваная, як бервяно. Сядзела ціхенька, ледзь прыгубляла кактэйль, быццам бы ёй было няёмка ў гэтым месцы. У яго клюбе, дзе ён зрабіў усё, каб стварыць належную яму атмасферу – дух узедазволеннасьці, разбэшчаннасці (ён бы

сказаў - волі). Тут усе былі вольныя рабіць тое, што ім хацелался. Меркавалася, канешне, што хацецца ім будзе пэўных рэчаў. І рэчываў, якія такія як Алекс шчодра прыносілі для багатай публікі. Бо ж месца было элітарным. Праўда, гэты, Алекс, тут быў на працы. Зарабляў грошы, і на дарагі алкаголь спускаць іх не зьбіраўся. Што ж, ён праставіцца. Ён жа лічы што гаспадар. Старэйшы менеджер. Гэты клюб – як яго дзіця. Ён яго нарадзіў, душу ўклаў. І вось, дзіця вырасла. П’е, гуляе. Адрываецца. І што далей? Што цяпер? Нешта ж можа быць па-за тым вірам сьвятла, музыкі, ды стымулянтаў? Ну, зразумела, што. Жанчынаў у клюб ён намагаўся прывабліваць самых прыгожых. Такіх, якія б бездакорна ўпісваліся ў яго карціну сьвецкага адпачынка. Дарагіх, як гэты алкаголь. І такіх жа даступных, калі ў цябе ёсьць грошы. Вядома, за грошы можна купіць усё. Ды раптам ён зразумеў, што гэту дзяўчыну за грошы купіць нельга. Неяк абыякава, стомлена, можна сказаць, што і звысоку, як яму здавалася, пазірала яна вакол. Яе белы прыгожы тварык быў сур’ёзным, вочы зацікаўлена аглядаліся, але ж ні таньчыць яна не пайшла, ні піць ня стала. Быццам бы прыйшла кіно паглядзець.

- А што твая красуня такая сумная сядзіць? – ён адкінуўся на сьпінку мяккай скураной канапы.

- Вам падабаецца, мадам? – зьвярнуўся ён да яе. – Нават не запытаў яе імя.

- Ня дужа, - нягромка вымавіла яна, прама гледзячы яму ў вочы.

- А што так? – ён ледзь не падавіўся джынам, які прыгубліваў зь цяжкога гранёнага бакалу.

- Надта шумна, і цёмна. Я больш люблю спакойныя месцы. Рэстараны з харошай кухняй. Дзе можна размаўляць і бачыць твар таго, хто сядзіць насупраць. А тут я ня бачу ні вашага твару, ні чую голасу. Наогул, мне цяжка зразумець, што вы за чалавек.

- Ну, клюбы не для гэтага. Ён паблажліва ўсьміхнуўся. – Яны, наадварот, каб схавацца. Каб згубіць і свой твар, і сваю ўласную асобу. Застацца інкогніта. І адпусьціць сабе. Вызваліць усіх

сваіх дземанаў. Ён рассьмяяўся - самому спадабалася метафара.

- Дземанаў ня трэба дражніць – ні сваіх, ні чужых, раптам холадана вымавіла яна. - А тое потым іх надта цяжка будзе ўтаймаваць. І можа стацца такое, што выпусьціўшы дземанаў на волю, чалавек тым самым пазбавіць волі самога сябе.

Ён зьдзіўлена, нават раз'юшана глянуў на яе. Гэтая саплячка ўзялася яго вучыць? Хто яна такая? Што за вар'ятку гэты дурань сюды прыцягнуў? Яна ж наогул ня ведае, як паводзіць сябе. Нясе нейкую лухту перад ім, дарослым мужыком, ды яшчэ і начальнікам усяго гэтага месца.

- Вы яшчэ мала жывеце, і дужа мала ведаеце, каб разважаць аб такіх прадметах, і істотах, як дземаны, - з пагардай вымавіў ён. – Я ўпэўнены, што і ў вас іх дужа шмат. І прама зараз яны просяцца на волю. Не жадаеце патаньчыць? – ён указаў на танцпол.

- Вы мяне запрашаеце? – яна ўсьміхнулася. – Аднак музыка ня дужа спрыяе танцу мужчыны і жанчыны, не знаходзіце?

- Не запрашаю, а загадваю, - раптам вымавіў ён. – Прама зараз ты пойдзеш, і будзеш таньчыць там, з усімі.

- Я ня ўмею, - ціха вымавіла яна.

- Як можаш. Як умееш, - загадаў ён. – Калі ты хочаш застацца тут. Тут – мае правілы. Інакш цябе проста выкінуць на вуліцу. Ня трэба псаваць настрой ні мне, ні гасьцям.

- Прабачце. Я не жадала вас пакрыўдзіць, - раптам вымавіла яна. Яе дзіцячы тварык стаў сумным, на вялікіх вачах паказаліся сьлёзы.

Ён хацеў яшчэ адказаць ёй нешта, ды тут аднекуль вырас гэты, у сваёй вечнай скураной куртцы, Алекс, кур'ер.

- Ну як вы, пазнаёміліся? – запытаў ён. – Паразмаўлялі?

- Да, дужа прыемнае знаёмства ў нас адбылося, - нярвова ўсьміхнуўся ён. – І жанчына ў цябе дужа прыгожая. Праўда, не

пагадлівая. Вось, таньчыць адказалася. Клюб ёй не падабаецца.

- Ну, гэта мне ня дзіва. Яна наогул клюбы ня любіць. Алекс таксама ўсьміхнуўся. Было бачна, што ён ужо пакурыў недзе. Ад яго салодка пахла, і вочы блішчэлі.

- А што яна любіць? – запытаў ён яго. Дзяўчына між тым узьнялася, і, выбачыўшыся, накіравалася ў дамскую комнату.

- Яна? Секс любіць. Алекс усьміхнуўся.

- Ого. Ён зьдзіўлена паглядзеў на яго. – А мне яна паказалася нейкай зажатай. Як школьніца. Але ж яна ў цябе прыгожая. Ён хлопнуў яго па калену. І раптам вымавіў:

- Слухай, а прадай мне яе. На ноч. Падсыпеш ёй у бакал. Ну, ты зразумеў. І я яе ў цябе скраду. Ты тут усё роўна будзеш свае справы рабіць да сьвятла. А потым яе забераш. У мяне, у кабінеце. Калі прачнецца, мы скажам – ёй дрэнна стала, і мы яе адпачыць аднесьлі. З маладымі дзяўчынамі так бывае – новыя эмоцыі, алкаголь, стрэс. Бывае, што адрубаюцца, і самі не разумеюць, як.

Ён гэтага Алекса добра ведаў, ды тут зразумеў, што ня ведаў яго зусім. Той ускочыў, і схапіў яго за гальштук кашулі. Пацягнуў да сябе. Яго рука апынулася хоць і худой і жылістай, але ж моцнай. Раптам яму ня стала, чым дыхаць.

- Ты што верзеш? Жыць надаела? Ня бачыў, што гэта – мая жанчына. Яна тут са мной. Прыйшла сюды са мной, і пойдзе са мной назад. Ты думаеш, яна шлёндра? Дзеўка, якіх тут у цябе пруд прудзі? Яна цнатлівая была, калі я зь ёй пазнаёміўся. Я ў яе першы. І, мяркую, што апошні. Не пра цябе гэтая роза расквітнела. Раптам ён усьміхнуўся, і кінуў яго гальштук. Ён закашляўся. Біцца з абкураным прыдуркам, да таго ж, з баксёрскім разрадам, яму не хацелася. Таму ён вырашыў перавесьці ўсё на жарт.

- Ну, калі ты так у яе закаханы, то прабач. Я разумею, і болей ніякіх пытаньняў на гэты конт ня будзе. Хоць жаніцеся. І мяне запросіш.

- А можа, і пажэнімся. Алекс раптам стаў сур’ёзным. – Колькі мне так валандацца? Вось зараблю грошаў – ёсьць у мяне адзін праект. А потым з’едзем кудысьці. Купім жытло. Дарэчы… тут ён стаў абмяркоўваць нешта, нейкія свае пляны па арганізацыі канцэрту адной вядомай групы, якую ён можа запрасіць, бо ж мае там сувязі, і было б нядрэнна, бо ж ён знае, хто будзе зацікаўлены… і гэтак далей.

- Што за группа? – запытаў ён.

Алекс назваў вядомае ў вузкіх кругах імя.

Ён нярвова зарагатаў.

- Ты хочаш, каб мяне разам з гэтым клюбам закрылі? Ты ведаеш, што кожнае выступленьне павінна быць адобрана там. Наверсе? І наконт гэтага – стражайшая забарона. Ніякага сатанізма.

- Дык гэта ж проста музыка! – Алекс зьдзіўлена глянуў на яго.

- Гэта для цябе – музыка. А для іх – шкодная ідыялёгія. Прапаганда ўсялякай д’ябальшчыны. Нашай моладзі гэта не патрэбна. Чуеш? І адстань ад мяне. Андаграўнда ня будзе. Іх нават праз граніцу не прапусьцяць. Нават як турыстаў.

- І даўно так строга? – запытаў Алекс. – Нешта я раней такога ня чуў.

- Нядаўна. Проста трэба сябраваць з патрэбнымі людзьмі. Як я. А ня проста ўжываць дур і па тусоўках таскацца. І тады ўсё будзеш ведаць, што вакол адбываецца.

- Ну, вось я стаскаўся да цябе, і цяпер ведаю. Алекс пасур’ёзьнеў. Размова не складвалася. Яны маўчалі. Ён яшчэ раз прыгубіў віскі.

- Колькі я табе вінны? – запытаў.

- Паўтары штукі.

Ён дастаў партманет, адлічыў Алексу грошы. Той узяў. Як раз

падыйла дзяўчына. Летыцыя. Цяпер, у сьвятле срэбнага вялікага шару пад стольлю, ён добра бачыў яе ў поўны рост. І сапраўды, зьнешнасьць мадэлі. Такая жанчына можа дазволіць сабе быць і капрызнай, і дзёрзкай. Раптам ён зразумеў, што яна ў незьлічоную колькасьць разоў даражэй за ўсіх дзяўчын, хто тут у яго завіхаецца. Можа, у яго б і не хапіла грошаў на тую ноч зь ёй. З такой за ноч расплачваюцца жыцьцём, - раптам падумалася яму, і чамусьці стала прыкра. Ад гэтага клюбу, алкаголю, і самога сябе. Алекс таксама паўстаў.

Падхапіў красуню пад руку. Як яна сышлася зь ім, з гэтым недарэкай-аболтусам? Дзіва … нейкі цудовы вечар сёньня. Але ж і ня скажаш, што яму не падабаецца.

Раптам ён успомніў, што не прадставіўся.

- Зрэшты, я не назваў сябе. Прабачце. Алег. Ён працягнуў візітку. Яна кіўнула, і машынальна ўзяла яе. Летыцыя, - яшчэ раз ціха вымавіла сваё імя. Алекс схапіў яе за руку, і рашуча пацягнуў вон.

І вось цяпер ён ізноў сустракае яе – тут, але ж ужо не з Алексам – з кавалём. Як дзіўна круціцца гэты сьвет!

- Ну дык што, падабаецца? – чалавек ізноў узьняў меч угару, агледзеў спрактыкаваным вокам.

- А навошта табе гэты меч, шаноўны? Можа, калі б я ведаў пэўную мэту яго выкарыстаньня, дык я б змог яго зрабіць лепшым чынам? Бо ж кожная мэта патрабуе сваіх асаблівасьцей. Ня ў бой жа на конных рыцараў ты зь ім пойдзеш, я мяркую. Ён шырока ўсьміхнуўся, ізноў паказаўшы зубы – белыя, крэпкія, як у ваўка.

- Меч гэты мне патрэбны для магічных рытуалаў, - проста адказаў ён. – Для гаэтыі, калі вы разумееце, аб чым я.

- Разумею. Чаго ж не. Чалавек зь цікавасьцю глянуў на яго. Нахіліў галаву, трасануў валасамі.

- Тады, мяркую, табе лепш на сёньня застацца. Бо ж такі

дыягназ патрабуе сур’ёзнага вывучэньня, хлопец. Ты сьпяшаешся кудысьці, ці ў цябе ёсьць час?

- Час у мяне ёсьць, як і ва ўсіх нас. Пакуль я жывы, час ёсьць. Ён таксама ўсьміхнуўся. – Але ж чаму так адразу – дыягназ?

- А як яшчэ мне абазначыць хваробу? Чалавек пільна глядзеў на яго. – Дарэчы, хваробы бываюць і цялесныя, і душэўныя. А бываюць і духоўныя.

- Не лічу маё хобі хваробай, але ж застануся, - раптам вымавіў ён. Яму і сапраўды стала цікава. Гэты чалавек, гэтая жанчына – усё тут ня простае супадзеньне. А можа, яго прывёў сюды нехта, зь кім ён намагаецца зьвязацца ўжо даўно?

- Можа, і прывёў, - раптам адказаў яму каваль. – Міхал. Мяне завуць Міхал.

- Паляк? – запытаў ён.

- Літовец, - коратка адказаў чорнавалосы. - Дакладней, ліцьвін.

# Вечар

Аднекуль здалёк наляцеў вецер – халодны, нагнаў смурныя хмары. Пацягнула далёкай навальніцай.

- Гром? – ён зьдзівіўся. – У верасьні – і вось, гром.

- Пярун жартуе. Ня хоча сыходзіць. Міхась падставіў твар прахалоднаму паветру. Подых ветра адкінуў яго валасы за плечы. Яна прыціснулася да яго, і ён схаваў яе пад вялікай рукой.

- Я ўспомніла, дзе бачыла вас, - раптам вымавіла яна. – У клюбе. Чалавек побач нічога на гэта не сказаў, толькі гладзіў яе, як маленькую, па валасах.

- Я таксама вас успомніў. Я яшчэ даў вам візітку. Ды вы, напэўна, яе згубілі. Бо ж болей я вас ня бачыў ні ў клюбе, ні наогул.

- Я рассталася з Алексам, - патлумачыла яна. – Цяпер у мяне іньшае жыцьцё. Тое, што мне патрэбна. Чаго я заўсёды жадала. Яна павярнула твар да мужчыны, які ахінаў яе, і яго вусны кранулі яе вусны.

Яна так спакойна гаворыць аб мінулым тут, зь ім. Са сваім новым кавалерам. З мужам, як ён сябе для яго абазначыў. Але ж ці сапраўды – мужам? Ды ня так гэта і істотна. Калі ён кажа, што муж, то так гэта і ёсьць.

- Калі вы ажаніліся? – запытаў ён.

- Даўно, - ціха вымавіла яна. – Яшчэ ў дзяцінстве. Я ведала майго мужа ўсё жыцьцё. Ён ледзь не падавіўся кавай.

- Нашае жыцьцё – не лінейнае, - патлумачыў чалавек, прыціскаючы да сябе дзяўчыну. – Прошлае, сучаснае і будучае – усё гэта існуе адразу. Яна ня ведала мяне, але ж я ўжо тады ведаў, і шукаў яе. Па-за межамі сьмерці ёсьць краіна, дзе ўсе

душы праходзяць праз свае выпрабаваньні. Можна сказаць, што яна вызваліла мяне адтуль. І таксама можна сказаць, што я вызваліў яе. Ён падхапіў яе, і пасадзіў сабе на рукі. У надыходзячым змроку мужчына і дзяўчынка здаваліся кранальнымі, падкрэсьлена цялеснымі. Уразьлівымі, ня гледзячы на яго немалую моц, шырокія плечы і магутныя цяглы вялікага цела. Яна даверліва прытулілася да яго, уладкаваўшыся на руках. Бялюткая скура, чорныя валасы – як жалобны вэлюм. Ён ахінаў яе рукой, гладзіў.

- Я – каваль. Я кую сусьветы. У які зь іх адправішся ты зараз, залежыць ад мяне. Ці – пакуль не адправішся. Бо ж ты – тут. Ты прыйшоў да мяне, Алег. І цяпер мы з табой будзем размаўляць, пакуль полымя не ачысьціць тваю душу.

У цемры вакол яму здалося, што вочы каваля і сапраўды палахнулі полымем. Дзяўчынка ўсё так жа даверліва прыціскалася да яго, быццам слухала вецер. Ці – біеньне яго вялікага сэрца, - зразумеў ён.

- Тут так прыгожа, - раптам вымавіла яна. – Надвячоркам тут здараюцца розныя цікавыя здарэньні. І можна сустрэць казачныя істоты. Раптам па яго сьпіне пабеглі мурашы.

- Ты жартуеш? – запытаў ён.

- Не, Алег. Яна не жартуе. Міхал мякка ўсьміхнуўся праз цемру. – Ты ж хацеў даведацца пра гаэтыю?

- Мне здаецца, што я нешта пра яе ведаю, - ухіліста адказаў ён.

- Не, родны. Нічога ты пра яе ня ведаеш, - адказаў Міхал.

Цемра ўсё больш згушчалася вакол іх, насоўваючыся. Шчаку Алега раптам крануў ападаючы сухі ліст.

- Каб мець права займацца гаэтыяй, трэба прайсьці праз браму. Гаэтыя пачынаецца там, дзе сканчваецца тэургія. А тэургія – там, дзе сканчваецца гаэтыя. Яны замкнутыя ў адзінае, непадзельнае кола. Як Ураборас, ці зьмяя, якая намагаецца злавіць і праглынуць свой уласны хвост. Толькі Бог можа

кіраваць дземанамі. Запомні, чалавек. І толькі той чалавек, які адкрыў у сабе Бога.

Цемра вакол стала зусім ужо густой, непрагляднай. Раптам Алегу здалося, што яны знаходзяцца на дне глыбокага калодзежа.

- Таму – для тэургіі табе патрэбны гэты меч, а не для гаэтыі, рыцар.

Голас Міхала, нізкі, уладны, зачароўваў яго, вымушаў слухаць.

- А яна? Яна ведае, хто вы? – раптам запытаў ён.

- Ведае. Мая каханая перш за ўсё даведалася мяне. А потым прыйшло і астатняе. Я адчыніў ёй усе шляхі, і яна абрала той, які вёў да мяне. Быў маім. Ён ізноў пацалаваў вочы дзяўчынкі, якая крэпка абняла яго магутны торс.

Змрок зусім ужо згусьціўся вакол. Вецер з возера падагнаў хмары, але ж дождж так і не праліўся. Адгрымела навальніцай недзе далёка – дзіўнай, восеньскай навальніцай. Нічога добрага такая навальніца не прадвяшчае, - падумалася яму.

- А ты ня вер у забабоны. Знаток гаэтыі. Каваль, здаецца, ізноў прачытаў яго думкі. – Ты падумаў, якое дзяржальна хочаш?

- Простае, чорнае. Эбанітавае, ці – каменнае.

- Эбанітавае магу. Каменнае табе навошта? Яно ж няпрочнае. Трэскаецца. Хоць ты і біцца гэтым мячом не зьбіраешся, як я ўжо зразумеў, але ж – хто ведае. Калі маеш справу зь дземанамі, усялякае здараецца.

Здаецца, гэты чалавек зь яго кпіў. Раптам Алег раззлаваўся.

- Вы вось усё жартуеце зь мяне. Кпіце. А чаго? Вы ж зусім мяне ня ведаеце. Вам, пэўна, здаецца, што я наогул пусты чалавек. Мажор з прычудамі, які жадае атрымаць невядома на што яму патрэбны прыгожы меч, проста як дзіўную ляльку.

Чалавек кіўнуў.

- Менавіта так. Ты паставіш яго ў стойку ў пакоі свайго загараднага дому, каб хваліцца ім перад сябрамі. Сядзець перад камінам, піць віскі, і разважаць аб мінулым, у якім ты ніколі ня жыў. Нават і калі ты насамрэч захочаш выклікаць з дапамогай гэтага мяча дземанаў, ты ня ведаеш, ні хто зь іх з'явіцца да цябе, ні што табе потым зь імі рабіць.

- Усё гэта ўжо было. Мужчына пацягнуўся.

- Я і сам праз гэта праходзіў. Шмат было такіх, хто на вясёлых пірах хваліўся, што не збаіцца, і выкліча і дземанаў, і самога Сатану. Толькі сярод іх не было такіх, хто б хваліўся, што выкліча Бога. Чамусьці Бог здаваўся ім не цікавым. Яго і так было паўсюль дужа шмат. Што яго клікаць – вунь царква, ці касьцёл – ідзі ды маліся, і Бог табе адгукнецца. У яго ж болей няма справаў, як прыходзіць па першаму закліку невядома каго, як пакорлівы пёс на сьвіст гаспадара.

А вось дземаны, Сатана – о, тут усё дужа цікава. Здаецца, выклікаць іх складана. Трэба правесьці пэўныя абрады, строга выконваць рытуал, і толькі тады яны абавязкова з'явяцца – на пах крыві чорнага пеўня ды серы, у трохкутнік, намаляваны асьвеньчанай крэйдай. Сыдуць, ці, дакладней, узьнімуцца зь месцаў, дзе яны толькі і чакаюць выкліку нейкага саманадзейнага мага, і зьявяцца да яго, гатовыя выканаць яго волю. Але ж тут і хаваецца пэўная праблема. Каб выклікаць кагосьці, трэба дакладна ведаць – навошта. Трэба нечага жадаць так, што ня есьці, ня піць ня можаш без таго, каб гэта не атрымаць. Звычайна жадаюць золата. На другім месцы знаходзіцца юр. Бывае і так, што каханьне падманам зводзіць чалавека, напраўляючы на яго на небясьпечны шлях у цемру. Помста, улада, веды, посьпехі ў майстэрствах, нават разуменьне чужых моваў, набыцьцё нечалавечай прывабнасьці, веданьне скарбаў і таямніц зямлі і нябёсаў – усё гэта і сапраўды могуць даць дземаны. Дземаны ня могуць даць толькі аднаго – шчасьця. Розуму. Любві. Каханьня, найвялікшага, памерам у сусьвет. Што цікава, ніколі я ня чуў, каб у дземанаў прасілі каханьня. Прасілі магчымасьці авалодаць жаданай жанчынай, ці прывабнасьці, жаданасьці для пэўнага чалавеку – тое было. Ды тое, што даюць дземаны, яна забіраюць удвая. Калі яшчэ і

атрымаецца так, што яны нешта дадуць. Бо ж дземаны, насамрэч, грэбуюць тымі, хто заклікае іх і просіць розныя дробязі. Дземанам цікавыя душы вялікія, і справы істотныя, ад якіх залежыць лёс зямлі і нябёсаў. Што з таго, што ты зараз выклічаш сюды, у лес, некага зь іх? Магчыма, ты нешта пабачыш. Нешта пачуеш. А якога памера ты персона, каб сапраўды цікавіць дземанскіх каралёў? Да таго ж, да тых, хто ім цікавы, яны прыходзяць самі. Веды яны ахвотна даюць тым, хто іх сапраўды жадае атрымаць. Толькі што рабіць з гэтымі ведамі, ня кажуць.

Насамрэч, чалавек блукае ў сусьвеце, як у цемры, да тых пор, пакуль яго не пачынае весьці Бог. Адзіны, каго павінен жадаць і клікаць чалавек – гэта ён. Пан. Гаспадар, уладальнік сусьвету. Усё у яго волі, і лёс людзей, і дземаны, і анёлы, якія з’яўляюцца толькі яго слугамі. У кожнага зь іх – свае задачы тут, на зямлі, і яны добра ведаюць, як іх патрэбна выконваць.

Людзей жа дземаны спакушаюць – так. І таму яны заўсёды побач. А вось Бога, наадварот, трэба клікаць. Бо ж па сваёй волі чалавек адпаў ад яго, а нячыстыя істоты да сябе прыблізіў. Нячыстыя азначае, што яны ня маюць той паўнаты ведаў і чысьціні духу, што мае Бог. Якімі б не былі высокія істоты, калі яны адпадаюць ад Бога, яны пазбаўляюцца і паўнаты, і моцы. Гэтая недасканаласьць гняце іх, катуе так, як ты ня можаш і ўявіць. Ніхто не намагаецца так прыблізіцца да Бога, як адпаўшая ад яго істота. Тое ж датычыцца і чалавека. Калі ён адпаў, тады пачаўся яго пакутніцкі шлях угару – да Яго. Да ўсявышняга. І ў гэтым шляху чалавека да Бога і ёсьць і сэнс жыцця, і існаваньня сусьвету.

Таму ня дземанаў табе трэба клікаць, а Бога. Маліць Пана, каб дазволіў табе стаць яго рыцарам. Стаць для таго годным.

Дарэчы, ці ты ведаеш, для чаго выкарыстоўваўся фламберг? Гэта – меч-полымя, які, як кажа паданьне, меў сам арханёл Міхаіл, калі перамог Сатану. І адначасова гэты меч – пракляты царквой. Пракляты за яго бязьлітаснасьць і сьмяротнасьць, бо раны, пакінутыя фламбергам, не зажываюць, быццам бы поўныя атруты. Аднак дзіўна, што прасіць выкаваць гэты меч ты прыйшоў да мяне. Бо ж выпрабленьне яго зьвязана з пэўнымі

таямніцамі, якія мала хто цяпер ведае на гэтай зямлі. Я ж скаваў табе меч-полымя такой моцы, што калі ты зможаш утрымаць яго ў руках, табе і сапраўды скарацца і дземаны, і анёлы. Ды толькі ці здолееш ты валодаць такім мячом? Ці ён будзе жыць сваім жыцьцем, асобным ад цябе? Тое мне не вядома, як і тое, якімі шляхамі вы пойдзеце зь ім – разам, ці паасобку. На маю думку, ты пакуль што ня здольны ўпраўляцца ні з фламберам, ні з дземанамі, якіх ты так адчайна запрашаеш прыйсьці да цябе.

Алегу, нарэшце, ужо пачала надакучваць гэтая гаворка – гульня ў адзіны бок, як ён яе абазначыў.

- Я дзякую вам, Міхал, за тое, што вы ўзяліся выканаць мой заказ, - суха вымавіў ён. – Цяпер, калі я даведаўся аб мячы столькі цікавага, мне як мага хутчэй захацелася мець яго. Колькі часу займе выпрацоўка дзяржальна і даводзення ляза да належнай якасьці?

- Месяц. Мо і болей. Міхась пацісну ў плячыма. Дарэчы, калі ўжо мы загаварылі, то ёсьць у мяне адзін меч, падобным на які можа стаць і той, што я зараз выпрацоўваю для цябе. Я магу паказаць табе яго. З гэтымі словамі ён устаў, ссадзіўшы з каленаў дзяўчыну, і ўзьняўся на ганак, зьнік у доме.

Яны засталіся адно насупраць другога.

Дзяўчына, дакладней, дзяўчынка, глядзела яму ў вочы.

Постаць яе ахутала цемра, толькі мяккія складкі жакету абрысоўваліся, робячы яе сілуэт яшчэ мягчэйшым, невясомым і безабаронным.

- Мне так дзіўна бачыць вас тут, - раптам вымавіў ён. – Я нават і падумаць не мог, што сустрэну … цябе ізноў.

- Чаму? – проста запытала яна. – Вы ж прасілі аб гэтым Бога. І ён адказаў на вашую просьбу.

- Я прасіў аб гэтым дземанаў. Ён замаўчаў. Цішыня апусьцілася, і, быццам бы нябачная сьцяна, стала паміж імі.

- Дземаны не адказныя за каханьне. Каханьне людзям спасылае толькі Пан. Яе голас быў празрыстым, мяккім і чыстым, як вада ў ручаі. Ён быццам бы змываў зь яго бруд і копаць, агаляючы і адмываючы да чыстаты самую яго душу.

- Вы прасілі таго, чаго самі ня ведалі. А потым Бог паслаў вам яго – каханьне вялікае, як сусьвет. Толькі вы ня ведаеце, што зь ім цяпер рабіць.

- Так, ня ведаю, - вымавіў ён. – Таму што, пэўна, я страціў свой шанец.

- Не, вы нічога ня страцілі. Вы атрымалі, - вымавіла яна. - Вы ж сустрэліся з Богам. І ізноў сустрэлі мяне. І цяпер між намі ўсталявалася прыцягненьне, якое будзе весьці вас бясконца далёка. У сьвятло.

- Як я сустрэўся з Богам? – запытаў ён. – Калі тое адбылося? Пэўна, калі б я і сапраўды сустрэў Пана Бога, я б гэту сустрэчу не прапусьціў. Яна бы стала вызначальнай, абазначыла бы ўсё маё далейшае жыцьцё.

- Бог хаваецца і ў дробязях, і ў вялікіх рэчах, - вымавіла яна. – Бо ж ён і малы, і бясконца вялікі. Для Бога няма межаў, і ніхто не заключыць яго ні ў вялікае, ні ў малое. Ён – больш за памеры і катэгорыі. Больш за сусьвет. Бог глядзіць на нас вачыма немаўля, і Бог узлагае карону на галовы каралёў. Як і нізлагае каралёў, і робіць цэлыя землі пусткамі, а потым – насяляе іх. Усё - у яго волі. Але ж ён – і мудры, і міласэрны. Першае ж месца, дзе чалавек павінен шукаць Бога, гэта яго сэрца. Толькі адтуль ён павінен пачынаць гэтыя пошукі. Найперш у сэрцы трэба знайсьці каханьне. Не жаданьне, не прагу, не юр, а вялікую любоў, якая пераўтварае сусьвет у Бога.

Вы ж хацелі стаць сьвятаром. Калісьці, даўно, вы верылі.

- Цяпер – забыўся. Ён махнуў рукой.

- Дарма. Яна пакачала галавой. – Першае, што трэба зрабіць, гэта пакаяцца перад Панам, і папрасіць адпусьціць свае віны. А потым ужо, пасьля шчырага пакаяньня, Пан направіць вас на

шлях.

- Вы гаворыце, як манашка, - раптам вымавіў ён. І паправіўся:

- Як сьвятая.

- Што вы. Я – просты чалавек. Звычайная жанчына. Ува мне няма нічога сьвятога, - вымавіла яна.

- У вас ёсьць нешта, што адрозьнівае вас ад іньшых жанчын, - вымавіў ён. – Вы нейкая дзіўная. І гаворыце вы дзіўна. Так звычайна жанчыны не гавораць.

- Яны не гавораць так з вамі. Тыя жанчыны, якія знаходзяцца з вамі побач. Вы апранаеце на іх маскі, і яны пагаджаюцца насіць іх. Ці ведалі вы калісьці сапраўдную жанчыну, шчырую, ня носячую той вобраз, які вы навязалі ёй? Мне здаецца, што побач з вамі не было такой жанчыны наогул.

- Можа, і так. Можа, вы і правая. Ён пагадзіўся.

- Тады, у клюбе, я жадаў цябе. Я нават прапанаваў Алексу, каб ён пакінуў цябе разам са мной на ноч.

- Ён бы ніколі так не зрабіў. Яна ўсьміхнулася. – Усё ж, ён быў рыцарам.

- Быў? А дзе ён? Чаму вы не разам? – запытаў ён.

- Доўгая гісторыя. Мы расталіся, бо так было лепей для ўсіх. Колькісь часу я сустракался з выкладчыкам гісторыі з універсітэту. Яго, таксама як і вас, звалі Алег. Але потым я зразумела, што гэта – ня тое. Ня той чалавек.

- А як вы сустрэлі гэтага вашага спутніка? – пацікавіўся ён.

- Міхася? – вымавіла яна. – Ён сам знайшоў мяне. А сустрэла я яго проста – у лесе.

- Ну дзе ж яшчэ! Ён нават рассьмяяўся.

- А якім чынам адбылася такая дзіўная сустрэча?

- Мы з Алексам пайшлі ў паход. Жглі вогнішча, і Міхась выйшаў на агонь. Ён казаў, што мы расклалі вогнішча на адным са старых курганоў, дзе пахаваныя нейкія важныя людзі зь мінулага, і ён ня мог не падыйсьці, каб не пабачыць, …

- Хто такі дурны, ці сьмелы, - раптам пачуўся вясёлы голас побач.

- Глядзі, вось такі павінны быць фламберг. І нешта накшталт я хачу табе зрабіць.

З гэтымі словамі Міхась саступіў са сьвятла ганку у змрок, які ахутаў паляну перад домам.

- Вагонь запалю, пачакай. Ён узяў крэсіва, і выбіў іскру, ад якой заняўся невялікі трут, які ён паднёс да замацаванай над ганкам паходні. Тая ярка загарэлася, і вакол іх зрабіўся мяккі, утульны кружок сьвятла.

- Магу і лямпу запаліць, ды мне здаецца, так лепей. Міхась усьміхнуўся. І раптам хуткім рухам дастаў аднекуль збоч, з ножнаў вялікі, доўгі двуручны меч.

Сьвет вагня запалаў на гнутым лязе, асьвятляючы яго крывавым. Быццам бы маланка, пярунова страла, ці і сапраўды – вагонь запалаў у яго руцэ. Меч быў такім прыгожым, што ў Алега захапіла подых.

- Гэта – мой, уласны фламберг. Міхась крыху палюбаваўся на зьзяючае ў руцэ лязо.

А потым другой рукой дастаў з-за поясу яшчэ адзін меч – прамы, на паўтара хвата, і працягнуў яму.

- Паспрабуем? – вымавіў ён, і вочы яго бліснулі такім жа чырвоным, як і лязо мяча, полымем.

Алег ўзяў працягнутае яму дзяржальна. Міхась трымаў меч за незаточаную частку-трэць ад рукаяткі. Меч добра лёг у руку, быццам бы і заўсёды тут ляжаў.

- Заб’еш мяне – забярэш дзяўчыну. Вочы Міхала пільна глядзелі

на яго, чорныя ў цемры, і ў іх гулялі іскры полымя.

- Як так? Сур'ёзна? – вымавіў ён.

- А што такога. Ты ж жадаеш яе да сьмерці. Болей за жыцьцё. Дземанаў прасіў знайсьці яе для цябе. І вось, нарэшце, атрымаў шанец. Так што ўставай, і змагайся за сваё каханьне.

Ён устаў у стойку, і ўзьняў меч.

Чалавек насупраць таксама ўзьняў свой. Выгнутае хваляй лязо раптам зрабілася чорным, нябачным. Яны ціха рухаліся адзін насупраць другога, і, калі яму здалося, што чорны меч узьняўся ў гару, ён замахнуўся, і абрушыў на супраціўніка цяжкі, страшны ў сваёй хуткасьці і моцы ўдар.

І раптам адчуў, як разам зь мячом правальваецца ў пустэчу. Вялікая рука схапіла меч ля дзяржальна, за незаточаную частку, і пацягнула яго на сябе, а потым яго перавярнулі, вырваўшы меч з рук, і ён адскочыў, толькі каб адчуць, што да яго грудзей дакранаецца вастрыё.

- Гэты меч сам вырашае, хто годны, а хто – не, за кім праўда, а за кім яе няма. За табой няма праўды, - спакойна вымавіў чалавек, укладаючы лязо ў ножны. - Ты хочаш атрымаць шмат, але ж ты ня хочаш цярпець. Пакутваць. Што і калі адбывалася ў тваім жыцьці такога, што ты б адчуваў нястачу? Сапраўдныя пачуцьці да кагосьці ў гэтым сьвеце? Ты ж не паважаеш нават і самога сябе, як жа ты можаш шанаваць кагосьці? Шанаваць Бога? І як ты зможаш пакахаць жанчыну, калі ты не шануеш яе? Жанчына – гэта, найпер і найбольш, маці. Ці жадаў бы ты бачыць сваю маці ў месцы, якое ты лічыш сваім дасягненьнем? Ці жадаў бы ты там бачыць сваю жонку, каханую жанчыну, якую ты шануеш, за годнасьць якой ты гатовы аддаць жыцьцё? Калі ты ствараеш пекла на зямлі, то як жа ты можаш спадзявацца на міласьць Бога? Міласьць яго, і сапраўды, бясконцая, і яна заключаецца ў тым, што зараз ён не забіў цябе. Што ты – жывы, тут і зараз. У цябе яшчэ ёсьць час падумаць, і паспрабаваць заслужыць той меч, які я кую для цябе. Бо я аддам яго толькі годнаму, рыцару, таму, чыя рука здолее трымаць яго.

- Гэта такі жарт? – не зразумеў Алег.

- Ты лічыш, што абставіны спрыяюць жартам? – чалавек усьміхнуўся, і ўбраў меч. – Я мог бы забіць цябе, але ж не зрабіў гэтага. Можна сказаць, што табе пашанцавала – ня ў тым месцы, ня ў тым часе.

А цяпер ты паедзеш дамоў, і, пакуль куецца меч, паспрабуеш зьмяніць сваё жыцьцё. Пражыць гэты месяц так, каб ты быў для яго годны. Праз месяц я буду чакаць цябе тут.

- Ну, добра. Я зразумеў. А што я павінны рабіць, каб стаць годным свайго ўласнага мяча?

- Ты павінен вярнуцца да Бога, - проста вымавіў чалавек, адкідваючы рукой валасы з ілбу. І потым, з той вышыні, зь якой на цябе глядзіць Пан, табе ўсё стане значна больш зразумелым у гэтым жыцьці. І яшчэ – ты павінен навучыцца пакоры. Ціхмянасьці. Скарацца Яго волі. Не волі чалавечай, а – яго. І аддаваць сябе ў рукі Госпада, просячы, каб ён накіраваў стопы твая да яго, і не дазволіў ухіліцца са шляху.

- І тады я набуду каханьне? – раптам вырвалася ў яго.

- І тады ты набудзеш такія скарбы, якія ня зможаш і ўявіць. Такія, якія ніколі не даў бы табе ніводны зь дземанаў, - вымавіў чалавек. – Каханьне ж – гэта найбольшая з узнагародаў, якую можа атрымаць душа. Прасі яго ў Бога. Бог літасьцівы, і ён дасі табе ўсё, аб чым ты яго шчыра папросіш, калі гэта толькі не пашкодзіць тваёй душы.

- А можна, я яшчэ прыеду? Проста так. Паразмаўляць. Мне тут падабалася, - запытаў Алег.

- Чаму не. Калі і сапраўды жадаеш, прыязджай. Мае дзьверы адчыненыя для таго, хто шчыра жадае наведаць мой дом.

Яны вярнуліся ў сьвятло, якое гарэла ўтульным колам вакол ганку. Факел дагараў, і Летыцыя ўключыла электрычнае асьвятленьне. Праз празрыстае шкло веранды яны бачылі, як яна прыбірае на стале, мые чашкі, залівае чыстую ваду ў

кававую машыну.

Удваіх яны ўзьняліся па ступеньках.

- Ну, як твой меч? Спадабаўся госьцю? – запытала яна, калі яны прайшлі ў пакой.

- Выдатны меч, а тое, як гаспадар ім валодае, вышэй усялякіх пахвалаў, - вымавіў гасьцінна Алег. Міхась засьмяяўся.

- Дзякуй! Сапраўды, ты таксама ня блага валодаеш мячом. Я нават зьдзівіўся. Супраціў многа каго іньшага твая атака прайшла б выдатна. Але ж тут, нажаль, ты сустрэў старога ваяра. Потым табе пакажу адзін прыём, дужа просты, як лёгка выхапіць меч нават і адной рукой. Звычайна ніхто не здагадваецца, што можна на такое рашыцца, і яно спрацоўвае. Да таго ж, хуткасьці табе, нажаль, не хапае. І яшчэ, калі ты так замахваешся, высока, ты адкрываешся, і мне зручна падыйсьці, і проста перахапіць лязо. Калі б ты рубіў поперак, паралельна, перад сабою, ці збоч, пад вуглом, то ў мяне б ужо не было месца і часу, каб наблізіцца да цябе. Навошта так высока замахвацца, я ня ведаю. Ты, напэўна, у кіно гэта бачыў, ня йнакш. Так, канешне ж, эфектней, ды вынік ты бачыў.

- О, улюбёная тэма. Летыцыя ўсьміхнулася. – Сапраўды, я ня ведала такіх, хто б здолеў зь ім пратрымацца хоць бы некалькі хвілінаў, так што ня трэба расстройвацца.

- А многа хто спрабаваў? – Алег усьміхнуўся.

- Даволі шмат. Міхась хлопнуў яго па плячу. Сядай за стол, пасядзім яшчэ крыху, сагрэешся, і потым паедзеш. І сапраўды, збоч ад сталу Алег убачыў палаючы камін – электрычны, ад якога цягнула прыемнай цяплынёй.

Гаспадыня зьмяніла сукенку, раптам заўважыў ён. На ёй быў апрануты чорны аксамітны строй зь нізкім выразам, абшытым бліскучымі ў мяккім сьвятле пацеркамі. На стале стаяў паднос са сьвячамі, якія яна запаліла. Толькі камін і сьвечы асьвятлялі вяранду.

- Вы дзівосна выглядаеце, - вымавіў ён, шчыра. – Таксама ваш дызайн?

- Дзякуй! Аздабленьне маё, але ж выраблена па замове. Я хацела плацьце ў гішпанскім стыле, сціплае, але ж годнае для ўрачыстасьцей. Вузкае, доўгае плацьце з узьнятымі рукавамі, нізка адкрытае і перацягнутае пад грудзямі, хавала, і, адначасова, адкрывала яе цела. Тонкі ланцужок з амаль нябачным крыжыкам зьзяў дыямантавым бляскам, як і пярсьцёнак на яе руцэ.

- Не люблю сучаныя строі. Яны прыніжаюць жанчыну. Жанчына павінна быць каралевай. А гэта – праца аднаго шаўца зь Італіі. Ён спецыялізуецца на гістарычных строях сярэднявечча, адаптуючы іх пад сучаснасьць. А многа што дык і ня патрабуе ніякай адаптацыі. Вось, як гэты. Ёй падабалася, і я яго ёй падарыў.

- Прыгожа! – шчыра пахваліў Алег. - Калі я зраблю вечарынку ў сярэднявечным стыле, я абавязкова запрашу вас. Дарэчы, я запрашаю вас і так. Прыязжайце ў любы час.

- Дзякуй, калі-небудзь наведаем. Міхась усьміхнуўся. Летыцыя паставіла перад імі каву.

- А сапраўды вы ведаеце таямніцы гаэтычнае магіі? – пацікаваіўся Алег. – Ня тое, каб я ня верыў, але ж тэма гэта складаная, і ў сьвеце засталося ня шмат манускрыптаў. Я вывучыў усё, што здолеў здабыць. Усе ключы Саламона.

- Ключы Саламона – гэта, можна сказаць, што лухта. Міхась усьміхнуўся. Сапраўдныя імёны дземанаў, як і анёлаў, ня ведае ніхто. Калі б ведалі, то кожны бы, хто набыў грымуар, змог бы іх выклікаць, як яму жадаецца.

- А тое ня так? – зьдзівіўся Алег. Міхась усьміхнуўся.

- Грымуары – гэта кніжкі для таго, каб выўляць і адпраўляць на касьцёр дурняў. Праўда ў іх толькі ў тым, што дземаны існуюць. Як існуюць анёлы, і як існуе Бог. Толькі пасьля многіх год вывучэньня каббалы, у глыбокай медытацыі, калі Бог дазволіць,

каббаліст можа атрымаць сапраўднае імя анёла, ці дземана. Імёны Бога ж ня ведае ніхто. Толькі Адам ведаў. Але абраным, тым, каго ён любіць, Бог можа назваць сваё уласнае імя. Толькі для гэтага чалавека, каб ён мог з’яднацца зь ім. Яна ведае маё імя. Ён павярнуўся да Летыцыі.

- Канешне, - адказала яна, і вочы яе зазьзялі мяккім, прывабным сьвятлом.

- Бо ж я кахаю цябе.

Алег не зусім зразумеў, аб чым ішла гаворка. Толькі што з размовы пра Бога чалавек пераскочыў на свой, уласны прыклад. Але ж Алег ужо звыкся з нязвычайнымі прыёмамі рыторыкі гаспадара маёнтка.

– Маёнтка, - у думках ён назваў дом з прылягаючай гаспадаркай. Гаспадар і сапраўды нагадваў князя ці пана са старых часоў, і манерай трымацца, і гаворкай, і незвычайнымі ваяўнічымі здольнасьцямі, і дасьведчанасьцю ў пытаньнях і майстэрствах, у якіх цяпер мала хто быў дасьведчаны. Усё гэта Алегу падабалася. Ён быў рады, што застаўся, і што працягнуў гаворку, у надзеі атрымаць адказы на свае пытаньні.

- Такім чынам, гаэтычныя рытуалы - рэч цяпер не магчымая? – запытаў ён.

- Чаму? – зьдзівіўся Міхась. – Магчымая. Толькі трэба ведаць імя, якое табе адкрые Бог. А для гэтага трэба любіць і шанаваць Бога, і мець яго ў сваім сэрцы. І тады, калі ён палічыць патрэбным, ён адкрые і таямніцы сьвятла, і таямніцы цемры, як аднойчы адкрыў іх Саламону. Бо Лемегетон і сапраўды ёсьць ключ цара Саламона. Ды гэта – зусім ня кніга.

- Сасуд? – вымавіў Алег.

- А ты ведаеш, што такое гэты сасуд, у які заключыў дземанаў Саламон? Ці, дакладней, адкуль ён іх вызваліў? – запытаў яго Міхась.

- Нейкая рытуальная ёмкасьць. Алег паціснуў плячыма.

- Дурань, - проста вымавіў гаспадар. – А яшчэ лічыш сябе практыкам. Сасуд – гэта сам чалавек. Тое, што мае шэол – абалонку, і ўтрымлівае ў сабе боскае сьвятло. Калі сьвет перапаўняе сасуд, шэол разьбіваецца, і сілы, якія ён утрымліваў, і благія, і добрыя, вызваляюцца ў сусьвет. А болей я табе нічога не скажу, бо калі ты паспрабуеш зрабіць гэта, ты загінеш.

Толькі так і можна вызваліць дземанаў – сваіх, уласных, і кіраваць імі - моцай і рукою самога Госпада Бога. Таму тэургія папярэднічае любой гаэтычнай рабоце. Гэта, лічы, засьцерагальнік, спецыяльная ўмова, каб дурны і злы розум ня мог пашкодзіць сусьвету. Толькі рука Бога, і яго воля можа накіроўваць дземанаў. Аб гэтым шмат напісана ў Бібліі, якую вы, дурні, не чытаеце. А трэба было б. Самыя моцныя магі, якія могуць загадваць дземанам – гэта сьвятыя. А зь іх гасподзь Ісус Хрыстос – найпершы і найбольшы з тых, хто ступаў па нашай грэшнай зямлі. Ды перад ім былі і іньшыя, і Маісей, і Саламон, і потым – шмат хто. Усе гэтыя людзі ўпусьцілі ў сябе Бога і тварылі па яго волі. Імём Госпада дземанаў выганяюць і сьвятары, тое добра ведае Ватыкан. Нават і звычайныя, мірскія людзі, шчырыя вернікі, могуць імём Госпада адганяць нячыстую сілу. Гэта безумоўна так. Але ж ты хочаш заклікаць яе, каб яна прыходзіла, і выконвала тваю волю, пры гэтым не падпарадкаваўшыся волі Госпада. Я табе раскажу, што будзе, калі ты так зробіш. Сілаў вакол шмат, і нехта абавязкова да цябе прыйдзе. Ды не для таго, каб выканаць тваю волю, а каб падпарадкаваць цябе сваёй. Запомні гэта. І малі Госпада, каб ён ачысьціў і вызваліў цябе ад таго злу, што ўжо цягаецца з табой побач. А яго я бачу нямала. Ды сюды яно ня войдзе – баіцца. Таму яно будзе чакаць цябе там, за колам са сьвятла, якое я для цябе стварыў. І калі ты пакінеш яго, калі сьвятло гэтага дому памеркне за тваёй сьпіной, будзь асьцярожны. Бо ж яны паспрабуюць зьвесьці цябе за шляху.

- Усё гэта, што вы сказалі, цікава. Мне трэба гэта асэнсаваць, - вымавіў Алег. – Скажыце, а калі я захачу вывучаць каббалу, то да каго мне лепей зьвярнуцца?

- Да Бога, - паціснуў Міхась плячыма.

- Гэта так, але ж можа, вы параіце нейкія асаблівыя кніжкі, ці школы? Лайтман? Дыён Форчун? Матерс?

- Біблія. Пісаньне і сьвятыя айцы. Ён сам павядзе цябе, калі ты сапраўды шчыра захочаш паўстаць на гэты шлях. З гэтымі словамі Міхась узьняўся. Летыцыя таксама паўстала.

- Пара нам разьвітвацца. Час ужо позьні, а дарога да Мінска ня блізкая. Я захіну цябе, пакуль будзеш праязжаць праз лес. А потым ужо – трымайся сам.

- Чакаю праз месяц.

Міхась працягнуў Алегу руку, той паціснуў яе, і шпарка пакрочыў да машыны.

Яны ж яшчэ колькісь стаялі на верандзе, і, здаецца, глядзелі яму ўсьлед.

# Дзень

Раніцой ён устаў рана, раней за яе. Як і большасьць дзён працоўнага тыдня, якія ў яго былі шчыльна расьпісаныя. Ён сам сабе рабіў распарадак, сам яго выконваў. Хоць і апошні час мог ужо так шмат не працаваць, бо грошы ў яго былі, але ж – прызвычаіўся. Яна ўставала пазьней, засьцілала ложак, рабіла сьняданак, прыбірала ў пакоях і на верандзе, потым яны сьнедалі разам, і ён адпраўляўся працаваць далей, а яна садзілася за ноўт. Увогуле, магла не працаваць, рабіць што хоча, і спачатку так і было, але ж затым яна пачала займацца перакладамі. Неяк так адбылося, што гэта стала мець попыт. Яна сама вызначала сабе кола тэмаў, а потым перакладала цікавячыя яе творы на беларускую мову. У асноўным – духоўная літаратура, пісаньні сьвятых айцоў, вершы, ці іньшыя цікавыя рэчы – артыкулы, кнігі, эзатэрыка, зь якой ён пасьмейваўся, але ж – хай дзіця робіць, што хоча, што лічыць для сябе патрэбным. Калі-некалі яе прасілі зрабіць абзор на парфюму ці касьметыку, за грошы. Яшчэ быў дызайн – упрыгожваньні, адзеньне, але ж калекцыі напрацоўваліся на працягу часу, і потым распрадаваліся па замове. Яна наогул хацела знайсьці сабе нейкую стабільную працу, восем часоў у дзень, і спачатку працавала на агенства перакладаў, але ж ён ёй забараніў – ня бачыў патрэбы. Усё ж, яго жанчына павінна належыць яму, а не нейкаму там агенству. У гэтым ён быў чалавекам старых паняцьцяў. Можна сказаць, што і старажытных.

Да таго ж, ён адкрыў ёй рахунак у банку, і кожны месяц пералічваў туды грошы – на ўсялякі выпадак, каб былі. У будучым думаў стварыць на яе імя нейкі бізьнес – салон, ці нешта падобнае, але ж яна была яшчэ малая такім займацца, а ў яго часу не было. Хай пакуль адпачывае, вучыцца. На наступны год вырашылі, што яна паступіць завочна ў якісьці вуз, на гісторыю, ці на права. Ды і курсы камп'ютарнай графікі ніхто не адмяняў. Наогул, навошта ёй працаваць? – думалася яму. – Толькі для разьвіцьця, для сябе, для сваёй асобы. Для жанчыны яе праца – гэта, найперш, сям'я. Вось у гэтым яна

павінна быць дасканалай. А яго, як мужчыны, абавязак – гэту сям’ю забяспечваць, як і заўсёды было. Зямлю ён набыў, дом пабудаваў, бізнес стварыў, сувязі таксама меў. Калі ж заводзіць дзяцей, дык тое трэба пераязжаць у горад, а на гэта ён яшчэ гатовы ня быў. Можа, потым, яно так і будзе. Як Бог дасьць.

Ён паглядзеў на яе ружовы са сну тварык з заплюшчанымі вачыма, крануў іх вуснамі. Яна ўсьміхнулася, і ахапіла яго шыю рукамі. Ён нахінуўся, і пацалаваў яе – спачатку мякка, пяшчотна, а потым – доўга, горача, апускаючыся на яе шыю, да грудзей, закрытых карункамі сарочкі.

Быў ў яго жыцьця і другі бок, аб якім ён не казаў – бок таемны, схаваны, аб якім яна здагадвалася, але ж пакуль што ня ведала. Тое, што цягнулася з даўніх часоў, прасьледвала яго, не адпускала. Тое, што жыло ў гэтых курганах, напаўняла сабой чараўнічы глухі лес, адкрывалася ў вадзе, вагні і нябёсах. Тое, аб чым, напэўна, ведаў яго ўчорашні наведвальнік. А як жа інакш? Ня проста ж так ён прыйшоў да яго, ды яшчэ і папрасіў фламберг. Такі ўжо быў яго лёс, што прыйшлося яму захаваць гэтыя веды. Напэўна, некаму яны былі яшчэ патрэбныя. Яны спалі тут, у курганах, у камянях, у гушчары, спалі, і чакалі таго, хто вызваліць іх на волю. Тонкая абалонка, створаная вакол царквой, не магла іх утрымаць, як не намагалася. Веды прарываліся, рваліся вонкі, як крыніцы з-пад зямлі. Старыя, ад дзядоў. Утрымаць моц дзядоў не магла нават і царква, яны прабіваліся праз яе, як расткі праз зямлю, узыходзілі, бо мелі моц у самых нетрах, чэрпалі яе там, у такой глыбіні і цемры, дзе нараджалася ўсё жывое. А над гэтым усім было неба, і быў Бог – высокі, недасяжны. Бог сыходзіў, і пагружаў свае рукі ў густую, урадлівую глебу. Праліваўся на яе дажджом, і ўспыхваў вагнём, лунаў сьвятым духам, прарастаў кветкамі. Бог быў таямніцай, якую ён адкрываў зноў і зноў. Цяпер жа ў яго была жанчына, якую Бог дараваў яму, каб ён яе бараніў і ахоўваў, як дзівосную кветку ў райскім садзе. Пачэсны для яго абавязак, данны яму Богам. Яна была для яго тым мастом, што зьвязваў яго душу зь нябёсамі, сьвятым духам, што сыходзіў на яго, узьнімаючы ўгару яго цяжкую душу. Бог для яго быў жанчынай, якая ўвасабляла ў сабе сьвяты нябёсны вагонь. Гаварыла яму аб самом сябе – тым, кім ён насамрэч і быў, і кім быў для яе –

Богам-уладальнікам сусьвету. Толькі праз яе ў гэтым сьвеце ён мог адчуць у сябе Бога. Калісьці ён быў блізка да Яго, надта блізка. Аднак злыя сілы зрабілі так, што ён згубіў і яе, і Яго. І яго душу ізноў праглынула цемра, у якой ён спазнаў многае. І вось цяпер яму ізноў працягнута яе пяшчотная рука. Ён знайшоў яе – праз час, праз стагоддзі. Але ж яны не змаглі пакінуць гэты сусьвет. Напэўна, ён быў вінаваты. Можа, яму трэба было прыняць яе сыход, і цярпліва чакаць свайго канца, прыгатаванага Богам. Аднак, хто ведае, можа тое, што ён зрабіў, і было тым, што Бог прыгатаваў яму? Калі так, то яго душа яшчэ не была дасканалай, аднак і не такой недасканалай, каб ня даць яму яшчэ адзін шанец. Напэўна, ён крэпка трымаў сваю Шэкіну, і таму ў гэтым жыцьці яны апынуліся разам. Цяпер жа перад імі ляжала яшчэ адна, новая дарога. Хай Бог вядзе іх па ёй так, як яму будзе патрэбна. Яго ж задача – прайсьці яе годна, не забываючы, хто яго ўладар, і хто, насамрэч, ён.

У горане ярка гарэў вагонь, і ў кузьні было б жарка, нават сьпякотна, калі б ён не пабудаваў яе адкрытай. Навес, закрыты з трох бакоў, адзін бок жа сьцяны ня меў і глядзеў на возера. Другія бакі таксама маглі адкрывацца шырокімі варотамі, каб прадувала паветрам.

Сёньня ён планаваў зрабіць некалькі нажэй – гэта было хутка, а потым ужо папрацаваць і з замоўленым Алегам фламбергам. Яго вучань рабіў усялякую дробязь – прыгожыя шампуры, мангалы, камінныя рашоткі, калі-некалі і ён забаўляўся – выкоўваў нешта з розамі ці галовамі драконаў, фантастычныя гербы і вобразы істотаў, якія стварала яго ўяўленьне. Гэта ўсё добра распрадавалася на ярмарках і выставах, але ж для яго ніякай сапраўднай вартасьці ня мела. Так, прыгожыя цацкі, у якія гуляюць дарослыя. Дарослым жа таксама патрэбна нешта не функцыянальнае, а для сэрца. У кожным з нас жыве дзіця, і таму вунь вялікаму, сур'ёзнаму мужчыне ў дарагім касьцюме хочацца мець на палічцы кабінета бронзавага рыцара на літым кані, ці – амаль настаяшчы шчыт невядомага герба фантазійнага каралеўства. Можа, гэта дапаможа яму ў жыцьці ўтрымацца, калі ня будзе за што ўхапіцца, куды працягнуць руку. Хай яго ўтрымае хоць гэты сталёвы рыцар. Чалавек, у

якога на стале ці на палічцы стаіць той, хто лічыцца ўзорам годнасьці, ня зможа недастойна паводзіць сябе і ў паўсядзённых справах. Рыцар не дазволіць.

На хвіліну ён затрымаўся, гледзячы ў полымя. Яго языкі таньчылі, быццам бы казалі яму нешта. Не абпальвалі, гуляліся. Ён працягнуў руку, і адчуў, як цяплыня напаўняе яго вялікую далонь.

Яму здавалася, што яна ўбірае моц вагню, яго жар, нешта такое, што належыла толькі полымю, але ж не зямному – нябёснаму. Агонь быў мастом паміж гэтым і тым сьветам. Ён размаўляў зь ім, казаў нешта на мове сэрца, на мове жарсьці.

- Сьвечкі можна было б яшчэ рабіць! – раптам прыйшло яму на вум. – І бортніцтвам заняцца. Некалькі вульляў паставіць. А чаму не? Кветак тут шмат, лугі вунь якія прыгожыя. Можа, наняць каго, каб навучыў. Паспрабаваць паставіць некалькі вульляў. А там ужо і сур’ёзна мёд пачаць выrabляць.

Ён падзякваў вагонь за добрую ідэю, і павярнуўся да металёвых брускоў-загатовак, зь якіх павінны будуць атрымацца будучыя нажы – паляўнічыя, для разьдзелкі і асьвежаваньня дзічыны, для розных паходных справаў. Палажыў ў горан некалькі прамавугольных палосаў каб грэліся, і дастаў ужо падрыхтаваную.

Молат ударыў па мяталу, высякаючы іскры. Ён адбіў яго некалькі разоў, і зламжыў напалам. І так – зноў і зноў. Агеньчыкі выляталі з-пад яго рукі яркім, вясёлым роем, быццам бы залатыя нябёсныя пчолы.

Ён так захапіўся, што ня заўважыў, як яна падышла, і стала недалёк, ля адкрытага праёму. Глядзела на яго за працай, любавалася.

Яго рухі, моцныя, дакладныя, быццам бы рабілі нейкае чараўніцтва, надаючы металу патрэбную форму, пераўтвараючы вязкую чырвоную плоць сталі ў вострую, нагадваючую рабро пакоўку, у якой паступова пачынала праяўляцца задуманая майстром форма нешырокага вострага ляза. Яго валасы былі

перавязаны ззаду, толькі на лоб зьвісала непаслухмяная пасмачка, чорная, як воранава крыло, шырокія плечы, сагнутыя над накавальняй, рухаліся ў такт удару яго рукі, цяглы скарочваліся пад шэрай ільняной кашуляй, шчыльна аблягаючай моцнае цела, з вузкай таліяй і сьцёгнамі, крэпкімі доўгімі нагамі. Ён быў дасканала складзены пры сваім высокім росьце, можна сказаць, што ідэальна, ня быўшы ні залішне цяжкім, ні тонкім, маючы ў сваім целе моц зьвяра, нейкую першабытную, драпежную лоўкасьць, хуткасьць.

Апусьціўшы цела нажа лязом ў ваду, ён назіраў, як паверхня цямнее, набываючы колер сьпечанай крыві, крыху патрымаў, і апусьціў яго ў масла.

Падыйшоў да яе.

- Мне здаецца, я цябе ведала ўсё жыцьцё, - ціха вымавіла яна. – Так прыемна глядзець на цябе.

Ён пацалаваў яе, асьцярожна, не кранаючы рукамі, каб не запэцкаць.

- Так яно і было, - усьміхаясь, вымавіў. – Хоць таямнічы дзед з лесу і апынуўся звычайным кавалём, але ж таямніцаў у яго яшчэ прыхавана шмат. Казачных таямніцаў для майго анёлка. Ты ж любіш казкі?

- Ты не звычайны каваль, я ведаю, - сур’ёзна адказала яна. – А казкі я люблю, толькі такія, у якіх дабро перамагае зло.

- Гэта будзе абавязкова, - вымавіў ён. Яе сьветлы тварык, крыху загарэўшы на сонцы, выклікаў у яго пачуцьцё замілаваньня.

- Гарэза ты мая, - ціха вымавіў ён. – Пачакай, зараз рукі памыю.

- І пойдзем сьнедаць! – вымавіла яна.

– Сьнедаць. І можа, штосьці яшчэ. Ён глянуў на яе ў паўабарота, плёскаючыся ў вядры.

Яна выглядала такой маленькай і тонкай, як вытанчаная фарфоравая лялька, і праз яе сонца зьзяла нейк асабліва мякка,

прывабна, быццам бы пяшчотна абдымаючы яе, лашчачы сваімі пацалункамі.

У сваім уяўленьні ён зьняў зь яе адзеньне – мяккую пухлявую байку, вузкія джынсы, і яго накрыла хваля гарачыні – здаецца, вада ў вядры закіпела, і пайшла бурбалкамі.

- Што ты мне прыгатавала, красуня? – ён выцер рукі, і падыйшоў, абняўшы яе за талію.

- Што і заўсёды, - яна ўсьміхнулася.

- Англійскі сьняданак на тутэйшы манер. Замест аўсянкі бульба, астатняе як у лепшых брытанскіх дамах.

Ён рассьмяяўся. – А вінную поліўку прыгатавала?

- А што, яе ядуць у лепшых брытанскіх дамах? – яна зацікаўлена глянула на яго.

- Яе ядуць у лепшых беларускіх дамах. Елі, - выправіўся ён. – Пайшлі, ягадка мая. Я цябе навучу.

- Як гатаваць вінную поліўку? – усміхнулася яна.

- І ня толькі. Ён абняў яе за талію, і яны накіраваліся ў бок дому.

Пакуль яны сьнедалі, зьнянацку надышлі хмары. Шэрае неба насунулася нізка-нізка, набрыняла дажджом, ды так і не пралілося, вісела ўтульнай ваўнянай коўдрай, ахінаючы лес. Стала неяк утульна-цёпла, сыравата, але ж зацішна. Паветра, здаецца, напоўніў вільготны грыбны пах. Ні лісьціка не дрыжэла на дрэвах, і вазёрная вада быццам бы паснула, аддаючыся ласцы мяккіх нябёсных лапаў.

- Ці не схадзіць нам у грыбы? – ён пацягнуўся, і ўстаў з-за сталу. – Хочаш па лесе прагуляцца? Пакуль суха, і дажджы не пайшлі. А тое потым як пальюць, дык ні шпацыру ня будзе, ні грыбоў. Бо я цябе па мокраму хадзіць не дазволю, каб не захварэла. Лес для цябе скончыцца разам з надвор’ем.

- Пайшлі! Яна таксама ўзьнялася. Узяўшы невялікі кошык і вядро, яны накіраваліся ў гушчар, які пачынаўся адразу за садком зь ягаднымі кустамі і некалькімі яблыневымі і сьлівавымі дрэвамі. Па выкашанай нізка траве прайшлі да ўзьлеску, дзе лугавіна аддзяляла іх ад высокіх, таўстых дрэваў. Старых, як ў казцы, якія ўзвышаліся над палянай, быццам бы высачэзныя волаты ды валатоўны.

Яна дзяржалася за яго руку, цёплую, вялікую. У другой руцэ ў яе быў кошык, якім яна качала, гуляючыся. Ён асьцярожна трымаў яе далоньку, пагладжваючы. На яго сэрцы быццам бы мяккае, пухнатае кацяня прыгрэлася. Дзяўчынка зь яго сьненьняў ішла разам зь ім у чараўнічы лес, не баялася, не абарочвалася назад. Яна яму давярала, была ўся адкрытая іх новаму, агульнаму жыцьцю. Ці памятае яна што з таго, што адбылося? Напэўна, не. Ды і ня трэба. Калі прыйдзе час, яно ўспомніцца, прыйдзе да яе само.

Разам яны зайшлі ў гушчар, і накіраваліся па пяшчанай сьцяжынцы, якая спачатку ішла роўна паміж елак, потым апусьцілася ўніз, а потым – пабегла ў гару, на ўзвышак, дзе праз верхавіны хвояў бачыліся высокія, хоць і патрушчаныя часам курганы. Паміж хвояў, дзе суха, на пясочку, грыбоў было багата, а там, за курганамі, і асіны, і бярозкі. І ізноў курганы. Курганы ішлі адзін за адным, як хвалі, наплывалі на іх, як сон, як мара. Быццам бы зносілі некуды далёка, туды, дзе іх жыцьцё было сапраўдным, насычаным падзеямі.

Яны ўжо падабралі першую пару грыбоў, і яна раз-пораз нахіналася і радасна ўскрыквала:

- Знайшла!

Вялікі баравік проста сам прасіўся ў кошык. Ён разануў шляпу – добры! Тое бывае рэдка з такім лясным волатам-грыбам.

- Грыбны князь! Палязай у кошык да маёй красуні. Ён усьміхнуўся. Нахінуўся, і зрэзаў яшчэ адзін грыб.

Грыбы беглі адзін за адным, ускарасквaліся на бачыну кургана, быццам бы клікалі іх кудысьці.

- А тут калісьці было вялікае балота. А дагэтуль – роў з вадой. Бо на кургане стаяў замак, вялізарны, драўляны. Чорны ўвесь ад часу. І частакол вакол агароджай. Потым жа замак гэты згарэў, ад нападу. Толькі магіла волата на кургане засталася. Але ж, кажуць, разабралі яе яшчэ ў даўнія часы, адкрылі. Косткі волата з князёўнай дасталі, і ў царкву аднесьлі. Страшна? – запытаў ён яе.

- Ня дужа. Яна ўсьміхнулася. – Я з табой нічога не баюся.

- Гэта правільна, - вымавіў ён. – Так і павінна быць. Ён ізноў крэпка сьціснуў яе руку, і яны ўзьняліся на самую верхавіну кургана. Там, паводдаль ад краю, у паглыбленьні ў глебе ляжаў вялікі камень.

- Які аграменны! – зьдзівілася яна, застыўшы перад чорным кавалкам пароды, густа парослым пасмамі зялёнага імху. Ён таксама спыніўся. Каб ты ведала, дзяўчынка мая, каб ты ведала…

Камень быццам бы размаўляў зь імі, заклікаў падыйсьці да сябе. Ня вытрымаўшы, яны адгукнуліся на яго заклік.

Сьсівелы, аграменны валун, здаецца, вабіў. Хацелася працягнуць руку – дакрануцца да мінулага. Раптам быццам бы халодная рука сьціснула яе сэрца. Нешта накшталт абруча, ці, хутчэй, як вялікі вужака, які зьнянацку высьлізнуў з-пад камяню, і імгненна зьнік ў імху і ядлоўцы на зьдзіўленьне іх вокаў.

- Ого! А гэта – знак! – задуменна вымавіў ён, утрымліваючы яе ад таго, каб крануць камень.

- Можна падыйсьці бліжэй? Мне так хочацца! – шапнула яна.

- Можна, чаму не. Толькі не кранай яго. Ня трэба. Бог яго ведае, што сьпіць у тым камяні, - вымавіў ён. – Ці – пад ім, - ледзь не дадаў.

- Былі часы, калі гэта камень ляжаў у ізножжы царквы, капліцы, пабудаванай тут адным старажытным князем. Некалькі

імгненьняў ён уважліва глядзеў на камень, а потым правёў па паверхні вялікай рукой, счышчаючы зь яго мох.

- Ты ж казаў – не кранаць? – вымавіла яна.

- Я казаў – не кранаць табе, - усьміхнуўся ён. – Мне можна. Глядзі!

З-пад яго рукі паступова пачалі з’яўляцца літары.

“Будзь мне літасьцівы!”

Над літарамі наяўна праступіла выява крыжа – выбітая нечай моцнай рукой у цьвёрдай каменнай паверхні.

- Крыж! – прашаптала яна. – І словы! Што тут напісана, каханы?

- Чалавек, які высек гэтыя літары, пакорліва прасіў ласцы ў Пана Бога. І Бог яго пачуў. Але ж …

Раптам аднекуль збоч ад іх пачуўся нечы нізкаваты, сіпаваты голас, як сава прагугукала з-за пляча:

- Ды не ляжалася ім там, і сгарэла тая царква, і ўвесь маёнтак таго пана быў зруйнаваны. А сам пан, кажуць, загінуў страшэннай сьмерцю, разам з жонкай. Род жа іх адсюль навек з’ехаў, і толькі праз шмат год нашчадак вярнуўся. Ды лепш не варочваўся б, бо ж такія страшныя справы зь ім тут пачаліся, што ня можна і апісаць.

… выпрабаваньні перад ім паставіў страшэнныя. Ды ўсё скончылася добра, - скончыў Міхась фразу, зьвяртаючыся ці то да Летыцыі, ці то да жанчыны, апранутай у расьцягнутыя спартыўныя штаны-трэнікі, на якія была надзетая шыракаватая цёмная спадніца і шырокая мужчынская куртка у колер стаялага балота. На галаве ў жанчыны была завязана вузлом парэпаная хустка, рудыя валасы зь сівізной выглядалі з-пад яе, як мядзяная провалака.

Высокая, мажная, цётка, хітра прыжмурыўшыся, глядзела на іх з-пад насунутай на бровы хусткі.

- Што, блазноту сваю выгуляць вырашыў? – кпліва вымавіла яна. Летыцыя, якая спачатку ціха войкнула са страху, зацікаўлена аглядала жанчыну з ног да галавы.

- А ты што тут поркаешся? – зьдзіўлена вымавіў Міхась, гледзячы на кабету.

- Грыбы зьбіраю, як і ты. Хаця якія ў верасьні грыбы? Чарвіўкі адны. Толькі дурні ў верасьні за грыбамі ходзяць. Хто ўсё лета праспаў у шапку.

- Ну вось ты сама ўсё і абазначыла! Міхась зарагатаў. – Але ж у шапку ці не, ды баравікоў мы добра назьбіралі – цэлы кошык і палову вядра.

- Баравікі са старых паганскіх могілак! Жанчына ашчэрыла зубы. – Гэта якое ж зельле ты зь іх варыць сабраўся, шаноўны?

- Зачым мне зельле? Смажыць будзем. Міхась паціснуў плячыма. – Суп можна таксама. Яны чыстыя, прыгожыя.

- Зусім чыстыя, крэпкія! – Летыцыя зазірнула ў кошык, папpавіла накрыўшую грыбы хусьцінку.

- Хаваеш, баішся, глазам іх зьем? – кабета падціснула вусны.

- Ды не … проста такі звычай. Заўсёды так робяць.

- Во, паглядзі ў мяне. У мяне хусткі няма. Міхась засьмяяўся. – Калі цікава. Дык а што цябе, такую вумную, па каранях на паганскія могілкі к ночы прывяло. Вунь, глядзі, ужо і сонца хутка сядзе.

- Вось калі сядзе, тады і паразмаўляем! – зарагатала жанчына. – І пра могілкі, і пра камень. І пра царкву, якая тут стаяла, ды праз зямлю правалілася. І пра таго, каго ты вераломна пад камень закапаў, з таго і царква твая асела, і ўсё тваё багацьце прахам пайшло. Бо ж ты дзядам здрадзіў, крыж прыняў, камень пяруноў апаскудзіў, і кроў праліў тут бязьвінную. Пачакай, прачнуцца старыя сілы, адпомсьцяць табе дзяды, памятай маё словa!

- Што ты вярзеш, і як не надакучыла! Столькі год. Ну што ты за мной таскаешся, старая? Сядзела б ты ўжо на пячы, ды панчохі ўнукам вязала.

- Няма ў мяне ўнукаў. А ўсё праз цябе. Кабета падціснула вусны.

- На дачцэ тваёй названай не ажаніўся, і яна так гаравала, што аж у горад ад мяне ўцякла. І нейкага там хлопца-выкладчыка знайшла, якому галаву ачмурыла ўшчэнт. Цяжарная невядома ад каго. Я ўжо чуў. А што, яна нарадзіла? Чым табе ня ўнукі?

- Не нарадзіла. Выкінула. Выкінула тут, на курганах. Ледзь бедная не памёрла. Цётка злосна глядзела на яго.

Міхась паморшчыўся.

- Слухай, ну хопіць табе. Што ты ўсялякую брыдоту да ночы ў лес цягнеш.

- Каханая, ты прабач, я табе не прадставіў. Ганна гэта. Мясцовая знакамітасьць, - ледзь не дадаў, але ж стрымаўся.

- Ня Ганна, а пані Рэгіна. Ганна падціснула вусны.

- Зь якіх гэта пораў? – Міхась зьдзіўлена глянуў на яе.

- З тых самых, калі я расхрысьцілася. І імя сваё хрысьціянскае назад аддала. І сапраўднае імя сабе ўзяла – паганскае.

- Дык якое ж яно паганскае? – зьдзівіўся Міхась. – Звычайнае польскае імя.

- Усё роўна. Ня Ганна я болей.

- Ну, як хочаш. Хоць гаршчком назавіся, і кім хочаш будзь. І рабі што хочаш. Позна ўжо. Ты дамоў, ці ў цябе тут яшчэ справы?

Міхась усьміхнуўся.

- Справы, - коратка адказала кабета. – Грыбы зьбіраць буду. Ты

– туды, а я – туды. Яна недакладна вызначыла напрамак, махнуўшы рукой некуды ў бок, за камень.

- Толькі глядзі мне, ня ўздумай тут поркацца, капаць. Гэты камень пад аховай, як гіштарычная каштоўнасьць. Калі ты тут напаскудзіш, я, напрамілы бог, цябе ў міліцыю здам. Што мне, забор тут ад вас, паганцаў-нехрысьцяў, ладзіць? То сьвяты свае спраўляеце, потым увесь лес у сьмецьці, то нехта курыцу надумаўся на камені зарэзаць – добра, што кінуў, спужаўся, ды зьбёг. А яна тут як цяцерук на хвоі сядзела, квохтала. Паляўнічых ледзь з розуму не зьвяла. Не твая курыца была? Чорная? Ты ж толькі такіх трымаеш. І яшчэ – казла. Міхась ня вытрымаў, зарагатаў.

- Дарма сьмяешся. З чорных курыных яек ведаеш, якія добрыя чэрці вылупляюцца? Ганна падпёрла рукі бакамі.

- А з казла, пэўна, гаспадар добры ў хату … атрымоўваецца. Міхась ледзь не сагнуўся напалам ад рогату.

- Ды ўжо ня горш за цябе. Ганна-Рэгіна ўзьняла бараду, пакруціла галавой.

- Чую, балотам цягне. Дождж у начы будзе. Сырасьць.

- Ну дык што, завітаеш, можа, на каву? – Міхась прыжмурыўся. – Ці баішся? Пагутарым. Пра старыя часы. Пра чарцей зь яйка распавеш. Дзяўчына мая дужа казкі любіць.

- Якія казкі!? – Ганна злосна глянула на яго. – Гэта ў цябе ўсё – казкі, усё забыў ды прапіў. Увесь розум. А я яшчэ і ня тое ведаю.

- Ну дык пайшлі, распавеш, што ты такое ведаеш, - Міхась узяў Летыцыю за руку. – Пайшлі, каханая. Цёмна ўжо. Напоіш бабульку кавай?

- Якая я табе бабулька! – пыхліва вымавіла Ганна. – Я маладзей за цябе.

Летыцыя ад нечаканасьці ледзь ня выраніла кошык.

- Па табе ня скажаш. Але ўсё ж, пайшлі. Пасядзіш, пагрэешся. А то ў цябе толькі і кампаніі, што каты, каза, ды чэрці па вуглах.

Міхась падхапіў у адну руку вядро, а ў другую – Летыцыю, і рашуча рушыў назад, уніз з кургана.

Ганна, падхапіўшыся, пашкандыбала за імі сьледам.

# Ноч

Пэўны час яны ішлі моўчкі. Лес вакол застыў у змроку, набыўшы казачныя, таямнічыя рысы. Шырокія, разлапістыя галіны елак ды хвояў навісалі па-над дарогай, вузкаватай сьцяжынай, якая напрамкі бегла праз самы гушчар, невядома кім, і калі праложаная ў сівыя часы. Калі-некалі ля дарогі віднеліся і камяні – рэшткі ці то старых муроў, ці старажытных могілак. Абчосаныя, яны, відавочна, несьлі адмеціны рукі муляра. Калісьці тут было жытло, шмат жытла, зразумела яна. Але ж цяпер толькі дужа ўважлівае, спрактыкаванае вока архіёлага магло б пазнаць у гэтых каменных целах калісьці жывую душу.

Ён крэпка трымаў яе руку, але ж нічога не казаў. Ішоў моўчкі, аб нечым разважаў, думаў. Ганна-Рэгіна крочыла крыху ззаду, нечакана хутка і лоўка для яе паважанага, як здалося Летыцыі, узросту.

- Аб чым ты думаеш? – ціха запытала яна яго, але ж ён толькі крапчэй сьціснуў яе руку. – Думаю аб мінулым. І аб тым, што болей ніколі не дазволю сабе згубіць цябе, - раптам вымавіў ён. – Цяпер, пасьля ўсяго, што мы калісьці прайшлі разам. Я аб столькім даведаўся за гэтыя часы. Столькі перажыў. І так доўга шукаў цябе – шукаў дні і ночы, вандраваў у бясконцасьці. Спачатку я цябе не пазнаў. Але ж потым зразумеў, што ты была маёй душой. Я вымаліў цябе ў Бога, а ты вызваліла мяне зь пекла. Як ты знайшла мяне, чараўніца мая? – ціха запытаў ён.

- Ты дужа горача мяне клікаў, і твая душа гарэла для мяне, як сьвяча ў цемры. І тады Пан-Бог узяў мяне за руку, і вывеў да цябе, - ціха адказала яна.

Ён хацеў бы прыпасьці да яе рукі, ды ў яго ў руцэ было вядро з грыбамі, а ззаду цяжка і злосна сапела Ганна. Раптам ён спыніўся, хутка, так, што тая ледзь не наляцела на яго.

- Хадзі-ка ты сюды, - вымавіў, і лёгка падхапіў Летыцыю на рукі разам з кошыкам. Яна ахапіла яго за шыю, і ён панёс яе,

трымаючы адной рукой, быццам бы яна зусім нічога ня важыла, як кацяня, якога ён прытуліў да сваіх грудзей.

- Што, стамілася твая гарадская красуня? – кпліва заўважыла Ганна. – Куды ёй у лес! Яна і вакол хаты заблукаць здолее. Як толькі ноччу ў прыбіральню ходзіць?

- А навошта? – зьдзівіўся Міхась. – Прыбіральня ў мяне ў хаце.

- Тьфу. Ганна сплюнула. – І які ты пасьля гэтага вядзьмак, калі ў цябе нячыстае месца ў хаце?

- А дзе павінна быць прыбіральня? – зьдзівілася Летыцыя.

- На двары, канешне. А дзе ёй яшчэ быць? Ці ў хлеве, як у продкаў нашых спакон веку было.

- Вой, Ганна. Кажы ты пра сваіх продкаў. Міхась усьмінуўся ў бараду. Можа, у тваіх і была прыбіральня ў хлеве, а ў маіх – у замку асобны пакой, на кожным этажы, і вада цякла.

- Твае ў лесе пад кожнай елкай прыбіральню рабілі! – Ганна зарагатала. – У іх нават і хлева не было. Паганец ты, літовец. Быў, і застаўся. Вунь, і чорны, як чорт. Як зь пекла вылез. Пярунаса даўно на дровы пашчапаў, ці прыхаваў яго на двары, як сабака костку?

- Пашчапаў на дровы, і ў печцы спаліў, - спакойна адказаў Міхась. – Як раз калі Ягайла Ліцьву хрысьціў, я адразу і пазносіў усіх балванаў. Навошта мне яны? Бог – не вусаты мужык з маланкамі, сечаны з дрэва, не балван і не камень. Бог – ён працінае сусьвет, ён усюды, адвечны, літасьцівы, магутны, суцэльнае сьвятло, каханьне і веды. Таму і сьвет не прыняў яго – ня ўмесьціў.

- Вой, хопіць мне тваіх пропаведзяў. Ганна сплюнула на дарогу. – Усё роўна я ў яго ня веру. Я веру ў сваіх багоў, старых. У Рода, у парадзіх. Яны мне дапамагаюць. Жыва, Лада, Велес, Жар-птушка, … і іньшыя, - хітра вымавіла яна, прыжмурыўшы ў цемры вока.

- А ў бабу-Ягу вы верыце? – раптам запытала Летыцыя з-за

Міхасёва пляча.

Ганна раптам закашлялася, ледзь не падавілася словамі.

Міхась зарагатаў.

- Верыць, канешне! Кожны ранак, як у люстэрка глядзіцца. Чаму ж не?

- А ты, пэўна, у чорта верыш. У д'ябла-сатану, калі зранку ў вядро глядзішся ў сваёй чортавай кузьні. Ганна пакрыўдзілася.

- Навошта мне вядро? У мяне люстэрка ёсьць, - усьміхнуўся Міхась. – Ванная. Прыбіральня ў хаце.

- А навошта табе люстэрка? Бо ж ты ня голішся, барадаты, як злодзей зь вялікай дарогі. Ці цябе такога твая дзеўка любіць, зарослага? Тьфу. Ганна сплюнула ізноў.

- Ці ты мяне любіш, сонейка, такога зарослага? – запытаў Летыцыю Міхась, пяшчотна гледзячы на яе.

- Канешне. Люблю цябе ўсякага, - адказала тая. – І ніякі ты не зараслы. Дужа стылёвая барада.

- Вой, не магу! Стылёвая! Ганна ззаду зайшлася рогатам. – Як разбойнік! Як адрасьціў, каб мужыкоў на падворку палохаць, дык і ня стрыгся з таго часу. Пякельнік!

- Ай, ну хопіць ужо табе. Вось мы і прыйшлі. Міхась асьцярожна спусьціў Летыцыю на зямлю.

Перад імі стаяла вялікая, цёмная хаціна, якую асьвятляла толькі лямпа электрычнага ліхтару са сьвячой унутры.

- А ты абжыўся! – прысьвіснула Ганна.

- Даўно ты ў мяне не была, не завітвала, - усьміхнуўся Міхась.

- Праходзь, госьцей будзеш. Ён прайшоў наперад, уключыў сьвятло, і паставіў на падлогу грыбы.

- Калі ж іх чысьціць? – запытаў нібыта сам сябе. – І махнуў рукой. – Ай, давай раніцой, каханая. Можа, ну іх, на ноч?

- Ну да. Спарахнеюць твае грыбы. Чарвівыя, я ж бачу. Дай мне сьцізорык які. Зараз я пачышчу. Ганна рашуча падцягнула сябе зэдлік, уселася, паставіла перад сабой вядро.

- Місу мне прынясі якую. Пад шалупень.

- Ого, якая ты хуткая! Ну, пачысьці. Міхась усьміхнуўся, і кінуў ёй праз кухню пустое вядро. Летыцыя выбачылася, і пайшла распранацца, мыць рукі і гатаваць вячэру.

- Гарадскую прыцягнуў, - Ганна ўсьміхнулася. – Як хутка яна табе надаесьць, цікава?

- Ніколі, - рашуча вымавіў Міхась.

- Так і будзеш зь ёй валандацца, як з малым дзіцём? Бабу б табе добрую, - прабурчэла Ганна, амаль засоўваючы галаву ў вядро, нахіліўшыся, разглядаючы вялікі грыб.

- Акуляры даць? – Міхась зроблена-спагадліва глянуў ёй праз плячо. – Кажу ж, чыстыя яны. Абрэж ты ім ногі, ды кідай так.

- Я табе не давяраю. Ганна адмахнулася ад яго. - Можа, твая гарадская якую паганку ў прыцемках схапіла. Ёй што баравік, што сыраежка, што мухамор, усё адзіна.

- Ну, чысьці, як хочаш. Можаш і пакаштаваць. Толькі плюй у вядро, не на пол. Міхась адыйшоў у бок, зьняў лясные боты, сьцягнуў куртку, швэдар, застаўшыся ў адной майцы, якая шчыльна аблягала яго плечы, і ваенных штанах зяленавата-шэрага колеру. Пайду на двор, абмыюся, - вымавіў ён.

- А што прыбіральня? Якая ў хаце? – зьдзекліва запытала яго Ганна.

- А што мне там пэцкаць? Мне і на двары ня блага, - усьміхнуўся ён.

- Вось я і кажу – пад елкай твая прыбіральня. Ганна сплюнула ў

вядро.

Міхась сышоў на двор, дзе пачаў гучна плёскацца ў кадцы з вадой. У пакой зайшла Летыцыя, пераапранутая ў мяккі спартыўны касьцюм, вольныя штаны і майку з адкрытымі плячамі, сьветла-ружовы, які пасаваў да яе белай скуры і чорных бліскучых валасоў. Спрытна паставіла на стол чашкі, дастала з халадзільніку сыр, масла, на стале пад рушнікам апынуўся вялікі пясочны пірог з суніцамі.

- Можа, вам бульбы пагрэць? - запытала яна Ганну.

– Падсмаж з грыбамі. Вось, я тут начысьціла, - тая працягнула ёй міску.

- Я іх толькі адвару. Летыцыя заліла грыбы вадой і паставіла на плітку. Хутка вада закіпела, і па пакоі пайшоў прыемны водар. Міхась уцягнуў паветра, уваходзячы са двару на вяранду.

- Ого! Гаспадыні! – усьміхнуўся. Ганна грыбоў захацела дармавых. Ну, добра, што начысьціла.

Хутка грыбы, зьлітыя, ляглі на патэльню, і ў хаце запанаваў прыемны, востры пах смажаных баравікоў.

Да падсмажаных грыбоў Летыцыя дадала бульбы з салам, і паставіла патэльню на стол на падстаўку.

Ганна першая шчодра налажыла сабе поўную талерку.

- А сьмятаны няма? – запыталася.

- Вось, канешне. Летыцыя працягнула ёй маленькую крэманку. Ганна налажыла сабе ў міску сьмятаны, узяла лусту хлеба.

- Табе сто грамаў наліць? – Міхась з усьмешкай глянуў на яе.

- Ня трэба. І так добра. Ганна адправіла ў рот вялікі грыб, закусіла бульбінай. – Смачна!

- Я рада, што вам падабаецца. Летыцыя паставіла перад ёй вялікую кружку з дымяшчайся кавай, наліла кубак Міхасю, і

паставіла невялічкі фарфоравы кубачак перад сабой.

- Скажыце, вы так цікава ўсё распавядалі, і пра багоў, і пра старыя звычаі, - шчыра зацікаўлена вымавіла яна. – А можа, вы якія казкі ведаеце? Старыя гісторыі? Такія, мясцовыя, пра чараўнікоў, ці ведзьмаў? Страшныя? Я проста іх зьбіраю, можа, калісьці я паступлю на гісторыка, і ў мяне будзе наработаны матэрыял. Гэта так цудоўна – паслухаць такую, як вы. Настаяшчую. Я такіх яшчэ ніколі ня бачыла.

- Каго ты ня бачыла? – падазрона ўзьняла на яе вочы Ганна.

- Ну, такіх, сапраўдных вядзьмарак, як вы. Вясковых чараўніц. Я ж разумею, што вы – ня просты чалавек. Вы многа што ведаеце.

З гэтымі яе словамі Міхась ледзь не праліў ад сьмеху кофе. Адкінуўся назад, ляснуў сябе па сьцёгнах, і зарагатаў.

- Ну, можа і што ведаю, - надзьмулася Ганна. – І паболей, чым ён. Ён жа – таксама чараўнік, хоць і ўсе веды пагубляў, чарцям на пацеху. А я вось – захавала. З гэтымі словамі яна з выклікам глянула на Міхася.

- Я – радавая. У мяне бабкі абодзьве чаравалі. Адна – чорная была, а другая – белая.

- Адна анёла за крыло трымала, а другая – чорта за капыта, - усьміхнуўся Міхась.

- Дарма сьмяешся. А справа была так. Ганна прыасанілася, адсунула ад сябе грыбы, ды потым перадумала, і пасунула іх бліжэй ізноў. Летыцыя адрэзала ёй кавалак пірага, і паклала ля яе на талерку.

- Я вас уважліва слухаю, спадарыня Ганна, - вымавіла яна, і ўключыла дыктафон у тэлефоне на стале.

Ганна пакоўзала, пасунулася ад сталу, важна склала рукі на грудзях, і, нарэшце, вымавіла:

- Тут, на вёсцы, мяне кожны ведае. Бо ж я і варажу, і ваду зашэптваю, і карты раськідваю, і на вецер, і на ваду, і на зямлю

ды вагонь чараваць магу. Няма той сілы, што мне не падуладная.

- Так-такі і няма? – усьміхнуўся Міхась.

- Няма зусім, - адрэзала Ганна. – Я такія сілы падымаю, хочаш – завею пасярод лета выклікаю, а хочаш – горан у сваёй кузьні не запаліш, пакуль я не дазволю. Яна хітра прыжмурыўшыся глянула на Міхася.

- Не хачу, - адрэзаў ён. – Калі ты мне горан сапсуеш, то я буду ведаць, каго на дровы пусьціць, каб яго распаліць.

- Ня ўхопіш! Хоць і рукі твае доўгія, ды не настолькі. Ганна зарагатала.

- А як вы чараўнічыя веды набылі, шаноўная Ганна? – ветліва запытала яе Летыцыя.

- Рэгіна, - вымавіла тая.

- Каралеўна... Міхась закрыў рукой вочы.

- Ганна-Регіна, - выправілася Летыцыя.

- Веды мне бабкі мае перадалі. Адна – чарцей прадставіла, тых, што ёй служылі. І навучыла, як уласных выгадоўваць. А другая траўніцай была. Яна мне травы розныя паказвала і замовам ды шэптам вучыла.

- Ну, тут хоць нешта табе карыснае ў спадчыну пакінулі. Ды, мяркую, ня дужа ты гэтую бабку, траўніцу, слухала. Міхась пакачаў галавой.

- Слухала, ня слухала – не твая справа. І травы я ведаю ня горш за цябе. І як лячыць, і чым, і ад чаго. Ад кожнай хваробы свая расьліна ёсьць. Ад запаленьняў, ад жывату, ад дурноты, ад галавы. Міхась, склаўшы рукі на грудзях, уважліва глядзеў на Ганну, нічога ёй не казаў, маўчаў. Тая чамусьці пачала блытацца.

- Як я казала? Ад жывату расьліна ёсьць. … расьліны. Карацей,

бабка мая ўсё гэта ведала.

- Але ж ты не расьлінамі займаешся. Міхась нахіліў галаву, і ўважліва глядзеў на яе.

- А навошта мне? Я не хварэю. Ганна паціснула плячыма. - А хто хворы, тых я не расьлінамі лячу, а нечым іньшым, што больш за расьліны дапамагае.

- І што гэта такое? – запытала яе Летыцыя.

- Ваду нашэптваю. Ганна надзьмулася.

- А як? – Летыцыя задала пытаньне, і са зьдзіўленьнем вывучала твар Ганны, на якім раптам адбіўся выраз злоснае радасьці.

- А табе тое ведаць ня трэба. Ёсьць словы, - адрэзала тая. – Хочаш у вучаніцы да мяне пайсьці?

- Крый яе Божа. Міхась пакачаў галавой. – Ніякай тваёй вучаніцай я ёй стаць не дазволю. Няма чаго мне дзяўчыну псаваць. Ад тваёй вады чарцям млосна і мутарна, ня тое што людзям.

- Я над ёй малітвы чытаю! – уськінулася Ганна. – Ойча, і іньшыя.

- Каб малітвы над вадой чытаць, сьвятым трэба быць, як тая вада. Каб праз цябе Боская ласка ў ваду сыходзіла чыстай, а ня мутнай, як ручаіна з балота. Толькі чысты душой і целам чалавек можа маліцца за другіх. Чысты ня ў сэнсе, што пасьля лазьні. Ён усьміхнуўся. Душой трэба быць чыстым. Любіць людзей, для якіх ты ваду робіш, ці што іньшае. Бога за іх прасіць шчыра. А ты, Ганна, каго любіш, акрамя сябе?

Ганна надзьмулася.

- Я ўладу маю! Слова маё закон! – горда вымавіла яна.

- Ніхто ня мае аніякае ўлады, акрамя Пана Бога. Твар Міхася быў сур’ёзным, спакойным.

Як Пан Бог рассудзіць, так і будзе. Каму жыць, а каму – не. Усё ў яго руках. І калі ён пасылае хваробы і пакуты, тое – пакараньне па яго волі, якое мы павінны несьці пакорліва, і прасіць яго адзінага, літасьцівага збаўцу, каб дапамог нам несьці наш крыж. Але ж мы можам прасіць і за іньшых. Прасіць за сьлязамі, шчыра. Тады, можа, вада твая і падзейнічае, калі ты ў яе ўсё сваё сэрца ўложыш, ад сябе адрачэшся. А калі не, то чэрці твае будуць з гэтай вадой за цябе гуляць, і такую псоту на чалавека праз яе навядуць, што і сапраўды акрамя Пана ніхто яе зьняць ня зможа. Бо ж такі чалавек сам, па сваёй уласнай волі чарцям аддаўся, калі да цябе пайшоў. Адшаптаць бы цябе, пані, ды, баюся, на тое маёй душэўнае моцы ды шчырасьці ня хопіць. Хай цябе літасьцівы збаўца даглядае. Усё ж ты – жывая душа, хоць і прапашчая. Памалілася б ты, Ганна. Пайшла б лепей у царкву, ці касьцёл. Глядзіш, і адпусьцілі б цябе чэрці.

- Тое я гляжу, яны цябе не адпусьцілі, колькі ты ў касьцёл ні хадзіў ды сьвечак Пану ні ставіў. А можа, ставіў, ды не таму Пану? Ганна з усьмешкай паглядзела на яго.

- Калі б так усё было проста, Ганна. Схадзіў раз, другі, паставіў сьвечку, і – ўсё. Дарога ў рай для цябе адкрытая. Усё жыцьцё – гэта спакушэньне і выпрабаваньне. І выпрабоўваюць нас адным, шаноўная – правяраюць на трываласьць нашага каханьня. Тое, што робіш праз любоў, дзеля любві і ў яе імя, тое Богу ўгодна, і, нават калі зьдзейсьніш грэх, то той грэх табе Панам прабачыцца. Бо ня нам ведаць, калі нашыя дзеяньні – на дабро, а калі – на худа. Суцэльныя веды мае толькі Пан. А вось што жыве ў нашым сэрцы, ці шчырая там любоў, ці любім мы Бога, ды бліскага, альбо любім толькі сябе, і свае жарсьці, тое нам добра вядома.

Вось ты, каго, Ганна, любіш, акрамя сябе? Нешта здаецца мне, што нікога. Міхась, усьміхаючыся, глядзеў на Ганну, якая пад яго позіркам раптам адчула сябе няўтульна.

- А каго мне любіць? – раптам вымавіла яна злосна. – Усім напляваць на ўсіх. І ніхто нікога ня любіць, акрамя сябе.

- Няпраўда, - раптам вымавіла Летыцыя.

- Я яго люблю. І яна палажыла руку на руку Міхася.

- А я люблю яе. Міхась накрыў яе руку сваёю.

- Калі ў цябе няма любві, Ганна, то няма ў табе і ніякай моцы. Ад цябе нават і чэрці твае пазьбягаюць. Бо ж калі б ты іх палюбіла, то яны б адразу зазьзялі і пераўтварыліся б ў анёлаў. А яны ў цябе дагэтуль брудныя, перапэцканыя, усе ў сажы. Ды і заганяла ты іх, жыцьця ім не даеш. Міхась зарагатаў.

- То тое ім даручаеш, то другое. Дай ты ім ужо жыць спакойна. Хай яны па загаду сваіх кіраўнікоў людзей спакушаюць, як тое ім і прыназначана Панам Богам. Бо ж як душа ачысьціцца ад граху, калі ня будзе не спакушэньняў, ні пакутаў?

І ўсё ж, усіх трэба жалець. Любіць. Калі ў сэрцы тваім ня будзе нічога, акрамя любві, то ніякія нячыстыя сілы табе пагражаць ня будуць. Калі ж табе здаецца, што нікога вакол, годнага тваёй любві, няма, палюбі Пана Бога, і шчыра прасі яго напоўніць любоўю тваё сэрца. І ты зьдзівішся, якія неверагодныя цуды зробіць з табой літасьцівы Пан. Як ён пераўтворыць цябе, і прасьвятліць тваю душу.

- Вой, чысты поп! – Ганна пагардліва махнула на Міхася рукой. – Ня тлумі мне галаву. Дзеўке сваёй, вунь, тлумі. Сьпявай ёй пра каханьне, можа, што ў замен атрымаеш. А мне пропаведзі твае не патрэбныя. Я лепей жыць буду, як жыла.

- А як ты жыла? – усьміхнуўся Міхась. – Пэўна, ня так, каб пахваліцца можна было.

- Я ні ў чым ніякай нястачы ня маю. Ганна напыжылася. – Грошы ў мяне ёсьць, прыходзяць, ня скарджуся.

- Ну і чым ты іх зарабляеш? На ваду шэпчаш, ды карты раскладаеш бабам? – Міхась спакойна глядзеў на яе.

- Раскладаю. І ня толькі бабам. Да мяне і важныя людзі прыходзяць. Я ім такія штукі раблю, яны потым мне золатам плоцюць.

- Робіш, Ганна. Толькі ні шчасьця, ні грошай ні ў цябе, ні ў іх

пасьля гэтага няма. Ні радасьці, ні каханьня, ні здароўя. І грошы чараўнічыя сплываюць, і жарсьць ня грэе, а толькі душу халодзіць, і сэрца поўніцца толькі болем, жалем, агідай ды адзінотай. Каго ты хоць раз шчасьлівым зрабіла?

- А ты – з Панам Богам, быў шчасьлівы? – уськінулася на яго Ганна.

- Я – быў. І ёсьць шчасьлівы. Пакуль у маім сэрцы ёсьць Пан і каханьне, я і быў, і буду самы шчасьлівы чалавек у сьвеце. Ведаеш, што я зразумеў, Ганна? Калі ты асэнсоўваеш, што сапраўды маеш у сэрцы Бога і любоў, то згубіць іх немагчыма.

Але ж шлях і да Пана, і да любві – гэта доўгі і цяжкі шлях. Сапраўды ўсё гэта – тут, у тваім сэрцы. Але ж як прыйсьці туды, што ўжо тут, і куды сапраўды ісьці ня трэба? Як зразумець гэта? Убачыць, што скарб ты трымаеш у руцэ, не схаваны ён, не закапаны, не закінуты на дно возера, не ахоўвае яго дракон. Тут, у цябе ў сэрцы, ёсьць усё, каб быць шчасьлівым. Каб палюбіць, і адчуць сапраўдную боскую асалоду. Але ж як паймець вочы, каб убачыць гэта? Таму Гасподзь і адкрываў сьляпым вочы. Што ты любіш, Ганна? Што ёсьць такога, за што б ты аддала сваё жыцьцё?

- Не дуры мне галаву. Ганна ўстала. – Дзякуй. Наелася. Яна адсунула ад сябе пустую талерку. – Пайду. У мяне яшчэ справаў шмат. Трэба вады загаварыць, тром бабам воскам адліць, адной мужа ад палюбоўніцы адваражыць…

- А другой – прываражыць. Чужога. Вось табе і справы бясконцыя. А чаму ад той бабы муж сышоў, ты ня думала?

- Чаму? Таму што казёл блудлівы, як і ты. Ганна ўсьміхнулася.

- Дык я ж нікуды не сышоў. А ён – сышоў. Чаму так? Калі жанчыну кахаеш, то ніколі ад яе ня сыйдзеш. Але ж кахаць можна толькі тую жанчыну, якая сама шчыра кахае цябе ў сваім сэрцы. Каханьне можа існаваць толькі паміж дзьвума. У іньшым жа выпадку яго трэба аддаць Пану Богу. І тады ён, калі зьлітасьцівіцца, аддасі цябе ў рукі чалавека, якога ты будзеш кахаць, так жа моцна, як і цябе - ён. Калі гэтыя двое абіраліся

шлюбам, яны не кахалі адно аднаго. І, да таго ж, яны не кахалі і Пана, бо калі б яны кахалі Пана, то і праміж імі была б панская сьвятая любоў. Ты ж намагаешся сшыць тое, што даўно ўжо згніло, спарахнела. Прылажыць да раны даўно адгніўшую ад яе плоць. Прывязаць жывое да мёртвага. Вось што ты робіш, Ганна. Хай той мужык ідзе, куды хоча. Аддасі лёс той бабы Пану. Пан паклапаціцца і аб ёй, і аб яе дзецях, калі ўжо так адбылося. Павер мне, ён не пакрыўдзіць бязьвінную шчырую душу, ні ўдаву пры жывым мужыку, ні сірат пры жывым айцэ. А калі ты сваімі чарамі ды заклёнамі супраціў яго волі яго да хаты і той бабы прывяжаш, я табе раскажу, што будзе, хоць я не вядзьмар, і не чараўнік, і картаў у мяне няма.

Ён піць пачне, як шалёны, а потым яе заб’е. І ў пятлю сунецца. І ўсё гэта на твой рахунак перад Панам Богам ляжа. А ён і так ужо паўным паўнюткі. Таму параіць той жанчыне трэба было б ісьці ў царкву ці касьцёл, да сьвятара, і маліць Пана аб міласьці і абароне. Так і ва ўсіх іньшых выпадках – толькі ён можа дапамагчы чалавеку, а ніякія сілы зямныя ды іньшыя.

Каб людзям і сапраўды дапамагаць, трэба веды мець вялікія. Тут Міхась замаўчаў. Ганна стаяла, перабіраючы рукамі крысо кофты.

- А чаму ты думаеш, што я іх ня маю? – вымавіла яна.

- Ня маеш, - адрэзаў Міхась. – Ёсьць яшчэ сілы, якія гэтай зямле, ды дзядам належаць. Ды ты чарцямі сваімі настолькі сябе апаскудзіла, што хутчэй цябе вымаліць прабачэньне ў літасьцівага хрысьціянскага Пана, чым у тых, каго ты сваімі псотамі ды брыдотай зьняваеш. У Нікіфара запытай. Ён табе раскажа. Хрыстос літасьцівы, яны ж – не. Яны – гордыя і моцныя. І плату яны бяруць за свае паслугі страшную. Ня чужыя ім і годнасьць, і каханьне. Толькі выпрабоўваюць яны па-іньшаму. І ўсё ж, Пан стаіць па-над усімі. Можна доўга блукаць у цемры, і нават набыць і магутнасьць, і веды, і моц, але ж шчасьце ты набудзеш толькі зь ім.

Усё ж астатняе – як на службу да пэўнага князя ці гаспадара ўладкавацца. Калі хочаш чарцям служыць, лічыш сябе годнай такога лёсу, то хто ж табе забароніць? Астатняе ж душа сама

вырашае для сябе.

З гэтымі словамі Міхась узьняўся таксама. Летыцыя выключыла свой дыктафон, запісы ў якім апынуліся зусім ня тым, чаго яна чакала спачатку. Ніякай каштоўнай фальклорнай інфармацыі, цікавасьцей яна не атрымала. Але ж затое атрымала нешта значна большае, што ня купіш ні за якія грошы, і ні ў якой кнізе не прачытаеш, тое, што і сапраўды было істотным і карысным для яе.

Яны праводзілі Ганну – ну, бывай, бабка, махнуў ёй Міхась рукой. Тая нічога не адказала, і, засапеўшы, рашуча накіравалася да выхаду з паляны, на дарогу да вёскі, - і вярнуліся на вяранду.

- Добра, што хоць грыбы пачысьціла. Міхась усьміхнуўся.

- А яна і сапраўды нешта можа і ўмее, каханы? – запытала Летыцыя ў яго, калі яны ізноў апынуліся на верандзе. Яна прыбірала на стале, ён сядзеў на стуле, расслабіўшыся пасьля гасьцей, якія прыемнымі яму былі ня дужа.

- Што самае прыкрае ў гэтым усім, і можа, і ўмее. Можа напаскудзіць па сваёй глупасьці так, што і чарцям тошна стане, і анёлам сорамна. Ды Бог ёй папушчае гэта рабіць – такім чынам, пэўна, выпрабоўвае яе душу, і праз яе – і астатніх. Бо ж тыя бабы ды розны іньшы люд да яе ня проста так прыходзяць. Калі ўжо туды пайшоў, пацягнула, то пакаціўся ты, нібыта з гары. Часта бес спакушае людзей і сапраўды жудаснымі выпрабаваньнямі, калі яны ў сваім адчаі забываюць пра Бога. І вось тут з’яўляецца перад імі такая Ганна зь яе чарцямі ды забабонамі. Ды Ганна, лічы што малы бес. А бываюць такія, што каралёў спакушаюць. Абяцаюць усё, ад чаго Пан адрокся – уладу, моц, грошы. Калі Пан ставіць чалавека над астатнімі, гэта яго цяжкі крыж. Сапраўдны кароль самы нявольны і абцяжараны бедамі ўсіх сваіх падданых, і павінны мець панскую літасьць, любоў, і розум. І спакушэньні на тым узроўні страшныя. Многа хто з князёў часта зайздросьціў лёсу ніжэйшых, на кім не ляжыць такі страшны цяжар, як улада. Хоць, калі падумаць, то ўсе мы ў адказе за слабейшых, меньшых, каго Бог даручыў нам у апекаваньне. Муж адказвае за

жонку, маці за дзіця, гаспадар – за сваю жывёлу, і гэтак далей. І перш за ўсё чалавек у адказе перад самім сабой. І, канешне, перад Панам Богам, творцай яго, тым, хто кахае чалавека болей, чым чалавек тое можа ўявіць.

Ганна ня жрэчаскага роду. Яе бабкі простымі былі, мужычкамі, вясковымі чараўніцамі. Каўдунства і ваўхвы – розныя рэчы. Ваўхвоў ужо амаль і ня засталося. І каўдуны, яны як паганыя грыбы лезуць, быццам бы іх сьмецьце нараджае. Ваўхвы, ваўкалакі, пярэваратні, чараўнікі, каўдуны – усе мы адзін аднаго ведаем. Ды ва ўсіх нас ёсьць свой, асаблівы шлях. Пан прымае і ваўкалака, і чараўніка, толькі трэба шчыра адчуць сябе чалавекам. Пазбавіцца сілаў, якія замінаюць наблізіцца да Пана Бога. І вось у гэтым і страшэнная спакуса, і страшэнае выпрабаваньне.

Таму, хто з нараджэньня цесна зьвязаны са старымі багамі, зь дзядамі, таму найцяжэй. Моц і гардыня цягнуць яго ў пекла. Пан жа, ён, наадварот, узьнімае ў гару. І яўляе чалавеку дзіўную літасьць і такую моц, што ўсё вакол здаецца пасьля гэтага не істотным. Тыя, хто пакутваў за Пана, ведалі гэта, каханая. Бо ж Пан мацнейшы і за ваду, і за зямлю, і за агонь ці маланкі, за мора ды скалы з камянямі, і мацней за любога старога бога. Дзяды ж, і сапраўды, моц страшная. Але і іх можна адмаліць у Пана. Толькі гэта будзе далей, на прыканцы часу. З гэтымі словамі ён устаў, і пацалаваў яе.

- Пайду, двор праверу, - вымавіў ён. – Усё зачыню. Лажыся, каханая. Я хутка буду.

Яна прыбрала, уладкавалася ў ложку, і ўключыла кіно па вялікаму тэлевізару на сьцяне. Ён часам глядзеў разам зь ёй гістарычныя ленты, каментыраваў дасьведча, быццам бы сам жыў у тыя часы, яна нават зьдзіўлялася, але ж потым перастала. Нарэшце, калі прайшла ўжо палова серыі захапляльных падзеяў, за дзьвярыма пачуліся цяжкія крокі, ён увайшоў, распрануўся, і з асалода лёг побач зь ёй на ложак, выцягнуўшыся вялікім целам. Яна прытулілася да яго, узяла пульт.

- Не кранай. Хай пабудзе. Пагаворыць. Не хачу яшчэ спаць. Калі

вас ёй. Вы яе і так ледзь не забілі. Вы ўсе. І ты – першы.

- Я яе кахаў. І кахаю. Алекс схапіўся за галаву, усунуў пальцы ў растрапаныя валасы, быццам бы сам сябе сьціснуў жалезнымі абручамі, каб ня даць разьляцецца на кавалкі.

Яму стала яго шкада, але ж на кароткі час. Неяк усё, што ён ужо даведаўся, раптам выйшла наперад.

- Кахаеш? Ён пакачаў галавой. – Позна ўспомніў. А калі ты яе біў, ты яе таксама кахаў? Калі адну пакідаў на некалькі дзён? Калі дапусьціў тое, што адбылося? Ты ж там быў, побач. Ты ж сам іх у свой дом прывёў.

- Яны за гэта ўжо расплаціліся. Алекс уськінуў галаву.

Ён марудна кіўнуў.

– Яны – так. Перад табой. А перад ёй хто расплаціцца? Ці ёсьць такая плата, якую яна прыме? Сумняваюся. Але ж, слухай, усё гэта было б не істотным, калі б яна кахала цябе. Але ж яна сама абрала быць са мной. Ці ты хочаш сказаць, што я ўтрымліваю яе супраціў яе волі?

- Яна ня можа адказваць за свае дзеяньні. Яна – шызафрэнічка. На таблетках была. Важыла сорак кілаграмаў. Яна галасы чуе, зь дзяцінства. Яе бацькі першыя ў клініку і паклалі. Калі яна пачала казаць, што да яе Бог прыходзіць. Што яна з Богам размаўляе, і акрамя яго, ёй ніхто болей не патрэбны. Яна табе многа чаго расказала, і што было, і чаго, можа, і не было. Але ж яшчэ больш схавала. У гэтым я ўпэўнены. Я пра ўсё ужо потым даведаўся, ад яе бацькоў. Калі яна да мяне сышла, мне яе маці патэлефанавала, і ўсё распавяла. Ды я, дурак, не паверыў. А трэба было. І вось, цяпер расплачваюся.

- Дык навошта табе вар’ятка, у такім разе? Ён усьміхнуўся. – Згубіў яе, і радуйся.

- Не магу. Алекс пакруціў галавой. – Яна быццам бы заноза ў мяне недзе глыбока. І баліць, і дастаць не атрымоўваецца. Ды хай яно, як ёсьць, дык ёсьць. Толькі я цябе хачу сказаць, каб ты

дужа ня радаваўся. Ты ведаеш, што яна мне сказала? Што ты – Бог.

Раптам Алекс зарагатаў, як вар’ят, так што няшматлікія наведвальнікі пакасіліся на іх, і кельнеркі павярнулі галовы.

- Яна мне сказала, што ўсё жыцьцё чакала цябе, і вось ты яе знайшоў. Прыйшоў, і хочаш яе забраць. Да сябе. Напэўна, у рай. Ён заліваўся нярвовым сьмехам, але ж вусны яго крывіліся, а вочы раптам сталі вільготнымі.

- Хачу, каб ты ведаў, - працягнуў ён. – Не цябе яна кахае, а сваю ілюзію. Сваё вар’яцтва. А ты для яе – Бог. Чуеш? Айцец, сын і дух сьвяты. Троіца. Уяўляеш? Ну як табе? Зможаш пасьля гэтага …? Ён спыніўся, пераводзячы дух.

- Дух сьвяты – гэта Шэкіна. Жанчына, - спакойна адказаў ён. – Гэта яна – сьвяты дух. І мая душа. А што я для яе Бог, то так і павінна быць. Ня чортам жа мне быць для яе, насамрэч. Чортам для яе ўжо ты быў, досыць. А я цяпер пабуду Богам. Літасьцівым збаўцай. Я яе кахаю, і нікому не аддам, і нікуды не адпушчу. І, дарэчы, адкуль ты і сапраўды ведаеш, хто я? Можа, я і ёсьць – Бог? І ніякая яна не вар’ятка? Адкуль вам ведаць Бога, якога вы ні разу не сустракалі, ня бачылі, ня чулі? Які ніколі не размаўляў з вамі? Для вас жа наогул яго няма. А для яе – ёсьць. Яна ведае Бога зь дзяцінства, і калі пазнала яго ўва мне, то гэта я і ёсьць. Дзякуй, я цяпер стаў Богам. Яна мне адкрыла самога сябе. І цяпер, як Бог, я за яе несу адказнасьць перад усім сьветам і, найперш за ўсё, перад самім сабою.

Таму – не, ня кіну яе. Гэтая твая мэта не дасягнута. Што яшчэ маеш сказаць? Акрамя таго, што зганьбіў жанчыну, якая цябе давярала. І якая цябе калісьці кахала.

- Цяпер – нічога. Алекс паціснуў плячыма. - А ў колькі разоў яна маладзей за цябе? У два, ці ў тры? Ну ты і тып. Выкарыстоўваць тое, што яна не разумее, што робіць.

- Ну, добра. Я – як ты кажаш, тып. Ці яшчэ хто нават і горш. Ведаеш, я з табой ня буду спрачацца. Можа, яно так і ёсьць. Я, хоць і Бог, зусім не сьвяты. Але ж я раблю тое, што я раблю.

Тое, што гаворыць мне маё сэрца. Я кахаю яе болей за жыцьцё, і сваё жыцьцё лёгка аддам за тое, каб жыла яна. Ды вось бачыш, што адбываецца. Здарылася так, што я адзіны, каго яна жадае на гэтым сьвеце. Тым больш, што я для яе – Бог, сыйшоўшы зь нябёсаў. Ці яна, наадварот, узьнялася да мяне. Дарэчы, што ты пра гэта ведаеш? Што вы ўсе ведаеце? Ты калісьці думаў пра Бога? Ці ты адчуваў яго вакол? Ты наогул верыш, што ён ёсьць?

Алекс паціснуў плячыма.

- Ня ведаю. І ведаць не жадаю. Мне наогул здаецца, што няма. Бо ж калі б быў, то б, напэўна, зрабіў нешта з намі, усімі. Напэўна, раздзелаўся б з намі адразу. А раз мы тут, і творым, што творым, то і Бога няма. Альбо, калі ёсьць, то грош яму цана. Што ён, наогул, робіць?

- А што яму рабіць? Ён паціснуў плячыма. – Толькі вось назіраць за вамі. Ды выратоўваць тых, хто яго любіць. Ад вас выратоўваць. І трымаць ля сябе. Так што я свой абавязак Бога выконваю шчыра. Дарэчы, можа Бог і цябе калісьці выратуе. Што для яго зусім не безсэнсоўна. Бо ж для Бога каштоўная кожная жывая душа. І твая ў тым ліку. Насамрэч, адкрыю табе, як Бог, страшную таямніцу. Усялякая душа ўсё роўна будзе выратавана. Толькі гэта можа заняць шмат часу. Бо і рай, і пекла, і Адхлань існуюць, і ўсе мы там пабываем, ды і бывалі ўжо неаднойчы. Так і будзем блукаць, пакуль не ўзьнімемся да Бога. А ён – па-за межамі ўсяго гэтага. І, адначасова, ён тут, побач. Толькі дакрануцца да яго не магчыма, пакуль ты ў яго не паверыш. Нявер'е пазбаўляе чалавека Бога, а вера – адкрывае яго.

Таму вар'ят ня той, хто наўяве сустракае, бачыць і чуе Бога, а той, хто яго ня ведае, не сустракае, ня чуе, што той гаворыць яму, і ня бачыць яго руку ва ўсім у гэтым сьвеце, ня кажучы пра сваё уласнае жыцьцё.

- Такім чынам, выкарыстоўваць бездапаможны стан жанчыны, якая не ў сабе, тое правільна і Богу ўгодна. Алекс кіўнуў галавой.

- Не ў сабе – гэта ты. Досыць. Гэтая размова скончана. Тым

больш, яна паўналетняя, ёй ужо ёсьць васемнаццаць год, і ніхто дзеяздольнасьці яе не пазбаўляў. І не пазбавіць, гэта я табе абяцаю. У вашым сьвеце вар'яцтва, які вы лічаце розумам, усё навыварат. Насамрэч, акрамя Бога нічога сапраўднага вакол няма. Бо ж толькі ён адвечны, і не праходзіць, як дзень ці ноч, ці кароткае чалавечае жыцьцё. Ён быў, ёсьць, і будзе заўсёды. І той, хто гэта асэнсуе, сам становіцца Богам. Пасьля ж таго, як атрымае сьвядомасьць, ужо не паверне назад. Вы ж не жывеце, а гуляецеся, як дзеці. У жыцьцё, у Бога, у каханьне. Таго ж, хто становіцца дарослым, вы разумець ня можаце, і абвяшчаеце вар'ятам. Яна перайшла тую мяжу, перад якой ваш розум бясьсільны. Лёгка яе перашагнула, бо розуму, ў вашым уяўленьні, ня мае. Ён ёй болей не патрэбны. Ёй дастаткова таго, што яна мае каханьне, і Бога, які заўсёды зь ёй побач. Зь якім яна засынае і прачынаецца. А тое, што вы будзеце ганіць яе, і мяне праз гэта – тое нічога новага. Тое ўжо было шмат разоў. Вы ўкрыжавалі нават і самога Бога, які спусьціўся да вас. Насамрэч, укрыжавалі вы чалавека, які вучыў вас каханьню. Бо ж Бога, канешне, укрыжаваць немагчыма. Бог проста ёсьць, і ён і першы і апошні, і альфа, і амега, і ён ёсьць, і будзе, нават і калі ня будзе вас. Аднак каханьне нікуды ня сыйдзе, не падзенецца. Яно такое ж першаснае, і адзіна існуючае, як Бог. Яна ж пакінула сьвет, і стала суцэльным Каханьнем. І цяпер знаходзіцца разам са мною. Уразумей гэта, а потым прыходзь. Я буду цябе чакаць. Да пабачэньня. З гэтымі словамі ён узьняўся, павярнуўся і пайшоў. Алекс жа так і застаўся сядзець за сталом, сьледам за ім ня рушыў. Сьпіной ён адчуваў яго позірк. Раўнуе. Нічога, так абуджаецца яго душа. Ўсё ж, рэўнасьць – гэта пачуцьцё, а любое пачуцьце лепш за абыякавасьць. Гэта значыць, што яго душа жывая. А значыць, для яе яшчэ ня ўсё згублена.

Ды ўсё ж, яму было прыкра. Дакранаючыся да гэтага сьвету, які ён даўно пакінуў, ён усё яшчэ адчуваў боль. Дзіўна. Гэта было так даўно, і нянавісьць і боль засталіся. Толькі ненавідзеў цяпер ён асэнсавана пэўныя рэчы і з'явы. Грэх. Зло. Вайну. Пошасьць. Ганьбу. Абыякавасьць. Хцівасьць. Жорсткасьць. Здраду. Глупства. Ды многа чаго яшчэ. Толькі людзей болей ненавідзець ня мог. Ды і не пераацэньваў іх, і не недаацэньваў. І што яны будуць намагацца прычыніць шкоду і яму, і ёй, таму

што яны былі разам, ведаў таксама. Ды цяпер ён меў моц, каб захінуць яе. Бо ж яна яму яе дала, зрабіўшы яго Богам. А для Бога няма нічога немагчымага.

Ён усьміхнуўся, адкрыў дзьверы машыны, сеў за стырно. Дождж раптам секанув па шклу. Ён завёў рухавік, уключыў дворнікі, і яны часта захадзілі, зганяючы хуткія кроплі. Уключыў радыё, нажаў педаль, і машына хутка тронулася зь месца. Праз нейкія паўгадзіны горад застаўся далёка ззаду, і ўздоўж дарогі спора пабеглі высокія зялёныя хвоі. Ён ехаў, слухаў музыку, і думаў. Можа, і трэба было б пагаварыць зь яе бацькамі. Але ж яны ведалі, дзе яна, і нічога ня мелі супраць. Маці тэлефанавала ёй некалькі разоў, і, здаецца па размове, нічога дрэннага паміж імі не адбывалася. Бацька ж, яна казала, сышоў, з’ехаў кудысьці, і яму наогул было ўсё роўна. Аднак размова паміж ім і Алексам пакінула непрыемны асадак. Той намагаўся пакрыўдзіць яго, але ж насамрэч прынізіў яе. Растаптаў яе душу, яе веру, яе шчырасьць, яе таямніцу, якую ведаў. Насьмяяўся над ёй. Што ж датычыцца Бога, то таму не прывыкаць да таго, што для некаторых яго няма. Усе яны зь ім усё роўна сустрэнуцца, і ён застанецца пераможцай у гэтай гульне смыслаў. Таму за Бога ён ня быў пакрыўджаны. Быў пакрыўджаны за чалавека – вось жа істота! А яшчэ створаны па вобразу і падабенству, ды вось, недасьпелы яблык з дрэва ведаў усё ж затлуміў яму тое, што ў чалавека завецца розумам. Што замяніла веды, і не дае чалавеку бачыць. Спачатку паміж чалавекам і Богам паўсталі словы, потым – тэксты, формулы, мноствы і бясконцасьці, якія ўскладняліся, множыліся, запаўнялі сусьвет, і хавалі Бога і веды аб ім за такой густой завесай, што чалавек ня бачыў і самое сябе. І не разумеў, што рухацца трэба ў процілеглым напрамку – ад складанасьці да прастаты, ад умнажэньня словаў да іх адсяканьня, і затым – да суцэльнай цішыні, калі чутна толькі біеньне сэрца супраць іньшага сэрца, а потым – прама да Бога, які гаворыць з душой на мове, якой словы наогул не патрэбны. Бог ня мае імені, бо імя яго – яго абмежаваньне. Ён жа стаіць вышэй за ўсе імёны. Ён – там, па-за імёнамі, словамі, прасторай і часам. І гаворыць ён на мове каханьня так красамоўна, што ніколі і ні адна мова словаў такіх ня знойдзе.

Гэтаму яго навучыў адзін малады габрэй, крыху болей за

трыццаць год, які вісеў на крыжы, і з крыжа распавёў яму бязгучнае Божае слова, грамчэйшае за Іерыхонскія трубы, якое ўвайшло ў самае яго сэрца прама як дзіда, што працінула бок укрыжаванага. Разам з крывёй і вадой Бог выліўся на яго, ён амыўся ім, і стаў і бачыць, і чуць, і разумець, і ня можа забыцца вось ужо колькі год. Зразумеўшы Бога, ён сам стаў расьпятым, адчуў, што яго далоні прыбітыя да дрэва, і з болем адарваў іх, узьнімаючыся ў гару, дзе сустрэў Бога твар у твар. І твар гэты быў жаночы, бо ж сам сябе бачыць ён ня мог. Жанчына ж была насупраць, і глядзела на яго зь нябёсаў. І вось, ён пазнаў гэты прыўкрасны твар, а яна пазнала яго. Хто можа іх раздзяляць? Ён усьміхнуўся. За елкамі праз ваду мільгаў указальнік. Ён павярнуў направа, і паехаў па асфальтавай дарозе, а потым па пяшчанай каляіне праз гушчар. У доме гарэла сьвятло, а гэта значыць, яго чакае яна. Што яшчэ можа быць істотным акрамя гэтага, наогул?

# Нядзеля

Яны сядзелі разам абняўшыся на шырокай скураной канапе. Перад імі на стале стаяла кава, дымілася, запаўняючы пакой сьвежым вострым водарам. Ён накрыў яе тонкім пледам, сам жа заставаўся па пояс аголеным, і яна прыціскалася да яго гарачага цела.

- Ведаеш, калі я быў у горадзе, я размаўляў з Алексам, - вымавіў ён, гладзячы яе валасы. – Гэта нічога не мяняе, і я мог бы табе наогул аб гэтым не казаць, але ж я хачу, каб ты ведала.

- Што ён табе казаў? – запытала яна яго, і ўздыхнула, ахапіўшы яго крапчэй рукамі.

- Мы гаварылі шмат аб чым. Ён расказаў мне пэўныя рэчы. Думаў, гэта вымусіць мяне ад цябе адмовіцца. Тое, што я ўжо і сам ад цябе ведаў.

- Што я – вар'ятка. Шызафрынічка. Яна прыціснулася да яго шчыльней. – Але ж ты так ня думаеш, праўда? Яна ўзьняла на яго вочы.

- Любая мая, вар'яцтва – гэта ўвесь гэты сусьвет. Ты ж адзіная разумная ў ім. Калі нехта набывае вочы, каб бачыць, і размыкае вусны, каб гаварыць, сьвет яму гэтага не даруе. Таму я і абраў жыць тут, у лесе, і каваць мячы, а не марнаваць час у горадзе, гуляючы па яго правілах. Да таго ж, сусьвет гэты – ён не такі, як яго бачыць большасьць з тых, хто думае, што мае вочы. Насамрэч вочы іх закрытыя, і яны сьпяць. Калі ж яны прачнуцца, яны ўбачаць таго, ад каго ўвесь гэты час хавалі свае сэрцы. Гэта будзе як абуджэньне, ці, дакладней, як нараджэньне. І гэта чакае кожную душу. Ён пацалаваў яе.

- І яны ўбачаць цябе так, як цябе бачу я? – прашаптала яна.

- Яны ўбачаць Бога. Так, як ён абярэ прыйсьці да іх. Бо ж у кожнага – свой Бог. Але ж адначасова ён – адзіны. Проста ён можа апранацца ў рознае адзеньне, калі прыходзіць да той, ці

іньшай душы.

- А ты? Як ты сам сябе бачыш? – раптам запытала яна. – Калі Бог глядзіцца ў люстэрка, што бачыць там ён?

- Шкіну, каханая. У люстэрку сусьвету я бачу толькі цябе, і тваю прыгажосьць, бясконцую, напаўняючую мяне асалодай.

- Скажы, а мы можам пакінуць гэты сьвет, і сысьці ў сьвет іньшы? Туды, дзе няма нічога, акрамя нас, і сьвятла? – ціха запытала яна.

- Мы – у ім, каханая. Насамрэч ён – такі. Цякучы, мяняючыйся. Зьзяючы. Поўны сьвятла, агню і каханьня. Калі ж мы закрываем павейкі, каб адпачыць, вакол нас наступае ноч, дзіўная і чараўнічая. Але ўсё ж, у сьвеце няма нічога, акрамя каханьня, і нас з табой. Ён нахінуўся, і пацалаваў яе.

Яны ўзялі кубкі, і адпілі па глытку. Была нядзеля, і нікуды ня трэба было сьпяшацца. За вакном сонца зьзяла ярка, так моцна, што ён прыкрыў шторы – не любіў надта шмат сьвятла. На экране насупраць зьмяняліся краявіды, і лілася ціхая музыка.

- Радасьць – адзінае, што існуе ў душы, калі яна спазнае Бога. Яго рука гладзіла яе плячо, сваім плячом ён адчуваў яе дыханьне на сваіх грудзях.

- Паедзем, пагуляем па горадзе? – прапанаваў ён. – Хочаш?

- Паехалі. Яна ўсьміхнулася.

- А куды ты хочаш?

- Хачу паглядзець на новы касьцёл. Вельмі прыгожы, я такога ніколі ня бачыла раней. Нагадвае карабель з парусам. І проста пахадзіць – па парках.

- Ну, тады апранайся. Зьбірайся, і паедзем. Ён устаў, нацягнуў тонкі чорны швэдар. Пайду грэць машыну. Бо ж ноч была халодная. Ён пацалаваў яе.

Яна ўстала з канапы, і прайшла ў спальню. Расчасала валасы

круглай вялікай шчоткай, апранула бялізну, шэрыя джынсы і тонкі чорны швэдар, нанесла парфюму – цяжкую, плотную, салодка-вострую. Пах ахутаў яе, запаўняючы пакой. Нанесла на твар сываратку, празрысты тон, пярлінавые цені на павейкі, падкрэсьліла вейкі тушшу. Наогул, касьметыкі яна не выкарыстоўвала шмат. І так на яе аглядваліся, і яна не жадала прыцягваць залішнюю ўвагу, ад якой яна стамлялася. Абула высокія чорныя боты на каўбойскіх абцасах – зручны для шпацыру абутак, накінула ў прыхожай чорны кароткі пухавік, шырокі і мяккі, узяла простую прамавугольную сумку-шоппер, і выйшла на двор. Машына фырчэла, як быццам бы вялікі чорны конь, і раптам ёй здалося, что перад ёй і насамрэч – коні і вазок, а ён, апрануты ў гішпанскае адзеньне, у доўгім плашчы, сядзіць на вялікім жарабцы. Яна пакачала галавой, і відзеньне раптам сышло. Ён сядзеў за рулём у машыне. Яна адкрыла дзьверы, і забралася на сядзеньне побач.

Ён націснуў на педаль газу, і яны павярнулі да адкрыўшайся перад імі дарогі – прахода між хвояў.

Нядзеля абяцала быць добрай, спакойнай і яснай. Па шырокай, пустой з ранку дарозе яны накіраваліся ў бок горада, які цяпер не пагрознай, і велічнай сьветлай грамадай паўставаў перад імі наперадзе, гасьцінна раськінуўшы перад імі рукі. Усё ж, ён любіў гэты горад, падумалася яму. Асабліва цяпер, калі ад яго болей не залежыў, як і яна.

- Слушай, у меня столько новостей, просто не терпится рассказать!

Карына адкінулася на мяккую канапку са штучнай скуры, паставіла перад сабой маленькую сумачку, дастала складную шчотку, разлажыла яе. У шчотцы аказалася люстэрка, у якое яна прыдзірліва глянула, а потым, не кранаючы валасоў, злажыла шчотку, і схавала ў бліскучых атласных складках-вантробах рыдыкюльчыка. Валасы яе былі дасканала ўложаны ў кудзеры-локаны, якія абрамлялі яе кругленькі, пухлявы тварык зь вялікімі бліскучымі вачыма, доўгімі, як стрэлы, накладнымі вейкамі, акуратна расчэсанымі і ўложанымі гелем бровамі. Вусны яе былі падмаляваны бліскучай сатынавай памадай, і

выглядалі мяккімі і вільготнымі.

- Подколала, - падумалася Вользе.

Яна з прыкрасьцю ў душы і захапленьнем на твары аглядала маленькую, нагадваючую экзатычную птушку, сяброўку.

- Да, и губы вот сделала. Дороговато, правда, но мой мне оплатил. Пятьсот долларов обошлось. Но оно того стоит. Правда, секси?

Карына ўсьміхнулася, мякка, летуценна. Яе вочкі бліснулі, як у кошкі. Кошка-птушка. Вольга таксама ўсьміхнулася. Так, калі трэба, сяброўка магла паказаць вострыя кіпцюры, і за тое Вольга яе паважала. Адзін раз яна нават пабілася ў клюбе. Так, дробязі, люстэрка не падзялілі ў прыбіральні. Але ж атрымала тая дзяўчына ад Карыны добра. І сумкай па галаве, і доўгімі акрылавымі кіпцюрыкамі ў каменьчыках - па твары.

Яны сябравалі зь дзяцінства, са школы – так ужо павялося. У Карынкі была мянушка “барбі”, а ў Вольгі – “валькірыя”. Яна і сапраўды нагадвала валькірыю – высокая, крэпкая, з выбелынымі валасамі, падбрытымі на скронях, і зачэсанымі на бок, зь яркім, агрэсіўным макіяжам. Захаплялася ўсім скандынаўскім, была, як кажуць, “фемка”, дзяўчына-хлапец, хадзіла на канцэрты металёвай музыкі, тусіла з байкерамі, піла зь імі піва ў пабах, нават у жаночы футбор гуляла. Потым футбол ёй надакучыў, а сексуальныя здольнасьці байкераў пагоршыліся з-за піва і рэчываў, якія яны нямерана ўжывалі, і таму Вольга вырашыла зьмяніцца. Скроні адрасьціла, доўгія белыя валасы коратка абрэзала, пахудзела, адзеньне стала насіць агрэсіўнае сэксі, і неўзабаве абзавялася іньшым шэрагам паклоньнікаў, якія маглі аплаціць і ня толькі піва, а нават і Мальдывы.

Яна дэманстравала сябе як вопытную, ведаючую жыцьцё жанчыну, якая знае сабе цану, любіць брэндавыя рэчы, мае густ і адкрыты, свадобны ад забабонаў розум. Магла і паразмаўляць на тэмы акрамя Мальдываў, накачаных вуснаў і накладных веек, у адрозьненьне ад Карыны, якая нават і не намагалася паспрабаць сябе ў востран, агрэсіўнай інтэлектуальнай размове.

Да таго ж, Вольга паступіла на факультэт журналістыкі, а Карына – на “ногці”, марыла асвоіць адмысловую карэйскую методыку манікюра. Ды ўсё ж, сяброўкі часта сустракаліся. Цягнула іх адну да другой – успаміны дзяцінства, ці проста таму, што сябровак ні ў той, ні ў другой болей не было.

- Ну, и что у тебя за новости? – працягнула Вольга. – Снова в Эмираты собралась? С кем на этот раз?

- Не в Эмираты, а в Турцию. Вольга падціснула вусны. – Зато – в самый дорогой отель в центре Стамбула. У моего какие-то переговоры с богатыми турками. Ресторан в Стамбуле хочет открыть. Инвестирует. Вернее, не он, он частично, но организует все он. Турки красивые, ухоженные. Накачанные. Яна летуценна закаціла вочы.

- И это что, все новости? – Вольга пагардліва ўзьняла бровы.

- Да нет, не все. Карына неяк драпежна ўсьміхнулася, яе прыгожыя пухлявыя вусны раптам непрыгожа раз’ехаліся, і яна сапраўды стала нагадваць кошку. Толькі памойную, раптам падумалася Вользе.

- А что еще? Ты расскажешь, или нет? Или мне пойти? Не заплатив? Раптам Вольга таксама ашчэрылася ў шырокай вусьмешцы, паказваючай белыя вострыя зубы.

- Да расскажу, не злись. Тварык Карыны ізноў памягчэў, набыў прыгожы, мяккі, салодкі выгляд. Дужа салодкі.

- Представляешь, кого я видела? Ебанутую нашу. Анорексичку.

- И что? Вольга прыжмурыла вочы. Раптам размова перастала ёй нравіцца, яна і сама ня ведала, чаго.

- Ну, ту, которая … у тебя Сержа увела. Которую он потом кинул. И к тебе вернулся. И потом тебя кинул.

Карына хітра прыжмурылася.

- Кинул, уехал, и подох, как собака. В подворотне. Зарезали его, вроде. Ніводны мускул на твары Вольгі не варухнуўся. Яна

халоднымі блакітнымі вачыма вывучала сяброўку.

- Ну да, зарезали. Только в Париже, а не в херковичах. Ты же согласишься, что это – достижение? Во-всяком случае, он уехал, контракт заключил, и если бы не нелепая случайность, то может быть уже бы был гражданином Франции. Дом бы купил. Им там в легионе хорошо платят, и пенсия хорошая.

- Только до неё дожить ещё нужно. Вольга паціснула плячыма.

- А француза я и так найду, если захочу. Кого хочешь найду. У меня с внешностью все в порядке. Немец недавно писал. Приглашает в Берлин потусить. Сказал, выгляжу как «госпожа». Яна ўсьміхнулася.

- Работу предлагал в клубе.

- Соглашайся! Карына вытарапіла на яе вочы. – Ты что! Это же шанс! Отсюда вырваться!

- Не-а. Вольга пакруціла галавой. – Я не дешевка – по стрип-клубам таскаться. У меня другие планы. Телевидение. Москва. Я хочу программы вести. Политические. Как Собчак или Скабеева. Мне и внешность, и интеллект позволяет. И отсюда заодно вырвусь. Только не в Европу, там делать нечего. Да там столько и не заработаешь, как у соседей. Ну ладно, видела ты эту … жидовку. И что дальше? Зачем мне это знать?

- Ну, я думала, тебе будет интересно. Все же, как-то было дело, переплелись наши судьбы.

Карына шырока ўсьміхнулася.

- Ого ты заговорила. Вольга зь цікавасьцю глянула на яе.

- А ты что думаешь, я дурочка? Ты знаешь, сколько я эзотерики последнее время смотрю? Торсунов, Ситников, Свами Даши, Сатья Дас, - старанна загінаючы пальцы, пералічыла яна.

- В мире все взаимосвязано. В общем, так и оказалось. Я своего в машине ждала. Мы на мероприятие собирались, но у него какие-то там дела, какой-то ресторан декорирует. В общем, как

всегда, он меня в машине кинул, сказал, что на часик, а сам не меньше двух проторчал. Ну, это не важно. Я только телефон открыла, послушаю, думаю, Ситникова, пока никто не мешает, как вдруг меня будто бы что-то толкнуло, понимаешь! Просто высшие силы мне сказали – повернись, дура, посмотри в окно. Я смотрю – машина такая огромная черная останавливается, из неё мужик выходит. Такой, я просто чуть из окна не выпала. Блять, как Джигурда, только красивый. Ну, не дешевка, понимаешь.

Вусны Вольгі раз’ехаліся ў вусьмешцы.

- Ну ты даешь. Джигурда, Ситников. Ты в своем репертуаре, подруга. Ну на этот раз хоть интересно. И дальше что? Ты его подцепила, что ли?

- Да ну тебя. Карына махнула на яе маленькай рукой з доўгімі, у палову яе пальца накладнымі кіпцюрыкамі ярка-ружовага колеру.

- Короче, мужик ростом наверное под два метра, волосы черные, длинные, ниже плеч, борода, не длинная, усы. Глаза такие пронзительные, как … как у бога. На иконе, - раптам вымавіла яна.

- Так может, это и был Бог? Снизошел до тебя. Ты же вся в духовности. Пора уже и видения иметь, как все уважаемые святые дамы. Ты б у него поинтересовалась.

Вольга пачала сапраўды насалоджвацца гэтай размовай, адчуваючы сябе Ксеніяй Сабчак, якая інтэрв’юіруе закадыраваўшуюся Валачкову.

- Да не бог это, обычный мужик. Только необычно красивый. Ну, такой, яркий. Не молодой, около пятидесяти или даже больше. Не поймешь, какой национальности. Вроде, на турка похож, черный такой, но не турок. Может, цыган. Только лицо правильное, европейское. Мужественное такое лицо, красивое. Такое, что даже страшно. Не такое красивое, как у геев, ну, ты понимаешь, а страшное и красивое. Я б ему в глаза смотреть не могла. Вроде бы лицо как лицо – брови черные, нос прямой,

усы, борода, скулы высокие, подбородок грубый, но не как у спортиков. Я таких лиц вообще не видела в жизни. Только в кино. Как у короля какого-нибудь. А общем, мужик – огонь. Одет просто, но стильно. Свитер тонкий, джинсы, ботинки такие остроносые, типа «козлов». Или сапоги короткие, я не рассмотрела. Что-то такое «на японском». Ну, вроде Ямамото. Черное, потертое, асфальт. В общем, выходит он из огромной шикарной тачки, обходит её, открывает двери, а оттуда выходит наша знакомая! Ле-ти-ци-я, - працягнула яна.

- Ого! Вольге і сапраўды стала дужа цікава. Можна сказаць, што ўключылася яе журналісцкае чуцьцё. "А история-то пахнет жареным!" – раптам падумалася ёй, яна і сама ня ведала, чаму.

- Вот я тебе и говорю – ого! Новости! А ты мне не веришь, издеваешься. Слушай дальше. Короче, Летиция, своей собственной персоной. Такая же дохлая, как и была. Может, чуть больше на человека похожа. Волосы эти черные, как у ведьмы, до пояса. Брррр… Лицо бледное, макияжа человеческого нет, только брови чернющие. Губы даже не сделала, представляешь? С таким мужиком! Что она себе думает! Ну, может, тоналка светлая и хайлайтера чуть-чуть. Я даже окно приоткрыла, чтобы лучше видеть … и слышать.

Одета как он, в черный свитер, тонкий такой, свободный. Погоди … я у Ральфа Лорена такой видела! Вочы Карыны выкаціліся на лоб.

- Точно! Джинсы серые, узкие, сапоги короткие, все такое, знаешь, потертое … на миллион долларов. Пуховик короткий широкий дорогущий. Точно Ямамото. Часы на пол-руки. А рука как у смерти.

Яна ізноў зарагатала.

- В общем, он её из машины достал, руку ей протянул, то-сё, прямо рыцарь. Мой так фиг руку протянет. Сама вылазь. И, представляешь, обнял так её слегка рукой, и говорит – щас упадёшь просто!!!! – говорит: «Прыехалі, каханая!»

- Так и сказал? Прыехали? Вольга, ня стрымліваючыся,

пырснула. – Может, поляк? – задумліва запытала яна.

- Может. Может, серб какой. Кто его знает. Но мне показалось, по-белорусски говорит.

- Да ты что? – Вольга з прыкрасьцю скрывілася. – Ну, не знаю. Хотя … тут странных хватает. Эта же конченая, когда из своей психушки выписалась, её мамка в беларускамоўную школу перевела. Сказала, больше ноги её драгоценной дочурки в этом классе не будет. И в школе этой. Жалко, что и в этом городе, и на этой земле не добавила.

- Слушай, а чего ты так её ненавидишь? Карына зь цікавасьцю паглядзела на яе. – Ну, девчонка, странная, анорексичка, голоса там слышит, в целом – симпатичная даже. Ты знаешь, я вот когда эзотерикой начала заниматься, на семинары ходить, там кого только нет. И ведьмы, и с дредами, и кришнаитки. Ну, и даже если и еврейка – ну и что? Израиль – хорошая страна. Богатая. Слушай, может, он – еврей? Точно! Внешне я бы сказала, похож. Может, смесь еврея и поляка.

- Может, родственник её? – выказала меркаваньне Вольга.

- Да нет, он её «каханая» называл, я точно слышала. И держал её так … бережно. Трымал. Трымаў, - раптам папраўілася Карына.

- Ну ты мне еще по-белорусски заговори. Вольга ўсьміхнулася.

- А что? И заговорю, я могла бы. У меня бабуля знаешь, как на трасянке шпарила? Ради такого мужика я бы по-китайски заговорила, - нечакана летуценна вымавіла яна, закаціўшы вочы.

- Хоть бы она подохла в той психушке, - раптам зь нянавісьцю вымавіла Вольга. – Я думала, её с концами закрыли. Что она совсем оттуда не выйдет. Она до скорой сама чуть дошла, говорят. Сколько там она весила? Килограмм тридцать?

- Сорок три. При её росте это смертельный вес. Хотя, ты знаешь, смотрелась она всё равно шикарно. Вот бы мне так … Карына

ізноў закаціла вочы. – А то я при росте метр шестьдесят пятьдесят кг вешу. Представляешь?

- У тебя только формы по пятку килограммов. Нечего было жадничать с силиконом. Вольга зарагатала.

- Это не силикон, это свои. Ну, только чуть-чуть. Олег любит, когда с формами. Такие, в стиле плейбой 90-х.

- Он же у тебя старпёр. Вольга ўсьміхнулася.

- Не старпёр. Ему только сорок исполнилось, - пакрыўджана вымавіла Карына.

- Я думаю, мы с ним поженимся. Мы уже давно, почти полгода.

- Ну и дура, - раптам голас Вольгі стаў незлабівым, нават спачувальным. – Не женится он на тебе. Такие ни на ком не женятся. Слишком он красивый, слишком мажор. Он кроме себя, не любит никого. А кухарку или проститутку он и так купит. Захочет японской кухни – купит японку, захочет якутской – якутку. Ты лучше деньги собирай, салон свой откроешь. А мужики … ну их. Яна паціснула плячыма. – Они все ни о чём. Сейчас женщина имеет все возможности, чтобы сделать карьеру, и состояться, как человек. А не как подстилка или кухарка. Я вот не хочу замуж. И не пойду. Не родился ещё тот богатырь. Яна зарагатала.

- Я же не эта … дурочка анорексичная. Нашла себе старого извращенца, и таскается с ним. Ка-ха-на-я, - вымавіла яна з прыкрасьцю. – Нормальный с такой никогда не будет. С этим точно что-то не так, я уверена.

- Не знаю, - працягнула Карына. – Как по мне, он очень красивый. Классный.

- Я это уже слышала. Ладно, хватит о ней. А то мне уже блевать хочется. Слушай, а давай, шампанского выпьем? За встречу? – раптам прапанавала яна. – Что-то захотелось расслабиться.

- Давай! – узрадавалася Карына. – Только тот, кто предлагает, тот и платит.

- Да ладно, я заплачу. Вольга задаволенна адкінулася на канапцы, і ўзьняла руку, клікаючы кельнера.

Яны пад’ехалі да рэстарану, пра які ён ёй расказваў. Для якога атрымаў заказ на частку экспазіцыі. Дамовіліся, што спачатку сустрэнуцца з Алегам, зь якім абмяркуюць пэўныя дэталі. Кліент пабачыў першы зроблены меч, які ў яго быў дагэтуль напаўгатовы, ён толькі дарабіў аздобы: зрабіў прыгожае дзяржальна і ножны, каб усё было па-сапраўднаму. На ўсялякі выпадак ён трымаў загадзя зробленыя мячы розных відаў, якія звычайна карысталіся попытам, і, калі заказ ня быў нечым адмысловым, то хутка яго выконваў, прадаючы гатовы прадукт. Задаволены хуткай і якаснай працай кліент жадаў цяпер яшчэ і рыцара ў поўным убраньні. З рыцарам было складаней, ды ён ведаў, дзе такія дасьпехі можна ўзяць. Але ж рыцара заказчык, як высьветлілася, жадаў як раз не абы якога, а адмысловага. У поўным гатычным аблачэньні, вытрыманага ў строгай адпаведнасьці з гістарычнымі канонамі. Але ж ні краіны, ні якіях іньшых асаблівасьцей кліент ня ведаў. Затое ведаў, што ў рыцара на грудзях павінны быць герб Ордэна Дракона.

Гатычны рыцар з Ордэнам Дракона – гэта рыцар венгерскі, польскі, сербскі, харвацкі, італьянскі ці нават германскі, а ордэн можна зрабіць як выяву, ці як герб на ланцугу, які адзяваецца на сюрко. Але ж рыцарскія ўбраньні тады былі ў асноўным італьянскія. Нямецкія таксама рабілі, аднак яны саступалі ў якасьці сталі. Толькі напрыканцы пятнаццатага стагоддзя нямецкія і італьянскія дасьпехі зраўняліся ў якасьці, патлумачыў ён. Кліент паказаў у планшэце некалькі фотаздымкаў таго, што яму падабалася, і што ён меркаваў годным.

- Михаил, вот, может быть, что-то в этом роде. Ну, чтобы эффектно, знаете ли. А может, нам тамплиера поставить в полном облачении? В Питере вот мне такое предлагали, но это как-то, знаете ли, дорого. Может, вы бы такое же, только бы дешевле, сделали? А то они больше, чем полмиллиона российских хотят.

- А я колькі, па-вашаму, захачу? Ён усьміхнуўся.

- Ну, может быть, вы бы дешевле сделали. Ну согласитесь, это же не машина. И в них же не воевать. Ну, чтобы похоже.

- Дык вы ўжо вызначыце, што вам трэба. Тыя дасьпехі, што вы мне паказалі, да тампліераў ніякага дачыненьня ня маюць. Гэта дасьпехі гатычныя, нямецкія, сярэдзіна шаснаццатага стагоддзя. А шлем тут я бачу з трынаццатага. Гэта ў народзе называюць “клюква”. І такія грошы канешне я б не плаціў за гэта. Сапраўды, калі вы жадаеце пэўны гістарычны перыяд, я магу зрабіць для вас менавіта першую палову пятнаццатага стагоддзя, і нанесьці на латы гравіроўку з выявай дракона. Гэта будзе цікава, і пра гэта мала хто ведае. Таму такія дасьпехі з адпаведнай тлумачальнай шыльдай стануць цэнтрам экспазіцыі. Можна было б паставіць некалькі рыцараў. Пачаць з крыжовых паходаў, з тампліераў, якія насілі толькі доўгія кальчужныя кашулі і цяжкія шлемы накшталт прамавугольнага вядра са шчылямі для вачэй. Далей жа дасьпехі станавіліся ўсё больш закрытымі і анатамічнымі, і шлем ужо паўтараў форму галавы яго ўладальніка, а не нагадваў перавёрнутае вядро. Тампліера я вам зраблю зь мячом за пару тысячаў доллараў, што ж датычыцца італьянскіх дасьпехаў, то гэта будзе разы ў тры ці чатыры даражэй. Залежыць ад якасьці сталі. Дадамо яшчэ гравіроўку, шчыт, меч. Будзе каля дзесяці тысяч, - падбіў ён. – Але гэта будзе музейная якасьць, і сапраўдны баявы дасьпех. Хаціце, па вам зраблю.

Гаспадар, расеец, высокі, шырокаплечы, з праставатым тварам, прызадумаўся.

- А, делайте! И тамплиера, и этого, итальянского, з драконом. И еще немца, готического. А крестоносца можно?

- І крыжака можна, з паўлінавым пер’ем на шлеме. Міхась усьміхнуўся.

- А сколько это времени займёт, чтобы все сделать? Долго?

- Ну, калі зараз пачнем, то да калядаў зраблю. Тры месяцы павінна хапіць. Па месяцу на рыцара. Але ж папярэджваю, танна ня будзе. Будзе строга гістарычна, меркі буду браць з вас, як і дамовіліся. Вы яшчэ і ў рэканструкцыі ў іх згуляеце.

- Слушайте, а можно того, готического, что с драконом, с вас сделать? – нечакана запытаў заказчык. – Ну, вы понимаете, я, конечно, фактурой не обижен, но вот вы, простите, просто уникальный человек. Я таких вообще не встречал. Вы просто будто бы из того времени. Если б я вас попросил на открытии в живую поприсутствовать, вы не представляете, как бы это было круто.

- У жывую? Міхась усьміхнуўся. – Слухайце, гэта каштаваць вам будзе яшчэ адзін кошт дасьпехаў. Я, наогул, чалавек не публічны, не косплэер, і не аніматар.

- Я заплачу. Согласен. Сделайте, пожалуйста, по себе. И выйдете на каких-нибудь полчаса, ну, час. Просто пройдётесь по залу, пофотографируетесь. Ну что вам стоит? Вы знаете, мне уже так хочется, я просто вижу, как это будет круто, что мне никаких денег не жалко. В разумных пределах, конечно, - раптам паправіўся ён. – Вы знаете, у меня по всей России рестораны в средневековом стиле – франшиза, в виде таверн. Стилизованные. И в крупных городах есть. Только знаете ли, с мастерами туго. Вроде их много, а как начнешь разбираться, или перекупы, из Европы неизвестно что в три дорога перепродают, или обещают уровень, а по факту получается корыто жестяное, а не доспех, для школьников. И все дерут три шкуры. Просто рыцари – не наша тема. Не совсем наша. У нас же их не было, и все, кто по истории и косплею, в основном русские доспехи – шлема, кольчуги, или татарские делают. Туго как-то у нас с рыцарями, видите ли. Наверное, спроса нет. Только вот я один такой. Я ведь вначале машинами торговал, у меня автосалоны ещё, а потом вот, когда в кейтеринг вошёл, постепенно историей увлекся, и рыцарями этими тоже. У вас это более популярно, конечно. Этот ресторан первый будет, а потом я такой и в Москве, и в Питере открою, с выставкой. «Арсенал» назову.

Міхась усьміхнуўся.

- Добра, як вы жадаеце, так і будзе. Дзякуй за давер і заказ. А вам я зраблю гатычныя дасьпехі, нямецкія, больш позьняга перыяду. Прыязжайце да мяне на госьці, у маёнтак, паглядзіце кузьню, усё убачыце ўласнымі вачыма.

- Большое вам спасибо, Михаил. Заказчык устаў, і паціснуў яму руку. – Извините, так увлекся, что забыл представиться. Меня Фёдор зовут.

Ён працягнуў Міхасю візітку – шыкоўную, на барвовай паперы, с залатымі літарамі і выявай арла.

Міхась прачытаў фамілію, якая падалася яму знаёмай. На візітке значылася пасада – депутат Государственной думы Российской Федерации.

- Очень приятно было с вами познакомиться, Михаил, уверен, что наше сотрудничество будет плодотворным, и с нетерпением ожидаю возможности посетить вас. Позвоню вам в ближайшее время, как только уточню свои планы. И ещё, позвольте мне сделать комплимент вашей спутнице, - нечакана дадаў ён.

- Я таких красивых женщин ещё в жизни не видел. Такая яркая, природная, благородная красота. Вы оба очень необычные. Извините за любопытство, но вы похожи. Это не ваша дочка?

- Гэта мая жонка. Дарэчы, можаце нас павіншаваць. Мы як раз сёньня пабраліся шлюбам. Павянчаліся ў касьцёле.

- Да вы что! Поздравляю! – Фёдар неяк разгубіўся, і яшчэ раз працягнуў Міхасю руку, а потым пахіліўся ў бок Летыцыі. Яна працягнула яму кісьць, і ён асьцярожна пацiснуў яе, а затым, нібыта ўспомніўшы нешта, паднёс яе руку да вуснаў. Ад яе рукі дзіўна пахла парфюмай, якой ён ня мог падабраць назвы. Наогул, гэтая жанчына была такой прыгожай, што ён пачаў бянтэжыцца. Яна была апранута дорага, але ж зусім проста і вольна, у тонкім трыкатажным швэдары, які, як рымская туніка, падкрэсліваў формы яе тонкага цела. Яе грудзі былі высокімі, талія вузкай, скура – белай, амаль празрыстай, і ўся яна быццам бы толькі што сышла з подыуму ці старонкі дарагога журнала. Ці, не, яна з'явілася аднекуль з таго сьвету, дзе дасьпехі – гэта такое ж натуральнае паўсядзённае адзеньне, як для яго – дзелавы касьцюм, падумалася яму. Быццам бы яна сышла з карьціны эпохі Рэнесансу, ці з іконы, такім прыгожым быў яе крыху выцягнуты твар с тонкімі рысамі, з вялікімі вачыма, якія нагадвалі шэрае восеньскае неба.

Але ж яна зусім маладая. І сапраўды яму як дачка. Аднак, гэта нармальна. Багаты чалавек, гэта ж бачна. І маладая дзяўчына лічыць яго выгаднай партыяй. Дзіўныя яны тут, вырашыў ён. Нейкія нібыта ня з гэтага сьвету, ня з гэтага часу. Прыйшлі з вясельля апранутыя быццам бы сабраліся пасядзець у кавярні. Ён сказаў, пабраліся шлюбам у касьцёле. І іх так проста павянчалі – у джынсах, каўбойскіх ботах і швэдарах? Пратэстанты нейкія. Ці, касьцёл – гэта што? Здаецца, каталікі. Ай, ну іх. Ён махнуў рукой. Другая страна, усё на першы погляд такое ж, але калі паглыбішся – зусім другое. Ня бедныя людзі, машына больш за сотню тысячаў, апранутыя пэўна ж у нейкія брэнды, а выглядае так, быццам бы зусім ня дбаюць пра адзеньне. Гавораць проста, ніякага пафасу, шчыра, але ж цану запрасілі такую, што ён, як кажуць, прыфігеў. Ды затое прадэманстравалі такія веды і якасьць паслуг, што ён прыфігеў у другі раз.

Раптам яму стала радасна, што яны пазнаёміліся. І сапраўды, трэба будзе прыехаць да гэтага Міхаіла на госьці. Паглядзець, як яны жывуць, як працуюць. Яму, шчыра кажучы, і ўязжаць не хацелася. Раптам Масква здалася бруднай, шумнай, і нейкай халоднай. Быццам бы з утульнага пакою са сьвячамі ён быў вымушаны зрабіць крок пад дождж ці ў ледзяную сьцюжу.

Яны прыехалі рана, і да вясельля яшчэ заставаўся час. Пасьнедалі ў кавярне, паехалі, паглядзелі будоўлю новага касьцёлу, пагулялі па парку. Нарэшце дзень пераваліў на другую палову, і яны накіраваліся да касьцёлу Найсьвяцейшага Імя Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. У машыне яна пераапранулася ў белую сукенку – пышную, карункавую, гатычную, боты ж пакінула свае, чорныя скураныя, з шырокай халявай да паловы лыткі. Расчасала валасы і з хваляваньнем у вачах глянула на яго.

- Як я выглядаю? Прыстойна?

- Ты выглядаеш, як анёлак, ці як сама найсьвяцейшая дзева, сонейка. Ня бойся, я гэтага ксёндза ведаю, ён добры і не такі строгі, як здаецца.

Узяўшыся за рукі, яны падыйшлі да касьцёлу. Дамовіліся, што яны папросяць быць сьведкамі звычайных прыхажан, якія будуць на месе. Гэта апынулася маладая пара, якая з захапленьнем глядзела на іх – хлопец і дзяўчынка, прыгожыя, чыстыя, бялявыя, як анёлкі. Дрыжачай ад хваляваньня рукой хлопец паставіў свой подпіс, баючыся глянуць на нявесту, быццам бы сам браўся шлюбам у другі раз. Дзяўчына апынулася больш бойкай, яна і павіньшавала, і пацалавала Летыцыю, хлопец жа пацінуў руку жаніху.

Ксёндз задаў звычайныя ў такім выпадку пытаньні – ці дабравольна уступаюць маладзёны ў шлюб, ці няма якіх для яго перашкодаў, прачытаў малітвы і блаславіў іх. Яны абмяняліся кольцамі, якія раніцой купілі ў ювелірнай краме ў цэнтры – простымі, зь белага золату, у яе – з маленькім дыямантам.

Калі ж выйшлі з касьцёлу, неба пачало крыху ружавець, ды вечар яшчэ марудзіў. Было дзіўна прыгожа. Яна трымала яго за руку, ён ціха паціскаў яе тонкія пальцы.

- Вось ты і мая жонка перад Богам, - ціха вымавіў, калі яны апынуліся на вуліцы. Сьвежае паветра восеньскага вечару апусьцілася на іх тонкай смугой, недзе пахла дымам ад вогнішча - хтосьці паліў лісьце. Дрэвы стаялі празрыстыя, ўрачыстыя, беражна трымаючы рэшткі лістоты. Вакол стаяла ціхая, сумная прыгажосьць, быццам бы прырода ўздыхала на поўныя грудзі, і спакойна выдыхала, гатовячыся адыйсьці да зімовага сну.

Ён павярнуўся да яе, і крануў вуснамі яе мяккую шчаку. Яна ахапіла яго талію рукамі.

- Цяпер я цябе нікуды не адпушчу, - вымавіў ён.

- Я нікуды не сыду ад цябе, і ніколі цябе не пакіну, - адказала яна. – Ты – той, дзеля каго я нарадзілася на сьвет. Дзеля каго я жыла, і каго чакала ўсё жыцьцё.

Яго цела было цёплым, плечы шырокімі, надзейнымі, рукі – моцнымі, і ёй было так хораша зь ім.

- Каханы, - прашаптала яна.

Ён пагладзіў яе па валасах. Разам яны пайшлі да машыны. Ён узьняў шторы на вокнах, на заднім сядзеньні яна сьцягнула сукенку, і пераапранулася ў швэдар. Ён з усьмешкай глядзеў на яе.

- Як думаеш, Панна даруе мне, калі я саграшу прама тут і зараз? Яна павярнулася да яго – у маленькім карункавым станіку цялеснага колеру, які зусім нічога не хаваў ад яго вачэй.

– Панна даруе, толькі ты спазьнішся на сваю сустрэчу. Яна таксама ўсьміхнулася.

- Яны мяне ўсё роўна будуць чакаць. Але ж я не хачу бурыць гэты момант цнатлівай прыгажосьці, якую я зараз перад сабой бачу. Лепш я патрываю да дому. А дома, канешне, мне прыйдзейца засьведчыць свае правы мужа.

- Дамовіліся, каханы. Яна нацягнула праз галаву паўпразрысты шаўковы чорны швэдар.

- Ты цяпер выглядаеш для мяне нават болей распранутай, чым была, красуня мая. Ён пакачаў галавой. Яна перасела на пярэдняе сядзеньне, і яны паехалі да рэстарану. Вуліцы вакол здаваліся нейкімі сьвяточнымі, людзі – прыгожымі і радаснымі, кафе – утульнымі, а будынкі – строгімі і ўрачыстымі, ці роднымі і тутэйшымі, як старыя сваякі.

- Ты ведаеш, я цяпер люблю гэты горад, - вымавіў ён, гледзячы на дарогу. – Раней ня тое што не любіў, але ж быў на яго пакрыўджаны. Цяпер жа, калі ён падарыў мне цябе, я забыўся на ўсе крыўды, на ўсё, што было раней. Цяпер я гэтаму гораду вінен. Вінен за сваё каханьне, за тое, што ён адкрыў мне, за твае прыгожыя вочкі, за гэты шлюб, за гэтага ксяндза і сьведак, за гэтых маіх сяброў, за рэстараны і кафе, за музеі і выставы, за кожнага з гэтых людзей, зь якіх складаецца яго вялікая душа. І ўсё гэта адкрыла мне ў ім ты, любая. Праз сьвятло нашага каханьня і гэты горад стаў радасным і сьветлым.

Ён палажыў руку ёй на сьцягно, і яна накрыла яе сваёй.

Калі яны прыехалі да рэстарану, вялікая шэрая машына Алега ўжо стаяла ля яго. Яны выйшлі, і раптам у адкрытым вакне джыпа яна заўважыла дзяўчыну, якая здалася ёй знаёмай. Яна імгненьне падумала, дзе магла відзець гэтую модную красуню, але ж надутыя вусны і накладныя вейкі з інстаграмным макіяжам рабілі ўсе твары падобнымі адзін на другой, і яна так і не змагла гэтага ўспомніць, а потым і суцэльна забылася на сустрэчу.

# Валькірыя

- Алекс, привет! Это Ольга. Ну, Ольга-валькирия.

Вольга ў думках усьміхнулася, уяўляючы зараз твар Алекса, які, мяркуючы па яго хрыпла вымаўленаму “да”, толькі прадраў вочы. Недзе толькі прадраў вочы, удакладніла для сябе яна. Гэта такі чалавек, начны. Філін, ці, хутчэй, крумкач. Чорны, калматы, хуткі, налятаючы і зьнікаючы, як прывід, з вострай драпежнай дзюбай. Вочы крумкачыныя пільныя, доўга глядзяць у адну кропку, а потым – б’юць бяз промаху. Крумкач заўсёды там, дзе сьмерць. Падла. Кроў. Крыкі паміраючых, стогны пакутуючых. Ачышчае косткі да белага, шкаматае мяса жалезным клювам. Ці ёсьць у крумкача сэрца? Напэўна, ёсть. Ды ён нікому ня скажа. Алекс Вользе падабаўся. Худы, жылісты, нярвовы, рэзкі і злы. Спачатку біў, а потым размаўляў. Калі таго жадаў, бо ж размаўляць ён не любіў наогул.

У іх байкерскай тусоўцы з’яўляўся рэдка, і толькі па справах. Для ўсіх ён быў менеджарам некалькіх вядомых гуртоў, часта арганізоўваў замежныя туры, і запрашаў у клюбы вядомых андаграундных выканаўцаў. Аднак акрамя афіцыйнай канцэртнай дзейнасьці Алекс яшчэ прытаргоўваў. Казалі, што рэчывамі. Вольга ніякія рэчывы наогул не ўжывала, і да тых, хто ўжываў, ставілася з пагардай. Яна была за здаровы лад жыцьця, крэпкае цела і ясны розум. У бытнасьць сваю байкерскіх тусовак яна пэўны час мела адносіны з хлопцам, завёрнутым на паўночным паганстве, які меў з гэтым Алексам нейкія справы, і яны некалькі разоў зь ім сустракаліся. Алекс прыцягваў Вольгу і як чалавек, і як мужчына, аднак ніякіх блізкіх адносінаў між імі не было. У той час ён ужо пачаў жыць зь Летыцыяй, яе аднаклясьніцай, але ж тады ёй на гэта было ўсё роўна. Неяк яна быццам бы ўскосна вымавіла, калі з рыжаватым даўгавалосым Торам на беразе возера яны пілі піва, назіраючы за шэрымі халоднымі хвалямі, якія перакатваліся ў лад з гукамі паўночнага фоўк-року з бумбокса:

- Слушай, девка эта, которая с Алексом теперь. Не могу понять,

что он в ней нашел? Она же страшная, дохлая, и мозги у неё набекрень. Да ещё и черномазая. Жидовка. Ущербная какая-то во всех смыслах. Он же вроде нормальный парень. Получше найти себе не мог? Что вы все на неё западаете?

Яна паціснула плячыма.

Тор павярнуўся, і зь цікавасьцю глянуў на яе.

- А чего тебя это так волнует, рыба? Что это ты вдруг о ней заговорила?

- Да так, - вымавіла Вольга. - Вообще не люблю жидов, а жидовок тем более. Ведь жиды от них рождаются. Они всю нашу культуру стёрли, под себя переформатировали, мы были свободными, они сделали нас рабами своего жидовского бога. Наше – вот! Она повела рукой. Свобода, и война. Язычество. Нужно брать то, что хочешь, и не думать ни о чем. Быть победителем, быть сверху. Как викинги. Они по всему миру плавали, и все их боялись. Да и вообще, евреи и славяне – ущербные народы. Миром должны управлять воины, арийцы. Такие, как мы. Гордые, смелые, сильные. Ну кого может воспитать такая тронутая жидовка? Только такого же. Слабого и никчемного. Трусливого жидёнка, который постоянно оглядывается на своего придурочного бога. Воина может родить и воспитать только женщина-воин. Женщина должна быть сильной, достойной подругой. И в бой наравне с мужчиной идти, и умереть, если нужно, а не скулить, как тряпка, сидеть дома, и ждать, когда её выебут.

Тор пэўны час глядзеў на яе, потым – на ваду, на возера, пакрытае буйнымі хвалямі, на чарнеючы ў далечыні лес. Затым кіўнуў.

- Да, я с тобой согласен, рыба. Но, понимаешь, мы вот такие, а они – другие. И он – другой. Это сейчас мы с ним в деле, тремся вместе, барыжим. Ты думаешь, он мне друг? Я его уважаю? Да ни хрена. Просто он - делок, у него связи. Крутится там, сям. И с этими, и с теми. Деньги имеет. Да ты на него посмотри на самого. Скорее всего, он и сам жид.

- Да нет, вроде. Яна паціснула плячыма. – Вроде поляк наполовину. Или татарин. Или чечен. Ну не чистый, точно. Ну да, генетический мусор. Вот их друг к другу и потянуло.

— Вот я и говорю – они другие. Я б с такой бы связываться не стал. Хотя, ты знаешь, она совсем даже ничего. В ней что-то есть такое, ведьмовское.

Раптам Тор хітра глянуў на яе.

- Готическое. Она на гота похожа. Из неё бы классная сатанистка получилась. А-ля натюрель. В Норвегии много таких, черных, и так, и крашеных. Норвежцы, кстати, есть брюнеты. Я и сам удивился. И брюнетки. Ну только они все высокие, фактурные. Сильные. Потому что кровь чистая. Не отравленая жидами. И другими.

- Наши дети тоже такими будут, рыба. Настоящими. Господами мира. Сделаем повелителя богов и героев? Как думаешь?

Нечакана ён паваліў яе на плашч-дажджавік, на якім яны сядзелі. Вольга імгненна выкруцілася з-пад яго, і ўзьвілася, як кошка.

- Ведьмовское? Готическое? Прямо скажи – ты её трахнул бы, или нет? Выеб бы её? Как этот Алекс-скот?

- Ты чего, совсем тронулась? Тор павярнуўся да яе, прыўзьняўся на локце.

- А чего тебя это так волнует? Я, вообще-то, тебя хочу.

- Говори, трахнул бы её, или нет? Жидовку эту? Ведьму? Вольгу панесла, яна сама ня ведала, куды. Раптам нейкая агіда, старая крыўда, нешта, што яна не магла ні асэнсаваць, ні вымавіць словам, узьнялася зь яе душы. Менавіта ў гэты момант ёй і сапраўды было істотна – каб ён сказаў праўду. Праўду, якую яна жалезнымі кіпцюрамі жадала вырвать зь яго. Што ён хоча гэту жыдоўку, таксама, як і ўсе яны. Што насамрэч ён – ніякі ні арыец, ні сверхчалавек, уберменшен, а такі ж слабы, брудны і заганны, як і ўсе яны, усе, хто вакол. Ён так жа баіцца, і шкадуе,

і, можа нават і плача, ці плакаў па начах. А ў дзяцінстве ён быў маленькім рыжым хлопчыкам, якога крыўдзілі ў школе, не прымалі ў сябры, толькі раптам ён здолеў раней за ўсіх пасталець, вырасьці, набыць мышачную масу, і знайсьці сабе дарослую кампанію самых агрэсіўных, антысацыяльных, зь якімі разам цяпер нікога не баяўся.

Імгненьне Тор глядзеў на яе зьдзіўленымі, шырока раскрытымі вачыма. А потым вымавіў:

- Да, трахнул бы. А что тут такого? Алекс этот её трахает, и я бы трахнул. И не один раз. А ты мне указывать будешь, с кем спать, на кого смотреть? Захочу, хоть собаку трахну. Тебе какое дело? Ты место своё забыла?

- А какое моё место? – вымавіла Вольга, гледзячы на Тора звузіўшыміся ад ярасьці вачыма.

- Место твоё, баба, снизу. Раптам Тор узьняўся, гледзячы на яе зьверху. Яна таксама ўскочыла.

- Что ты сказал? Повтори! – выкрыкнула яна.

Замест адказу ён размахнуўся, і моцна ўдарыў яе па шчацэ рукой. Яна не ўтрымалася на нагах, і адляцела ад яго, зачапілася аб корань, зваліўшыся на сухую пяшчаную глебу. Ён падыйшоў, і піхнуў яе нагой у грудзі, стаў, нахінуўшыся над ёй, адчуваючы сябе пераможцам. Раптам яна моцна ўдарыла нагой яму ў пах – зьнізу. Ён не чакаў гэтага, ускрыкнуў, і сагнуўся ад болю. Яна ўскочыла, і пабегла. Хутка, быццам бы за ёй гналіся. Дабегла да матацыкла, ўскочыла на яго, ударыла па педалі газу, і панеслася па лясной дарозе.

Калі прыехала дамоў, нікому нічога не сказала, злажыла ў вялікі мех усе свае байкерскія шмоткі, упрыгожваньні, дыскі, кнігі, усё, што зьвязвала яе са старым жыцьцём, зьвязала, і вынесла на памойку. Дастала з кашэлю накопленыя грошы, пайшла ў салон, і пастрыгла валасы, пафарбаваўшы іх у модны руды колер, а потым зайшла ў гандлёвы цэнтр, дзе патраціла рэшту на некалькі дарагіх стылёвых сукенак, касьцюм, касьметыку і парфюму. Праз гадзіну яе ўжо было не пазнаць.

Цяпер з люстэрка на яе пазірала пасьпяховая бізьнес-ледзі, высокая, яркая, у дарагім касьцюме пудравага колеру, пахнучая шанэльлю.

- Скотина. Неудачник. Я тебе пакажу. И правда, с кем связалась. С отщепенцами. Придурками. Ну какое у них будущее? – суцішала яна самое сябе. - Что они могут? Носиться на мотоциклах? Пить пиво? Орать песни Pantera? Что они вообще могут сделать настоящего? Чтобы бороться за свои идеи, за правду? Для того, чтобы продвигать свои идеалы, нужно занять место на вершине общества. Захватить умы, а не быть отщепенцами.

Яна, Вольга, стане менавіта такой. Інфлюэнсерам. Той, хто стварае рэальнасьць, а не падпарадкоўваецца ёй. Улада. Грошы. Усё гэта ў яе будзе. Яна ж не няўдачніца, не шызафрынічка-анарэксічка, падсьцілка, якая лажыцца пад любога мужыка, які яе пажадае. Яна сама будзе выбіраць сабе мужыкоў. Трахаць іх, а не яны – яе. У гэтым сьвеце яна стане галоўнай, кіроўцай, які прапісвае правілы гульні. А гэту, прыдурашную, яна проста сатрэ ў парашок. Хай пачакае, яшчэ прыйдзе яе час. Ніхто ня можа безпакаранна перайсьці ёй дарогу. Яна асьмелілася ўвесьці ў яе хлопца. Лічыць сябе годнай і роўнай ёй, Вользе. Што яна аб сабе думае. Такія павінны ведаць сваё месца. Яна павінна была даўно ўжо здохнуць, згніць у псіхушцы, ці недзе ў бардэле з наркаманамі. Ва ўсякім чыне, яна, Вольга, усё для гэтага зрабіла, каб сьцерці яе з твару зямлі, зьнічтожыць, растаптаць, раздавіць, як гадзіну. Але ж тая нейкім чынам выжыла. Аклемалася, і выпаўзла на сьвет. Хай і з гэтым прыдуркам-барыгай. Самагубца. Яна наогул не павінна існаваць. І такія, як яна. Слабыя. Нікчэмныя. Ім няма месца там, дзе жывуць нармальныя людзі, як яна, Вольга. Досыць. Гульня пачалася, і гульня вялікая. А цяпер яна паставіць сабе мэту: вышэйшая адукацыя. Бо ж улада пачынаецца зьверху, а ня зьнізу, і адукацыя – першая ўмова, каб узьняцца на вяршыню грамадства.

Усё гэта было так нядаўна, і, здаецца, так даўно. Толькі лета прайшло, і верасень. А для яе быццам бы прайшло жыцьцё. Была дзяўчынай-нефармалкай, стала студэнткай факультэта

журналістыкі аднаго са сталічных вузаў. Узьнялася зусім на новы ўзровень. І вось, цяпер тэлефануе яму, Алексу, як быццам бы старая знаёмая. Толькі – дзе ён, а дзе – яна. Пачалося яе першае журналісцкае расьследваньне. Яна шырока ўсьміхнулася пра сябе.

- А, Ольга …. Ну да … помню. А что такое?

Голас на тым канцы провада быў нейкім сухім, штучным, быццам бы чалавек старанна хаваў эмоцыі.

Вольга настаражылася. Нешта ў голасе Алекса было дзіўным. Не такім, як звычайна. І не такім, як яна чакала. “Ён што, чагосьці баіцца?” – падумалася ёй.

- Слушай, у меня тут вопрос, так, мелочи. Просто я думала, может, ты знаешь. Девчонку-однокласницу встретила, хотелось бы пообщаться по важному делу, да она как-то быстро исчезла. Просто она с тобой встречалась, а тут моя подруга говорит, что видела её с каким-то старым мужиком у ресторана. Может, знаешь, где она сейчас? И что за мужик с ней?

- Аааа …., ясно. Раптам у голасе Алекса нібыта прагучэла палёгка. Што таксама здалося Вользе дзіўным. Бо ж калі тваю быўшую сустракаюць зь іньшым мужчынай, ды яшчэ з такім прыкметным, тое павінна выклікаць нейкія іньшыя эмоцыі. Але ж у голасе Алекса прагучэла менавіта палёгка. Гэта яна запомніць. Навошта ёй гэта, яна яшчэ ня ведала, аднак адчувала – пазл зложыцца потым.

Яна працягнула:

- Я извиняюсь, что побеспокоила. Но может быть ты мог бы … Я отблагодарю, - раптам даала яна. Само вырвалася. Наогул, казаць гэтага яна не хацела.

- Не мог. Я не знаю, ни где она, ни с кем. И знать не хочу. Слушай, ты извини, но я, вообще-то сплю. У меня работа ночная. Так у кого поспрашивай.

Нечакана пайшлі гудкі, а потым сігнал зусім прапаў - Алекс

адключыўся.

Некаторы час Вольга стаяла, трымаючы ў руцэ тэлефон, і глядзела на пусты чорны экран. Яна думала.

- Что ж, наверное, просто время ещё не пришло. Но что-что, а ждать она умеет.

# Бернард

Яна сядзела на верандзе за сталом, накрыўшы калені пледам. Збоч патрэскваў электрычны камін – ён купіў, бо яна дужа прасіла. Ёй падабалася бясьпечнае, яркае электрычнае полымя, якое мяккім шоўкам калыхалася над зусім падобнымі на сапраўдныя дровамі. З ноўтбука ціха гучэла музыка – джаз на фоне восеньскіх гукаў, якія ліліся з-за вакон веранды. Шапацелі дрэвы, шумелі вазёрныя хвалі, плёскаліся аб бераг. Перад ёй на экране быў раскрыты тэкст – каментар Бернарда Клервоскага на Песьню песьней Саламона. Яна перакладала яго на беларускую мову, каб потым разьмесьціць у сваім блозе. Блог яна вяла даўно, на розныя тэмы. Проста таму, што ёй падабалася. Гэтая ілюзія працы захапляла яе. Праца не за грошы – мара аб будучым. Калісьці надыдзе залаты час, і людзі будуць працаваць не таму, што іх прымушаюць, а таму, што іх захапляе сам працэс стварэньня нечага новага, свайго, уласнага, прыназначанага для іньшых. Нешта накшталт таго, калі гаспадыня варыць боршч і пячэ піражкі не таму, што патрэбна, а проста так – можа, хто завітае. А не завітае, дык яна сама запросіць. Бо ж у яе і баршчу, і піражкоў, і сэрца хапае, каб накарміць і сяброў, і суседзяў. І цяпер яе сэрца было такім поўным, што яна проста не магла ня выліць залішкі ў сусьвет. Да таго ж, на роднай мове, мове, якая цяпер зусім заняпала, схавалася ў падпольле. І насамрэч, дзіўна – і людзі ёсьць, і мова ёсьць, і гавораць на ёй, і думаюць, і чытаюць. Але ж сакрэтна, інтымна, хаваючыся. Мова пераўтварылася ў андаграўнд. Маркёр-граніцу паміж родным і чужым. Перайшла тую мяжу інтымнасьці, калі загаварыць зь кімсьці на мове – гэта як прызнацца ў каханьні. Пасьля гэтага ўсё дазволена, і ты становішся суцэльна безабаронным, уразьлівым. Колькі разоў так бывала з кожным – прызнаешся ў каханьні, адкрыеш сваё сэрца, гаворыш шчыра, даверліва, і праз нейкі час разумееш, што цябе проста выкарыстоўвалі, ці ветліва рабілі выгляд, што ты камусьці цікавы. Так і з мовай, пачнеш на ёй размаўляць, адкрыеш сваё сэрца – станеш уразьлівым для чужынца, а то і трапіш “на карандаш”: не дабранадзейны, нацыяналіст, ды і наогул – вораг. Чаму ты вырас у горадзе, маеш адукацыю, а

размаўляеш нібыта з глухамані толькі што вылез? Ты что нам этим хочешь сказать? Что мы «мову» не знаем, беседу нормальную с тобой поддержать не можем? Издеваешься? Выпендриваешься?

Але ж яна проста болей не магла. Калі не на мове, то яна лепей будзе маўчаць. І – пісаць. Што заўгодна. Кніжкі, казкі, нарысы, вершы, пераклады і артыкулы – для самой сябе і нямногіх, хто іх, магчыма, прачытае. За мову яна ня возьме грошы. Бо ж душу не прадаюць. І не загаворыць на мове са здраднікам, з чужынцам. Такіх яна добра ведала, адчувала іх смурод, як падлу – на адлегласьці. У вочы табе адно – а па-за вочы – другое. Паціскаюць плячыма. Навошта ёй гэта. Она же современная девочка. І ваабшчэ, у нас так нікагда ні гаварылі. Эта польска-жыдоўская трасянка. Ну як жа – не гаварылі? Размаўлялі! Гутарылі! Маліліся, любіліся, жартавалі, пелі, ругаліся, праклінали, бласлаўлялі, нараджалі і паміралі з мовай, на мове. А інакш – адкуль усё гэта ўзялося? Штучна створаны эсперанта? Ні адна штучная мова так і не стала жывой, не прыжылася. Только тое, што створана Богам, народжанае жывым ад жывога – тое жыве. Вось і беларуская мова – жыла, жыве і будзе жыць. А для яе адмовіцца ад мовы – гэта як адмовіцца ад маці. Толькі на ёй сапраўднымі загучэлі для яе словы каханьня.

- Каханая! – калі ён вымаўляў гэта, яе сэрца падала. Так казаць мог толькі ён, і болей ніхто. Ніхто, акрамя яго ня меў права казаць ёй гэта. Гэта было для яе блюзьнерствам. Пастуова мова стала для яе сьвятой. І на ёй можна было размаўляць толькі зь ім – толькі з Богам.

- Каханы …., - ціха вымавіла яна пра сябе. – Любоў мая, прыцягні мяне да сябе, і ніколі мяне не адпускай. Бо стамілася душа мая, прагнучы цябе, і болей нічога ў сьвеце мне не радасна. Прабач мне маю немач, маю слабасьць, маё каханьне малое і чалавечае. Прытулі мяне да сваіх грудзей, ахіні каханьнем сваім, вялікім, як сусьвет, велічным, як царства нябёснае, мяне, малую і сьціплую, як птушаня. Хай каханьне тваё запаліць вагнём маё сэрца! Хачу згарэць у ім, любы мой, каб узьняцца да цябе, туды, дзе толькі ты, і сьвятло.

Яе рукі звыкла набіралі тэкст на маніторы. На хвіліну яна спынілася і задумалася. Вакол яе паўстала цішыня, толькі шум каміну, ды шапаценьне ападаючай лістоты за празрыстымі сьцянамі. Ды шум хваляў у далечыні.

Раптам за верандай раздаліся знаёмыя цяжкія крокі. Ён узьняўся па ступеньках і падышоў да яе. Ад яго пахла вагнём, дымам і гарачым металам, рукі былі чорныя, хоць ён іх і старанна памыў у кадцы. Ён нахінуўся над ёй, пацалаваў у шчаку, глянуў праз плячо.

- Што ты, мая прыгажуня, такое робіш? Пішаш?

- Пішу. Перакладаю Бернарда. Яна павярнулася да яго, падставіла вусны. Яго губы кранулі яе губы, барада дакранулася да шчакі, паказытала шыю.

- Ну і малайчына, - пахваліў ён яе. – А я вось цэлы шлем зрабіў. Тампліеру. Добры атрымаўся, хоць куды. Ня сорамна і ў людзі выйсьці. Яна ўсьміхнулася:

- Фёдар выйдзе. Ты ж па яго мерцы зрабіў.

- Ну і хай выйдзе, парадуецца і людзей парадуе. Ён шырока ўсьміхнуўся. Яго рукі ахапілі яе, асьцярожна, стараючыся не кранаць далонямі.

- Гразны я, - паскардзіўся ён. – Прабач. Ніяк рукі не адмыць.

- Нічога страшнага. Яна нахінулася, і кранула вуснамі яго руку, накрыла яе сваёй. Захавала дакумент, адправіла ноўтбук у сон, і ўстала, павярнуўшыся да яго.

- Ну што, адчуваеш сябе жонкай? – ціха вымавіў ён. Яна прыціснулася да яго грудзей.

- Адчуваю, каханы. Я цяпер уся твая, а ты – увесь мой, памятай.

Ён пацалаваў яе.

– Ты заўсёды была мая, сонейка. Проста ты аб гэтым ня ведала. А я заўсёды быў твой, і з табою.

Яго вусны мякка кранулі яе шыю.

- Пашлі, адпачнем, - нягромка вымавіў ён, абдымаючы яе.

Яго рукі на яе целе, цёмные ад металу і полымя, яго вусны, прагна ўбіраючыя яе скуру, патрабуючыя кожнага яе кавалачка, яго жарсьць, гарачая, як той расплаўлены метал, які ён толькі што біў молатам, яго цяжкое цела, і пацалункі, такія лёгкія, што не зварухнулі б і пыльцу на крыле матылька, і такія палкія, што здолелі б спаліць сусьвет. Яна выгіналася ў яго руках, прыціскалася да яго, бессаромна, жарка, абдымаючы яго, упускаючы яго ў сябе, жадаючы, каб ён браў яе бясконца, браў яе ўсю, так, як зараз, уваходзячы ў яе зноў і зноў, глыбока, раскрываючы яе сваім чэлесам, працінаючы, падпарадкоўваючы сабе, і ў той жа час скараючыся ёй, апускаючыся, як леў перад ягняцей. Ён сьцягнуў зь яе адзеньне і кахаў яе хутка, груба, ня стрымліваючыся, ахоплены жарсьцю і жаданьнем, прыціскаючы да сябе яе аголенае цела, абдымаючы яе крэпка, як быццам бы нехта ці нешта маглі вырваць яе ў яго з рук. Яна ўскрыквала ад яго рухаў, ад хваляў асалоды, якія ўліваліся ў яе зь яго.

Потым яны ляжалі разам, і яна гладзіла яго твар, нахінуўшыся над ім, цалуючы. Раптам яго тэлефон ля ложку зазваніў. Ён павярнуўся адказаць, і ссунуў бровы. Нумар быў незнаёмы. Потым падумаў, што, можа, нейкі заказчык перадаў камусьці яго візітку, і прыняў вызаў.

- Міхась, гэта я, Алекс. Выбачай, што званю, можа, ня ў час. Алег мне даў твой нумар. Але ж справа тэрміновая.

- Алекс? – зьдзіўлена вымавіў ён. Яна ўзьнялася на локце.

- Так. Я б цябе не турбаваў, але ж тваёй жанчынай нехта цікаваўся. І гэты нехта мне не падабаўся, бо яна ёй дабра не жадае.

Ён націснуў на громкую сувязь, і прылажыў палец да вуснаў.

- Яна тут, і гатова цябе слухаць. Гавары.

- Добра, хай слухае. Вольга яе шукала.

Пры гэтых словах Летыцыя шырока раскрыла вочы.

- Вольга? Якая Вольга? – запытаў ён.

- Доўгая гісторыя. Яна сама табе раскажа. Ты толькі яе папярэдзь, і сам мей на ўвазе. Гэта дзяўчына дужа … стрёмная, як кажуць. І наогул, гэта доўгая размова.

- Дык размаўляй, у нас час ёсьць, - вымавіў ён. – А мы паслухаем разам. І потым вырашым, ці сапраўды ёсьць нейкая небясьпека.

- Па тэлефону не магу, - раптам вымавіў Алекс. – Але ж магу прыехаць. Калі ў цябе ёсьць час.

- Прыязджай. Ён пацiснуў плячыма. Летыцыя кіўнула галавой. – Хочаш, сёньня. Я вечарам не працую. Пасядзім разам, і ўсё раскажаш.

- Добра. Праз пару гадзінаў буду. Алекс хутка адключыўся.

Яны пераглянуліся.

- Дзіва нейкае, - вымавіў ён. – Але ж усякае здараецца. Хай прыедзе. Ты ня супраць, любая?

- Я … я ня ведаю, - прашаптала яна.

- А хто такая Вольга? – запытаў ён яе. – Як яна можа табе пагражаць? Вы ж былі зусім дзецьмі. Вы і зараз дзеці. Сонейка, што з табой? – раптам вымавіў ён, і ахапіў яе рукамі. Яе твар быў зусім белым, быццам бы яна была гатова страціць прытомнасьць.

- Яна можа, - ціха вымавіла яна. – Яна хацела забіць мяне. Таблетак мне ў сок насыпала, а потым сказала, што гэта я сама зрабіла, і мяне як самагубцу ў бальніцу палажылі. Бацькі мяне доўга забраць не маглі. Потым я ў другую школу перавялася, і на гэтым гісторыя сконьчылася. І цяпер ёй ізноў нешта патрэбна.

Ён ахапіў яе рукамі, прыціснуўшы да грудзей, як малое дзіця.

Яна громка плакала наўзрыд.

- Ну, нічога. Ня бойся. Алекс пэўна нешта іньшае хоча. Можа, гэта повад цябе пабачыць такі нягеглы. Ня плач. Хочаш, я скажу яму, каб ня ехаў?

Ён набраў нумар ізноў. Спачатку пачуліся гудкі, а потым – словы:

- Абанент па-за зонай доступа.

- І праўда паехаў, - зьдзівіўся ён. – Ну, нічога. Сонейка, ня плач. Усё будзе добра, я ж с табою. Нічога ня трэба баяцца, каханая. Ён гладзіў яе плечы, і раптам яго накрыла быццам бы ледзяная хваля – нянавісьці і адчаю.

- Гэта ізноў пачынаецца, - раптам падумалася яму. Некалі ён ня мог уратаваць яе. Але ж цяпер усё будзе па-іньшаму. Болей ён не дазволіць гуляць ні зь ім, ні зь ёю, ня будзе марыянеткай у чужых злых руках.

- Хай прыедзе, сонейка. Хай усё распавесьць. Ды і праветрыцца хлопец, пракаціцца. Ён жа не благі, ты ж ведаеш. Ён прытуліў яе да грудзей, гладзіў па сьпіне, валасах.

- Пайду, чаю зраблю, - нарэшце вымавіў ён. – Паклапачуся аб табе.

- Я з табой пайду, - вымала яна, і сьціснула яго руку. Разам яны прайшлі на веранду, ён уключыў плітку, паставіў вялікі чайнік. Дастаў жбанок с адмысловым чаем – кенійскім. Сеў зь ё побач.

- Ніколі нічога ня бойся, любая. Я заўсёды буду з табой. Ты проста вер мне, - вымавіў ён. Яна кіўнула. Чайнік закіпеў, ён спаласнуў заварнік кіпятком, насыпаў чаю, заліў, паставіў на стол. Дастаў з халадзільніку накрыты шклом пірог – прывезьлі з горада, нейкі дарагі, адмысловы, у сліўках і фруктах. Наліў ёй і сабе кубак. Яна паднесла яго да вуснаў, удыхнула пах. Горкі водар чая зьмешваўся з водарам прэлага лісьця.

- Ты ж абяцаў, што восень ня сконьчыцца! – раптам хітра вымавіла яна. – А лісьце ўжо ўсё апала.

- А яна і ня сконьчыцца, - уьсміхнуўся ён. – Пакуль ты не пажадаеш, любая.

Узяў талерку, і адрэзаў ёй кавалачак пірага. Палажыў і сабе. Прыгубіў чай.

- Добры які! Духмяны! – сам зьдзівіўся.

Яна ўсьміхнулася. – Ты сапраўдны гаспадар! Усё умееш рабіць. І нават чай.

- Умею, сонейка, шмат чаго. А для цябе я наогул на ўсё гатовы. І чай табе падаваць, і каву, і нават у пасьцель. Ён узяў яе руку, мазнуў сліўкамі, і крануў вуснамі. Яна засьмяялася.

- Хачу параўнаць, мне вось здаецца, што ты больш салодкая. Яго губы сабралі рэшткі крему зь яе скуры.

Так яны бавілі час, пакуль на двары не пачулася гудзеньне рухавіка. Машына зь лесу паварочвала на двор.

Праз хвіліну Алекс стаяў перад імі на парозе.

# Лот

- Ён - айцец твой. Родны. Ён сам мне сказаў. Я толькі што сустрэў яго ў гэтым замку, у зале зь вялікім агменем. Ён быў там разам з маці. Яны жывыя! Разумееш, жывыя! І - маладыя! І Ваіслаў там быў, але ж людзі казалі, што ён памёр. Быў забіты ў лесе па дарозе на Полацк. Гэта ўсё была няпраўда, а праўда - яна тут, у замку. Толькі тут усё жыцьцё - сапраўднае. Вакол жа нас - пустэча...

Я так кахаю цябе, - працягваў ён, прынікаючы тварам да яе грудзей, ... так моцна цябе кахаю... Ты мая сястра, я заўсёды ведаў. Мая родная кроў. Я кахаю цябе так, як самога сябе. Болей, чым сябе. Ня ведаю, ці ёсьць мяжа такому каханьню. Я і сам яго баюся. І сябе баюся самога. Бо ж тое, што мы робім, блюзьнерства. Страшны грэх перад Богам.

Яна пагладзіла яго зблытаныя валасы, прыціснулася вуснамі да гарачых вуснаў - сухіх, патрэскаўшыхся. Ён гарэў і трызьніў. Яго моцнае цела палала, быццам бы ў агні. Але што распаліла гэты вагонь, жарсьць, ці нешта іншае, яна ня ведала.

- Перад Богам у нас няма граху, - нарэшце вымавіла яна. - Бо ўсё - у яго волі. Калі Ной быў са сваімі дачкамі, у гэтым граху не было. Інакш як людзі бы насялілі зямлю пасьля патопу?

- Лот, каханая. Гэта быў Лот, і ён саграшыў, хоць і быў праведным, - вымавіў ён, лашчачы яе.

- Я заўсёды ведала, што ён мой айцец, - ціха вымавіла яна. - Адчувала гэта, калі сядзела ў яго на каленях. Яго кроў - гэта мая кроў, і наша з табой кроў - адзіная. Ты стаў так падобны на яго, - працягнула яна. - Адныя і тыя ж вочы, рукі, плечы, валасы. Вусны. Я памятаю, як ён цалаваў мяне. Якімі яны былі мяккімі, ласкавымі. - Пацалуй мяне так, як ён, - раптам папрасіла яна. - Як цалуе Бог, каханы. Ён са стогнам нахінуўся над ёй, і прыпаў да яе вуснаў. Яе цела было стройным целам маладой дзяўчыны, з вузкімі плячамі, высокімі грудзямі з пругкімі ягадамі саскоў, з тонкай таліяй і празрыстай скурай.

Ён жа стаў шыракаплечым, моцным, высокім мужчынай, са страшной сілай у руках, з палымянымі вачыма пад чорнымі бровамі, сьветлая яго скура пацямнела, апаленая сонцам. Толькі колер вачэй адрозьніваў яго ад бацькі, але ж сяляне ў вочы не глядзелі, жагналіся, і падалі на калені.

- Пан, пан вярнуўся! - ляцелі чуткі вакол.

Тое, што ён ведаў, рабіла яго жарсьць яшчэ больш вар'яцкай, забароннай, бо ж яна не належыла гэтаму сьвету. І яшчэ, ён не казаў ёй, але ж ён адчуваў у сабе яго. Айца. Бога. Нешта, што нельга было растлумачыць. Ён болей ня быў сабою. Ён быў большым, іньшым. Быццам бы вырасла ня толькі яго цела, але ж і яго душа. Яе грудзі перад яго тварам уздрыгвалі. Пышныя, пругкія грудзі Мадонны, поўныя малака. Яны памяшчаліся яму ў руку, напаўнялі далонь прыемным цяжарам. У дзяцінстве яе грудзі былі маленькія, ледзь бачныя, але ж і тады ён любіў цалаваць іх. Жыцьцё б аддаў за гэтыя пацалункі. Калі ён упершыню крануў вуснамі яе саскі, і яны зацьвярдзелі пад яго губамі, а праз скуру пад імі ён адчуваў яе рэбры, ён думаў, што заб'е яе сваёй жарсьцю. Цяпер жа яе грудзі нагадвалі грудзі яго маці. Грудзі Марыі, гатовыя аддаваць. Ён убіраў іх вуснамі, доўга, лашчачы яе саскі. Здавалася, ён хацеў выпіць яе ўсю. Раптам яму здалося, што ён - яго айцец, Лот, які пакрывае юнае цела сваёй дачкі пацалункамі, таму што так трэба, і так загадаў Бог. - Увайдзі да мяне ў шацёр, - прашаптаў ён. - Распраніся, і распрані мяне. Пакажі мне сваю прыгажосьць. Дай мне свае грудзі і сваё духмянае ўлоньне, каб мог я зь іх піць віно жыцьця вуснамі Айца майго. Я - айцец твой і Бог твой, і бяру цябе ўладай сваёй і воляй, каб ты нарадзіла ад мяне, і напоўніла зямлю. Асалода тваго цела ня мае межы, як ня маюць межы зямля і нябёсы, народжаныя Богам.

Яе пругкі сасок быў ля яго вуснах, і ён адчуваў сябе лёжачым у шатры, аголеным, аддаўшымся жарсці, якая была ўгодна Богу, адчуваючы як жаданьне напаўняе яе цела. Яна адначасова была і яго маці, і дачкой, і жонкай. Усё яе цела было сьвятым, і яно было сусьвет.

Нарэшце, ён увайшоў у яе, перапоўніўшыся сваім каханьнем.

- Айцец, - прастагнала яна. - Я так кахаю цябе. Яго віно пралілася ў яе ўлоньне, запоўніўшы яе жыцьцем.

# Мінулае

Цёмны двор – сьветлая пляма паміж хвояў. На траве - адбітак вяранды: сьвятло вакон на чорным дыване ночы. Ён ехаў па лясной дарозе марудна, поўз, намацваючы дарогу фарамі, як далонямі, недзе ныраў у каляіны - усё размыла ўшчэнт. Баяўся зусім стаць пасярод глухога лесу, але ж пранесла – праехаў. Выбраўся на сухое высокае месца, і машына пабегла шпарка, а дарога стала нечакана шырокай і добрай, не такой хліпкай і няпэўнай, як у багністай нізіне. Яшчэ некалькі месяцаў таму яны прыехалі зь ёй сюды разам, выйшлі з электрычкі на кароткім прыпынку, і пайшлі нетаропка ў лес, за якім стаяла група старых хацінаў – закінутая вёсачка-лецішчы. У адной зь іх, яго бабчынай, яны спыніліся ненадоўга. Ён раптам успомніў смак яе скуры, водар яе валасоў. Яе тонкае, мяккае цела, якое звыкла аддавалася яму. У апошні, як высьвятлілася, раз. Потым, праўда, быў яшчэ адзін раз, таксама апошні, ды ён яго не лічыў. Ці ж можна лічыць за размову крык у закрытае вакно? За вітаньне – стук у замкнутыя дзьверы? Чорную ноч душы – за цемру перад золкам? Грэх – ступенькай да прабачэньня?

Тое, што яна яго кінула, ён разумеў. Шчыра кажучы, ён і сам бы сябе ахвотна кінуў. Толькі, на жаль, гэта было немагчыма. Ад сябе не схваешся, ня з’едзеш на электрычке. І нават - на самай новай і хуткай машыне. Ён ня верыў, што яна зможа сыйсьці, лічыў яе сваёй, належачай яму па нейкаму няпісанаму праву, па якому жанчына пачынае належыць мужчыне, якому аддала сваё цела. Ды вось, апынулася, што акрамя цела ў яе была яшчэ і душа, якую ён, здаецца, не разбачыў. Плоцьцю валодаў, а душу ўпусьціў, і яна сышла, і цела забрала з сабою. Апынулася, што цела яе падпарадкоўвалася не яму, а яе душы, якой ён зусім ня ведаў. Яе душа была яго ўласным ворагам. Незнаёмая, непрадказальная. Можа, калі б яны пазнаёміліся, ён і яе душа, паразмаўлялі, і дамовіліся між сабою, то і цела б дагэтуль заставалася ў яго руках?

Хутка ён зразумеў, што яна была значна большым, чым цела. Як і тое, што было паміж імі, было значна большым, чым фізічнае

каханьне. У першыню ён убачыў і адчуў пустэчу. Але ж гэта толькі зьнік яе ноўтбук, які заўсёды стаяў на стале перад сьцяною, за якой на кухне яны разам сьнедалі і вячэралі, дзе яна завіхалася ў кароткім атласным халаціку. І дзе яе яркі кубак вылучаўся балючай плямай на белым стале, пустым, як яго душа. Яна ўбралася перад тым, як сыйсьці. Чыста ўсё вымыла, і стол, і посуд, і падлогу. Расправіла шторы, паправіла коўдру на канапе. Працёрла пыл. Яе рэчы так і стаялі нераспакаванымі з самага пераезду, і яна проста забрала валізку.

Пераехала ў хату, якую зьнялі яе бацькі, як хутка ён высьвятліў, маленькую, у старым шматпавярховым доме. Ён жа застаўся адзін у вялікім пакоі-студыі, які зьняў для іх, каб яны жылі ў ім разам. Нічога ёй, як апынулася, было ня трэба. Яна ад яго не хавалася, адказвала на званкі, і нават адкрыла дзьверы. Адзін раз. А потым яна зьнікла. Праз некалькі часу ён даведаўся, што яна зьехала да таго, іньшага. Гэта было для яго, як гром пасярод яснага неба. Яна кінула горад, адмовілася ад вучобы ў сталіцы, ад клюбаў і мерапрыемстваў, ад сяброў і знаёмых, каб пераехаць у глухамань, у лес, да чалавека, які ёй у бацькі гадзіўся, прысьвяціць сваё жыцьцё яму, і так проста гаварыць аб гэтым, быццам бы нічога шакуючага, незразумелага ў яе ўчынке не было.

- Я цяпер разам з Богам, - спакойна вымавіла яна яму неяк у тэлефоннай размове. – Я жыву дзеля яго, зь ім, і ў ім. І болей мне нічога ня трэба. Маё сэрца чыстае, і душа спакойная. І я яго кахаю так, як нікога і ніколі не кахала ў жыцьці. І ведаю, што таксама ён кахае мяне. Маё жыцьцё нарэшце прыйшло туды, дзе яно стала бясконцым. Тое, што магчыма мець толькі на нябёсах, я атрымала тут, на зямлі. Гэта – каханьне, вялікае, як сусьвет. Гэта так проста, і ў той жа час гэта – найвялікшае дзіва. Я жадаю табе такога жа каханьня, Алекс. Каб ты таксама меў яго ў сваім жыцьці. З гэтымі словамі яна павесіла трубку, і болей яны не размаўлялі. А цяпер ён едзе да яе. І да яго – таго, іньшага. Ды боль ужо ўлеглася. Ён даўно ўжо не лічыў яго ворагам. Ды і, сапраўды, ён не лічыў яго ворагам з самага пачатку. Проста чалавек, мужчына, сталы, павідаўшы жыцьцё, бачна, што не салодкае. Можа, і цяжэй, чым у яго, Алекса. Тое

было бачна па яго вачах, па яго рухах, цяжкіх, важкіх, быццам бы гара варушылася ад землятрусу, калі па ёй каціліся вялікія валуны. Па яго руках, якія спакойна ляжалі на стале, звыкла, не пасунуўшы філіжанкі, не змахнуўшы ніякай дробязі накшталт лыжкі ці тонкай палачкі для цукру, але ж выглядалі молатам-забойцай, з моцнымі, крэпкімі пальцамі і далонямі, цягламі, якія вылучаліся з-пад кашулі, якая шчыльна аблягала шырокія плечы.

- Я – каваль. Я кую мячы, - пачуў ён яго нягромкі, нізкі голас. – Кую для таго, хто папросіць. Хто замовіць. Калі-некалі прыходзіцца імі і памахаць. У свой час працаваў кансультантам на кінастудыі, ставіў сцэны сярэднявечнага бою, ды і хлопцы прасілі навучыць, як спраўляцца са зброяй. Для рэканструкцый у асноўным, для вялікіх батальных сцэнаў, дуэлей, турніраў. Ня шмат хто ведае, як яно рабілася тады. У старыя часы, па-сапраўднаму. Я ж, так адбылося, што ведаю. Не запытвай толькі, адкуль. Доўгая гісторыя не на адзін вечар. Ён усьміхнуўся.

- Хочаш паспрабаваць?

- Можна было б. Алекс кіўнуў.

- Ну дык заставайся на ноч. А раніцой пакажу табе кузьню, і мячы, якія зрабіў. Разам іх і апрабуем.

- Дзякуй, калі можна, я застануся. І сапраўды ехаць назад па ночы яму не хацелася. Ды і стаміўся ён, шчыра кажучы. Ноч амаль ня спаў, дзень паспаць не атрымалася, толькі раніцой некалькі гадзінаў праваляўся ў дурным сьне. Гэтая яшчэ пазваніла, узьняла нервы.

Летыцыя спачувальна глядзела на яго. Шукалі яе, і пагражалі ёй, а яна яму спачувае. Залатая душа. І сапраўды, сьвятая.

Яе чорныя бліскучыя валасы патокам цяклі па белых плячах, ледзь прыкрытых белым пушыстым кардыганам-халатам. На нагах – такія ж пухнатыя вялікія дамашнія туфлі-зайцы, з ружовымі вачыма і вушамі, праміж якіх выглядалі стройныя доўгія ногі. На скуры, гладкай, як шоўк, паблісквалі залацінкі,

як і на вузкіх кісьцях з доўгімі пальцамі. Шчокі былі ружовымі, як і вусны, скура – чыстай і зьзяючай. Не дзяўчына – малюнак. Яна заўсёды прыбіралася, нават і дома. Ніколі ён ня бачыў яе неахайнай, раскудлачанай. Тут жа яна, было бачна, прыбралася, каб лажыцца спаць, і дзеля яго не апранулася. Мо, і мужчынай яго ўжо не лічыла? Сядзіць у пушыстым халаціку і зайцах, і глядзіць на яго вачыма Мадонны. Чамусьці яму захацелася заплакаць, і паскардзіцца ёй – каб яна яго пашкадавала. Безь яе ў яго было ўсё дрэнна.

- Я ж дзеля цябе прыехаў, - хацелася выкрыкнуць яму.

Але ж тое было не магчыма. Нічога было не магчыма. Яна шчасьлівая тут, разам зь ім, з гэтым кавалём, раптам зразумеў ён. Выкрасьці, вырваць яе адсюль было б як птушаня забраць з гнязда. Без яго яна проста памрэ. Ціха завяне, і сыйдзе туды, куды сыходзяць лугавыя кветкі восеньню – у будучую вясну. І таму ён тут – каб абараніць яе. Усё ж, ён яе кахае, а тое, зь кім яна разам, зь ім, ці зь іньшым, яму было не істотна. Ды і дзяўчыны ў яго былі, паскардзіцца на адсутнасьць жаночай увагі ён ня мог. Так што ўсё неяк усталявалася. Яна кахае гэтага, ён кахае яе, і ўсё зразумела і добра. Галоўнае, што ўсе жывыя і здаровыя.

- Дзяўчына гэтая, Вольга, - вымавіў ён. – Што званіла, цікавілася.

Міхась кіўнуў. Яна глядзела на яго неадрыўна вялікімі вачыма, якія сталі раптам чорныя, як вазёры.

- Яна ня просты чалавек, зусім. Перш за ўсё, яна з такімі таварышамі знаёмая, што нават я б іх паасьцярогся. Зусім адмарожаныя. Нацысты. Скончаныя дэбілы. Там нешта накшталт секты – неапаганскай, ды яшчэ ў аснове ідэялёгія сьверхчалавека, белая раса, усё такое. І дрэнна тое, што ў іх ёсьць дужа моцныя апякуны, якія маюць уладу і ўплыў. Не запытвайце мяне, хто і што. Я і сам ня ведаю. Ведаю толькі, што рукі ў іх усюды, і грошаў таксама хапае. І яна на іх працуе, і рэгулярна сустракаецца. Быццам бы праз старых сяброў у байкерскам клюбе, аднак насамрэч там зусім ня клюб, і не пра байкі. Там усё дужа сур’ёзна. Я б сказаў, што яны маюць уплыў.

Можа, яно гучыць і сьмешна, ці як дурны сон, ці таннае кіно, аднак яны і сапраўды маюць сваёй мэтай зьнішчэньне хрысьціянства як шкоднай габрэйскай веры і распаўсюджаньне неа-паганства, праз якое яны будуць кіраваць вумамі дурняў, якім будуць уліваць у вушы розныя вар'яцкія ідэі, накшталт Гіпербарэі, славяна-арыйскіх ведаў, вялікай расы, якая праз жыдоў заняпала, і цяпер павінна сабрацца, узьняць галаву, і сьпінуць зь сябе хрысьціянскае ярмо, ну і ўсё такое, чым бязглуздзей, тым лепей. Ну як ты павядзеш за сабой дурняў, калі не праз прыданьне ім зьверхкаштоўнай годнасьці, калі ўсе іх недахопы насамрэч гэта вартасьці, а ў бедах вінаваты не яны самі, а зьнешні вораг. Вось калі і вораг ёсьць, і ідэя, узьнімаючая ўласнае эга да нябёсаў, распрацаваная, і ўлітая ў вушы, тады з такім натоўпам баранаў можна рабіць, што хочаш. Хочаш – пастрыгчы, хочаш – на бойку адправіць. Ці на бойню. Гэта ўжо як каму.

Міхась нахіліў галаву. Яго твар у сьвятле лямпачкі пад паталком набыў рэзкія рысы, вострыя, быццам бы высячаныя лязом. Чорныя валасы блішчэлі, і ў іх амаль не было срэбра. Твар малады, чысты, вумныя вострыя вочы, бровы ссунутыя, вусны, прыгожыя, дакладныя, пад чорнымі вусамі, барада крыху адрасла, але ж выгляд стылёвы, хоць і крыху варварскі.

- Ведалі мы такіх, - нарэшце вымавіў ён. – Ды яны дрэнна скончваюць, звычайна. Ня доўга гэтым птушкам лётаць, хутка іх крыльле падрэжуць, а потым і падстрэльваць пачнуць. І па-асобку, і стаямі. Аднак тое, што гэтая дзяўчына зь імі знаецца, тое дрэнна. Бо, шчыра кажучы, у свой час я з такімі не пасябраваў. І ворагі там у мяне ёсьць – пакуль затаіліся, заціхлі. Я іх не чапаю, яны – мяне. Але ж кожны з нас ведае, хто ёсьць хто.

А што, дзяўчына гэтая, яна на тэлебачыньні працуе? – раптам запытаў ён.

- Ну да, працуе. Як паступіла, адразу ўладкавалася. Стажоркай. Яна зусім ня простая. І ў шчырасьць яе арыйскіх ідэй я таксама ня веру. Яна будзе там, дзе смажаным пахне, і ўсюды будзе мець сваю ўласную выгаду. Такая была заўсёды, колькі я яе ведаў. Агідная баба. Для мяне ня баба, а мужык. Толькі такі

паганы, што б забіў, калі б і сапраўды была мужыком. І таму тое, што яна ей – ён кіўнуў на Летыцыю – цікавіцца, мне не спадабалася. Да таго ж, яна сустракалася з адным хлопцам, якога мне прыйшлося дужа добра павучыць. Можна сказаць, што я яго забіў, - раптам вымавіў ён.

- Ды казаць аб гэтым я не хачу. І яна не захоча аб гэтым чуць. Толькі я мушу прызнацца. Я яго падстрэліў. Ды ня ведаю, падох, ці не. Магчымасьці не было праверыць. Па мне, пасьля такога не выжываюць, аднак нехта казаў, што яго адкачалі. Выцягнулі з таго сьвету. Ён потым зусім з краіны зьехаў. Тое і добра, калі так. Усё ж, быць забойцай не пажадаеш нікому. Але ж я гэта зрабіў, з-за цябе, - зьвярнуўся ён да Летыцыі. І ўсё ж, шкадую, што блага. Ты мяне прабач, што ён выкараскаўся. Раптам Алекс апусьціў галаву на рукі. Яго плечы ўздрыгвалі. Міхась устаў, абышоў стол, і палажыў руку яму на плячо.

- Ня плач, хлопец. Забіваць заўсёды цяжка. І ў першы раз, і ў апошні, - вымавіў ён.

Павер мне. Ніводнае забойства не сыходзіць з нашай душы без таго, каб не вырваць зь яе кавалак.

Ранейшым ты ўжо ніколі ня будзеш, хоць ён і застаўся жывы. Але ж тут ня зробіш нічога. Бо ж ты зрабіў гэта з-за яе. Праз жанчыну, якую пакрыўдзілі. Калі б ты аставіў гэта так, як бы ты з гэтым жыў?

Алекс накрыў яго руку сваёй.

- Можа, ты і правы, - глуха вымавіў ён. – Ты насамрэч правы. Міхась. Правы, як заўсёды.

- А таму я адпускаю табе гэты грэх, - працягнуў Міхась. – Хай ён болей не абцяжарвае тваю душу. Да таго ж, калісьці даўно, калі я цябе ведаў, пра што ты цяпер ня памятаеш, ты ўжо адкупіў гэты свой грэх, як і іньшыя, перад Богам. Ты зь ім размаўляў лічна, і нават крыж яму несьці дапамагаў. Так што там, у будучым, якое з’яўляецца і мінулым, і адначасова – сучасным, і адвечнасьцю, ты адкуплены перад Панам Богам з усімі сваімі грахамі. Дарэчы, у будучым цябе чакае дзяўчына. Добрая.

Глядзі, не ўпусьці яе.

Алекс здзіўлена ўзьняў на яго галаву.

- Ты што, бачыш будучае, зьдзіўлена вымавіў ён. – Як гэта магчыма?

- Я яго ведаю, - проста вымавіў Міхась. – А ня бачу. Бачу ж я зараз цябе, і бачу, што ты хочаш спаць. Як і яна, і я. Дзень быў доўгі, і мы ўсе стаміліся. Там, наверсе, у мансардзе, гатовы пакой. Я яго трымаю для гасьцей, і вось, як раз – выпадак. Так што ўзьнімешся па лесьвіцы, і там адразу будзе і канапа, і тэлевізар, калі хочаш. І кофе-машына ёсьць. Прыбіральня ўнізе, направа ад вяранды. Ён махнуў убок. Алекс устаў, і паціснуў яму руку. Летыцыя таксама ўстала.

Яна ўключыла ў калідоры сьвятло, і Алекс узьняўся ўверх па лесьвіцы.

Яны засталіся адны на верандзе-кухне. Міхась стаў ля адкрытага вакна, дастаў цыгарэту, запальнічку. Яна стала складваць посуд у ракавіну на стале.

- Потым прыбярэш, сонейка. Што ты на ноч гледзячы ўсё прыбіраеш? Ён крануў яе за плячо.

- Нічога, каханы. Я памыю. Не магу спаць, калі ня прыбрана, - вымавіла яна.

- Ну, памый. А я пастаю з табой. Ён зацягнуўся, дым паляцеў зьмейкай, схаваўся ў начным паветры за вакном.

- Нешта мне ня дужа гэта ўсё падабаецца, - нарэшце вымавіў ён. – Даведаюся я ў некага, каго ведаю. Што гэта за такі інтарэс. Кіўнуў, быццам бы разважаючы сам з сабой.

- Калі так усё па-дурному, то яно і непрадказальна, і сьмешна, і страшна, і сапраўды небясьпечна. Бо ж накірунак рухаў дурня ты ніколі ня ўявіш. Для таго трэба самому страціць розум. Дурань можа кінуцца ў любым напрамку, як шалёны пёс. Аднак не такога зьвяра вывіжоўваў. Ён усьміхнуўся, і зацягнуўся ізноў. І усякі раз ён трапляў у пастку, ці на нож. Пабачым. Папалюем.

Ён зацягнуўся, затушыў акурак.

- Пайшлі спаць, сонейка. Яго рукі ахапілі яе, прыціснулі.

- Якая ты пушыстая, як цыплёначак, - вымавіў ён. – І такая ж маленькая. Раздавіць цябе баюся. Раптам падхапіў яе на рукі, і панёс на ложак. Хутка ўсе гукі, шэпаты і стогны праглынуў начны шапочачы лес. Наступіла глухая поўнач.

# Сафія

Яна сядзела ў яго на руках, як і раней, прытуліўшыся да яго грудзей.

Алекс колькісь часу назад зьехаў, агледзеўшы кузьню і добра памахаўшыся зь Міхасём мячамі. Ён і сам зьдзівіўся таму, як добра валодаў зброей, ды Міхась толькі ўсьміхнуўся, і нічога яму не сказаў.

І цяпер яны засталіся сам-насам, адно з адным, і з усім, што яны даведаліся.

- Чаму яны так ненавідзяць мяне? Усе яны? - ціха запытала яна яго, абдымаючы за шыю.

З самага дзяцінства. Гэта Вольга, здаецца, нарадзілася маім ворагам. Але ж спачатку яна проста кпіла і зьдзеквалася за маёй сьпіной. А потым, калі з'явіўся Серж, яе пагрозы пераўтварыліся ў нешта большае. Калі ён адмовіўся ад яе, яна вырашыла, што гэта я ва ўсім вінаватая. Спачатку яны зь дзяўчынкамі хацелі злавіць і пабіць мяне, пагражалі, што распрануць мяне перад усімі, што папросяць, каб мяне згвалцілі. Сержу я нічога не казала, і нікому не казала, нават бацькам. Але ж я была асьцярожнай, альбо яны баяліся, і зрабіць прылюднае пакараньне не маглі. Аднак Вольга вырашыла зрабіць іньшае, нешта больш жорсткае і дзейснае. Яна ўсыпала мне ў сок атруту. Снатворныя таблеткі. На шчасьце, іх хапіла, толькі каб я страціла прытомнасьць. У бальніцы мяне пратрымалі больш за тыдзень, усё дапрошвалі. Не хачу аб гэтым успамінаць. Яна уткнулася ў яго плячо. Ён ціха гладзіў яе па сьпіне, суцяшаючы, як дзіця.

... А потым ..., - працягнула яна, ... гэтыя, гэты чалавек, аб кім казаў Алекс... ён, … яны згвалцілі мяне тады. Падсыпалі яму наркотыкі ў віскі, і зрабілі ўсё, пакуль ён спаў. Яе плечы затрэсьліся. Ён механічна гладзіў яе, суцяшаючы, але ж яму самому хацелася плакаць. Што ён мог зрабіць зь яе мінулым? З тым, што яна выклікала і жаданьне, і нянавісьць адначасова?

Што яна была чыстая і сьветлая, слабая, і прыгожая такая, што не належыла гэтаму сьвету? Што яе чысьціня і дасканаласьць былі выклікам таму цёмнаму, бруднаму, што існавала вакол? Што яна была ўвасабленнай Сафіяй, божай душой, Шэкінай, трапіўшай у сеці сусьвету, адкуль ён яе вызваліў - знайшоў і прытуліў да сябе. Што цяпер ён нікому і ніколі яе не аддасі, не дапусьціць, каб гэта адбылося ізноў? Але ж гэта адбывалася і адбываецца - зь іньшымі, нявіннымі душамі, бо Сафія, як і Бог, мае шмат твараў і целаў, праз якія праяўляе сябе. Адзінае, што ён мог зрабіць, гэта толькі выратаваць яе, забраўшы адсюль. Схаваўшы ў сваім доме, прытуліўшы яе да сябе, ахінуўшы сваёй моцай і сваім каханьнем. Цяпер яна была зь ім, але ж мінулае перапісаць ён ня мог. Хоць яно і было сном, аб чым ён ведаў, ды ня ведала яна. Яна пакуль яшчэ была дзіця, пакуль спала. Ён нахінуўся, і пацалаваў яе вочы. - Любая, - ціха вымавіў ён. - У гэтым сьвеце ты - дасканаласьць. Ты - сьвятло, і самое каханьне. Чысьціня, якую незапляміць ніякім грахом. Усё, што зроблена з табой, адбылося праз вялікае зло, якое ўвайшло ў гэты сьвет. Але ж тут ёсць і дабро, і яго заўсёды на крышачку больш, роўна на столькі, каб зло ніколі не атрымала канчатковае перавагі. Ня мной гэта створана, і так павінна быць. У сусьвеце гэтым нядасканаласьць ненавідзіць дасканаласьць, глупства - розум, і пачварства - прыгажосьць. Але ж на гэтай прыгажосьці і трымаецца ўвесь сусьвет. Бо, каб не схаванае ў ім сьвятло, Бог даўно бы панішчыў яго.

Ты маё любая дзіця, маё птушаня. Калі б ты мне сказала, я б сам забіў іх. Але ж Алекс ужо зрабіў гэта за мяне. Помста адбылася, мой прысуд жа адбудзецца ў свой час. І тады яны наогул пашкадуюць, што нарадзіліся на сьвет.

Ты ж ня плач, мая любая. Бо ж ноч прайшла, і цяпер будзе толькі дзень. Дзень, у якім я кахаю цябе - адвечна і бясконца.

Яна даверліва прыпала да яго грудзей.

- Пацалуй мяне пацалункам вуснаў тваіх, госпадзі, - ціха прашаптала яна. - Я хачу адчуваць тваё каханьне. Хачу, каб ты ўзяў мяне. Моцна, як ты можаш. Не шкадуй мяне, любы. Хай усё нячыстае ўва мне згарыць ад цябе.

Тонкае дамашняе адзеньне звалілася зь яе плечаў, і яна засталася аголенай перад ім. Ён крануў вуснамі яе губы, накрыў грудзі далоньню. Яе цела было целам дзіця - лёгкае, тонкае, амаль невясомае. Хто і калі яе згвалціў? Хто асьмеліўся апаганіць гэтую чысьціню? Як такое было магчыма?

- Ён пагражаў мне парэзаць ліцо, гэты чалавек, - прашаптала яна. - Яны вымусілі мяне зрабіць ім гэта, а потым яны ўсю ноч, некалькі гадзінаў рабілі са мной, што хацелі. Яны гулялі са мной, быццам бы я была нежывая.

Зь яе вачэй ліліся буйныя сьлёзы, і ён асушаў іх вуснамі.

- Я дрэнная? Нячыстая? - працягвала яна запытваць яго.

- Ты - сьвятая, - ціха вымавіў ён, цалуючы яе грудзі.

- Я хачу, каб ты ведаў, - вымавіла яна праз сьлёзы. - Ці захочаш ты мяне, каханы, цяпер, калі я расказала, як апаганена маё цела?

- Тваё цела - як хлеб прычашчэньня, і яго апаганіць нельга, як нельга апаганіць сьвятыню, якая сама вылучае сьвятасьць, - адказаў ён.

- Ты - жыцьцё маё, лепшае, што ў мяне ёсьць у сьвеце.

Яго вусны лашчылі яе грудзі, рукі, плечы, апусьціліся да ўлоньня. - Яна ня бачыць сябе, - падумалася яму. - Якая яна прыгожая, чыстая, і сапраўды сьвятая. Яна сатканая са сьвятла, якога ў сьвеце болей не засталося. Усё сьвятло гэтага сьвету ўвайшло ў яе, і схавалася ў ёй.

Ён адчуваў, як жарсьць запаўняе яго. Ён жадаў гэтага цела, гэтай душы, як вар'ят. Яе слабасьць, жаноцкасць вымушалі мужчын страчваць розум. Тое спалучэньне чысьціні і слабасьці з дасканалай жаноцкай прыгажосьцю выклікалі шалёнае жаданьне. Але ж ён мог стрымліваць сябе. Тыя ж, астатнія, не маглі. Што яны рабілі зь яе целам, ён лёгка мог уявіць. І гэта ўзьнімала ў ім хвалі гарачыні і каханьня, жалю да яе і нянавісьці, лютай, да іх. Ён уваходзіў у яе, быццам бы праз сваё

каханьне аднаўляў гэтую сьвятыню, залечваў гэтае цела, загойваў яго раны і раны яе душы.

Ён жадаў быць пяшчотным, жадаў зрабіць для яе ўсё, адваротнае таму, што зрабілі тыя, іньшыя. Кахаць яе, убагаўляць яе, узносіць яе, узьнімаць да нябёсаў, пераўтварыць яе жыцьцё у казку, споўніць усе яе мары – такія малыя і сьціплыя, і такія вялікія і велічныя, бо ж яна жадала яго, і яго каханьня, якое цяпер вылівалася на яе бязь меры.

Праз сваё каханьне ён мог бы суцэльна забраць яе адсюль, але ж у волі яго цяпер было падарыць ёй гэты сусьвет, які яна любіла, перапробленым, пераўтваронным, такім, як жадала яна. Яна загадвала, ён выконваў. Тварыў для яе, напаўняў гэты сьвет яе марамі. І бачыў, як ён пераўтвараецца, сьвятлее, як усё зьзяе вакол. У гэты сусьвет ён увайшоў зь ёй, у ім застаўся. Рай, вялікі і неабсяжны, створаны ім для яе, такі ж вялікі, як і яго каханьне.

Як беражна ён кранаў яе цела, як цалаваў яго, як лашчыў. Яму здавалася, што сэрца яго стала бясконцым і ўмесьціла ўсю яе цалкам, зьлілося зь яе сэрцам у адзінае палаючае сэрца каханьня. Яна залівалася сьлязамі і ўздрыгвала ў яго руках, ён жа асушаў яе сьлёзы, уваходзячы ў яе, даводзячы яе да вяршыняў асалоды, і сам адчуваў, як сьлёзы бягуць зь яго вачэй.

Яна ляжала на яго плячы і амаль спала. У сьвеце не было нічога і нікога, акрамя яе. Як ён жыў без яе, як дапусьціў, што яна так доўга чакала яго, што яна была адна, і ўсё гэта зь ёй адбылося. Але ж цяпер ён яе ніколі не пакіне. Ня згубіць, каб не пагасла гэтае яе сьвятло, затаптанае прагнай цемрай. У думках ён накрыў маленькі агеньчык далоньню, і цяплыня кранула яго скуру. Яго рука гладзіла яе валасы.

- Любая, - ціха прашаптаў ён. – Ня бойся нікога і ніколі, бо ж раз’яднаць нас не магчыма. Ты ж ведаеш, хто я, каханая?

- Ты – Бог, - прашаптала яна, прыціскаючыся да яго грудзей. – Бог мой, акрамя якога нічога няма ў сьвеце.

Яго рукі крэпка ахапілі яе, і ў гэты момант зьліцьця ён адчуў,

што ён – і сапраўдны Бог. Эоны праляцелі перад ім, мноствы сьфераў і вобласьцей сьвятла, а потым ён застаўся ў бясконцасьці. Не было нічога, акрамя яго, і яе на яго грудзях. Тут не было часу, не было межаў, не было нічога, што магло аб палажыць канец ім, ці іх каханьню. Усе нябёсы апынуліся ў іх пад нагамі, і ён мог адчуваць, і бачыць, як яе маленькая ступня кранала вяршыню сёмага неба, пад якім былі і анёлы, і ўсе нябёсныя сілы, і ўвесь створаны дзеля яе сусьвет. У чорным космасе віравалі іскры сьвятла. Яны ірваліся да іх, і адскоквалі, сутыкаючыся зь нябачнай перашкодай. Але ж некаторыя здольвалі прарывацца, і амывалі яго і яе залатым дажджом радасьці. Чым болей іскраў падымалася, тым болей віравала цемра. Але ж ён ведаў, што недзе там, далёка і глыбока, схаванае апошняе Яе сьвятло. І тады ён схапіў яе за руку, і ўвайшоў у гэты сусьвет. Нябёсы ўздрыгнулі. Ён прачнуўся. Яна ляжала на яго плячы, і быў ужо ясны дзень. Ён пацалаваў яе, і яна адкрыла вочы. Яны глядзелі на яго, як зоркі. Болей у сьвеце нічога не было.

- Усе зоркі пагасьлі, і толькі дзьве засталіся, - вымавіў ён, абдымаючы яе, адчуваючы яе даверлівае, цёплае цела, яе губы, яе дыханьне.

- Любы мой, - ціха вымавіла яна, ён абняў яе, і адчуў, што на яго вачах зьявіліся сьлёзы. Гэта былі сьлёзы жалю па яе і яго мінулым, і сьлёзы радасьці – па будучыні, у якой, ён ведаў, цяпер будзе толькі сьвятло.

# Замовы

Грэбліва аглядаючыся, Вольга пераступіла парог старой хаты. У сенках было цемнавата, і яна аб нешта балюча стукнулася плячом. Пераступіла праз сьмецьце, якое валялася на дарозе, абцёрла ногі аб маленькі зашмальцаваны вязаны дыванок. За сенкамі былі яшчэ адны дзьверы – на веранду, на якой ля афарбаванага сінім вакна стаяў вялікі засланы клеёнкай стол, а збоч ад яго тырчэў бок рускай печы з топкай і паддувалам. У куце ля печы месьціліся гаспадарчыя прылады і вялікі, стары драўляны шкаф – яшчэ ад цара Гароха. Вольга між волі скрывілася. Ля шкафа на палічцы стаялі гарлачы і жбаны, унізе ля сьцяны месьціліся нейкія мехі, кадкі і вёдры. Тут ужо палавік быў крыху лепшы, але таксама пашкуматаны, зь вісячымі з бакоў ніткамі і рэштками анучак. Стол, аднак, быў чыста выцерты, і на ім стаяў таўсты агарак сьвячы ў крывым падсьвечніку, чорным, скаваным з чугуна, закопчаным. Перад сьвячой ляжала невялікая таўставатая кніжачка з жоўтымі лістамі, абёрнутая ў шыза-шэрае грубае палатно. На палатне быў намаляваны цёмна-чырвоны крыж, кружок, і некалькі кропак. Здаецца, тры.

Перад Вольгай цяпер былі яшчэ адны дзьверы – зачыненыя, і яна нерашуча спынілася. Пагрукаць? Ці выйсьці, і пастукаць у вакно? Ці наогул чакаць гаспадыню звонку? Але ж тая сказала, каб яна заходзіла ў хату. Толькі наколькі глыбока, не ўдакладніла. Вагаючыся, Вольга дастала мабільны тэлефон. Набрала нумар. Ёй здалося, што ў хаце нешта зажужжала, аднак праз зачыненыя дзьверы чутна было дрэнна, і яна магла памыляцца.

Яна ўжо хацела выйсьці на двор, каб пачакаць гаспадыню там. Шчыра кажучы, атмасфера хаціны са сьвечкай, кніжкай, рагатымі прыладамі для печы і гарлачамі, якія, здаецца, пагрозна глядзелі на яе з палічак, Вользе зусім не падабалася. Быццам бы хтосьці варушыўся ў кутах, і назіраў за ёй. Яна наяўна адчувала дакрананьне нечых вачэй, мяккія штуркі нячыстых далонек.

Яна ўжо амаль павярнулася, каб ісьці адсюль, як раптам дзёрнулася, ускрыкнула, і ледзь не асела на падлогу, схапіўшыся за край сталу.

- Трах-цібідох!!! Каго чакаем?!

Голас, гучны, бадзёры, нізкаваты і хрыплаваты, але ж ня стары, належыў жанчыне гадоў каля пяцідзесяці, ці крыху болей. Рудыя пасмы выбіваліся з-пад чорнага платка з шэрай паласой, насунутага нізка на хітрыя зялёныя вочы. Валасы былі яркія, фарбаваныя ў каштанава-чырвоны колер. Жанчына, высокая, крэпка зьбітая, стаяла на парозе, упёршы рукі ў бакі, і, усьміхаючыся, глядзела на Вольгу. Яе вусны расьцягнуліся ў шырокай вусьмешцы, паказваючы адсутнасьць зубоў зьверху і часткова зьнізу. Але ж твар жанчыны быў наогул прывабны, зь няправільнымі, аднак выразнымі рысамі. Адна яе броў узьнімалася ў гару знакам пытаньня, другая, наадварот, апускалася на вока, а канец яе ластаўкай узьлятаў да віску, на якім вілася сівая пасмачка.

- Вой, прабачце! Вольга рассьмяялася, наколькі магла ў такіх абставінах. Сэрца яшчэ калацілася, як шалёнае.

- Я – журналістка, з гораду. Прыехала да вас, як абяцала, прывезла – вунь, у сумцы – чай, пячэньне, рыба, папера … туалетная, сродак для посуду, і фруктаў вам купіла.

- У мяне фруктаў хапае. Яблык мяхі стаяць, няма куды іх дзяваць. Хочаш, і табе адсыплю. Кабета ўсьміхнулася.

- Тыкву дам. На Хэлаўін яе нарадзіш. А ты вядзьмарка! – раптам вымавіла яна. Яе вузкаватыя хітрыя вочкі ўтаропіліся ў Вольгу, вывучаючы.

- Паўночніца. Руны – тваё. Я бачу.

Яна падышла да Вольгі блізка, і тая пасунулася.

- Да ты ня бойся. Распранайся, і сядай. Зараз тут горача будзе. Печ натопім, а тое яна падстыла.

Гаспадыня трымала ў руках ахапку дроваў, якія з шумам кінула

на пол ля печы.

- Мужыка няма, сама калю, - ці то паскардзілася, ці то пахвалілася яна.

- Ну што вы, я не вядзьмарка. Хоць і сапраўды цікаўлюся рунамі, - вымавіла Вольга, сабраўшыся. Седзячы на стуле ля стала, яна адчувала сябе больш вольна, упэўнена. Палажыла на стол тэлефон, незаўважна уключыўшы дыктафон, дастала блакнот і ручку.

- А чаго ў такой яркай жанчыны мужыка няма? – пацікавілася яна. – Вы дужа прыемная, і ў вас такія прыгожыя вочы.

- Доўга не трымаюцца. Вядзьмарка аскалілася ў вусьмешцы. – Зьбягаюць. Каб ня зьела. Пра мяне ж чуткі йдуць па навакольлі, што я і з чарцямі знаюся, і на пагост хажу, і нячыстую сілу ў лесе выклікаю, і псоту напусьціць магу, і на той сьвет адправіць. Хоць і вылечыць, і адшаптаць таксама.

Вольга адкрыла блакнот, нешта хутка памеціла.

- А гэта праўда? Мне здаецца, людзі перабольшваюць. Вы ж не такая, як яны. Вось яны і прыдумляюць нялепіцы.

- Усё – чыстая праўда. А людзі прыўменьшваюць. Калі б яны ведалі ўсё, як ёсьць, тут бы ў вёсцы ніводнага чалавека жывога не засталося. Сышлі б альбо ад страху памёрлі. Жанчына ўсьміхнулася крыва, і сунула ў печ некалькі паленьняў. Падпаліла бумажку, і сунула ў сяродку. Вясёла пыхнуў, затрашчэў агонь.

- А цябе што да мяне прывяло, красуня? – вымавіла яна. – Бачу, што ня толькі па рабоце ты да мяне з’явілася.

- У асноўным па рабоце, - вымавіла Вольга. – Мае ж асабістыя пытаньні могуць і пачакаць.

- Ну, па рабоце так па рабоце, - усьміхнулася ведзьма.

- Кажы, што табе трэба?

- Хачу запісаць, калі можна, некалькі замоваў, абрадаў. Нешта такое цікавае для маёй перадачы. І для кнігі. Я хачу захаваць старыя веды, і таму планую выпусьціць уласны этнаграфічны зборнік замоваў, паданьняў і абрадаў. Ведаеце, мне, як журналісту, трэба зрабіць практычнае заданьне. І я падумала, што яго ня дрэнна было б разьвіць да маштабаў кнігі для публікацыі. Гэта не бясплатна, вы ня думайце. Я аддзячу, як дамовімся.

- А… гэта лёгка. Колькі табе замоваў? Сядай. А, ты ж сядзіш. Ну, запісвай.

Гаспадыня ськінула таўстую куртку на бавоўне, павесіўшы яе на кручок ля дзьвяры, і разьмесьцілася на стуле насупраць.

- Пішы. Каб выклікаць дождж, трэба ўзяць таз зь венікам, выйсьці на двор, наліць туды вады зь калодзежу, памакнуць у ваду венік, памахаць вакол, і паклікаць: “Пяруне, Пяруне, прыйдзі да мяне, памачы вадзіцай, каб зямлі напіцца”. Кажам так на чатыры бакі сьвету, і машам венікам, робячы вакол сябе крыж.

- А крыж навошта? – удакладніла Вольга. – Гэта ж паганскі абрад.

- Як навошта? - Ганна вытарапіла на яе вочы. – Каб Пярун не забіў. А ты што, выклікаць Пяруна сабе на галаву зьбіраешся? І кумпалка павінна быць хусткай прыкрытая. Як у мяне.

- А…, зразумела. Вольга хутка напісала нешта ў блакноціку, перагарнула старонку.

- А яшчэ? Можна што-небудзь такое … страшное. Каб зь нячыстай сілай, - раптам вымавіла яна.

- Зь нячыстай сілай? У вачах Ганны заблішчэлі вагеньчыкі.

- Ну, слухай.

Рэч гэта страшная, моцная.

Яе толькі ў ведзьміным крузе рабіць можна. Спачатку трэба ў

лесе знайсьці круг, а потым сілу намацаць, у кулак яе сабраць, і ў хустку завязаць. Потым словы сказаць запаведныя.

- Якія? – удакладніла Вольга.

- Тое табе ведаць ня трэба, - Ганна строга глянула на яе.

- Прабачце, але ж калі я запісваю абрад, то павінна ведаць усё. Без словаў гэта лічыцца ня будзе. Вольга сур’ёзна глянула на вядзьмарку ў адказ.

- Ойча наш трэба прачытаць, - важка вымавіла Ганна. І дадала:

- Наадварот.

- А чаму – наадварот? Мне здавалася, гэта сатанізм. Вольга ўськінула бровы, працягваючы рабіць паметкі.

- Табе многа чаго здавалася. І здаецца. Гэта чорнае. Дзеравенскае. Ад патомнага чорнага каўдуна, Ваські-завеі мне перададзена. На чортавым месцы, дзе гарэлая царква стаяла.

- А дзе тое месца? – пацікавілася Вольга.

- Ёсьць тут, у лесе. Касьцёл быў, сабор вялікі, у незапомныя часы. Ды пагарэў. Пяруном разьнесла яго ўшчэнт. Як даў у дах, дык усё і запалала. І рады не далі. А потым народ тое месца шмат год абыходзіў, і парасло ўсё дрэвамі ды пустазельлем. Толькі нядаўна той лес расчысьцілі, ды на месцы праклятага маёнтка прышлы адзін сабе хату пабудаваў. Таксама чараўнік. З гораду.

- Вой, як цікава, - узрадавалася Вольга. – А да яго можна завітаць? Не пакажаце мне дарогу? Ганна радасна ашчэрылася. – Можна. Паедзеш налева праз вёску, потым – направа, праз лес, потым дарога на паляну выйдзе, і там збоч яго дом стаіць ля возера. Возера таксама праклятае. Толькі ты сама. Я з табой не пайду. Пагана там. Млосна.

- Дзякуй вялікі. Вольга адкрыла партманет, і палажыла перад Ганнай паперку – дзесяць даляраў.

- А што далей, у замове?

- Далей? Проста. Як Ойча наадварот прачытаеш … А, і крыж нацельны на сьпіну перавярні, забыла сказаць, то хустку завяжы, чорную.

- На галаве? – удакладніла Вольга.

- У руцэ! Тую, у якую ты сілу сабрала. Ганна глянула на яе з пагардай.

Дык вось. Далей трэба адразу дамоў ісьці. А потым ноччу, апоўначы, хустку разьвяжаш, і словы кажы:

- Як за зімой вясна, за вясной – лета, за летам – восень, за панядзелкам – аўторак, і гэтак далей да дня, які зараз, за першым днём другі, за другім – трэццьці, і далей, да таго дня, калі робіш, за жывым – нябожчык, за нябожчыкам – поп, за папом – чорт, за чартом – кошка, за кошкай – качка, за качкай – бабка, за бабкай – дзявіца-трасавіца, так і ты за мной хадзіць будзеш, трасьціся-калаціцца, як галодны за ежай, пасьмяглы – за вадою, грэшнік – за пакаяньнем, пакуль я цябе не разьвяжу, словам сваім не адпушчу, і быць табе маім ад гэтага дня і на ўвесь век. Амінь.

- Гэта навошта? Вольга ўзьняла на яе вочы.

- Каб хлопец за табой хадзіў, як нітка за іголкай. Каб любая ты яму была. А яшчэ калі ты яму ў ежу сваёй крыві капнеш, і крылом кажана яго сьлед на старонку зь псалтыру замяцеш, а потым тую старонку пад страхой захаваеш, то ён навек твой будзе.

- А кажана дзе браць? – пацікавілася Вольга.

- Злавіць на Іванаву ноч, калі папартанік зацьвяце.

- Дык ён жа не квітнее. Гэта ж легенда. Вольга ўсьміхнулася.

- Ага. Вось калі ўласнымі вачыма ўбачыш папараць-кветку, тады і паразмаўляем. Толькі трэба голай задам наперад у лес увайсьці, а потым павярнуцца вакол сябе тры разы, і на трэці

раз зямля адкрыецца. Тут першую кветку, якую ўбачыш, тую і бяры. Яна і будзе звацца "папараць". А пра кажана я пажартавала. Яго можна ў любы час паймаць, толькі перад гэтым твар сажай зачарніць.

- Распранацца трэба? – удакладніла Вольга.

Ганна зарагатала.

- Як хочаш. Горш ня будзе, - адсьмяяўшыся, вымавіла яна.

Вольга запісала, і адлажыла блакнот. За размовай незаўважна прайшоў час. Раптам думка прыйшла ў яе галаву, нечаканая, і ад таго яшчэ больш дзіўная.

- Трэба заехаць да таго чараўніка. Сёньня, - падумалася ёй. – Папытаць яго. І пра Ганну таксама. Можа, і ён нешта цікавае раскажа. Чамусьці ёй паказалася, што Ганна хлусіць. Зьдзекваецца зь яе. Расказвае розную лухту, толькі каб заняць час ды грошы выцягнуць. А вось той чалавек, пэўна, цікавы, - падумалася ёй. Чамусьці яе цягнула туды, быццам бы магнітам. Перад вачыма раптам паўстаў дом ля возера – высокі, моцны, з таўстога бярвеньня.

- І сам гаспадар такі ж. Цікава, як ён выглядае? Яна ўявіла некага накшталт Гэндальфа, і ўсьміхнулася. Напэўна, не.

- Ведаеце, - вымавіла яна. – Усё, што вы распавялі, дужа цікава, і мы з вамі абавязкова сустрэнемся. Толькі, нажаль, мне трэба ехаць, і ваш час замінаць я не хачу.

Так што сустрэнемся на наступным тыдні. У суботу вам падыдзе?

- У субботу, дык у субботу. Я табе сьпіс накідаю, што прывезьці. Ганна ўстала, і яны абняліся, разьвітваючыся.

Сеўшы ў машыну, Вольга, як ёй і было сказана, павярнула ўбок, праз вёску на лес. Праехаўшы пару кіламетраў па нешырокай пяшчанай дарозе, яна і сапраўды ўбачыла вялікую паляну, выкашаную пад газон, на якой, як яна і ўяўляла, стаяў высокі, крэпкі дом. Дом быў зроблены ў скандынаўскім стыле,

прамавугольны, з шырокай шкляной вярандай, абшыты дошкамі, пафарбаванымі ў сьветла-арэхавы колер. На другім паверсе было зроблена нешта накшталт мансарды, зь вяранды зьбягалі ў мяккую траву чыстыя, да белага адпаліраваныя ступенькі, на якіх былі прыбіты гумавыя палоскі. Перад вярандай з абодзьвух бакоў раськінуліся клубмы-астраўкі, на якіх адцвяталі позьнія вяргіні і астры. Кусты роз яшчэ не былі схаваныя на зіму, але ж пастрыжаныя.

Пасярод клюмбаў расьлі дэкаратыўныя туі. Вольга ад нечаканасьці спыніліся. Тое, што яна бачыла, настолькі не вязалася з Ганнавай хатай і вёскай, якая засталася ў пары кіламетраў ззаду, што яна ня верыла сваім вачам. Быццам бы яна нечакана трапіла ў Швейцарыю, ці якую Нарвегію. Дом выглядаў сучасным, зробленым дарагім дызайнерам.

- Можа, я не туды прыехала? – падумалася ёй.

Нерашуча яна зрабіла крок на траву з машыны. Падышла к ганку, узьнялася па ступеньках. Ногі яе раптам здаліся ёй бруднымі пасьля Ганнінага падворку. Яна спынілася, і стала церці вільготнай сурвэткай боты. Выцершы, выпрамілася, і ўбачыла перад тварам званок. Нават і званок быў дарагім, такім, што і націснуць было страшна. Колькі ж ён каштуе? Сотню еўра, ня меней, - падумалася ёй. Яна асьцярожна кранула матавы прамавугольнік зь невядомага стылёвага пластыку.

Раздалася мелодыя, ціхая, прыемная. Хвіліну нічога не было. А потым знутры пачыліся крокі. Да шкляных дзьвярэй, праз якія нічога не было бачна, нехта падышоў. Памарудзіўшы крыху, дзьверы адчынілі.

На парозе стаяла дзяўчына. Маладая, высокая, з доўгімі чорнымі валасамі, бліскучымі, прамымі, быццам бы толькі што з салону. Яе авальны бледны твар з чорнымі бровамі раптам здаўся Вользе знаёмым. На дзяўчыне быў апрануты дарагі дамашні касьцюм – сьветла-шэрыя вольныя штаны, якія прыгожа падкрэсьлівалі яе стройныя сьцёгны і доўгія, як у мадэлі, ногі. Шыракаваты топ з рукавамі-кімано адкрываў тонкую талію і палоску белай скуры. На нагах дзяўчыны былі

чорныя замшавыя мюлі, расшытыя бусінамі. Усё адзеньне выглядала такім, як з абложкі журнала. Раптам Вольга ў сваіх практычных высокіх ботах, джынсах і кароткім пухавіке здалася сабе таўставатай прастушкай, якая толькі што рабіла рэпартаж пра ферму. Краска кінулася ёй у шчокі – знак абурэньня ад нялоўкасьці.

- Мажорка, - падумала яна. – Дачка, пэўна.

- Скажыце, а ваш айцец дома? – запытала яна. – Чамусьці – на мове, не пераключыўшыся.

- Айцец? Які? Мой? Ён тут не жыве, - зьдзівілася дзяўчына.

- Прабачце, - Вольга зьбянтэжылася. – Можа, гэта ня той дом, і яна зараз трапіла да нейкіх заможных людзей, можа што і з улады? А калі гэта нейкі чыноўнік? Што тады? Можа, сюды ўжо накіроўваецца ахова? Вольгу і сапраўды кінула ў жар, але ж цяпер – ад страха. Улады яна баялася, бо добра ведала, што можа атрымацца з такога нечаканага візіта на закрытую тэрыторыю.

- Прабачце, мне сказалі, тут жыве адзін чалавек, які пабудаваў дом на месцы дзе былі старыя руіны… рэшткі… Вольга разумела, што нясе нейкую небясьпечную лухту. – Я, напэўна, памылілася. Я студэнтка, пішу працу пра старыя маёнткі. Але ж бачу, што я трапіла не туды. Прабачце. Я – этнограф, і гісторык, - зачымсьці схлусіла яна.

Раптам дзяўчына мякка ўсьміхнулася, вугалкамі вуснаў. Яе твар стаў яшчэ больш прыгожым, проста незямным. І тут Вольга пазнала яе. Яе раптам затрэсла, як у ліхаманцы. У дзьвярах шыкоўнага дома у брэндавым адзеньні, гледзячы на яе, як на нейкае сьмецьце на парозе, перад ёй стаяла Летыцыя. Дагледжаная, спакойная, манерная, пазіраючая на яе зьверху ўніз. Усё такая ж тонкая, амаль празрыстая, можа толькі пару кілаграмаў набрала. Яе шчокі былі мякка акрэсьленымі, вочы блішчэлі, доўгія вейкі качаліся, як чорныя галінкі, пушыстыя яловыя лапкі.

Пад шаўкавістай тканінай топу не было бачна бялізны,

шыракаваты ворат адкрываў белую пяшчотную скуру. На шыі паблёскваў тонкі ланцужок, падвеска на якім хавалася пад адзеньнем. Ад яе пахла дарагой вострай парфюмай, як у шыкоўным бутыку ці ў самалёце.

Вольга ўжо адкрыла рот, каб сказаць нешта атрутнае, што б адразу пагасіла гэтую мяккую ружовую вусьмешку, аднак стрымалася. Дзяўчына, відавочна, не пазнавала яе. Рудыя валасы і макіяж суцэльна зьмянілі Вольгу, а сьціплае адзеньне працоўнай гараджанкі замест яркіх скураных і джынсавых шмотак пераўтварылі яе аблічча, дадаўшы нават і з дзясятак год. У параўнаньні зь Летыцыяй яна выглядала, як настаўніца побач з выстаўляючайся старшаклясьніцай.

- Хай не пазнае, - вырашыла яна. – Так нават лепей. Аднак што яна тут робіць? Раптам думка працінула яе – хуткая, як маланка.

І не пасьпела яна асэнсаваць гэтую думку, як за сьпіной пачуўся нізкі мужчынскі голас.

- Каханая, у цябе госьці? Што ж вы стаіце на парозе?

Голас, відавочна, належыў яму. Таму, каго бачыла Карына. Вольга павярнулася, і апынулася твар у твар з высокім, шыракаплечым мужчынай, ад якога ў яе спыніўся подых. Яна, канешне, уяўляла яго з расказу Карыны, але ж, як заўсёды, у думках яго прынізіла, як любіла прыніжаць усё, і ўсіх вакол, што не датычылася яе самой. Яна ўяўляла нейкага дзівака, накшталт старога рокера ці артыста, альбо кагосьці падобнага, на каго магла запасьць Карынка. Нейкі Джыгурда месьцячковага разьліву, ці хтосьці накшталт з багемы клясам ніжэй. Аднак чалавек, які стаў перад ёй, вымушаў яе ногі падкошвацца. Такога прыгожага, мужнага твару, такога дасканалага цела Вольга ніколі ня бачыла ў жыцьці. Можа, дзесьці ў кіно, ці на малюнках мастакоў, тых, што вісяць у музеях. Твар мужчыны быў смуглаваты, але ж ён не належыў да ўсходніх народаў, маючы зьнешнасьць еўрапейскую, высакародную, выдаючую старую кроў. Пры гэтым было нешта ў ім дзікае, варварскае, штосьці незаўважнае, што хавалася ў глыбіні яго карычнева-зялёных вачэй, у высокіх скулах, мужна

акрэсьленым твары з даўгаватым прамым носам, які абрамлялі чорныя хвалістыя валасы ніжэй плечаў, забраныя ў хвост. Рысы яго былі быццам бы высячаныя, ці намаляваныя рэзкімі мазкамі. Вочы з-пад чорных броваў пільна глядзелі на яе. Ён быў цяжкі, моцны, але ж ня грузны, і, ня гледзячы на рост і вялікае цела, рухаўся з ваўчынай лоўкасьцю. Апрануты ў джынсы, швэдар і куртку, адзеньне было паношаным, бачна што зручным, але ж таксама брэндавым, еўрапейскім. На нагах – рабочыя бацінкі з тытанавымі наскамі, куртка на рукаве прапаленая, з ворату швэдэра выглядаюць ніткі, але ж наўмысна ці не, не вядома. Твар мужчыны быў парослы барадой, чорнай, густой. У валасах было бачна некалькі сівых пасмачак, але ж яны ня порцілі яго, дадавалі хараства.

І голас. Голас проста працінаў Вольгу, выварочваў яе знутры вонкі. Ад такога голаса хацелася самлець, рассунуць ногі, адкінуцца, і закрыць вочы. Мужчына палажыў вялікую руку на касяк, і зь цікавасьцю глядзеў на яе.

- Сяброўка? – запытаў ён. Не вядома каго, яе, ці Летыцыю.

- Не, прабачце. Я – этнограф. Зьбіраю замовы, паданьні. Мне параілі завітаць да вас. Жанчына зь вёскі, Ганна, якая лечыць, замаўляе. Яна сказала, што вы … многа чаго ведаеце. Вольга зьбянтэжылася.

Чалавек усьміхнуўся. Яго твар стаў такім прывабным, што Вользе стала балюча. Летыцыя так і стаяла ў дзьвярах.

- Каханая! – падумалася ёй. – Каб ты здохла яшчэ тады, жывёліна. Патаскуха. Шлёндра дзяшовая, дырка. Хто цябе толькі ня меў. Пра цябе ўсе ўсё ведалі. І дзе, і як, і зь кім. Цябе толькі што сабакі ня трахалі, а можа і яны былі. Хоць ты і мела выгляд сьвятошы, ня з гэтага сьвету. Серж казаў, што цябе браў куды заўгодна, толькі не туды, куды трэба. Бо ж ты цнатлівая, для дурняў. А сапраўды … І вось, знайшла такога мужыка. Жыве зь ім, за яго рахунак, прыстроілася. І ў вус ня дуе. Эскортніца паганая. Такім заўсёды шанцуе. І працаваць, і вучыцца ім ня трэба. Толькі ногі рассоўвай.

- Дык што ж мы стаім на парозе? Любая, ты ня супраць

запрасіць да нас госьцю? А то ты сядзіш, сумуеш, а тут вось табе – дзяўчынка для кампаніі. А я зараз буду, толькі пераапрануся з рабочага.

- Да, канешне, - вымавіла Летыцыя.

- Сваім прыкра-салодкім голасам, - дадала Вольга пра сябе.

– Праходзьце, калі ласка.

Вольга прайшла ў пакой, на вялікую веранду, пасярод якой стаяў шырокі белы стол, села на мяккі выгнуты стул з падушкай. Мужчына сышоў некуды на двор, у бок вялікага ангара-гаража. Летыцыя нязмушана ўключыла электрычны чайнік, раптам спынілася.

- Можа, вам кавы? Яе голас быў напеўны, як журчаньне ручая.

- Не, мне чаю. Вольга пакачала галавой. Дзякуй.

- У нас ёсьць асам, дарджылінг, пуэр, улун, малочны. Ёсьць востры, і з апельсінамі. Вам які?

Вольге здалося, што яна зьдзекваецца зь яе.

- А шакалад гарачы вы можаце зрабіць? – раптам запытала яна нахабна.

- Да, канешне. Я і сама яго люблю. Толькі ня часта, каб не папраўіцца. Вольга папярхнулася. Летыцыя працягнула ёй дарагі тонкі бакал з італьянскай мінералкай – наліла са шкляной бутэлькі, што стаяла збоч ля пліткі.

Ўзяла коўшык, наліла вады, паставіла ў яго турку, у якую паклала некалькі плітак шакаладу. Памяшала доўгай лыжачкай. Дадала крыху малака, разьмяшала, ўліла разьведзены крухмал, разьліла загусьцеўшую вадкасьць па кубках, і паставіла празрыстую чашку з духмяным напоем на стол перад Вольгай. Яна рабіла ўсё з грацыяй багіні, рухаючыся, быццам бы не кранаючы зямлі.

Села за стол насупраць.

- Вы – этнограф? – запытала яна.

- Быццам бы глухая, ці дурная. Заўсёды такая была затарможаная, - падумалася Вользе.

- Так. Яна дастала з карману візітку, фальшывую, і працягнула ёй праз стол. На візітцы было напісана імя:

- Марына Сідарава. Этнаграфія, гісторыя, культуралёгія. І тое ж – па-руску, з другога боку.

- Марына? Прыемна пазнаёміцца. Я – Летыцыя. Яна манерна, як здалося Вользе, працягнула праз стол тонкую руку.

Вольга суха кіўнула. Рука памарудзіла, і ўзяла з вазачкі канфету-рафаэла.

- Частуйцеся, калі ласка, - вымавіла яна, працягваючы вазачку. Вольга ўзяла дарагую канфету, нейкую імпартную, на якой было напісана па-нямецку. Паднесла да вуснаў шакалад. Пах ён цудоўна, і густ меў такі ж. Толькі яна прыгубіла, на верандзе пачуліся крокі.

Мужчына ўвайшоў, пераапрануты ў чыстыя цэлыя джынсы і дарагую льняную кашулю, якая абцягвала яго моцныя цяглы. Краем вока Вольга ўбачыла лейбл – Armani на клапане кармана.

Ён пацалаваў Летыцыю, ад чаго Вольгу ўнутране перакрывіла, сеў, і адкінуўся ў крэсьле, расставіўшы доўгія ногі - ад чаго яе кінула ў жар.

Летыцыя, здаецца, не заўважала, які спакусьліва-прыгожы мужчына знаходзіцца зь ёй побач. Глядзела на яго сваімі вачыма баранка, ці кроліка, хлопала вейкамі, як дзіця.

- Каханы, табе чаю, ці кавы? А мы вось шакалад п’ем. Яна ўсьміхнулася. Толькі прабач, цябе не засталося.

Мужчына рассьмяяўся.

- Золатка, зрабі ты мне кавы, і каньячку налі. А шакалад вы самі

пейце, я ж не дзіця, як вы.

Вольга пачырванела. Ён лічыць яе дзіцём, такой жа, як і гэта дурніца. Ебанутая.

Летыцыя ўстала, падышла да шафкі, адкрыла, дастала бутэльку Hennessy, наліла у бакал для віскі, закінула ў кава-машыну капсулу.

На верандзе прыемна запахла. Водар кавы зьмяшаўся з водарам хвоі, з восеньскай прахалодай.

Мужчына адпіў кавы, прыгубіў каньяк, і задаволена ўздыхнуў.

- Стаміўся я, любая. Цэлы дзень рабіў гэты дасьпех, корпус. Такі складаны. Але ж дарабіў, нарэшце. Цяпер мне толькі паножы засталіся. Наручы дарабіў. Усё амаль гатовае. Толькі гатычны рыцар застаўся, і аздабленьне, гравіроўка. Ды гатычнага я заказаў, павінны прыехаць, з заводу. Такога дабра ў Германіі шмат можна знайсьці. Але ж усё роўна прыйдзецца даводзіць да розуму. Ну, гэта ўжо прасьцей.

А што вы тут, размаўляеце? Пасябравалі?

Ён гаворыць зь імі, як зь нейкімі дзяўчынкамі зь дзіцячага садку, падумалася Вользе. Яна – дарослая, вопытная жанчына, якая мае мэту ў жыцьці, і каб дасягнуць яе, пойдзе па целах. Яна – ня гэтая чокнутая, якая акрамя як трахацца, ні на што ня вартая.

- Ён, можа, па дзяўчынках? – падумалася ёй. – Падлетках? Што ён у ёй знайшоў? У яе ж ні сьпераду, ні ззаду, і вес як у дохлага баранка. Сьпічка. У Вольгі свой разьмер чацьвёрты, і сьцёгны лацінскія. Тору падабаліся. І той дурнем быў. У думках яна скрывілася. Але ж гэты мужчына яе проста зачароўваў, як удаў кроліка.

- Можа, ён і сапраўды чараўнік? – раптам падумалася ёй.

- Скажыце, а вы чараўнік? – нечакана само сабой сарвалася зь яе вуснаў.

Мужчына зьдзіўлена глянуў на яе, а потым громка рассьмяяўся.

- Хто ж вам такое сказаў, спадарыня Марына? Ён глянуў на візітку на стале перад ім. Гэтая курыца палажыла, і так жа лоўка, што Вольга і не заўважыла.

- Мне сказала Ганна, зь вёскі. Я зпачатку да яе заехала. Яна мне столькі ўсяго цікавага распавяла! Такія абрады, замовы, што я ніколі не сустракала.

- А якія, магу я даведацца? – раптам вочы мужчыны зрабіліся хітрымі, зазьзялі, быццам бы ў іх запрыгалі вагеньчыкі.

- Канешне, гэта не сакрэт. Вольга паціснула плячыма. – І мне важны ваш экспертны каментар.

- Уважліва слухаю. Дарэчы, мяне Міхась завуць. Я ж не прадставіўся.

- Прабачце, але ж і я не прадставілася. Марына. Вольга ўсьміхнулася, і працягнула яму яшчэ адну візітку. Ён узяў яе вялікай рукой, крануўшы яе пальцы. Ад рукі да яе нібыта пабег ток.

- Вам пачытаць, ці лепш можа, дыктафон? – запытала Вольга.

- Можна і дыктафон. Міхась усьміхнуўся – шырока.

Летыцыя сур’ёзна глядзела на яе. Быццам бы нешта панімае!

Вольга кіўнула.

- Канешне, зараз. Яна адкрыла файл у тэлефоне.

Праз стол палілася гаворка.

“… трэба ўзяць таз зь венікам, выйсьці на двор, наліць туды вады зь калодзежу, пашмакнуць у ваду венік, памахаць вакол, і паклікаць…”

Міхась рагатаў. Сагнуўся напалам, ня мог сядзець, схапіўся рукамі за галаву, закрыўшы далонямі твар. Заліваўся шчырым,

вясёлым сьмехам, такім, што на вярандзе дрыжэлі вокны.

Летыцыя усьміхалася коньчыкамі вуснаў, але ж нічога не казала.

- Можа, вадзічкі, каханы? Наліла і працягнула яму цяжкі гранёны стакан. Ён адсьмяяўся, выпіў, і паставіў кубак на стол. Наліў ў кубак каньяка, да краёў. Залпам выпіў. Вольга сядзела, зьбянтэжаная.

- Далей слухаць будзеце? – нарэшце вымавіла яна.

- Канешне! – разам ускрыкнулі два галасы – густы мужчынскі і тонкі і пяшчотны жаночы.

Праслухаўшы запіс, Міхась колькісь часу сядзеў, ахапіўшы галаву рукамі.

- Усё так дрэнна? – запытала Вольга. – Гэта нейкая бязглузьдзіца? Ня вартая ўвагі?

- Не, - вымавіў Міхась. – Тут ніякага падману няма. Яна ўсё так і робіць, і адкрыла табе сваё майстэрства шчыра. І, павер мне, гэта яшчэ ня ўсё, што яна ведае.

- А чаму вы тады сьмяяліся? – Вольга не разумела.

- Ну як табе растлумачыць … Міхась паціснуў плячыма. – Таму што сьмешна.

- А што ня сьмешна? – запытала Вольга, і ізноў уключыла дыктафон.

- А гэта яна табе раскажа, - раптам вымавіў Міхась, і на верандзе нечакана стала ціха.

Восеньскі вецер абляцеў дом, стукнуў жменяй лістоты ў шкло, качнуў занавеску перад уваходам. Лёгкая, тонкая, як вэлюм нявесты, яна нечакана ўзьнялася ўгару, і павольна апусьцілася, быццам воблака празрыстага туману, танюткай плёнкай засьцілаючы раскошны лясны краявід: усыпаныя золатам і чырваньню дрэвы, бліскучая, гладкая паверхня возера, ярка-

блакітнае чыстае неба, па якому беглі бялюткія аблокі.

Трэск штучнага вагню ў каміне гучэў ціхай музыкай – фонам для гукаў песьні ветру, што сьцялілася над ляснымі прасторамі.

- Ведаеце, Марына, - ціха вымавіла Летыцыя. Усё гэта, што вы, і мы толькі што пачулі, гэта ўсё не патрэбна. Гэта не істотна. Проста быццам бы такая гульня. Але ж яна толькі затлумляе розум. Насамрэч, вакол ёсьць толькі Бог, і толькі праз Бога, і ім утвараюцца цуды. Уявіце, што вы стаіце перад каралём, уладзе якога няма параўнаньня ў сьвеце, і вы можаце папрасіць у яго ўсё, што толькі пажадаеце. Але ж вы чамусьмі бярэце венік, і пачынаеце ім махаць у розныя бакі. А потым чытаеце задам наперад Ойча наш, пераварочваеце на сьпіну крыж, распранаецеся, і … робіце розныя іньшыя рэчы, у лепшым выпадку - так, быццам бы яго тут і няма. А ў горшым – каб яго яшчэ і абразіць. Як на вас паглядзіць кароль, і што ён пра вас падумае?

- Распрананьнем мяне абразіць было б складана. Калі жанчына жадае, хай распранаецца. Міхась задуменна пацёр бараду рукой. – Але ж у астатнім ты права, каханая. Бог – не надакучлівая муха, каб махаць на яго венікам. І не камар, каб гнаць яго дымам з кадзілаў. Усё гэта – вар’яцтва, якое ня мае нічога агульнага ні з сапраўднай тэургіяй, ні з магіяй, якая выцякае зь яе. Калі вы хочаце зрабіць камусьці прыемнае, вы наўрад ці станеце тварыць падобныя гэтаму рэчы. Калі вы запрашаеце дарагога госьця, вы чыста прыбіраеце хату, накрываеце на стол прыгожы абрус, ставіце лепшы посуд і кветкі, і самі апранаецеся ў найлепшае, ствараеце ў сабе добры настрой, і з гэтым настроем запрашаеце да сябе таго, хто вам любы, і каго вы сапраўды жадаеце бачыць.

Калі ж вы запрашаеце да сябе Бога, вы запрашаеце яго ў сваю душу, якую перад гэтым жадаеце ачысьціць. Наймацнейшы ж сродак для ачышчэньня душы – гэта любоў. Яна адразу пераўтварае яе ў дзівосны храм, спальвае ўсё бруднае, старое, агіднае і Богу, і чалавеку. І ў такую ачышчаную каханьнем душу Бог сыходзіць лёгка і радасна. Бо ж ён заўсёды чакае ля парогу.

Бог – той, хто кахае вас. Любіць шчыра – усіх. Гэта складана

зразумець, але ж, якое б дзіця не было хворае ці сапсаванае, бацькі ўсё роўна любяць яго. І ня будзе большай радасьці для іх, як убачыць сваё дзіця здаровым і радасным, поўным любві, адказваючай на іх вялікую любоў. Аднак што мы часта робім у жыцьці? Мы адказваем абыякавасьцю на любоў Бога. Ці, што яшчэ горш, мы адказваем нянавісьцю. Бо ж абыякавасьць можа мець прычынай адсутнасьць ведаў, аднак нянавісьць – гэта пачуцьцё разумнае, яна заўсёды ўсьведамляе, што робіць. Падобныя ж абрады дэманструюць у лепшым чыне абыякавасьць, а ў горшым – непавагу да Бога.

Вольга пацiснула плячыма.

- А пры чым тут Бог? – запытала яна. – Гаворка ішла пра замовы. Гэта народнае, нашае, тое, што засталося нам ад дзядоў. Нашая культура.

- Ад дзядоў нам засталося нешта іньшае. Міхась кіўнуў, і пагаджаючыся, і не пагаджаючыся зь ёю. – Ад іх, найперш, нам засталіся мы самі. Бо ж мы – плоць і кроў ад іх крыві і плоці. Аднак і дзяды нашыя не былі прымітыўнымі дурнямі. Яны мелі павагу да Бога, хоць і бачылі яго праяўленым у розных абліччах прыродных сілаў. Дзяды нашыя стварылі і шмат прыгожых, і жудасных абрадаў ушанаваньня гэтых сілаў, і Бога вярхоўнага, адзінага, якога яны насамрэч ведалі. Аднак ва ўсіх гэтых абрадах было адное, што яднала іх паміж сабой, і яднае ўсе рэлігіі і абрады ад старажытных часоў да сучаснасьці, а менавіта – павага. Не рабскі страх, а найвышэйшае ўшанаваньне, і праз гэта – асэнсаваньне, і зьліцьцё з тым боскім, што чалавек адкрываў у сусьвеце. Але ж усе гэтыя часы чалавек знаходзіўся ў няведаньні, ў выгнаньні, аддзеленым ад Бога. Так адбылося, і на гэта былі свае прычыны. Ды пасьля таго, як Бог сам сышоў у створаны ім сусьвет праз свайго сына, усё зьмянілася. Цяпер мы ня можам апраўдвацца няведаньнем і наракаць на яго, што ён пакінуў нас. І таму нават і самыя высокія абрады старой, паганскай веры цяпер будуць толькі блюзьнерствам у адносінах да яго. Бог проста жадае, каб мы яго слухалі. Каб чулі. І каб любілі яго так жа, як і ён любіць нас. Усё роўна любоў Бога будзе бязьмернай, і яна пераважыць усе нашыя сьціплыя дары, якія, аднак, для яго ўсё роўна

каштоўныя, як маці радуецца маленькім падарункам свайго любага дзіцяя. Злом з’яўляецца ўсё тое, што адцягвае нашу ўвагу ад Бога. Што вымушае нас забыць яго. Таму ўсе гэтыя абрады – чыстае, суцэльнае зло. Адзінае, што можа вылечыць чалавека, гэта шчырая вера і малітва. І тое, што прыцягвае ў яго жыцьцё Бога. Ёсьць замовы меньш, ці больш шкодныя, ёсьць шчырыя замовы-малітвы, якія спалучаюць старую паганскую веру з новай,ісьцінай. Да іх, напрыклад, адносіцца асьвячэньне вады – прыроднай субстанцыі, калі Бога просяць увайсьці ў яе, напоўніць ваду сваёй сілай, ці ачышчэньне вагнём запаленай у славу Ўсявышняга сьвячы. Але ж і вада, і агонь тут выступаюць не самастойнымі лякуючымі сродкамі, а носьбітамі Бога. Запрашаючы яго напоўніць і асьвяціць сваёй прысутнасьцю аб’екты створанага сусьвету, тым самым мы праяўляем сваё ушанаваньне яго. Калі ж падумаць, то ні вада, ні агонь, ні якія іньшыя створаныя рэчы для размовы з Богам не патрэбныя. Бо ж ён заўсёды ў душы і вакол, і чуе, і бачыць нас, і ведае нас лепш, чым мы самі. Але ж ён і сапраўды дае нам тое, што мы просім. Праз гэта ён вучыць нас, бо ж, атрымоўваючы ад Бога дары, якіх мы прагнем, мы разумеем іх сапраўдную вартасьць. Насамрэч, адзінае, што варта прасіць у Бога – гэта каханьня. І здольнасьці актыўна праяўляць яго ў сусьвеце. Прасіць Бога аб тым, каб ён дапамог вам зрабіць тое, што вы павінны зрабіць, так, як зрабіў бы гэта ён сам – адзінае вернае, што можна прасіць у Бога. Чалавек – наогул стварэньне складанае. Ён здольны і ўзьняцца на духоўную вышыню, роўную самому яго Айцу, каб у выглядзе сына зьліцца зь ім, паўстаць твар у твар, і ён жа з’яўляецца прыладай, створанай, каб выконваць Боскую волю. У гэтым чалавек і вольны, і нявольны адначасова. Вольны па сваёй волі, калі ён ня мае разуменьня, і дабраахвотна нявольны, калі ён гэтае разуменьне атрымоўвае. Бо ж разам зь ім ён разумее, што найлепшае яму можа даць толькі сам Творца.

- Вы – баптысты? – запытала Вольга, выслухаўшы яго. – Ці можа, сьведкі Іеговы? Я ў гэтым дачыненьні адкрытая, і вы можаце казаць шчыра. Я сама, напрыклад, ня веру ў Бога, ці ў Багоў.

- Але ж вы верыце ў замовы. Летыцыя ўсьміхнулася.

- Таму што яны працуюць, і гэта пацьверджана гадамі. Стагоддзямі. Вольга ўпарта нахіліла галаву.

- Ведаеце, тое, што вы сказалі, гэта ўсё ня нашае. Гэты Бог, Іегова, ці хто там яшчэ, Саваоф, Яхве, Аданай, і гэтак далей, ён ня наш. Яго прыдумалі габрэі. А нашае, роднае – гэта фальклор. Ушанаваньне прыроды – дубоў, камянёў, вады, зямлі, неба. Праз гэта мы атрымоўваем сілу, і зьліваемся зь ёй – з прыродай.

- А навошта зь ёй зьлівацца? – пацікавіўся Міхась. – Чалавек – не камень, і не расьліна. Навошта мне, Марына, трэба зьлівацца, напрыклад, з дубам? Што ў ім такога каштоўнага для мяне, як для чалавека?

- Моц і веды. Марына паціснула плячыма. – Напрыклад, кажуць, што дуб лечыць і забірае хваробы. Калі немаўля прапіхнуць у дзірку, зробленую у дубе маланкай …

- Ніводнае немаўля такім чынам вылячыць яшчэ не ўдалося, я цябе ўпэўніваю. Міхась пакачаў галавой.

Абрад жа гэты прыназначаны, каб абмануць сьмерць, бо праз разлом у дрэве мы быццам бы трапляем на той сьвет, і хваробы і сьмерць спыняюць намі цікавіцца. Дубовае ж лісьце і сапраўды мае пэўныя лякуючыя якасьці. Імі лякуюць раны, хваробы горла, жывату. Усе гэтыя фальклорныя рэчы цікавыя толькі як гістарычныя факты, праяўленьні народнай фантазіі, творчасьці, назіральнасьці. Некаторыя з гэтых абрадаў карысныя, тыя, якія заснаваныя на назіраньні за прыроднымі якасьцямі, некаторыя шкодныя ці проста дзікія і сьмешныя, а некаторыя і наогул злачынныя. Так, і дубам і камяням маглі прыносіць чалавечыя і жывёльныя ахвяры. Што добрага ў тым, каб забіць чалавека на камяні ці пад дрэвам?

- Мяркуюць, што такім чынам гэты аб’ект прыроды накоплівае ў сабе моц, - паціснула Вольга плячамі.

- Якую? – запытаў яе Міхась. – Жах і боль расстаючагася з жыцьцём чалавека? І якія ж якасьці перададуцца тым, хто асноўвае свае абрады на ўшанаваньні такога сакральнага сімвала?

- Моц, сіла. Вольга, не разумеючы, глядзела на яго.

- Якая сіла? Сіла забіваць? – вочы Міхася раптам сталі цёмнымі, амаль чорнымі.

- Ну да. Бо ж чалавеку трэба бараніць сябе. Вольга з выклікам глянула на яго. – І пашыраць сваю жыцьцёвую прастору. Бо ж тэрыторыі заўсёды не хапае, калі народ абладае добрай пладавітасьцю і імпэтам.

- Калі ў чалавека ёсьць любоў да бліскага, яго бароніць Бог. А тых, хто дужа жадае пашырыць сваю жыцьцёвую прастору за кошт суседа, ня маючы пры гэтым ніякай вартасьці і здольнасьцей акрамя пладавітасьці і імпэту рухацца невядома куды невядома навошта, Бог нечакана для іх спыняе. І спыняе ён іх жорстка. Часта і рукою таго, за кошт каго і разгортваецца гэты імпэт. Бо ж не чалавек кіруе сусьветам, не дуб, не вада, не вагонь, не камень, не імпэт, і не нешта накшалт. Сусьветам кіруе Бог, бо ж ён яго стварыў, гэта забываць ня трэба. Мы ж, людзі, тут толькі вучымся, каб узьняцца да Яго. Мы – як дзеці, якія могуць быць паслухмянымі, ці не. А Бог – заўсёды добры настаўнік. Але ж ці скончым мы школу, і як – залежыць толькі ад нас саміх.

Міхась узьняў і прыгубіў кубак з празрыстай крышталёвай вадой. Летыцыя сядзела ціха, склаўшы рукі на каленях, аб нечым думала.

Вольга ж адчувала сябе разгубленай і абманутай. Чаму яна прыехала сюды? Каб размаўляць аб Боге? Адное з гэтага было карыснае, што яна нечакана сустрэла сваю былую саперніцу, ды што з гэтым рабіць, яна яшчэ не ўяўляла. І гэты мужчына, такі прыгожы, ёй дужа падабаўся. Яна разумела, што ў ёй прачынаецца жарсьць. Аднак яе напаўняла халоднае асэнсаваньне, што наўрад ці ён захоча яе. Яна не роўня гэтай дзеўке, хоць і дурной, і ня маючай ніякіх якасьцей, за якія яе можна было б паважаць, ды, падобна, яна цалкам яго задавальняе. Мужчыны такіх любяць – анучак пад нагамі. Авечак, зь якімі могуць рабіць, што хочуць. Гэтую “жаноцкую” прыгажосьць Вольга наогул не разумела. Жаноцкасьць раўно слабасьць, а слабасьць – агідная. Яна выклікае толькі пагарду, і

жаданьне зьдзекавацца. Вось такое іх сапраўднае каханьне – яно мае ў аснове дамініраваньне, жаданьне разбураць, падпарадкоўваць. Таму каханьне ёй наогул не патрэбнае. Падпарадкоўваць жа яна будзе сама, і ад гэтага атрымоўваць ня меньшую асалоду, чым мужчыны, якія лічаць, што сьвет створаны дзеля іх. Калі б яна была мужчынай, яна б таксама атрымала б асалоду, калі б згвалціла такую дуру. Яна б жадала ўбачыць яе ўніжанай, у крыві і сьлязах, а потым і проста паламанай выкінутай лялькай, якая бы апынулася на сьметніку, а яна, Вольга, заняла б яе месца. І сама ўзяла б гэтага прыгожага, моцнага мужчыну, падпарадкаваўшы сабе яго драпежную моц. Трымала б яго ля сябе, як прыручанага зьвяра.

Ганна, пэўна ж, ведае, як гэта зрабіць, - раптам прыйшло ёй на вум. – Яна будзе гаспадыняй у гэтым багатым доме, займе месца гэтай курыцы, якая наогул не разумее, які рэдкі і каштоўны чалавечы экзэмпляр ёй дастаўся. Усё думае і гаворыць аб сваім Боге. Паглядзім, як ён яе абароніць. Вольга ўнутране ўсьміхнулася.

- Дык вы лічаце, што замовы працуюць? – раптам вымавіла Летыцыя, якая дагэтуль маўчала.

- Канешне, - холадна адказала Вольга. – І гэтаму ёсьць шмат пацьверджаньняў.

- Добра. А як яны працуюць? Якім чынам? – Летыцыя ўзьняла на яе вочы – вялікія, шэрыя, быццам бы глыбокія восеньскія вазёры.

- Ну, з таго, што я ведаю, гэта – сімпатычаская магія. Роднасьць вібрацый. І яшчэ – воля. Голас Вольгі нагадваў голас дарослага, які размаўляў з дзіця. Гэтая дурніца зусім нічога ня ведае. І дзе яна жыла ўсё жыцьцё? Нават самыя цёмныя ведаюць пра базавыя законы эзатэрыкі.

Летыцыя кіўнула.

- Скажыце, а як вызначыць, чыя воля больш моцная? Таго, хто робіць замову, ці таго, на каго яна сьціраваная?

- Дужа проста. Вольга з пагардай глянула на яе. – Волю трэба разьвіваць, як і розум, і трэніраваць, як цяглы. Цяглы трэніраванага чалавека здольныя ўзьняць большы вес, чым таго, хто ніколі не хадзіў у зал.

- А калі чалавек, на якога ськіраваная замова, жыве не па сваёй волі, а суцэльна аддаецца волі Божай, якой ён захінуты? Летыцыя спакойна глядзела на яе, на яе прыгожым твары не з’явілася ніводнай эмоцыі.

- Бога няма. Я разумею, што вы ня згодныя са мной, але ж гэта так. Іегова – гэта абман. Казка для дурняў і рабоў, створаная габрэямі, каб падпарадкаваць сусьвет і пазбавіць нас, славянаў, сваёй волі. Калі ж мы ўспомнім, хто мы ёсьць, што мы самі можам вырашаць свой лёс, то мы ськінем гэтае ярмо, і наша воля набудзе небывалую моц. Такую, якая ў нас калісьці была, тысячы год таму, калі мы прыйшлі зь Гіпербарэі. І тады мы знойдзем сапраўдных сябе. А замовы і абрады – гэта сродкі для канцэнтрацыі сваёй волі на прадмеце свайго жаданьня. Так я гэта разумею. Асабліва калі выкарыстоўваць старую, родную інфармацыю, якая адгукаецца ў тваім ДНК. Тады дасягаць жадаемага і накіроўваць волю будуць дапамагаць усе твае продкі – твая плоць і кроў.

- Бог ёсьць, - ціха вымавіла Летыцыя. – Той жа, хто кажа, што яго няма, памыляецца, і сам стварае сабе пастку, трапіўшы ў якую, ніколі адтуль ня выбярэцца. Бо ён ідзе супраціў Бога – адзінага рэальнага, існуючага, і тым самым не атрымае нічога, і нават згубіць і тое, што ласкаю Божаю меў. Што ж датычыцца продкаў, то мы ня ведаем, хто быў нашымі прарадзіцелямі, і дзе і як вандравала нашая душа. Гэтыя веды ад нас сакрытыя. Аднак калі б мы маглі прабачыць праз гэтую завесу, мы б дужа зьдзіўіліся таму, як мы ўяўляем сябе, і кім мы, насамрэч, з’яўляемся. Аднак вы, Марына, правая, што тое, што нас прыцягвае, вызначаецца нашым срадством зь ім. Гэтую нашую абумоўленасьць нам самім пераадолець дужа цяжка. Толькі праз адкрыцьцё у сабе Божае іскры духа і даверыўшыся Яго рукам мы зможам знайсьці сябе сапраўдных, і пайсьці туды, куды і павінны рухацца чалавек – угару. Гэта азначае ня верх, а якасны рост. Набыцьцё новых прызнакаў, больш складаных і

вытанчаных, якія праяўляюцца праз глыбіню пачуцьцяў і эмоцый, разуменьня і здольнасьці набываць і выкарыстоўваць веды найлепшым духоўным чынам.

Калі хтосьці жадае рухацца кудысьці зь вялікім імпэтам, яму жадана ведаць, што, акрамя імпэту, ён туды прынясе. Бо ж шалёны рух у нікуды, проста дзеля таго, каб рушыць, ня маючы ніякай цэлі акрамя экспансіўнага росту, ня можа быць ні мэтай, ні апраўданьнем існаваньня цывілізацыі, ні яе вызначаючым фактарам наогул. Цывілізацыя вызначаецца якаснай, а не колькаснай ідэяй, і менавіта тая ідэя, якая перавагае ў якасьці для чалавецтва, будзе перамагаць у бойцы цывілізацый, так я мяркую. Прабачце, я ня ведаю, і не жадаю ведаць нічога, акрамя Бога. Бо ж ён дае мне ўсё, што толькі можна набыць у сьвеце – жыцьцё, мой уласны подых, маё каханьне. Што мне яшчэ болей патрэбна, каб даказаць для сябе Яго існаваньне? Бо ж Бог ёсьць Любоў, і нічога іньшага велічнее і прыўкрасьнее на сьвеце за гэта няма. Воля ж без любві – гэта атручаная страла, якая ўразіць перш за ўсё таго, хто яе паслаў.

Так ужо было шмат разоў, і Бог яўляў і яўляе нам сваю веліч кожнае імгненьне гісторыі. Усё створанае чалавекам распадаецца ў попел і прах, і толькі тое, што створана Богам, і ўгодна яму, застаецца. Кажуць, што, калі пазбавіць вачэй чалавека, які дагэтуль бачыў, ён працягвае бачыць сваімі вачыма духоўнымі, і ніколі перад ім не паўстане пустэча. У спазнаўшага ж Бога толькі ён напаўняе яго жыцьцё, і праз Бога існаваньне набывае сэнс.

Накіроўваючы ж сваю ўласную волю праз замовы і чараўніцтва, чалавек ніколі ня будзе шчасьлівы, бо ж ён ня ведае, што сапраўды прынясе яму шчасьце. Воля і веды – гэта розныя паняцьці, і воля бяз ведаў – мёртвая прылада, зброя, якая сячэ самого сваяго ўладальніка.

Таму не замовы трэба чытаць, а малітвы, бо ж іх складае той, хто жадае наблізіцца да Ўсявышняга, ці самому шчыра прасіць Бога, каб ён увайшоў у яго душу.

- Такім чынам, вы не раскажаце мне ніякія замовы, якія я б магла ўключыць у сваю кнігу? – удакладніла Вольга.

- Ці ж ты мала пачула ад нас, дзіця маё? – усьміхнуўся Міхась.

- А чаму вы называеце мяне дзіця? – Вольга адчула абурэньне. Гэта ўжо пачало яе раздражняць.

- Таму што па свайму розуму ты – дзіця. Міхась прама глядзеў на яе. Пад яго вачыма яна раптам адчула сябе аголенай.

- Пройдзе час, і ты асэнсуеш тое, што было сказана тут, і мной, і ёю. Бо ж яна – мая другая палавіна, маё сэрца, і подых маіх вуснаў. Тое, што кажа яна, кажу я, бо яна набыла моц казаць ад мяне маімі словамі.

- Прабачце, я не разумею. Вольга паглядзела на яго зьдзіўлена.

- Запытай Бога ў сваёй душы. Ён адкажа. Міхась спакойна глядзеў на яе. Усе маўчалі.

- Добра, так і зраблю. Дзякуй за размову, і за гасьціннасьць. Вольга ўзьнялася.

Яны падняліся, каб праводзіць госьцю, і хутка за ёй зачыніліся дзьверы веранды. Загудзела натужна рухаючыся, машына. Міхась і Летыцыя засталіся ў доме адны.

# Бездань

- Ты ўпала, і я ўзьняў цябе. Ты шукала і звала мяне, і я працягнуў табе руку. Я вызваліў цябе з аковаў сусьвету, якія спаліла маё сьвятло, і ланцугі рассыпаліся ў пыл. Сьвятло тваё я вызваліў, і прыцягнуў да сябе, і цемру тваю я пераўтварыў у сьвятло. Я стаў сонцам для цябе, а ты – жыцьцём для мяне, і подыхам. Бо сонца сьвеціць, каб аддаваць сваё сьвятло, і сэрца гарыць, каб аддаваць каханьне. Твая прага мяне адгукнулася каханьнем у маім сэрцы, і тваё сэрца запалала агнём любові ў адказ. Ты была суджана знайсьці мяне, бо ж я стварыў цябе, як і сьвятло і цемру, і ўвесь сусьвет. З акіяну хаосу я вызваліў цябе, і не было тых сілаў, што здолелі цябе ўтрымаць. Праз цябе я явіў ім сваю веліч, бо, самавольныя, яны згубілі веды, і ўверглі сусьвет у зло. У зле яны асуджаны заставацца да веку, пакуль я не зьнішчу ўсё, і не сатвару сьвет нанова. Цябе ж я вызваліў, і прыцягнуў да сябе, бо ты і ёсьць я, і мая душа, якая мне даражэй за ўсе скарбы гэтага сьвету. Няма той радасьці, што была б больш за радасьць твайго зьліцьця са мною, Сафія, любоў мая, каханая, якая вытрымала спакушэньні цемры, і адрадзілася ў маім сьвятле. Ты здолела захаваць у сабе сьвятло, і цемра не пагасіла яго. Ты здолела пранесьці сваё каханьне да мяне праз усе глыбіні бездані, у якой нават веды аб сьвятле пагасьлі. Колькі б не катавалі цябе, тваю душу і цела, ты памятавала, хто ты ёсьць, і дзе твой сапраўдны дом, дзе жаніх твой чакае цябе, бо ж я быў мужам тваім ад веку.

Яе галава ляжала на яго грудзях, і яго словы зьзялі вакол яе, як мяккае залатое сьвятло, якое вылечвала і яе душу, і цела, напаўняючы сабой кожную яго клетку, робячы яе чыстай, і годнай яго, яго нябёснай велічы, яго царства, якое паўставала вакол. Яго рукі абдымалі яе, прытулялі да сябе, калыхалі, быццам бы яна была дзіця, гладзілі яе цела пад тонкай тканінай, пяшчотныя, любячыя, напаўняючыя яе цяплом яго каханьня.

- У сьвеце няма нікога, акрамя нас, Сафія, сьвятло маёй душы, - вымавіў ён, цалуючы яе вочы.

- Толькі ты і я, і нашая любоў, палаючая сьвятлом у цемры.

- Я адчуваю цемру, каханы мой, - прашаптала яна. – Яна спакушае і цісьне мяне, але ж цяпер у мяне ёсьць тваё сьвятло. Няма тых прыладаў і зброі, якія б маглі пазбавіць мяне цябе, і загасіць тое святло, што гарыць у маім сэрцы, бо яно – маё. Волі сваёй я ня маю, і ня маю нічога ў гэтым сьвеце, акрамя цябе. Ты даў мне ўсё, і ты – усё для мяне, каханы. Я адчуваю твае вусны на сваіх вуснах, і твае рукі вакол, і мне так спакойна і радасна, як я не магла і ўявіць. Дзякуй табе, што ты прыйшоў, і вызваліў мяне, і прытуліў мяне да сябе. Праз цябе зьзяе цяпер маё сьвятло, якое разбурае цемру вакол. Цемра разлятаецца на кавалкі, і ты паўстаеш перада мной, моцны ў сваёй нябёснай велічы. Няма ведаў, акрамя цябе, і няма сьвятла па-за межамі твайго сьвятла. Усе ж, хто намагаюцца засланіць і зьнішчыць тваё сьвятло, будуць нізьвержаны, і ськінуты ў цемру, якая праглыне іх бяз рэштку. Бо ты – пераможца, Бог мой, жыцьцё маё і сьвятло маё, душа мая і каханьне, і цар сусьвету.

Ён пацалаваў яе, і яна адчула вагонь яго вуснаў, напаўняючы яе зьзяючым залатым сьвятлом, жыцьцём і радасьцю. Лікаваньне яе душы было бясконцым, бо яна была твар у твар зь ім, ахінутая яго любоўю.

- Я ведаю гэтую дзяўчыну, каханы, - вымавіла яна, прытуляючыся да яго. Ён трымаў яе ў абдымках, яны сядзелі на скураной канапе на другім паверсе. Праз адчыненые балконныя дзьверы быў бачны далёкі лес, над якім з крыкам праляцела жураўліная стая. Яе галава ляжала на яго плячы, і яна глядзела ў далёкае сіняе неба. Ён жа глядзеў на яе, гладзячы яе валасы.

Яе твар быў сьветлым і чыстым, позірк жа быццам бы адлюстроўваў сьвятло далёкіх зорак, народжанае ў сэрцы Бога.

- А хто гэта? – запытаў ён, кранаючы яе галаву вуснамі.

- Гэта – Вольга. Тая, пра каго гаварыў Алекс. Яна думала, што я яе не пазнаю. Назвалася іньшым іменем. Але ж я адразу пазнала яе, як толькі адкрыла дзьверы. Я ня ведала, што мне рабіць, адразу сказаць, што я пазнала яе, ці пачакаць, што скажа яна сама. Шчыра кажучы, я спачатку спугалася, аднак потым

падумала, што яна нічога мне тут ня зробіць. Было бачна, што і яна не чакала ўбачыць мяне, бо спачатку яна дужа зьбянтэжылася, але ж потым хутка ўзяла сябе ў рукі.

І тут, на шчасьце, падышоў ты.

- Як заўсёды, сваечасова. Ён усьміхнуўся. – Бо ж я бачыў, што пад’ехала нейкая машына, і вырашыў паглядзець, што за госьці. Жыцьцё навучыла быць асьцярожным, любая. Гэта ты мой нявінны анёлак, які жыве ў раі, створаным у тваім добрым сэрцы. Так, насамрэч, і трэба. А бараніць гэты твой рай буду я. Буду стаяць з вогненным мячом перад уваходам у яго. Бо ж я – Міхаіл, ты не забывай. Ён ізноў крануў вуснамі яе лоб.

- Цікава, што яна была ў Ганны. Навошта ёй гэта? – запытала Летыцыя.

- Такія людзі заўсёды прыцягваюцца адно да другога, любая, - вымавіў ён. – У іх шмат агульнага, і яны знаходзяць адно аднаго праз роднасьць цемры ў іх душах. Так жа, як і тыя, у кім гарыць сьвятло, адразу спазнаюць роднасную душу.

Пакуль яна сядзела тут, я вывучаў яе. У ёй шмат цемры, і божая іскра ўжо амаль згасла. Яна мігціць недзе глыбока пад пластамі змроку, ды адтуль, нажаль, ёй ужо не прабіцца на волю. Гэта затухаючы вагеньчык, які хутка згасьне зусім.

- Ці можа божая іскра згаснуць? – запытала яна яго.

- Складанае пытаньне, - задуменна адказаў ён. – І можа, і не. Рэшткі боскага сьвятла ёсьць усюды, аднак яны могуць быць настолькі шчыльна заточаны ў атачэньні цемры, што вызвалены яны будуць толькі праз поўнае зьнішчэньне сусьвету. Тады, аддзяліўшыся ад змроку, яны будуць аб’яднаныя і ўзьнятыя, хоць бы па сваёй вазе яны і нагадвалі маленькага пяшчотнага анёлка. Такім будзе канчатковае вызваленьне сьвятла – калі сьвет суцэльна спыніць сваё існаваньне. Нішто са сьвятла не можа быць зьнішчана цемрай, але ж па волі цемры яно можа пакутваць.

- А бывае так, што сьвятло вызваляецца з цемры праз

зьнішчэньне цела? Праз сьмерць? – вымавіла яна.

- Так бывае, калі памірае звычайны чалавек. Цела адыходзіць зямле, цемра – пеклу, а сьвет душы аддзяляецца ад цемры ў адхлані. Калі ж чалавек наўмысна пераўтварае сябе ў мага, які трэніруе волю, як казала Вольга, пасьля сьмерці ён можа затрымаць у сабе боскае сьвятло, якое адзінае з’яўляецца ўмовай існаваньня жыцьця, каб працягнуць існаваць, але ж ужо ў вобразе дземанскай істоты. Тыя істоты, якія з’яўляюцца паўшымі, маюць шмат боскага сьвятла, бо ж пры стварэньні яны мелі вялікую моц, аднак яно акружана неймаверна моцнымі слаямі цемры, якая не дазваляе ім узьняцца. Гэта яны зрабілі наўмысна, і некаторыя зь іх так тонка збалансаваны, што і цемры, і сьвятла ў іх амаль напалову. І такія паўшыя анёлы могут тварыць дабро, якое, аднак, заўсёды мае сваім вынікам зло. І зло, праз якое вынікае дабро. Такія анёлы ствараюць баланс сусьвету, і навошта яны патрэбныя, і які іх далейшы лёс, ведае толькі Бог. Напрыканцы вякоў і іх сутнасьць будзе ачышчана і разьдзелена, і тое, што належыць цемры, адыдзе змроку, які вернецца назад, у хаос. Тое, што хоча зрабіць Вольга – гэта пры жыцьці адправіцца ў пекла, каб набыць моц, уладу і кантроль створанага сусьвету.

- Аднак яна будзе страшэнна пакутваць! – з жахам вымавіла Летыцыя, гледзячы на яго.

- Яна ўжо пакутвае, любая. Бо ж яна прагне мяне, але ж праз свае грахі яна мяне ніколі не атрымае. Бо ж яна не жадае, каб гэтыя грахі былі прабачаны. Яе жаданьне мяне ўжо пякельнае, страшное. Яно жжэ яе душу, і яно ніколі ня будзе спатолена. Яна памірае ад голаду і смагі, і яе душа і цела знаходзяцца ў страшэнных пакутах. Яна будзе намагацца спатоліць свае жарсьці праз зло, але ж гэта – як тушыць вагонь палівам. Вады ж яна не атрымае, і жар будзе катаваць яе больш і больш. І так – бясконца. Яна пажадала мяне, як толькі пачула, што мы з табой разам. Бо ж яна таксама жадае і тваёй чысьціні і прыгажосьці, каб атрымаць асалоду ад іх зьнішчэньня. І гэтыя дзьве волі – зьнішчыць цябе і авалодаць мной – нясуць яе, як пякельныя чорныя коні. Нясуць у такія бездані пекла, аб якіх яна не здагадваецца. Яна марыць атрымаць там уладу і асалоду, а

таксама моц, каб падпарадкаваць мяне. Ён усьміхнуўся. Такой была памылка таго, каго клічуць Самавольным, ці Самаэлем. Ён жадаў набраць дастаткова моцы, каб пераўзыйсьці і пераадолець самога Творцу. Бо ж, створаны, ён ня ведаў ні сваіх межаў, ні яго бязьмежнасьці, бо гэта не магчыма асэнсаваць стварэньню. Як хутка б ты ня йшоў, Бог заўсёды на крок сьпераду, і толькі Шэкіна здольная суцэльна спазнаць яго, і зьліцца зь ім, бо Шэкіна, ці Сьвяты Дух, Сафія – гэта Душа Бога, адзіная зь ім сутнасьць, яго нябёсная супруга.

Вольга не разумее, что яе нечысьціня адштурхвае мяне, і мне агідныя яе грахі, праз якія паміж намі паўстае сьцяна, непераадольная, як цэлы сусьвет. І ў ёй няма і рэштку каханьня, каб спаліць гэтыя яе грахі, ці прызваць мяне.

Яна, дарэчы, разумее гэта, і таму асэнсавана абрала бок цемры. Можна сказаць, што яна – Самаэль у жаночым абліччы, перапоўнены зайдзрасьцю, хцівасьцю, прагай улады і ўсімі мярзотамі сусьвету, якія нельга і ўявіць.

Калісьці зьзяючы Лючыпар, ён цяпер суцэльна стаў Самаэлем - Самавольным, і яго сьвятло адышло ад яго з агідай.

Бог ня мог дазволіць, каб цемра ўтрымала такую вялікую моц сьвятла, і таму Сьвято па Божай волі ўвайшоў у чалавека, які быў узьняты ў гару да Айца праз Узьнясеньне і Ўваскрошаньне.

- Так Сатана – гэта суцэльнае Зло? – запытала яна, садрыгнуўшыся.

- Так, - вымавіў ён. – У ім болей не засталося сьвятла.

- Але ж тады ён – не жывы? – вымавіла Летыцыя. Яе вочы расшырыліся.

- Не жывы, каханая, - адказаў ён. – Згубіўшы сваё сьвятло, ён стаў нечым накшталт машыны, якая магутнай воляй створана для таго, каб тварыць зло. Творца, стварыўшы машыну, даўно сышоў, аднак яго тварэньне засталося – механічнае, ня маючае душы. І яно будзе намагацца ствараць сабе падобных. Цэльлю, закладзенай у механізм зла, зьяўляецца пазбаўленьне матэры

божай іскры, яе разадухаўленьне, ачышчэньне ад усяго духоўнага, суцэльная механічнасьць, пазбыцьцё сьвядомасьці і ведаў аб Богу.

Калі ж матэрыя канчаткова пераўтворыцца ў чыстае зло, яна страціць саму магчымасьць існаваньня, руху, і таму канчаткова загіне, і рухне ў хаос. Але ж перад гэтым у сваім апошнім намаганьні зьнішчыць сьвятло гэтая вялікая моц абрынецца на самога творцу. Спачатку ў бойку ўступяць арханёлы і эоны, а потым, напрыканцы яе, Бог яве сусьвету сваю веліч, і тады падзе вялікая завеса, якая адсячэ сьвет ад цемры. Тое, што на баку сьвету, адыдзе да Яго, тое ж, што ў цемры, трапіць у пякельнае возера. Такім будзе канчатковы лёс сусьвету, калі сьвятло, ачышчанае і ўзмацнённае поўным асэнсаваньнем Боскасьці, пераўтворанае ў суцэльнае Каханьне, будзе пазбаўлена ланцугоў, наложаных на яго Змрокам.

- Аднак пакуты тых, хто апынецца ў пекле, будуць жудаснымі. Летыцыя ўздрыгнула.

- Любая, у пекле не апынецца нікога з тых, хто можа пакутваць. Бо ж пакуты азначаюць, што душа прагне Бога. А ў пекле не застанецца нікога, маючага душу. Пекла будзе суцэльна механістычным. Мёртвым. Таму яно і такое страшное для жывой душы – бо ж гэта Смерць другая, якая наступае пасьля сьмерці цела. Канчатковае зьнішчэньне. Аднак міласьць Бога такая вялікая, што ён не пакіне ў пекле і самую малую рэштку сьвятла.

- Але ж пекла будзе суцэльна зьнішчана? – запытала яна. – Як месца? Як тое, што існуе?

- Ня маючы рэшткі боскага сьвятла пекла ня можа называцца існуючым. Як, насамрэч, не існуе і Самаэль. Існуе толькі тое, што жыва праз сьвятло Бога. У гэтым і ёсьць вялікая таямніца вызваленьня і перамогі над цемрай. Асэнсаваньне яе не-існаваньня. Сатана не існуе, але ж само тое, што ў яго верацЬ, і тым самым вызываюць яго да мнімага жыцьця, напаўняе сусьвет злом. Злом-ілюзіяй, якое не мае рэальнасьці, аднак здольнае трымаць сьвятло ў нечым накшталт сну. Калі ж сьвятло абуджаецца, яно асэнсоўвае, што ёсьць жывое, а што мёртвае.

Ганна і Вольга знаходзяцца ў сьне, верацць у сон, і ствараюць зло-сон вакол сябе. Тыя ж, хто ўжо абуджаны, ня могуць паснуць. Грэшнік жа, які знаходзіцца ў сьне, адчувае сябе пакутуючым.

- Такім чынам, той, хто дабравольна адмаўляецца ад Бога, і адсылае прэч божую іскру, спыняе існаваньне? Сам забівае сябе? – запытала яна яго.

- Той, хто зробіць менавіта так, насамрэч пераўтварыўся б ў суцэльны сон. Гэта – лёс тых, хто асэнсавана адмовіўся б ад Бога. Але ж, на шчасьце чалавека, гэта не магчыма. Нават тыя, хто лічыць сябе атэістамі, насамрэч ведаюць, што Бог існуе, толькі не жадаюць прызнаць гэта. Але ж тыя, хто служаць злу, і маюць веды, намерана ўтрымоўваюць у сябе рэшткі сьвятла, каб існаваць у зьле. Аднак тое сьвятло заўсёды прагне выйсьця і ірвецца да Бога. І, каб не даць яму вырвацца, яны служаць Самаэлю – машыне, якая генерыруе суцэльнае зло, але ж сама не з’яўляецца ні жывой, ні думаючай, ні маючай волі рабіць ці не рабіць нешта. Скажам так, яна проста ўключана і працуе, а каб яна не спынілася, тыя, хто на баку цемры, напітваюць яе праз свае злыя ўчынкі. Пры гэтым яны няспынна змагаюцца і самі з сабою, з той рэшткай сьвятла, якое ў іх яшчэ засталося. Гэта – лёс Вольгі, які яна сама абрала сябе. Нешта адбылося ў яе дзяцінстве, і зло ўвайшло ў яе. Так бывае. І таму, што яе веды былі дужа малымі і воля слабой, яна суцэльна падпала пад уладу Зла. Яе душа-іскра страшна пакутуе пад цяжарам цемры, якая яе стрымлівае. Але ж канчаткова будзе вызвалена і яна. У Бога няма ні часу, ні прасторы, і тое, што павінна адбыцца, у яго ўжо адбылося, таму ён не пакутуе ад таго, што у цемры засталіся яго іскры. Бо ён ведае, што яны будуць вызвалены. Аднак з кожнай зьвяртаючайся да яго іскрай расьце яго радасьць, якая, у сваю чаргу, мацней падпітвае тых, хто яшчэ змагаюцца. Бог – складанае адлюстраваньне асэнсаваньня ў асэнсаваньні, люстэрка ў люстэрку, мноства ў адзінстве і адзінства ва мностве. Як мы з табой – мы разам, і ў той жа час я – гэта я, а ты – гэта ты, і гэтае раздзяленьне памнажае нашую радасьць, любая.

Ён замаўчаў, і яна аддалася ласцы і пяшчоце яго цёплых рук.

Вакол не было нічога, акрамя сьвятла, і радасьці.

# Прыварот

- А што такое? Чаму ты вярнулася? Нешта здарылася?

Ганна зьдзіўлена глядзела на Вольгу, якая стаяла ў дзьвярах, схапіўшыся за касяк пабялеўшымі пальцамі.

Вочы Ганны некаторы час вывучалі яе, а потым яе зрачкі расшырыліся, стаўшы чорнымі, як правалы ў бездань. Здаецца, што за імгненьне яна ўбачыла нешта, што яе розум ня мог асэнсаваць, і гэта нешта напалохала і ўразіла яе, аднак потым яна мігнула, і яе зрачкі наадварот, звузіліся, як у кошкі, якая жмурыцца на сонца.

Вольга рашуча шагнула ў сенкі, хутка адкрыла сумку, выцягнула партманет, і палажыла на стол стодаляравую паперу. Потым падумала, і дастала яшчэ адну, такую ж.

- Прываражы мне яго! – хрыпла вымавіла яна, цьвёрда гледзячы прама Ганьне ў вочы.

- Каго?! – Ганна марудна апусьціла на пол вядро з позьняй гароднінай, якую яна назьбірала за час, пакуль Вольга адсутнічала, абцёрла рукі аб фартук, і павярнулася да яе.

- Яго. Гаспадара дома, куды ты мяне адправіла. Михаила. Приворожи мне Михаила. Я заплачу. Голас Вольгі набыў металёвую рашучасьць. – Вот. І яшчэ столькі будзе. Столькі дастаткова? За прываротны абрад? Яна замаўчала, і працягвала глядзець на Ганну, сьверлячы яе вачыма.

Тая стаяла, адкрыўшы рот, а потым раптам рассьмяялася. Спачатку нягромка, а затым – усё гучнее і гучнее, усё больш і больш па-вар'яцку, задыхаючыся, хапаючы ротам паветра. Ашчэрыла цёмныя, пагніўшыя зубы, вываліла ружовы язык, быццам бы яе душылі. Яе вочы звузіліся, шчокі прыгалі, платок споўз набок, ды яна гэтага не заўважала. Яе сьмех быццам бы быў прызначаны, каб абразіць Вольгу. Нешта ў ім было такое злавеснае, як у крумкачыным карканьні.

Адсьмяяўшыся, яна схапілася за бакі, аддышалася, выставіла наперад грудзі, быццам бы хацела рушыць да Вольгі, ды засталася стаяць на месцы.

- А ты ведаеш, хто ён? – вымавіла яна. Яе голас набыў нязвычайна жорсткія, металёвыя ноты. Раптам простая сялянская жанчына на вачах Вольгі пераўтварылася ў некага, каго яна і жанчынай магла б назваць з нацягам. Цяпер перад Вольгай стаяла набыўшая чалавечы воблік сіла, нешта ці нехта, нагадваючы віхур, надвігаючыйся на яе з паветра. Прастора вакол Ганны раптам пачала мяняцца, набыўшы выгляд гразавой хмары. Сіня-шэрыя аблокі, здаецца, клубіліся за яе плячыма, а ў іх білі белыя, ледзяныя маланкі. Менавіта так – не гарачыя, а халодныя, ад якіх на Вольгу дыхала холадам сьмерці.

- Ты ж была там, і сама яго бачыла. Нечакана наважэньне прайшло, і перад Вольгай ізноў стаяла важкая сялянская жанчына ў ватніку і ваўнянай хустцы па вочы, па-пірацку завязанай на затылке вузлом.

- Ты што, сьляпая? Ці дурная? А яшчэ замовы зьбіраеш. Ці ж вочы твае вываліліся па дарозе? Як я яго табе прываражу?

- За грошы. Вольга паціснула плячыма.

- Я думала, вы – вядзьмарка. Але ж цяпер бачу, што я памылялася. Вы – простая махлярка. І ўсе вашыя абрады і замовы, якія вы мне расказалі, поўная бязглузьдзіца, ня вартая ўвагі. Я вас правярала. І цяпер разумею, што далей траціць на вас мой час ня мае сэнсу. З гэтымі словамі яна акуратна злажыла сто даляраў назад у партманет.

- Таму вы і адмаўляецеся, што ніякага выніку з вашага так званага чараўніцтва не атрымаецца, і вы баіцеся, што я, можа, заяўлю на вас за вашае ашуканства.

Яна скончыла, але ж працягвала стаяць, і пільна глядзець на Ганну, якая таксама не сыходзіла зь месца.

- Ашуканства, кажаш? Махлярка? – Ганна шырока ўсьміхнулася.

- Тады чаму ты ўсё яшчэ тут? Што табе сказал пан Міхал такога, што ты прыляцела сюды, як драная кошка, якой хвост падсмалілі? Аж выгінаешся. Я ж бачу. Юр цябе адольвае. Хочаш яго, як кошка памойная. Зараз завурчыш, і на чатыры лапы станеш. І ўсё ж, прыйшла да мяне, хоць я і махлярка, і нанесла цябе лухты з паўвядра. Яна піхнула нагой вядро з пукамі пажаўцелага бацьвіньня, якое стаяла побач, адсоўваючы яго з дарогі.

- Сядай, дурніца. Пабалакаемо. Што ён табе расказаў, дарэчы? Ганна з шумам апусьцілася на стул.

Вольга, як пад гіпнозам, села насупраць.

- Нічога. Зусім нічога, - нарэшце вымавіла яна. – Гаварыў толькі аб боге. І гэта яго, з каторай ён жыве, Летыцыя – таксама. А хто яна яму, ня ведаеце? Вользе здалося, што яе пытаньне прагучэла натуральна, аднак яе голас самой ёй здаўся нейкім няўпэўненым, штучным, быццам бы яна намагалася схаваць ахапіўшае яе пачуцьцё зайздрасьці.

- Яна? О, гэта доўгая гісторыя. Ганна ўсьміхнулася. – Каб табе зразумець: калі табе жыць надаела, можаш нешта паспрабаваць ёй зрабіць. Ён ужо ня раз забіваў за яе, і цябе заб’е. Ты яго яшчэ ня ведаеш. Зь ім жарты благія.

- Забіваў? – Вольга ўзьняла на яе вочы. – Як, па-настаяшчаму? Калі?

- Ня тут і не цяпер. У мінулых жыцьцях. На яго руках столькі крыві, што хапіла б, каб гэтае возера запоўніць. Ён – зь мінулага. Ваўкалак. Старога княскага роду. Праз праклён чараўніком стаў, нават у пекла трапіў, ды яна яго вызваліла. Адмаліла, ці як яшчэ, я ня ведаю. Ён жа па ўсім сьвяце вандраваў, і зь кім толькі справы ня меў. Кажуць, навучылі яго габрэі такому, што нават і сівыя ваўхвы яшчэ больш сьсівелі б, калі б даведаліся. Кажуць, ён праз дрэва прайшоў. Ведаеш, што такое Дрэва? – раптам запытала яна.

Вольга пакачала галавой.

- Ёсьць у габрэяў адна таямніца, схаваная нават і сярод іх саміх. "Вызваленьне драконаў" называецца. Праз гэта ён некім накшталт Саламона стаў, так, што яму дземаны служылі, як сабакі. Але ж потым нешта зь ім здарылася, і ён ад усяго адмовіўся. Касьцёлы пачаў будаваць, Крыжу пахіліўся. Гэтую сваю дурніцу аднекуль прывёз. Яна ў манастыры жыла, у Гішпаніі. Ён стары ўжо быў, на шостым дзясятку, а ёй можа якіх пятнаццаць ці шаснаццаць год было, а выглядала і таго маладзей. Ды прыгожая была, сапраўды. Як лялька. За яе столькі рыцараў галовамі паплацілася. І біліся з-за яе між сабой, і ён некалькіх правучыў.

Так яны жылі пэўны час. Сына нарадзілі. А потым Вітаўт памёр, і яны ў Кракаў з'ехалі. Пражылі з год пры Ягайлавым двары, ды нешта справы з новым гаспадаром у яго ня клеіліся. Ворагаў ён сабе моцных набыў, зь літоўцаў. Ён жа хоць і высокага роду, але ж палукровак. Сам паўжыдак. Яго матка аднекуль з Італіі была родам, казалі, жыдоўка. Чорная, смуглая, але ж прыгожая, то праўда. Нарадзіла яго ад панскага конюха, ражаць да сябе з'ехала. Той усім маёнткам кіраваў, грошы меў, дружыну вялікую, ад пана засталася. А пан той страшной сьмерцю на паляваньні памёр.

Бацьку яго ўсе паважалі, бо ж той быў са старога ваўхаўскога роду. Крыве-крывейта. Чула пра такое?

- Нешта чула, - кіўнула Вольга. – Што яна вярзе? – падумалася ёй. – Напэўна, звар'яцела бабка.

Ганна ж працягнула:

- Ну дык вось. Калі яны назад, дамоў вярнуліся, то яму ўжо пад семдзясят было. Пастарэў, хоць і моцы яшчэ ня страціў, ды ўсё ж, гады сваё бяруць. Чараўніцтва ён закінуў, дземанаў адаслаў, усе праходы да іх у пекла пазачыняў, і толькі крыжу маліўся. Жыў, як звычайны чалавек. І памёр праз гэта. Атруцілі яе. Хто – ня ведаю. Дужа багатыя і ўплывовыя людзі. За тое, што загад іх адмовіўся выпаўняць. І хоць ён, мабыць, нешта і разумеў, бо ж хутка адсюль з'ехаў, у Жамойць яе павёз, да Нікіфара – быў там такі моцны чараўнік, стары воўхв, якіх болей і ў сьвеце не засталося, ды, бачна, не давёз. Адляцела яе душа адразу па

прыезду. А там ён такое выкінуў, што чуткі ды байкі па ўсяму краю потым пайшлі. Казалі, на касьцёр пахавальны жывым зь ёй на руках узышоў, і калі агонь запалілі, то людзі ў полымі белую птушку ўбачылі, і быццам бы жанчына ў старым убраньні, прыгожая, пакрытая, да яго сышла. Ахінула яго, і калі вагонь пагас, то ні яго не ўбачылі, ні яе. Зьніклі целы. Ну, людзі шмат чаго кажуць, ды ўсяму верыць нельга. Аднак што потым адбылося, я сваімі ўласнымі вачыма назірала. Замак яго праклятым стаў, бо ж ён зь ёй і ўсімі забітымі слугамі туды вярнуўся, і сталі яны жыць мёртвыя як жывыя. На конях ездзіць паляваць, баляваць, і іньшых мерцьвякоў да сябе запрашаць на свае пякельныя гульбішчы. А потым сын яго вярнуўся з жонкай з Італі – чысты д’ябал. Жонка гэтая яго сястра была, і дзяцей яны ў Італіі нарадзілі. Што потым было – ня ведаю. Памёрла. Людзі кажуць, усё тут пагарэла, пабурылі, што ў вайну, што так, праз божы гнеў, само прахам пайшло. А цяпер ён вярнуўся. На старое месца, дзе яго маёнтак праклятый стаяў. І вось, яе знайшоў і назад прывёз, да сябе. Жыдоўку гэтую гішпанскую.

- Яна не з Гішпаніі. Я зь ёй у школе вучылася. Але ж мянушка ў яе была жыдоўка, тое праўда. Мы яе нават білі некалькі разоў праз гэта, ды ў яе неяк зьбегчы атрымоўвалася. Так, за валасы пацягалі. Сукенку парвалі. Дзеці, што с нас узяць. Вольга засьмяялася.

- Таму – прабачце, але ж неяк ваш расказ гучыць … дзіўна, - падумаўшы крыху, вымавіла яна.

- Ня думайце, што я вам ня веру. У кожнага – свая праўда, скажам так. Аднак вы кажаце, што памёрлі, і ўсё астатняе… прабачце, але ж як гэта датычыцца да сучаснага. Я ведаю, што ёсьць тэорыя, згодна якой у кожнага з нас было шмат жыцьцяў, дужа папулярная ва ўсходніх рэлігіях. Можа, гэта і так. Аднак цяпер мы жывем тут і зараз. І маем адно, гэтае жыцьцё, у якім мы, прабачце, людзі, а не ваўкалакі і дземаны. Ці нехта яшчэ. Нейкія паганскія багі. Яна дзелана засьмяялася.

- Ну і дура, - коратка вымавіла Ганна, асекшы яе на паўслове.

- Гэта ты жывеш тут і зараз. А ён, як і я, і яна, жыдоўка, шлёндра праклятая, жывем усюды. І ва ўсіх жыцьцях, і на небе, і

на зямлі. Як ты чараваць сабралася, калі ты жывеш “тут і зараз” – передражніла яна Вольгу. – Каб чараваць, ведаў, накопленых за адно жыццё, ня хопіць і на аднаго самага паганага чорта. А ты хочаш дземанаў заклікаць. Багоў. З Сатаной знацца. Думаеш, я ня бачу? Я твае думкі ўсе даўно ўжо прачытала. Нічога там няма, акрамя лухты з інтэрнету. І што б я табе дала і сказала, каб ты, як сарока, разьнесла ўсё па сваіх блогах ды газетах? Кніжку яна піша. Ганна рассьмяялася. – Сапраўдныя, патаемныя веды ў кніжцы не прачытаеш. Гэта трэба рабіць, каб яно праз цябе ішло. Чарцей зь яіц чорнай курыцы гадаваць. У лес хадзіць як на працу, на могілкі. Паказваць сябе, што ты – вядзьмарка, каб да цябе сілы цягнуліся. А потым ужо з тымі, хто на цябе выйдзе, сяброўства вадзіць.

Ён жа, Міхась, насамрэч шмат ведае. Столькі, што ты і ўявіць ня можаш, і ніколі ня зможаш. Ды, нажаль, адрокся ён ад свайго чараўніцтва. А быў бы добры паплечнік. Выйшаў з цеху. Тьфу. Ганна сплюнула.

- Ён цяпер сябе некім накшталт Бога ўяўляе. Звар’яцеў. Зьмяшаліся ў яго і зямля, і неба. Тое, што ён можа, чалавеку ніводнаму не пад сілу. Адкуль гэта яму прыйшло, я ня ведаю. Не хачу нават і лезьці туды. Ды здаецца мне, што было то даўно, дужа даўно, недзе на Ўсходзе, у Палесьціне. Там ён яе і сустрэў. А можа, і раней то было. Толькі яны і праўда ад веку зьвязаны. У яго ўсе яго жыцьці цяпер як адно. І ў яе таксама.

- Яна заўсёды дуркаватая была. Шызафрынічка. Вольга паціснула плячыма. – Прыдумляла сабе невядома што. Сяброў у яе не было, толькі кніжкі чытала. І яшчэ ў касьцёл хадзіла, але ж потым кінула. Нешта там у яе з ксяндзом адбылося. Раптам Вольга кпліва засьмяялася.

- Яна з маленства такая. Мой сябар у яе дома быў, дык казаў, што ў яе пакой – як у манашкі, а над ложкам Ісус вісіт. - Пан Езус, - крыўляючыся, вымавіла яна. – Толькі той Езус болей на д’ябла падобны. Чорны барадаты мужык. Раптам яна спынілася, быццам бы ёй нешта трапіла ў горла.

- Чорны … барадаты… . Вольга з жахам вытарапіла вочы на Ганну.

Тая, усьміхаючыся, глядзела на яе.

- Я ж табе казала, а ты мяне ня чула. Як я яго табе прываражу? Ці ты не разумееш, хто ён?

- Езус? – нарэшце вымавіла Вольга. Яна нярвова засьмяялася.

– Бог? … Д'ябал? Прабачце, але ж гэта не магчыма. Аднак, такое супадзеньне. Пасьля таго, як Серж яе кінуў, яна ўвесь час казала, што ёй ніхто болей не патрэбны, бо ў яе ёсьць нехта, хто да яе прыходзіць, і яна верыць, што гэта сам Бог. Вольга крыва ўсьміхнулася. – І што ён яе абароніць ад усіх, і яна нікога не баіцца, бо сам Пан яе захінае.

Праўда, потым гэты Алекс з'явіўся. І яшчэ шмат хто. Яна зарагатала.

- Так што Бог быў адсунуты некуды далёка, на задні плян. І усё ж, тое, што адбылося, дзіўна. І супадзеньні гэтыя, і сустрэчы.

Аднак, давайце, Ганна, жыць рэальнасьцю, - нарэшце вымавіла яна. – Скажыце, ці можна ўсё ж прываражыць гэтага чалавека? Калі вы ня ведаеце як, я сама знайду сродак.

- Я – ведаю. Аднак табе ня раю. А сродак – пашукай. Толькі баюся, жыцьцё пройдзе тваё, кароткае, пакуль ты нешта знойдзеш.

- Вы мяне ня ведаеце. Я заўсёды дабіваюся таго, чаго хачу. Вольга ссунула бровы. – І яшчэ, я хачу вучыцца. У вас. Усяму, што можаце вы. Па-сапраўднаму, без лухты і штукарства. Я буду плаціць грошы. Пакуль у мяне ня шмат, аднак нешта ёсьць. Я бачу, што вы жывеце небагата, таму падумайце.

- Ведзьма ня вучыць за грошы. Ганна памаўчала. – Але ж, вазьму я цябе. Прыязжай. Памочніца мне і сапраўды патрэбная. Навучу таму, што сама ведаю, і перадам нешта. Што ж датычыцца яго і яе, тут асьцярожна трэба. Напрамую ты на яго ня зможаш уздзейнічаць, аднак хто ведае, як павернецца лёс. Паглядзім, хто мацней, яго Бог, ці нашае майстэрства. Раптам яна драпежна ўсьміхнулася на ўвесь паўпусты рот.

# Узвышаньне

Яна прачнулася ад яго пацалункаў. Яго вусны легка кранալі яе цела, лашчачы, асыпаючыся пялёсткамі на грудзі, рукі, плечы. Яна ня ведала, што мужчына можа быть такім пяшчотным, што яго дакрананьні могуць быць напоўнены такой любоўю. Яны быццам бы ачышчалі, вылечвалі яе - і цела, і душу.

Прыкрыўшы вейки, яна аддавалася яго ласкам, пяшчоце яго дакрананьняў, адчуваючы яго вусны на сваіх сасках, подых яго апальваў яе шыю. У нізе яе ўлоньня, унутры, усё сьціснулася, быццам бы ад захапленьня, зьмешанага са страхам, ад прадчуваньня нечага, што яе ўносіла кудысьці, ад жаданьня, якое было быццам бы неакрэсьленым, адначасова і пугаючым, і прыцягваючым. Гэты міг перад зьліцьцём зь ім заўсёды яе крыху палохаў. З Алексам такога не было, хоць ён, наадварот, зусім ня быў пяшчотным. Моцна сьціскваў яе цела, расьпінаючы яе пад сабою, і яго вусны груба ўпіваліся ў яе, пакідаючы сінія адмеціны. Ён, здавалася, наўмысна рабіў гэта, пакрываючы яе сваімі знакамі, усім бачнымі, меткамі сваёй улады над ёй. Для яго яна была прыгожай сексуальнай лялькай, гераіняй парнафільмаў, якая раптам сышла да яго з экрану. Ён мог абразіць яе, нават ударыць, дэманструючы сваю ўладу, называў яе бруднымі словамі, пераварочваў і браў яе ззаду ўсялякімі рознымі спосабамі аб якіх яна і ўспамінаць не хацела, ці ставіў яе на калені і вымушаў рабіць тое, што потым зрабілі зь ёй тыя два, якія, шчыра кажучы, мала чым адрозьніваліся ад яго. Толькі што ён яе ня рэзаў. Але ўсё ж, ён яе кахаў, па-свойму, як мог, ды палучыць задавальненьне ад бліскасьці мог толькі праз гвалт. Каханкам ён быў умелым, ведаў, як узрушыць яе цела, узьняць ў ім жаданьне. Толькі гэтае жаданьне, якое ён абуджаў у ёй, было нячыстым, няправільным. Яна пачала жадаць яго грубасьці, болю, яго абразы ўзрушвалі яе, і, адчуваючы, як яе ўлоньне становіцца вільготным, ён зняважаў яе яшчэ больш, называў яе шлюхай, бруднай, юрлівай дзеўкай - напэўна, таму што сам хацеў яе такой бачыць, думалася ёй. Пасьля такога каханьня ёй часта хацелася забіць сябе, прыкра было глядзецца ў люстэрка, і нават заставацца сам-насам з сабой. Яна стала

думаць, што гвалт і скажоныя формы палучэньня задавальненьня - гэта менавіта тое, што мужчына жадае ад жанчыны, што секс - гэта прыніжэньне і дамініраваньне, калі яе ўтаптваюць у бруд, пераўтвараючы ў нешта, горшае за жывёлу, механічнае, нежывое. Так, Алекс быў прыгожым, моцным, атлетычным, і ён ня быў раўнадушным. Ён любіў з'яўляцца зь ёй на людзях і паказваць сваім сябрам, ды нікога да яе не падпускаў, хоць пры гэтым і насалоджваючыся іх юрлівымі позіркамі. А потым ізноў ледзь мог дацярпець да таго, каб застацца зь ёй сам-насам, і тады яна пераўтваралася для яго ў гумавую ляльку, зь якой можна рабіць усё, што толькі прыйдзе ў галаву - а фантазія ў яго была багатая. Яго заводзіў кантраст паміж яе юнасьцю і прыгажосьцю, чыстым харазтвом, нявінным воблікам прынцэсы з доўгімі валасамі і сумнымі вялікімі вачыма і тым грубым, вульгарным, распусным, што ён зь ёй рабіў, насалоджваючыся тым, як гінула яе нявіннасьць, як паламаная кветка ў сьнезе, быццам бы растаптаная ружа, па якой прайшліся бруднымі ботамі. Гэта часам палохала і яго самога, але ж ён тут жа сам абвінавачваў яе - яна гэтага жадала, і сама вымушала яго рабіць зь ёй гэта.

З Міхасём жа ўсё было ня так. Ён беражна дакранаўся да яе, быццам яна была маленькім птушанём, асьцярожна, мякка лашчыў яе цела, ад якога ён атрымліваў асалоду эстэта, мастака, які бачыў перад сабой шэдэўр, створаны Богам.

Яна са зьдзіўленьнем зразумела, што плоцкае каханьне існуе не каб прыніжаць, а каб узносіць да ўзроўню абагаўленьня. Яе цела было для яго сьвятым, бо яно было працягам яе душы, і гэта душу яе, а ня цела ён кранаў вуснамі і трымаў у абдымках. Яна была прыгожай і жаданнай для яго не таму, што яе жадалі іньшыя, а таму, што ён яе кахаў - такую, якая яна была сапраўдная. Ён не жадаў бачыць яе распуснай, юрлівай дзеўкай, якой яна ніколі і не была, узьнімаючы яе, а не прыніжаючы, прымаючы яе на тым узроўні духу і сьвятасьці, на якім знаходзіўся ён сам. Яго каханьне было бясконцай месай, служэньнем, у якім яе кроў і плоць станавіліся Яго крывёю і плоцьцю, у якім яна была сьвятой, Голубем, Шэкінай, яго Сьвятым духам і душою, якая прымала яго праз яго вялікую сьціпласьць, калі ён умаляўся да яе, а яна, наадварот,

ўзвышалася да яго, бо ж так, у плоці, запаведаў кахаць Еву Адаму Бог, адлюстроўваючы высокае нябёснае каханьне душы.

Ён столькі ведаў, і меў такую страшную моц і цела і духа, што толькі знаходзіцца побач зь ім выклікала страх. Аднак гэта быў ня страх шкоды, зьнявагі, болю ці агіды. Гэта быў страх сьвяты, нешта, ува што пераўтвараецца лікаваньне, ушанаваньне на піку эмоцый, ураженьне ад велічы і каханьня такога высокага, што яно пазбаўляе нават і словаў, пакідаючы душу залітай сьлязамі радасьці.

Алекс мог браць яе так, як хацеў - і сьпераду і ззаду, і ніякага страху перад ім яна не адчувала.

Але ж калі Ён сьхіляўся над ёй, кранаў яе вуснамі, спачатку мякка, а потым усё больш і больш горача, і яна чула яго словы каханьня, быццам бы Песнь Песьняў, а потым усё больш гарачыя, запячатваючыя яе, як пацалункі яго вуснаў, калі ён шаптаў "дзяўчынка мая, каханая, кветачка мая, анёлак мой, красуня мая нябёсная, жыцьцё маё" і яго рука кранала яе там, пакрываючыся яе вільгацьцю, асьцярожна раскрываючы яе, у яе заходзілася сэрца. - Якая ты маленькая, я баюся паламаць цябе, - ціха вымавіў ён, цалуючы яе ўпершыню. І калі яго жарсьць дасягнула свайго піка, і ён ня мог болей трымацца, адчуваючы, што яна хоча яго так жа, як і ён яе, яна пачула яго словы: "Пацярпі мяне, дзяўчынка мая, прашу цябе. Я буду асьцярожным ... пацярпі, так жадаю цябе... ", і яго плоць увайшла ў яе, яна ўскрыкнула, адчуўшы разам з жаданьнем рэзкі боль, калі ён рассунуў яе ўлоньне, плотна сьціснуўшаеся ад нечага, ад чаго калацілася, як шалёнае, яе сэрца. - Якая ты маленькая ... пачула яна яго словы. – Пацярпі... каханая мая. Яго вусны пакрывалі пацалункамі яе твар, шыю, а плоць уваходзіла ў яе, раскрываючы яе так, як ніхто і ніколі. І калі ён увайшоў у яе поўнасьцю, разам з болем яна адчула такую асалоду, што ў яе закружылася галава. Ён рухаўся ў ёй - моцна, глыбока, запаўняючы сабой яе цела, і яна зразумела, што, калі б гэты мужчына ня стрымліваў сябе, ён бы забіў яе сваім каханьнем. Яго твар, напружаныя цяглы, валасы, і барада, якія кранали яе скуру, яго подых, цяжкі, глыбокі і тое, як гучэла яго жарсьць нагадвалі ёй гукі акіяна ці глухое рычаньне вялікага

зьвяра ў лясных нетрах. Ён не прыніжаў і не абражаў яе, каб дамініраваць. Ён валодаў ёю так, як ніхто і ніколі. Яна ўскрыквала і ўздрыгвала пад ім, таяла ў яго руках, вялікіх і пяшчотных, прымаючы яе цяжкое цела. Так узяць мог толькі Бог, які ўваходзіў у яе ў дзяцінстве ў снах - глыбока, поўна, узьнімаючы яе на нябёсы. І раптам яна зразумела хто ён, і спазнала яго. Ён гладзіў яе твар. Здаецца, яна страціла прытомнасьць, выйшла некуды зь цела, зьлілася зь ім там у месцы па-за разуменьнем, дзе яны былі такімі высокімі душамі, што асэнсаваць гэта на зямлі было не магчыма.

Яго вусны цалавалі яе. Яна адкрыла вочы.

- Што ты, маленькая? Што ты? - шаптаў ён. - Дзевачка мая… што з табой? Ён гладзіў яе твар, прытуліў яе да сябе. Яго рукі асьцярожна краналі яе скуру. - Страціла прытомнасьць? Маленькая мая ... я ж стараўся цішэй. Табе не было балюча? - запытаў ён яе, цалуючы яе твар.

- Мне было так хораша, што я некуды трапіла ... напэўна, мая душа апынулася ў раі ... прашапала яна, прыціскаючыся да яго, адчуваючы яго бараду ля сваёй шчакі. Ён ляжаў, абдымаючы яе, шэпчучы ёй словы каханьня і нешта такое, ад чаго ў яе заходзілася сэрца. А потым узяў яе яшчэ і яшчэ раз, пакуль яна не перапоўнілася ім бязьмежна, быццам бы плаваючы ў акіяне. І тады яна зразумела ўсё і ўспомніла ўсё. Ён узяў яе, і яна нарадзіла яго, карміла яго, насіла ў сваім улоньні, ішла за ім і выцірала яго мокры ад крыві твар, сядзела ў ног яго і амывала іх, слухала яго і сьледвала за ім і ўзышла зь ім на нябёсы, і ізноў сышла разам зь ім рука ў руцэ, раз'ядналася не раз'ядноўваючыся і сустрэлася зь ім ізноў, пазнаўшы яго ў дзяцінстве, прыняўшы яго ў сваё дзіцячае цела і душу. Цяпер жа ён знайшоў яе, учалавечыўшыся, і яна была ў яго нябёсным царстве адвечна на яго каленях як Шхіна, сьвяты дух, жыцьцё, якое выходзіла зь яго вуснаў.

Яны ізноў былі разам, і ўжо - назаўсёды. Не было такой моцы ў сьвеце каб іх раз'яднаць. Нешта вакол пачало мяняцца - Бог сышоў у сьвет, і цяпер яна, яго Сафія, была зь ім побач.

# Справы начныя, пагостныя

Пад вечар прыехала машына з кур’ерам – прывезла заказы. Хлопец, крэхцячы, прыцягнуў і пакінуў на парозе вялікую каробку, поўную ўсялякае ўсячыны. Яна расплацілася карткай, а потым апусьцілася на кукішкі, і разрэзала канцэлярскім нажом клейкую ленту. У каробцы было поўна ўсяго, акуратна раскладзенага і абгорнутага ў пузырчатую пленку, картон і крафтавую паперу пергаментнага колеру.

Па чарзе стала даставаць і расстаўляць на ганку здабытыя скарбы: некалькі гелей для душа – мужчынскіх і жаночых, дзьве вялікія бутэлькі апаласківацеля, жыдкі пральны сродак, сродкі для мыцьця посуду, губкі, сурвэткі для шкла і паверхней, вазачка з чорнага матавага шклу ў выглядзе банкі з-пад варэньня, з бліскучай залатой этыкеткай – спадабалася, не магла ўтрымацца, зубная паста, шчоткі, некалькі банак з касьметыкай, і некалькі таўстых кнігаў – у багатай вокладцы, шчыльна зацягнутых у плёнку, праз плёнку адчуваецца шурпатая паверхня тканіны, выпуклыя залатыя літары. Яна замёрла ад захапленьня, гладзячы рукой вокладку. Яшчэ ўнізе стаяла маленькая каробачка, плотна ўкручаная – бутылёк з парфюмай. Гэта яна адкрые ўжо дома.

- А што гэта тут мой анёлак такое робіць? Ого. Гляжу, паведамленьне прыляцела, на такую сумму, што ледзь мову не адняло.

Яна разгублена ўзьняла на яго вочы.

- Гэта ўсё трэба! Усё неабходнае, для дома.

- Канешне, канешне. Ён усьміхнуўся. – Што ты тут накупіла? Давай, дапамагу. Ён саставіў назад у каробку бытавую хімію.

– А кніг сколькі! – зьдзівіўся.

- Гэта што ж ты чытаць такое зьбіраешся, сонейка?

- Каббала! – сур’ёзна вымавіла яна, гледзячы яму ў вочы. Яе тварык меў высокі, натхнёны выраз. Доўгія пушыстыя вейкі пару раз маргнулі. Скура на шчоках мякка блішчэла, ружовыя вусны, вільготныя, так і прасілі пацалаваць іх.

- Ах, каббала! … - працягнуў ён. І раптам усьміхнуўся.

- А што ты так зацікавілася?

- Я даўно цікаўлюся. Толькі я з ноўтбука чытаць не люблю. Я люблю на паперы. Яна стаяла, прыціснуўшы да грудзей пару кнігаў, і каробачку з парфюмай.

- А ў каробачцы, напэўна, хатні геній, які прылагаецца да кніг у якасьці практычнага заданьня. Ён усьміхнуўся ізноў.

- Там парфюма. Яна апусьціла вочы.

- Ну і добра. Ён пацалаваў яе. – Толькі наступны раз калі будзеш заказваць, ты мне кажы, што ты зьбіраешся пакупаць. Усё, што захочаш, я табе куплю. Але ж я павінен ведаць. Разумееш? Нічога залішняга ты не купіла, я б табе і болей грошаў даў. І на каббалу даў бы, і яшчэ на што небудзь.

- Пайшлі ў хату, золатка. Ён абняў яе вольнай рукой. Яна прыціснула да грудзей кнігі і парфюму, трымала нават падбародкам. Ён адчуваў сябе і бацькай, які назірае, як дачка разгортвае падарункі пад елкай, і дзедам марозам, які гэтыя падарункі нібыта туды паклаў. Складанае адчуваньне. Зь ёй у яго аськетычнае жыцьцё быццам бы ўварвалася струя сьвежага паветра. Быццам бы вярнулася маладосьць. Прыйшла да яго, сталага, стала на парозе, усьміхнулася ружовымі вуснамі, і вымавіла:

- Цяпер я тут буду з табой жыць!

- Жыві, радасьць мая! Бо ж я і ня жыў без цябе, а існаваў. У думках ён працягнуў ёй руку.

Яны расставілі бутэлькі па месцах, аднесьлі пральныя сродкі ў кладоўку, і вярнуліся да кніг, якія ляжалі на стале.

- “Каббала” Артур Эдвар Уэйт – было напісана на вокладцы. І другая: “Разоблаченная каббала” Макгрегор Мазер.

- Эх, ключы Саламона забылі палажыць. Ён усьміхнуўся.

- А што гэта такое? – яна ўзьняла на яго вочы.

- Гэта, золатка, тое, што табе ведаць наогул ня трэба. Я табе потым распавяду. Калі цікава, паглядзі ў інтэрнеце “Шэмхамфораш”. Толькі калі кнігі захочаш якія купіць, ты мне пакажы. А пра каббалу я табе і так распавем. Усё, што хочаш. Вось работу скончу, і будзе у нас вольны час.

- А скора? – нецярпліва запытала яна. – Мне дужа цікава! Мне здаецца, у каббале схаваныя самыя сапраўдныя веды!

- Самыя сапраўдныя веды схаваныя ў тваім сэрцы, сонейка. Ён пацалаваў яе. – Ты і так усё ведаеш. Гэта ня ты павінна вывучаць каббалу, а каббала – цябе. Яна ахапіла яго за шыю. Ён абняў яе, і мякка крануў ружовыя вусны. Нарэшце. А тое каббала нейкая. Ён усьміхнуўся.

- Чаму ты ўсьміхаешся? – заклапочана вымавіла яна. – Я сьмешная?

- Ты – самая прыгожая ў сьвеце, - вымавіў ён, гледзячы на яе.

- А што за парфюма? Адкрывай, хваліся.

Яна ўжо пасьпела садраць плёнку. Адкрыла каробачку, у якой стаяла невялікая вузкая бутэлечка чорнага колеру з доўгай крышкай.

- Чорная архідэя! Том Форд, - вымавіла яна з гордасьцю, працягваючы яму флакон. Ён адкрыў крышачку, і ўдыхнуў пах, які адразу паліўся з горлышка. Усё вакол быццам бы завалакло залацістым густым воблакам, мяккім, пушыстым, і аксамітным, як цемра, - чамусьці падумалася яму. І ў гэтай цемры плавалі залатыя іскаркі.

- Ведзьмаўскі водар! – вымавіў ён, і працягнуў ёй флакон.

- Табе не падабаецца? – вымавіла яна засмучана.

- Мне дужа падабаецца! – суцешыў ён яе. – Калі табе не падабаецца, як я сказаў, то скажу па-іньшаму:

- Гэта водар Бога. Так пахла Ева пасьля таго, як пакаштавала яблыка – спакусьліва і духмяна. І ў той жа час – нябёсным, райскім водарам. Яна задаволена націснула на залацістае горлышка, зь якога выляцела маленькае воблачка, і пасела на яе тонкае запясьце. Яна памахала рукой, і на іх быццам бы апусьціўся зьзяючы залаты вэлюм. Ён узьняў яе руку, і ўдыхнуў пах. Прыціснуў да сваёй шчакі, і марудна правёў па ёй.

- Цяпер ты будзеш пахнуць так жа, як і я! – вымавіла яна задаволена.

- Я і так пахну, як ты, золатка. Пахну нашым каханьнем. Яго рукі абнялі яе, і губы накрылі яе губы. Ён цалаваў яе доўга, прагна, рассоўваючы яе вусны, напаўняючыся ёю, яе водарам, яе смакам, яе зьзяючым залатым сьвятлом, цёплым і мяккім, якое лілося на яго зь яе сэрца. Болей нікога ў сьвеце не было вакол – толькі ён, і яна.

Ноч апусьцілася – ціхая восеньская ноч. Крыху злавесная, крыху таямнічая. І цёмная, як пякельная смала. Паветра хутка астыла, і стала халодным, амаль ледзяным. У сьвятле за вакном ледзь падрыгвала лісьце на дрэве, старой рабіне-чорнаплодке, якая стукала галінамі ў шыбу. Сакавітыя ягады былі бачныя ў сьвятле, ліючымся праз шкло, але ж далей іх суцэльна праглынаў змрок.

Ганна з Вольгай сядзелі за сталом на вярандзе, якая цяпер здавалася ўтульным і цёплым маленькім астраўком пасярод стылай цемры. Печка ўжо дагарэла, і Ганна закрыла заслонку, каб не выходзіла цяпло. На стале мякка гарэла белае полымя сьвячы, раз-пораз копцячы і патрэскваючы.

- Пара, - нарэшце вымавіла Ганна. – Да поўначы як раз будзем. І задула сьвячу.

- А куды мы зараз? – вымавіла Вольга, запытальна гледзячы на

яе.

- Як куды? На пагост! – адказала Ганна, нацягнуўшы на бровы хустку. Устала, і ўзяла нешта з палічкі.

- Трымай! – яна, і Вольга злавіла нешта, што здалося ёй кавалкам анучкі.

- Што гэта? – запытала яна зьдзіўлена, круцячы кавалак тканіны ў руках.

- Як што? Хустка. А што гэта можа быць? – Ганна зарагатала, а потым сур’ёзна глянула на яе.

- Кумпалку прыкрый. А то мне з табой потым валандацца. Начапляеш усялякае дрэні на сябе. А на хустку так не глядзі – яна замоўленая, бывалая. У якіх толькі справах не пабывала – вой-вой! Ганна быццам бы нешта ўспомніла, усьміхнулася.

Вольга няўмела павязала на сябе навобмацак хустку – люстэрка на верандзе не было. Глянула на Ганну.

- Ну, как? Як вам?

- Мне – ніяк. А табе – дык і зусім нічога. Ганна падышла, і паправіла хусьціну, нацягнуўшы яе Вользе глыбей на вочы. Заправіла за вушы.

- Вось цяпер – самае тое. Яна, прыжмурыўшыся, агледзела калегу па цэху.

- Сапраўдная вядзьмарка! На пяць балаў! – вымавіла яна задаволена. – Пайшлі, а тое пагост чакаць ня будзе. Да апоўначы не пасьпеем, потым хрэн трапім унутр – гаспадар ня пусьціць.

- Які гаспадар? Стораж? Ці пагост камусьці належыць? – запытала Вольга па журналісцкай звычцы ўсё удакладняць.

- Належыць – Сатане і чарцям! – Ганна зарагатала. – А яшчэ – гаспадару могілак. І гаспадыне. Яны – пякельнікі, духі, якія трымаюць пагостнае месца. І праз іх яшчэ прайсьці трэба. Мы ім

дары панясем. Яна памахала перад носам Вольгі невялікім мяшочкам.

- А што там? – запытала Вольга.

- Гаспадыне – канфеты, а гаспадару – чакушка. Паставім пры ўваходзе, і пройдзем праз вароты. Нікога там няма, з жывых, ты ня бойся. Ніхто нас ня ўбачыць і не перашкодзіць.

- А што мы там будзем рабіць? – Вольга хацела дакладна ведаць праграму мерапрыемства, якое намячалася на апоўнач.

- Мы? Знаёміцца. Я цябе прадстаўлю. А потым аднаму абраду навучу. Каб порчу зь сябе на магілу перакідваць. Ганна падміргнула зьбялеўшай Вользе, якая напалохана глядзела на яе.

- Якую порчу? – не разумеючы, вымавіла тая.

- Тую, якую ты на сябе за жыцьцё начапляла. Пачысьціць цябе трэба. І яшчэ нешта трэба. Мне тут заказ зрабілі. Ты пастаіш, і пакуль што паглядзіш. А я адработаю. Пайшлі, няма часу, апоўнач скора. Ганна накінула сьцёганку, і адкрыла дзьверы. Вольга шагнула за парог першая – у цемру, якая раптам стала суцэльнай, калі Ганна выключыла ў сенках сьвятло. Холад і ноч раптам наваліліся на яе, ахапілі, быццам бы абдымкі нябожчыка, які, пэўна, чакаў яе ў цемры могілак.

- Што, баішся? – запытала Ганна радасна, як здалося Вользе.

- Так, крыху. Вольга пацiснула плячыма.

- Ня бойся. Яшчэ і ня тое будзе! – суцешыла яе Ганна, і рашуча, быццам бы бачыла ў змроку, пакрочыла па сьцяжынцы наперад.

Яны прайшлі праміж градак, мінавалі поле, групку кустоўя, перабраліся цераз невялікую балачку-нізінку, і апынуліся перад крывым, пакасіўшыся заборам.

- А дзе калітка? – запытала Вольга. – Гэта і ёсьць уваход?

- Я што табе, каза, праз забор скочыць? Канешне, ёсьць уваход.

Пачакай. Ганна пашарыла рукой, і адсунула падгніўшую дошку.

- Лезь! – горда вымавіла яна.

- Куды? – зьдзівілася Вольга.

- Уніз. У дзірку, - вымавіла Ганна, і рашуча рассунула бур’ян.

- Вароты закрытыя. І я праз іх ніколі не хажу. У мяне свой спосаб.

- А можа, вы першая? – Вольга павяла плячыма.

- Вой, якая ты … гарадская. Ганна грэбліва хмыкнула, стала на карачкі, і ўціснулася ў пралом ў агароджы. Вольга, нахінуўшыся, нырнула за ёй у пустазельле. Праціснуўшыся праз пралом - у Вольгі гэта атрымалася лаўчэй, дзякуючы меньшым памерам - яны апынуліся ў невялікім тупічку, як раз насупраць якога ад іх бегла сьветлая пяшчаная дарожка, падкрэсьленая кволым сьвятлом паміраючага месяца. Бур'ян сышоўся за іх сьпінамі, быццам бы нічога і не было. І сапраўды, дзірку-лаз заўважыць ні знутры, ні звонку было не магчыма.

З дзьвух бакоў ад іх рады пахіліўшыхся крыжей і асеўшых у зямлю помнікаў вызначалі межы старога клодаўя, зарослага, занядбанага, недагледжанага. Высокія сьцяблы ссохлага пустазельля ўзвышаліся над магіламі так густа, што і вызначыць тыя было складана. Вакол пахла прэльлю і макрэдьдзю, гразкай зямлёй, лісьцем і пажухлымі расьлінамі - восеньскія пахі, звычайныя для парку ці лесу.

Нічога не выдавала асаблівасьць і ўрачыстасьць месца, і крыжы, ледзь тырчашчыя з травы, можна было лёгка прыняць за старыя штакеціны паваліўшагася плоту.

- Тут і будзем творыць! Ганна павярнулася, аглядзеўшыся вакол.

- А што мы будзем творыць? - пацікавілася Вольга.

- Убачыш! - раўкнула на яе Ганна нечакана строга. - Не перашкаджай! Ціха стой. Цябе яшчэ ня прынялі.

З гэтымі словамі яна апусьцілася на калені, пакрохтваючы, разаслала на зямлі чорную хусьцінку, у якую былі завязаны падарункі, разлажыла іх акуратна на тканіне: канфеты горкай, бутэлечку - збоч, выпрамілася, паўстаўшы ў весь рост, і нечакана гучна вымавіла:

- Гаспадар з гаспадыняй!

Замаўчала.

Вакол паўстала цішыня, якую парушаў толькі вецер.

- Будзьце ласкавы, прыміце рабу Вольгу, вам пачастункі, а ёй праход, каб роўна і гладка прайсці, справу зрабіць і сыйсьці. Вы ёй не замінайце, не перашкаджайце, а параду і знак дайце. Ці ёсьць ваш дазвол на яе дзела, каб ёй рабіць яго сьмела.

Ганна яшчэ крыху памаўчала.

Дастала сьвечку, запаліла, і паставіла побач з хусткай, прыкапаўшы яе ў пыл.

- Адчыніце вароты, дайце знак! - яшчэ гучнее вымавіла яна.

Раптам у версе громка каркнула варона. Нешта зашумела і захлопала крыльлем, і нечакана на хустку плёхнулася вялікая белаватая пляма. Амаль адначасова пачуўся адчайны Волгін крык.

Вялікі чорны кот важна выйшаў з-за магілы насупраць і прайшоў нясьпешна да яе, уладкаваўся ў ног і пачаў церціся і мурчаць - гучна, быццам бы ля цёплай печы.

Ганна на імгненьне задумалася.

- Прынялі ці не? - пра сябе вымавіла яна.

- Не зразумела. У дары насралі, але ж кот ... тое добры знак.

- Кысь-кысь! - паклікала яна жывёліну. Кот падазрона глянуў на яе, яшчэ раз абнюхаў Вольгін бот, і скокнуў у кусты.

- Адкуп трэба, - нарэшце вымавіла Ганна, падумаўшы.

- Здымай трусы. Раптам яна павярнулася да Вольгі.

- Як? Зачым? - ашалела вымавіла тая.

- Хазяіну кланяцца будзеш. А трусы гэта лішняе. Я табе забыла сказаць. Дзе гэта бачна было і калі, каб ведзьма парткі насіла? Ні ў воднай бабкі ніколі трусоў не было. Яны табе перашкаджаюць, варота закрылі - сувязі зь зямлёй няма. Зь ніжнім мірам. Раней калі ўсе бабы спадніцы насілі, дык гэтай перашкоды не было. А цяпер праз трусы ніякія веды прабіцца ня могуць. Я вось ніколі трусоў не насіла, і не нашу. Вось, глядзі. Ганна задрала ўгару падол, і Вольга між волі заплюшчыла вочы. Варона ўверсе каркнула - адабральна.

- Я ж табе казала. Здымай. Ганна строга глянула на яе.

- А можа ня трэба? Халодна тут і неяк ... дзіка. У мяне і так джынсы.

Калі хочаш быць ведзьмай, трэба ўсё рабіць па канону. Ганна надзьмулася.

- А калі ня хочаш - вунь забор, вунь дзірка. І нясі туды сваю ... дзірку. У трусах. Жарты тут благія. Пакуль мы стаялі, усе мерцьвякі ўжо вакол сабраліся. Косткамі грымяць. Чуеш?

- Гэй, мы свае! Мы вас ня звалі, не чапалі, і вы нас не чапайце, не кранайце, а дарогу дайце!

- Што? - раптам запытала яна цемру.

- Спатрэбяцца?

- Трусы твае для абраду спатрэбяцца. Здымай хутчэй. Гаспадар табе знак дае - рукой маша. Ганна выразна пакачала рукой зьверху ўніз.

Вольга сьцягнула боты і джынсы, і ськінула бялізну - перашкоду між гэтым і тым сьветам.

- Што цяпер? - запытала яна, трымаючы ў руцэ эластычныя спартыўкі цялеснага колеру.

- Цяпер магілу шукаць будзем. Дзе нябожчык нам адгукнецца, там твае трусы прыкапаем, зачытаем, а потым - выкарыстаем. Убачыш, якая рэч будзе. Эфектыўная! Ганна задаволена прыжмурылася.

Удваіх яны пакрочылі па дарожцы, азіраючыся вакол. Вольга – зь цікавасьці, і каб нешта рабіць. Ганна ж, здаецца, ведала, куды ішла.

- Вось, тут. Тут у мяне нябожчык нагледжаны. Дагледжаны, - папраўілася яна.

- Я яго даўно абхажываю. І падкармліваю, і выпіць нашу, і пакурыць. Бо ён жа, убогі, і пры жыцьці дужа гэта любіў. Васілём клічуць. Клікалі.

- Гэй, Васіль, прачынайся! Я табе во, налівачкі прынесла. Самаробнай. Яна дастала з карману бутылёк, і паліла на магілу. Дастала цыгарку, і ўторкнула ў зямлю.

- Прачынайся! Справа ёсьць! Дапамога твая трэба. Трусы бараніць будзеш. Яна выразна пагрукала па пахіліўшамуся старому крыжу.

- Алё. Ці ты мяне чуеш? А? Што? Ну, добра. Трымай яшчэ. Яна дастала яшчэ цыгарэту, уваткнула побач зь першай. Паліла крыху з бутэлькі.

- Васька, чуеш, ты мне дапамажы, - па-свойску распачала яна. – Дзеўке помач трэба. Яна, вось, і трусы прыгатавала. Падклад рабіць будзем. Знаёмаму твайму старому. Яна громка зарагатала, так, што ізноў нехта незадаволенна каркнуў наверсе. На крыж раптам плюхнулася белая пляма.

- Знак! Ганна ўзьняла вялікі палец. – Тое – к грошам, а значыць – к удачы.

- О! Васёк з’явіўся. Выкараскаўся нарэшце. Яна павярнулася да магілы. І тут Вольга, якая разгублена ўглядвалася ў цемру,

стоячы побач, ціха, задушана прастагнала:

- Вой, мамачкі!

Прама над магілай насупраць яе вісеў белы празрысты прывід. Худы, кволы, кастлявы мужычок у ірванам саване, праз якой бачылася сіняе зморанае цела. Барада, калматая, тырчэла венікам, рэдкія валасы на галаве паўсталі дыбам. На шыі небаракі вісеў вялікі чугунны крыж на ланцугу. Крыж прыцягваў яго ўніз, не даючы ўзмыць угару, нагадваючы якар, які прочна трымаў яго, прымацоўваючы да зямлі.

- Ганна, Ганна, - ціха прастагнаў Васіль. – Ну што ты робіш! Мне ж нельга. Вось вып’ю, і ізноў на год затрымаюся. А пакуру, то яшчэ і на два. Ты б мне сьвятой вады прынесла – спатоліла маю смагу пякельную. На неба хачу, абрыдла мне тая зямля. І ўсе яе радасьці таксама. Да Пана Бога!

- Вось апошнюю службу мне саслужыш, і адпушчу. Трэба дзяўчыне адной дапамагчы. Добрая яна, нашая. Вольга, давай трусы! – вымавіла Ганна, узяла ў руку бялізну, і падышла да магілы.

- Прыкапаю я іх у цябе, а ты мне паслужыш. Каб праз гэтую рэч прага твая пякельная і жаданьне тваё і пакуты яе напіталі, і крэпка-накрэпка дзеўку з тым, каго яна жадае, зьвязалі. А мы потым падкладзік зробім, і ўсё будзе чыкі-пукі. І цябе болей я не патурбую. Канай далей спакойна. Я за цябе сьвечку пастаўлю, папу скажу, каб адмаліў грахі.

- Вой, Ганна! Век маліць буду! Васіль малітвенна склаў рукі. Лёг на магілу – быццам бы зьверху, а насамрэч – у зямлі, праз якую праступаў яго кастлявы абрыс.

Ганна ўзяла ветачку, выкапала ямку, і прысыпала трусы зямлёй. Вольга, зьмярцьвелая, стаяла побач.

- А атрымаецца? – шапнула яна Ганьне.

- Канешне, - упэўніла тая яе. – Гарантыя качаства! Паслугі лепшага клясу! Васіль, праўда?

- Праўда … Ганна, усё праўда, што ты кажаш … і не кажаш … прашалясьцела з магілы.

- Ну вось, я і кажу. Ганна запаліла яшчэ адну сьвячу, узяла ў рукі, і стала чытаць:

- Як гэты чалавек ласцы Боскае прагне, каб і ты мяне прагнуў.

Яна кіўнула Вользе:

- Паўтарай за мной!

Як нябожчык ляжыць, так і ты б са мной ляжаў. Як нябожчык не варухнецца, так і ты ад мяне не варухнуўся б, а ўсё б побач быў, толькі б аба мне марыў, мяне жадаў, ні на кога не глядзеў, толькі б мяне хацеў. Амінь, замок, магіла, сіла, зямля закрыла.

Яна тры разы плюнула на пясок. Узяла палачку, асьцярожна адкапала трусы, і паклала ў паліэтыленавы пакецік.

Узяла пакецік дзьвума пальцамі, і дала Вользе.

- Гэта яшчэ ня ўсё. Цяпер закапаць іх трэба, - вымавіла яна.

- Дзе? – запытала Вольга. – Тут?

- Калі ты хочаш, каб да цябе нябожчык які прывязаўся, то тут. Над Васілём давай закапаем, мо, ён табе падабаўся? – яна ашчэрылася.

- А, я зразумела. Трэба іх закапаць там, дзе жыве ён.

Ганна кіўнула.

- І каб ён праз іх пераступіў. Тады – ўсё. Ніхто гэты прыварот ня здыме. Дужа моцны.

- І калі мы будзем іх закапваць? – вымавіла Вольга напалохана.

- Цяпер. Ці ты іх з сабой хочаш дамоў везьці? Магільныя трусы? Тое я б табе ня раіла. Ганна сур’ёзна глянула на яе.

- Нічога, тут недалёка да маёнтка. Ганна, забыўшыся, пачала

гаварыць звыкла, па-старому.

- Мы перад ганкам ціхенька зарыем, траўкай прыкрыем, а раніцой ён першы пойдзе. Ён заўсёды раней за яе ўстае. Пераступіць праз іх, і – усё. Ён твой. Бяры яго цёпленькага.

Вольга кіўнула.

- Так проста? – вымавіла яна.

- Так проста, - спакойна адказала Ганна. – А ты думаеш, я за што грошы бяру? Сто даляраў. Яна працягнула руку. Вольга, як загіпнатызаваная, улажыла ў яе руку грошы.

Разам яны павярнуліся, і крочылі па дарожцы, не аглядваючыся. Пралезьлі праз дзірку ў заборы, перакаціліся праз бруднаватую пасьля дажджэй лагчынку, праз кусты і агарод, абышлі Ганьніну хату, і цераз лес накіраваліся туды, дзе праз галіны сьвяціла жытло.

Ішлі моўчкі, каб не спугнуць чары. Вольга адчувала сябе неяк няёмка, дзіўна. Яна даўно ўжо перастала кіраваць падзеямі. Нейкі дуркаваты паток нёс яе, кідаў у бакі. Але ж нешта павінна быць наперадзе. Гэтая Ганна была сапраўдная профі, тое было бачна. Ісьціная вядзьмарка. І хустка, і пагост, і не баіцца нічога. Ганна ўпэўнена крочыла сьпераду, звыкла, не аглядаючыся па баках.

На двары нікога не было. Сьвятло на верандзе таксама не гарэла. Толькі ў доме сьвяцілася адно вакно на другім паверсе. У вакне мільгацела нешта – працаваў тэлевізар. За паўпразрыстымі шторамі не было бачна добра, але ж гаспадары, здаецца, ужо ляглі.

Яны ціхенька, паўпрысядам, пакраліся да ганку.

- Трусы даставай! – шыкнула яна Вользе. – Толькі не рукамі. Праз пакет бяры.

Ганна на хаду дастала кароткі абрубак-нож, якім прыгатавалася капаць.

Ужо амаль наблізіліся, і да мэты заставаўся можа, які метр. Раптам двор акаціў разьдзіраючы вушы звон. Вішчэла сігналізацыя машыны. Вялікая, чорная, яна стаяла незаўважна ў ценю збоч. Датчык, настроены на набліжэньне, адрэагаваў беззаганна. Ганна ад нечаканасьці кінулася некуды – апынулася, наперад. Вольга схапіла яе за рукаў, і пацягнула прэч.

На імгненьне яны замарудзіліся на месцы, мітусячыся, як дзьве чорныя цені – вялікая і паменьш.

Сьвет у вакне раптам засланіла фігура, якая хутка схавалася ў глыбіні пакоя. Праз некалькі секундаў на верандзе загарэлася сьвятло.

Адкаціўшыся за клумбу, Ганна з Вольгай затаілі подых.

Мужчына на парозе, з голым торсам і ў спартыўных штанах, выйшаў на крыльцо. Уключыў сьвятло, і аглядзеўся вакол.

Падышоў да машыны, абышоў яе, уважліва агледзеў, але ж не заўважыў нічога падазронага.

- Ізноў датчык гэты… - пачулі яны. – Задалбаў. Перанастроіць трэба. Дзяўчына ў пушыстым халаціку выйшла на ганак.

- Што там, каханы? – пачулі яны.

- Ды нічога. Ізноў на нейкага ката зрэагавала. Трэба майстра выклікаць. Каб настройкі памяняў.

- А ты чаго выйшла, сонейка?

- Проста, - вымавіла яна.

Яна села ў качэлі на ганку, ён запаліў цыгарэту. Раптам яна ўзьнялася, зайшла ў дом, і выйшла з курткай ад касьцюма. Дала яму. Ганна з Вольгай не маглі паварушыцца. Некалькі часу пара размаўляла – аб некім мерапрыемстве, выставе зброі, якая адкрыецца ў ноч на Хэлаўін. Вольга зразумела, што яны павінны ўдзельнічаць, а месца, аб якім ідзе гаворка – гэта новы рэстаран “Арсенал” у цэнтры.

Нарэшце, яны нагаварыліся, ён абняў яе – Вольгу пры гэтым скруціла – і яны схаваліся ў доме.

Цяпер Ганна з Вольгай былі вольныя ісьці. Аб набліжэньні да ганку размовы ня йшло.

- Можа, перад кузьняй закапаем? – прапанавала Вольга.

- Не, ён ня першы прыходзіць. Ганна пакачала галавой. – Рызыкаваць нельга – трусы аднаразавыя.

- А што ж рабіць? – Вольга асьцярожна падабралася да яе, і шаптала на вуха.

- Што? Ісьці адсюль. І чакаць, пакуль ён машыну сваю адгоніць. Сачыць.

Вольга пакачала галавой.

- Слухай, а па-іньшаму нельга? Абавязкова закапаць трэба?

Ганна задумалася.

- Ну, можна і падкінуць. Толькі гэта яшчэ складаней. Трэба, каб рэч пэўны час зь ім была побач.

- Я зраблю. Я ведаю, як. Я падкіну. На Хэлаўін. Гэта будзе яшчэ надзейней. Я дадам паўночнай магіі, каб перашкоды ўбраць.

- Ну, глядзі, - паціснула Ганна плячыма. – Справа твая. Толькі ты цяпер за ўсё у адказе. Я грошы не аддам.

- Ня трэба. Я зраблю сама. Голас Вольгі зьмяніўся, стаў халодным, сур’ёзным.

- Пайшлі. Яны асьцярожна, бокам выправіліся са двару, і накіраваліся да Ганны праз лес. Ішлі шпарка, настрою не было. – Як так атрымалася? – бурчэла пра сябе Ганна. – Усё ж зроблена было, як трэба. Не разумею.

Вольга, не адказваючы, ішла побач. Яе твар быў спакойным, не паказваў ніякіх эмоцыяў, нават і расчараваньня.

Хутка яны выйшлі зь лесу, і ўжо накіраваліся праз лужок да Ганнавай хаты, як нечакана Вольга сунула руку ў кішэню. Пакеціка з трусамі не было. Яе сэрца абарвалася.

- Трусы! Дзе трусы?! – вымавіла яна паўзадушана. – Я не табе іх аддала?

- Не. А што?! – Ганна павярнулася да яе.

- Нічога. Няма трусоў. Вольга разгублена рылася ў куртцы.

- Ты іх можа там выраніла? – Ганна падазрона глянула на яе.

- Не. Калі мы ўвайшлі ў лес, яны ў кішэні былі.

- Пайшлі шукаць. На дарозе недзе ляжаць. Ганна разьвярнулася, і яны ізноў нырнулі ў гушчар. Прайшлі можа якіх пару соцен метраў, і раптам Вольга ўскрыкнула:

- Вунь яны! Вунь!

- Дзе? – не зразумела Ганна.

- Да вунь, на дрэве! Вольга паказвала рукой некуды ўгару, дзе на яловай галіне ў некалькіх метрах над імі віселі трусы.

- Як яны туды трапілі? – вымавіла яна зьдзіўлена.

- Варона, пэўна. Бліскучага на іх нічога не было? – запытала яе Ганна.

- Было … каменьчыкі-стразікі на поясе… Вольга ўзьняла ўгару вочы.

Быццам бы ў пацьверджаньне яе словам, аднекуль раздалася громкае карканьне, і вялікая птушка падхапіла, і некуды панесла ў клюве сваю здабычу.

- Вось табе і насралі!!! – вымавіла Ганна. – Зразумела!

- Дзень сёньня такі, нічога ня трэба было рабіць. А я папутала. Сёньня ж 15-е. Дзень Кіпрыяна і Іўсьціны. Ганна сплюнула. –

Памеху трэба было адчытаць. Ну, нічога. Яна хлопнула Вольгу па сьпіне. – У другі раз!

- Прабачце, але ж другога раза ня будзе. Хопіць зь мяне і аднаго, - вымавіла тая. – Я сама неяк разьбяруся са сваімі справамі.

- Ну, як жадаеш. Ганна паціснула плячыма. – Калі што, ты дарогу ведаеш. Сто даляраў мая такса, пяцьдзесят кансультацыя.

- Начаваць застанешся? – запытала яна.

- Не, паеду аўтастопам. Ужо раніца хутка. Можа, толькі чаю?

- Ну, чаю дык чаю. Пайшлі. Ганна павярнулася, і яны ізноў пакрочылі ў бок хаціны.

# Шчасьце

- Ты шчасьлівая, каханая? – запытаў ён, абдымаючы яе. Яна адкінулася, крануўшы яго руку шчакой. Яе мяккія доўгія валасы хваляй ахінулі яго прадплечча. Ад іх узьнімаўся духмяны водар, тонкі, чараўнічы, глыбокі, кантрастуючы зь яе далікатнай постацьцю і дзіцячым тварам. Пахаладала, і яна заняла стол на другім паверсе, насупраць вакна, гледзячага на лес, за якім былі бачныя хвалі парослых дрэвамі курганоў, губляючыяся ў туманных краявідах. Перад ёй стаяў ноўтбук, зь якога ціха гучэла Salve Regina. Голас, пранізьлівы, салодкі, як анёльская арфа, быццам бы ліўся адразу ў сэрца. Ён быў поўны ціхім сумам, тугой па згубленых нябёсах, па нядасяжным, але ж такім жаданым Богу. Па каханьню – высокаму, небёснаму, аб якім толькі можа марыць чалавечае сэрца. І якое ён ужо знайшоў тут.

- Я шчасьлівая, як ніколі. Шчасьлівая з табой, - ціха вымавіла яна. Ён удыхаў яе пах, насалоджваючыся блізкасьцю яе цела, яе цеплынёй, мяккасьцю і лёгкасьцю, якія, здаецца, віталі вакол, ахінаючы яе ціхім зьзянем. Зьзяньнем, не належачым гэтаму сьвету.

- Ты мая regina, - вымавіў ён, кранаючы вуснамі яе валасы. – Нябёсная каралева. Ён сьпявае пра цябе, хоць сам таго і ня ведае. Бо ж ты – мара, сьвятло, Шэкіна, якая сыходзіць да сьмяротнага праз завесу.

- Ведаеш, мяне называлі манашкай. У школе. Яна ўсьміхнулася.

- Гэта ж цудоўна. Ён таксама ўсьміхнуўся. - Манашка нябёснай прыгажосьці, дзева, не належачая гэтаму сьвету, якую можа кранаць толькі Бог.

- Я чакала цябе, - ціха вымавіла яна. – Я жадала цябе ўсё сваё жыцьцё.

- А хлопец у цябе быў? – запытаў ён. – Быў жа, напэўна. Бо ў такую прыгажуню няможна не закахацца. Прызнавайся. Ён

ахапіў яе рукамі, жартуючы, прыцягнуў да сябе.

- Быў, - сумна вымавіла яна. – Але ж не сапраўдны. Ён толькі адзін раз сустрэўся са мной, а потым пачаў сустракацца з гэтай дзяўчынай, якая прыходзіла. З Вольгай. Ня ведаю, што ёй было тут трэба.

- Напэўна, супадзеньне. Ён паціснуў плячыма. – Ня думаю, што яна наўмысна сачыла за табой. Гэты званок Алексу – простая цікаўнасьць. А потым яе думкі прывялі яе сюды. Так бывае. Мы самі ня ведаем, як можам уплываць думкамі на сусьвет.

- А мне здаецца, што ёй падабаўся ты. Яна ўсьміхнулася. – Жанчыны адразу адчуваюць такія рэчы. Яна так на цябе глядзела. І сустрэцца яна хацела не са мною, а з табою. Яе зацікавіў расказ сяброўкі. Карыну я ведаю таксама. Яна ня злая, толькі робіць усё, што ёй скажа Вольга. Вольга на яе ўплывае. І я на іх зусім не трымаю злу, і на Вольгу таксама. Мы ж былі дзецьмі, а дарослае жыцьцё – іньшае.

- Ты і зараз – дзіця, любая. Ён усьміхнуўся. – А вось яна – не. Бо ж яна згубіла нявіннасьць дзіцячае душы, яе чысьціню, калі дапусьціла ў сябе д’ябла. Д’ябл – гэта жарсьці гэтага сьвету. Яны атручваюць душу, зацямняюць яе, і тады ў гэтым люстэрку зусім ня бачна Бога.

- Які жах! Як можна жыць бяз Бога? – прашаптала яна.

- Ніяк. Гэта не жыцьцё, а пакуты, - адказаў ён. Яго рука мякка гладзіла яе плечы.

- Не разумею я гэтага хлопца. Яго далонь правяла па яе шыі, і апусьцілася ўніз. Яна запракінула галаву, прытуліўшыся да яго. – Сустрэўся толькі адзін раз. Вар’ят. Ён усьміхнуўся. - Убачыў на дарозе скарб, спыніўся, глянуў, перашагнуў і пайшоў. Напэўна, сьляпы, ня йнакш.

- Можа, я яму не спадабалася, - вымавіла яна.

- А я думаю, ён спалохаўся, - задумліва адказаў ён. – Такое бывае. Мужчыны баяцца пачуцьцяў. Ён ніколі і ня зь кім не

адчуваў такога, што адчуваў з табой. І зразумеў, што яму ня вынесьці гэты цяжар. Жанчына – заўсёды таямніца, нават і для сталага мужчыны. А для маладога тым больш. Калі ты кахаеш у першы раз, здаецца, што сьвет перавярнуўся.

- Гэты хлопец памёр. Яна замаўчала. – Загінуў. Яго забілі. Далёка, у Францыі. Ён паехаў служыць у Французкі легіён. Ня ведаю, чаму. Ён кінуў Вольгу. І з’ехаў.

- Ён з’ехаў, таму што кахаў цябе. Ён пацавалаў яе валасы. – І таму, што баяўся свайго каханьня. Ня ведаў, што з гэтым рабіць. Да таго ж, ён быў яшчэ хлапчуком. Хацеў стаць пераможцам. Заваяваць для цябе ўвесь сьвет, і прыехаць да цябе на белым кані і ў зьзяючай зброі. Але ж тое не адбылося. Для яго – на жаль. Для мяне – на шчасьце. Ды ў кожнага свой шлях. Табе ня трэба вінавацiць сябе.

- А ты кахаў каго-небудзь да мяне? – запытала яна.

- Я? Думаў, што кахаў. Насамрэч, акрамя цябе, у мяне нікога не было. Я памятаваў цябе ўсё жыцьц ё. Ты заўсёды была ў маім сэрцы. І я адразу спазнаў цябе, як сустрэў. Мноства жыцьцяў мы былі разам, і ў гэты раз разьмінуцца мы не маглі. Бо ж у мяне сільная воля, і я прыцягнуў цябе да сябе. І нікому цябе не аддам, любая.

- А я і не пайду ні к кому. Яна ўсьміхнулася. – Я таксама ведала цябе зь дзяцінства. Ты прыходзіў да мяне і ў сьне, і на яве. Я бачыла цябе як жывога. Як зараз.

- Да мяне прыходзіў Пан Бог, і гэта быў ты, - сур’ёзна вымавіла яна, прыціскаючыся да яго.

- Я, любая. Бо ж я ня мог цябе пакінуць. Ён ахапіў яе рукамі, адчуваючы, як уздрыгвае пад імі яе тонкае цела.

- Пайшлі, адпачнем, - ціха прашаптаў ён ёй на вуха.

Яна ляжала на ложку, а ён сядзеў, і глядзеў на яе. Яе чорныя валасы разьмяталіся па падушцы, цела ўтанула ў мяккай коўдры, на якой яна ляжала, выцягнуўшыся – белая пяшчотная

Венера на белым.

- Ты ня бачыш сябе, - ціха вымавіў ён, любуючыся. – У сьвеце няма такога хараства, што зараз бачу я.

- Дзякуй. Яна ўсьміхнулася. – Але ж я – звычайная.

- Не. Ён пакачаў галавой. – Ты – ідэальная. Эталон жанчыны. Ведаеш, што я скульптар?

- Ты мне не казаў! – яна зьдзіўлена глянула на яго.

- Я закончыў ВНУ, і мая дыпломная праца ўпрыгожвае невялікі гарадок. Зваяў аднаго з вядомых у гісторыі князёў. І яшчэ рабіў скульптуры на заказ. Большасьць зь іх паехала за мяжу. Я працаваў з мармурам, а гэта – дарагі і складаны матэрыял. Рабіў скульптуры ў грэцкім стыле – багіняў, амураў, копіі багоў. Праўда, не вялікіх. Для саду, для пакояў. Аднак потым я гэтую справу кінуў. Чаго – ня ведаю. Кінуў усё. І майстэрню ў горадзе, і працу. Нанова навучыўся кавальству, і пастараўся дасягнуць майстэрства ўжо ў ім. Можа, гэта была дэпрэсія. А можа, нешта яшчэ. Я ня ведаю і сам. Аднак грошы ў мяне былі – за скульптуры добра плацілі. І я пабудаваў сабе дом, набыў усё неабходнае для кузьні, наняў памочнікаў. Ды гэта даўно было, год з дзесяць таму.

Мне стала цікава працаваць зь металам. Бачыць, як ён ліецца ў форму, як мяняецца пад рукой, набываючы новае жыцьцё. Пэўна, я не Апалон, бог мастацтваў, а Гефест. І маё мастацтва – агонь.

- А мне здаецца, твае скульптуры былі жывымі, - вымавіла яна. – Бо ж ты ўдыхнуў жыцьцё у мяне. Да цябе я не была жывой на сьвеце. Я жыла толькі Богам. А цяпер адчуваю сябе Евай у райскім садзе.

- Ты такая ж прыгожая, як Ева. Ён асьцярожна крануў яе грудзі. Яна мела цела дзіця, юнай дзяўчыны на парозе жаноцкасьці, нагадвала фею, нябёснае стварэньне, лунаючае над зямлёй, не запэцканае яе жарсьцямі.

Яе цела ня мела на сабе сьлядоў мінулага, як і яе душа. Яе чысьціня спапяляла ўвесь бруд. Нічога грахоўнага ня пэцкала яе, і чужыя грахі амывалі яе, як вада, яшчэ больш агаляючы яе чысьціню.

Ён пагладзіў яе шыю, і адчуў пад падбародкам маленькі шнар.

- Што гэта? – запытаў ён.

- Мяне парэзалі, - ціха вымавіла яна. – Але ж усё даўно зажыло.

- Мужчына, які прычыняе жанчыне боль, горш за жывёлу. Ён ня годны жыць на гэтым сьвеце, - нягромка вымавіў ён. Яго душыла ярасьць, аднак калі яго позірк падаў на яе, ён забываў аб усім.

- Як можна было зрабіць балюча гэтаму целу? – падумалася яму. – Апаганіць такую прыгажосьць?

- Некаторыя людзі знаходзяць асалоду ў блюзьнерстве. Сапсаваць, зламаць, парушыць – на гэта іх штурхае Зло, князь гэтага сусьвету. Бо ж прыгажосьць нагадвае яму аб сапраўдным Богу.

Яна магла б быць яго дачкой. Такая маладая. Яе цела было надзвычай тонкім, пяшчотным. Ён палажыў далоні на яе талію, правёў па сьцёгнах. Накрануўся, і кранул яе жывот вуснамі. Пах маладога жаночага цела, юнай дзяўчыны, няўлоўны, нябёсны, танюткі, як шоўк. Яго пачуцьці да яе былі складанымі і глыбокімі. Ён кахаў яе адчайна, пяшчотна, убагаўляючы, як жанчыну, эталон жаноцкасьці і прыгажосьці, і ў той жа час кахаў яе, як сваё дзіця. Любіў дарыць ёй падарункі, гладзіць і цалаваць яе, трымаць на руках. І адначасова адчуваў да яе цёмную, спапяляючую жарсьць, яна абуджала ў ім цяжкое, зьвярынае жаданьне, якое было адначасова і высокім, і нізкім, і брудным, і самым чыстым, што калісьці нараджалася ў яго душы.

- Такая прыгожая, што глядзець балюча, - прашаптаў ён, нахінаючыся да яе. Яго губы апусьціліся ёй на грудзі, далоні ахапілі плечы. Яна абняла яго, аддаючыся ласцы яго вуснаў,

якія асьцярожна ўбіралі яе скуру.

- Ты ведаеш, былі часы, калі я марыў, каб статуя ажыла, - ціха вымавіў ён, цалуючы яе. – Бо ж я ваяў цябе. А калі бачыў жывых жанчынаў, мне было прыкра ад іх нядасканаласьці. Іх целы былі цяжкімі, позіркі бруднымі, рукі і вусны - пажаднымі. Яны не былі Евай, яны былі Ліліт. І таму я абраў лепей жыць манахам, каб мець адносіны зь кім папала. Той ідэал жаноцкасьці, аб якім я марыў, як я думаў, не існаваў на зямлі. Ты прыходзіла да мяне зь нябёсаў у снах і мроях, і я ваяў цябе незьлічоную колькасьць разоў. А потым я ўспомніў усё.

- Што ты ўспомніў, каханы? – прашаптала яна.

- Усё. Мы жылі ў вялікім замку, і яшчэ шмат дзе. Ты была маёй жонкай. А яшчэ раней, на пачатку сутварэньня, ты была проста маёй. Маёй Шэкінай. Маёй душой.

Ён адчуваў, як у ім абуджаецца жарсьць. Яна ахапіла яго нагамі, і ён увайшоў у яе мяккае, падатлівае цела. Яе павейкі былі закрытыя, і праз іх ён бачыў, як яе вочы глядзяць у сьвет, адзіна рэальны ў гэтым сусьвеце – той, што яму не належыць. Дзе ён быў ёй, а яна – ім, і разам яны былі адным вялікім Каханьнем, якое нараджае усё існуючае.

Ён кахаў дзеву, Багіню, і сьвятую, і адначасова – самога сябе, бо ж ён кахаў яе як сябе, і яна была плоцьцю ад яго плоці.

– Ты – маё дзіця. Я нарадзіў цябе, - ціха вымавіў ён. – Я стварыў цябе, каб ахінуць сваім каханьнем. Я – твой айцец, і твой муж, а ты – усё для мяне, бо ж ты аддзялілася маёй душою, якую я цяпер назіраю твар у твар – самае прыгожае, што можа быць у сьвеце, што было ўва мне, увайшло ў цябе, і стала табой – Дасканаласьцю.

- Айцец мой, - ціха вымавіла яна. – Няма нікога ў сьвеце, роўнага табе, каханы. Я – плоць ад плоці тваёй, і жыцьцё ад твайго жыцьця. Ён нахінуўся над ёй, і іх вусны ізноў зьліліся. І ізноў сусьвет сьціснуўся, сьцягнуўшыся ў маленькую кропку.

Шчасьце.

Восень, і дождж за вакном.

# Успаміны

Калі ён пачаў успамінаць? Ён ня памятаваў. Неяк яно адбылося, што паступова яго жыцьцё пачало мяняцца. Спачатку прыйшла ўпэўненасьць – так не павінна быць. А потым прыйшлі веды. Ён проста ведаў. Ведаў, і ўсё. Быццам бы дагэтуль ён быў у цемры, а потым нехта раптам уключыў сьвятло, і яно высьвятліла ўсё – усю марнасьць і сапсаванасьць сусьвету. І ў той жа час праз гэты недасканалы сусьвет праглядвала нешта велічнае, нешта вялікае. Яно было ўсім. Сусьвет жа ня быў рэальнасьцю. Рэальнасьць, адзіная, была за яго межамі. А потым ён зрабіў крок, і апынуўся ў сьвятле.

Тое, што было, нахлынула на яго разам. Ён быў адвечным. Ён глядзеў на гэтыя рукі, і не спазнаваў сябе, і адначасова спазнаваў. Усе яго жыцьці, яго абліччы адразу паўсталі перад ім – бясконцыя вандроўкі ў цянётах сусьвету. І ў кожным жыцьці ён шукаў яе. Знаходзіў, і ізноў губляў, каб ізноў знайсьці. Сусьвет быў створаны так, што, як толькі ён апускаўся ў яго, яна гублялася. Там, за мяжой, за цемрай, у сьвятле, яны былі побач, трымалі адно аднаго ў абдымках. Аднак як толькі ён рабіў крок у сусьвет, быццам бы завеса апускалася на вочы. І паступова, балюча, марудна, ён успамінаў сябе. А потым знаходзіў яе. Ведаў, што ўспомніць і знайсьці яе трэба як мага хутчэй, бо пакуты яе безь яго сапраўды ня мелі межаў. Ён сьпяшаўся, і спазьняўся. Сьвет ужо пасьпяваў пакінуць на ёй свой сьлед, свае шнары. Аднак яна таксама ведала. Ведала ня розумам, а сэрцам. І што б не адбывалася, яна чакала яго. Яна бачыла сардэчнымі вачыма, і яе вусны ціха шапталі праходзячым міма ценям: “Гэта ня ён, гэта ня ён”… Калі ж ён з’яўляўся, яна спазнавала яго адразу, як і ён спазнаваў яе.

Ён не павінен быць тут, у гэтым горадзе – гэта ён дакладна разумеў. На шчасьце, у яго накапілася нямала грошаў, бо ж заказы яму давалі неблагія. Ён быў вядомы як мастак, і як выкладчык, нават езьдзіў чытаць лекцыі ў замежныя навучальныя ўстановы. Выкладаў мастацтва, рабіў скульптуры на заказ. Калі-некалі нават халтурыў – карыстаўся сваім імя, і

ствараў нешта мудрагелістае, што займала ў яго дзень працы і прыносіла некалькі тысячаў даляраў. Людзям падабалася, яму – ня дужа. Аднак усе вакол казалі, што ён – геній. Што гэта нешта такое, што гаворыць зь імі бяз словаў. Быццам бы яны адкрываюць сабе праз яго работы нейкі іньшы, больш дасканалы сусьвет. Грошы прыбывалі, а шчасьце – наадварот. Жанчыны, якія здараліся побач, хутка надакучвалі. Яны былі простыя. Ён жа быў складаным. Яны не разумелі яго, і размаўляць зь імі яму было не аб чым. Ніводная зь іх не выклікала ў яго сэрцы каханьня. Толькі бясплотныя вобразы, якія запаўнялі яго розум, каб увасобіцца ў мармуры, тоўпіліся побач. І, на дзіва, яны былі значна больш жывымі. Раз-пораз жаночыя цені з рэальнасьці дакраналіся да яго, і так жа хутка сыходзілі, пакідаючы нешта накшталт агіднага тхненьня распаду – водару сьмерці душы і цела.

Калі ж ён увайшоў у сьвятло – як гэта здаралася кожнае жыцьцё, ён не разумеў, быццам бы нехта высокі, нябёсны ён сам вёў сябе праз даліну ценяў, якая звалася сусьветам – ён успомніў і яго, апошняе месца, дзе яны былі разам, і тое, як да апошняга трымаў яе на руках, пакуль яе не праглынула полымя. Бачыць гэтыя сьцены, дакрануцца да камянёў, калі яны засталіся, проста прыйсьці туды, дзе апошні раз ён трымаў яе руку, ўпасьці на калені ў прызраку старога касьцёла, і маліць Бога – маліць самога сябе – каб ён дапамог – здолеў – адшукаць яе.

Ён паехаў – проста наўздагад. Выйшаў на маленькай станцыі і пайшоў праз лес. І адразу пачаў пазнаваць знаёмыя мясьціны. Вунь – лагчына, вунь – курганы, вунь – могілкі. А потым – праклятае возера, патаемны шлях пад хвоямі, і – тут ён спыніўся. Тут болей нічога не было. Разгублена ён аглядаўся вакол, хадзіў па лесу. Нарэшце, знайшоў нейкія рэшткі фундаменту там, дзе быў маёнтак. Хадзіў па камянях, і перад яго вачыма паўставалі пакоі. Тут была спальня. Тут – бібліятэка. Тут … Раптам ён апусьціўся на калені, і заплакаў.

Ён ніколі ня думаў, што памятаць мінулае так балюча. Бо ж ты згубіў яго, і болей ня зможаш атрымаць. Але ж яна была недзе тут, у сучасным. Гэта ён ведаў так жа дасканала, як і тое, што

тут, дзе ён зараз стаяў, быў яго дом.

Ён купіў гэтую зямлю. Яна каштавала няшмат. Яму незадорага аддалі і кавалак лесу, і бераг возера, і нават пару гектараў палёў вакол. Толькі жыві, ды стройся. Ён наняў архітэктара, і хутка на пляцоўцы з'явіўся дом у скандынаўскім стыле. Вакол – роўны, падстрыжаны газон. Пабудаваў гаспадарчыя будынкі. Спачатку пераехаў сюды з майстэрняй, а потым пабудаваў кузьню, калі зацікавіўся кавальствам. Зямля, здаецца, сама падказвала яму, што яму рабіць. Старыя знаёмыя аматары гісторыі падказалі ідэю – вырабляць зброю. Ён зь дзяцінства балаваўся нажамі ды рознымі невялікімі рэчамі – навучыўся ў дзеда ў вёсцы, у якога была маленькая прымітыўная кузьня. Але ж потым дзед памёр, дом прадалі, і ўсё сконьчылася. Цяпер жа ён быццам бы жадаў адрадзіць успаміны дзяцінства. Прайшоў абучэньне, а потым знайшоў каваля з памочнікамі, і стаў разам зь імі вырабляць на заказ рэчы. Ён маляваў, прыдумваў, закупаў матэрыял, і разам з рабочымі рабіў самую чорную і цяжкую працу. Паступова кавальства выцясьніла скульптуру. Усё, чаго ён жадаў, у ёй ён дасягнуў, а рабіць бясконцыя паўторы аднаго і таго ж проста так яму не хацелася. Не жадаў ён і пакідаць сваё месца, стаўшае для яго родным. Усе лекцыі перамесьціліся ў анлайн. Ён яшчэ і на гісторыка вывучыўся зь цягам часу – проста было цікава.

Неяк у яго апынулася шмат прасторы – і фізічнай, і духоўнай. Толькі яе ўсё не было. У вольны час ён хадзіў па навакольлі з нататнікам, рабіў замалёўкі. Знайшоў шмат старых знаёмых месцаў – і капішча, і рэшткі замку, і нават ідал Пяруна. Знаёмыя архіёлагі толькі качалі галовамі – адкуль ён усё гэта ведаў?

Ён жа толькі сумна пасьмейваўся ў адказ. Прагулкі па навакольлі зацягвалі яго, вылечвалі душу. Ні кампаній, ні выпіць, ні жанчын не хацелася. Пастпова ён стаў чытаць духоўныя кнігі, а на сьцяне дома з'явілася расьпяцьце, вялікае, чорнае, з белым целам Пана. Некалі ён хадзіў з бабуляй у царкву, і там яму ўсё падабалася – цёмнае, патаемнае, гарачць сьвечы. У юнацтве ж, у горадзе, стаў хадзіць у касьцёл – бо туды хадзіла большасьць зь сяброў. Так было модна – па-еўрапейску.

Цяпер жа ён усё асэнсоўваў нанова. Застыўшы нібыта між дзьвух сьветаў, ён так і не абраў свой. А потым зразумеў, што сьвет – толькі адзін. Вялікі, і неабсяжны. І Бог у ім толькі адзін, які гэтаму сьвету не належыць.

Чаго ён толькі не прачытаў, што не спазнаў, аб чым не перадумаў. Паступова яго душа перастала балець. Ён ведаў – усё ідзе так, як трэба, і яму хвалявацца не аб чым. І яе прысутнасьць ён заўсёды адчуваў – нябачную, ціхую, пяшчотную. Яна быццам бы заўсёды стаяла побач, кранала яго за плячо. Ён бачыў маленькую дзяўчынку – яна была адна ў цёмным пакоі, апранутая ў белае атласнае плацьце. Такая маленькая, такая самотная. Ён прыйшоў да яе, яна ўзрадвалася, села яму на калені. Ён моўчкі сядзеў зь ёй, і глядзеў, як ападала лісьце. Ён бачыў яе ўсё часьцей і часьцей, і мог ужо сустракацца і гаварыць зь ёю. Суцяшаў яе і разганяў яе страхі, адказваў на бясконцыя пытаньні, і проста ціха трымаў яе на руках, пакуль яна прыціскалася да яго грудзей. І разумеў, што хутка яна прыйдзе да яго.

Аднойчы, як заўсёды, ён вывучаў навакольле. Зайшоў далёка, і калі вяртаўся, то было ўжо даволі цёмна – восеньскія прыцемкі апусьціліся нечакана хутка.

І раптам яго сэрца стукнула. Збоч дарогі, на кургане, гарэў касьцёр.

- Хто гэта можа быць? – падумалася яму. – У такі час, у такім месцы, на яго зямлі, на кургане, дзе пахаваны яго продак, і дзе калісьці ён пабудаваў каплічку на старым волаце-камяні. Цяпер жа каплічкі не было і сьледа, а спарахнелыя косткі даўно ўжо сталі зямлёю.

Як прыцягнуты магнітам, ён пайшоў на агонь. Накінуў на галаву капюшон курткі, каб не чапляцца за галіны, асьцярожна, прыгібаючыся, прайшоў напрамкі між хвояў. Перад ярка палаючым вогнішчам сядзелі хлопец і дзяўчына. Дзяўчынка. Хлапец, чарнявы, ладна складзены, выглядаў старэйшым за яе, яна ж была зусім як дзіця. Яе чорныя валасы ліліся хвалямі па плечах, доўгія, амаль дасягаючыя пояса. На ёй былі апрануыя сіняя байка і джынсы. Яна сядзела перад высокім дрэвам, якое,

здаецца, бараніла яе сваімі лапамі, а хлопец падкладваў бярвеньне ў вагонь. Раптам, пачуўшы яго крокі, павярнуў галаву, і ўстаў, пільна гледзячы ў цемру. Высокі, хударлявы, з сінімі халоднымі вачыма, якія пільна аглядалі яго.

Ён нешта сказаў ім – пажартаваў. Яны засьмяяліся. Пасунуліся, даючы яму месца ля вогнішча. Ён сеў, узяў працягнутую чашку чаю, і за разгаворамі разглядаў дзяўчынку. Глядзеў, і ня верыў сваім вачам – якая яна была прыгожая. Яе твар быццам бы сьвяціўся, вочы зьзялі, як дзьве шэрыя зоркі, мягкія ружовыя вусны былі прыадчыненыя. Яна глядзела на яго неадрыўна. І раптам яго сэрца застучэла шалёна – яна яго спазнала. Як і ён спазнаў яе. Яна магла б і не называць сваё імя – ён яго ведаў. Так здараецца. У гэтым сьвеце для яго існавала толькі яна. Як і ён адзіны быў існуючым і рэальным для яе. Ён бачыў гэта ў яе вачах, якія раптам напоўніліся сьлязамі.

- Забяры мяне! – ціха прасілі яе вочы. – Прашу цябе! Я так стамілася жыць без цябе.

- Забяру, каханая, - вымавіў ён у сэрцы, і яна яго пачула.

Увесь час яны, здаецца, размаўлялі бяз словаў. Ён прапанаваў ім пераначаваць у яго – пасьцяліў дзяўчыне на ложку, а хлопцу – на канапе наверсе. Сам жа ўладкаваўся ў спальніку на вярандзе.

Раніцой яны з Алексам – так звалі хлопца - усталі рана, яна ж яшчэ спала. Схадзілі на возера, дасталі сеткі, і калі ўжо падыходзілі да дому, убачылі яе. Яна выглядала напалоханай. Сказала, што ёй прысьніўся дрэнны сон. Нейкае люстэрка, і зь яго на яе глядзеў нехта жудасны. Ён пасьмяяўся, супакоіў яе, і прыдумаў цэлую казку – страшную і вясёлую. І канешне ж, там быў рыцар, і каханьне. Яна слухала з захапленьнем – верыла, быццам бы яно так і было.

Пасьля сьнеданьня ён прапанаваў падвесьці іх у горад. Яму як раз было трэба закупіцца рознымі рэчамі. Яны пагадзіліся. Яна села ззаду, Алекс – побач. Усю дарогу яны размаўлялі. Той апынуўся не благім хлопцам, не дурным, шмат каго ведаў, займаўся менеджментам мерапрыемстваў. Яны нават мелі

агульных знаёмых.

Калі прыехалі на месца, ён між прочым працягнуў ёй візітку і запрашэньне.

- Можа, прыйдзеце разам, - прапанаваў ён. – Будзе цікавая выстава. Сучаснае мастацтва, розныя мастакі, мясцовыя, і зь Еўропы. Мерапрыемства высокага ўзроўню, але ж нефармальнае, і адкрытае для публікі. Я там таксама буду ўдзельнічаць, зь некалькімі са старых скульптур.

Яна кіўнула. Марудна, гледзячы на яго, не адводзячы вачэй. Алекс цікавасьці ня выказаў – хочаш, ідзі.

- Прабачце, у мяне справы, - выбачыўся ён.

- А я пайду. Яна ўсьміхнулася.

- У нядзелю. Гэта праз два дні. Ён нахінуўся, і пацалаваў ёй руку. Яна пачырванела. Паціснуў далонь Алексу, і яны разышліся.

У нядзелю вялікі будынак-лофт быў поўны народу. Старая закінутая фабрыка пераўтварылася ў сапраўдае біенале. Усе вакол хадзілі з важным выглядам з келіхамі, быццам бы нешта разумелі – аглядалі малюнкі і інсталяцыі – кавалачкі нечай душы.

Яго невялікая скульптурная група стаяла збоч ад усіх. Камень, а на ім – крыж, быццам бы вырастаў з пароды. Ці, наадварот, урастаў у яе. На крыжы нікога не было. Абрыс цела на крыжы быў абведзены мелам. Хрыстос згубіўся, сышоў зь яго, і растварыўся ў бясконцасьці. Народ разгублена абводзіў крыж і камень вокам, і крочыў туды, дзе ўсё блішчэла, круцілася і зьзяла, гуляла мноствам колераў.

- Як сарокі. Ён усьміхнуўся. І раптам яго позірк спыніўся, зачапіўся за нешта, спатыкнуўся, і замёр. Ён нагадваў сам сабе сьляпога, які раптам празрэў ад вялікага, па-за межамі чалавечага вока, сьвятла.

Яна стаяла перад ім, і натоўп вакол быццам бы расьцякаўся, паважліва ахінаючы яе хвалямі-крыламі.

У чорным простым плацьці з тонкага шоўку, без упрыгожваньняў, з глыбокім выразам, з чорнымі вольнымі валасамі, якія сьцякалі па яе стройных плечах да таліі. На яе твары амаль не было макіяжу, і ўсё ж яна была ярчэй за ўсіх, самай заметнай, і самай прыгожай. Жанчыны скручвалі галовы, аглядаючы яе. Мужчыны спыняліся. Яна ж, здаецца, не заўважала нікога. Акрамя яго.

- Я прыйшла, - ціха вымавіла яна. – Алекс ня змог.

- Яму гэта ня трэба. Ён кіўнуў, і спугаўся сам сябе. Нахінуўся, і паднёс да вуснаў яе тонкую кісьць. І чамусьці прамазаў – яго губы кранулі яе запясьце. Яна ўздрыгнула – ледзь заўважна, ад дакрананьня яго вуснаў.

- Прапаную прайсьціся са мной, я ўсё вам пакажу. Летыцыя, - вымавіў ён, і зразумеў, што вусны ня слухаюцца яго, быццам бы чужыя. Яму хацелася прыцягнуць яе да сябе, і закрыць ёй рот пацалункам – прама тут, перад усімі, каб усе бачылі, што яна – яго. Але ж замест гэтага ён працягнуў ёй руку. Яна ўзяла яго пад руку, і яны пайшлі разам уздоўж радоў карцін і экспанатаў.

Ён тлумачыў ёй нешта, яна ўважліва слухала, ківала. Увесь вечар ён ня бачыў нічога і нікога, акрамя яе. А потым яны пайшлі разам прагуляцца па засынаючым вуліцам, засыпаным першым залатым лісьцем. Было прахалодна, і яна дрыжэла – бо прыехала прыгожая на таксі, каб ня мяць сукенку верхнім адзеньнем. Ён зьняў пінжак, і ахінуў яе. Яна выглядала у ім кранальна, як дзіця, якое вырашыла прымерыць дарослы нарад.

Яго машына засталася ля выставы – бо ж шампанскае, хоць ён яго наогул не любіў і ня піў ніколі, ды выпіў дзеля яе – за кампанію.

Таму ён выклікаў таксі, і павёз яе дамоў. Яна жыла далекавата, ля Кальварыйскіх могілак.

- Цікавая назва. А што яна азначае? – запытала яна яго.

- Кальварыя – гэта Галгофа, - патлумачыў ён. – Тое з польскага. З лаціны.

- Як цікава! – зьдзівілася яна. – Ніколі гэтага ня ведала!

- Ты шмат чаго яшчэ ня ведаеш, любая, - хацелася яму сказаць ёй. Яна выглядала такой маленькай, пяшчотнай – быццам бы фея са старонак казкі.

- Вы так цікава расказвалі, там, у вас дома, - даверліва вымавіла яна. – Вы столькі ведаеце! Я ніколі ня чула такіх легендаў, быццам бы вы там былі, і ўсё наўласна бачылі.

- А можа, і быў! – ён усьміхнуўся ў адказ. – Калісьці былі часы, я быў рыцарам, і ваяваў драконаў.

- А прынцэсаў вы вызвалялі? – сур’ёзна запытала яна.

- Дагэтуль не. Ён усьміхнуўся.

Яе шчокі паружавелі – ад хваляваньня і шампанскага. У першыню яна была побач з такім сур’ёзным мужчынай, сталым, прыгожым, у дарагім касьцюме. Ён і выглядаў незвычайна, ня так, як усе, каго яна ведала. Нагадваў болей іншаземца, француза ці гішпанца, толькі быў высокі ростам, крэпкі, як жыхары паўночных краінаў. І размаўляў так, як і яна. На мове, на якой размаўлялі яе бацькі, і якую яна ведала зь дзяцінства. На якой яна малілася, і слухала пропаведзі ў касьцёле. На якой чытала, думала, і марыла. Размаўляў вольна, не губляючыся, быццам бы гаворыў так усё жыцьцё, і іньшай мовы наогул ня ведаў. Мова чужынская ня пэцкала яго вуснаў.

- А вы якія мовы ведаеце? – раптам запытала яна.

- Лаціну. Ён сур’ёзна глянуў на яе. – Польскую. Ангельскую. Італьянскую. Арамейскую, грэцкую. Можа, і яшчэ якія. Я ўжо і забыўся.

- Вой, як шмат! – зьдзівілася яна. – А я толькі ангельскую, бо вучыла ў школе. А на лаціне я ведаю Ойча наш. Яна чамусьці зьбянтэжылася, і пачырванела.

- Гэтага дастаткова, - суцешыў яе ён.

- Ты верыш у Бога? – запытаў ён яе.

– Я яго ведаю, - ціха адказала яна. Ён кіўнуў.

- Так, гэта правільна. Мы павінны ведаць, а верыць. Бо ж вера – гэта заўсёды вера ў нечыя веды. Бога ж трэба адчуваць самому, мець яго ў сваім сэрцы.

І тады той, хто ведае Яго, як сонца, асьвятляе сьвятлом ведаў сэрцы другіх. Рэлігія – гэта вера. Бог жа – гэта гнозіс. Рэлігію можна забыць, закінуць, памяняць. Веру можна згубіць. Але ж веды Бога згубіць зусім не магчыма.

Яны пад'ехалі да яе дому – высокага шматпавярховіка. Узьняліся на адзін з апошніх паверхаў. Перад дзьвярыма яна спынілася.

Ён глядзеў на яе. Яна яшчэ мела на плячах яго піньжак. Забылася.

- Хаціце кофе? – раптам запытала яна.

Ён кіўнуў – словы раптам згубіліся. Яна адкрыла дзьверы ключом, і яны ўвайшлі ў невялічкую кватэрку – сапраўды манаскую. Чыстую, ціхую, аськетычную.

- Я тут толькі часова, - вымавіла яна. А потым дадала, памаўчаўшы:

- Мы з Алексам разышліся. Як раз тады, калі мы хадзілі ў лес. Гэта быў апошні раз. Я цяпер жыву тут.

- Тут цудоўна, - вымавіў ён крыху хрыпла. Словы цяпер знайшліся, але ж голас быў нейкім чужым, быццам бы вусны ня слухаліся яго.

Яны прайшлі на кухню, яна зрабіла каву з машыны. Прыемны водар напоўніў пакой.

- У мяне ёсьць толькі мёд, і фрукты. Яна адкрыла халадзільнік.

- Мёду да кавы дастаткова, - запэўніў ён яе.

Яна ўзяла чашку, і села насупраць.

Адпіла глыток. Ён таксама. Апусьціў чашку на стол.

- Мне здаецца, я ведаў цябе заўсёды. Я кахаю цябе, Летыцыя, - раптам вымавіў ён. – Я шукаў цябе ўсё жыцьцё. І цяпер я ня ведаю, што мне рабіць.

- Чаму? – ціха запытала яна, узьняўшы на яго вочы.

- Бо ж я ўжо не малады, а ты – дзіця. Колькі табе год?

- Дзевятнаццаць, - вымавіла яна. І паправілася:

- Будзе хутка.

- А мне … ён горка ўсьміхнуўся. – Скажам так, другая палова жыцьця. А дакладней, пяцьдзесят два.

- Гэта нічога, - раптам вымавіла яна. – Нічога страшнага. Вы яшчэ пражывеце доўга. Мне здаецца, што нашае жыцьцё ніколі ня скончыцца, - працягнула яна даверліва. – І яшчэ, я вас памятаю. Вы прыходзілі да мяне. Некалькі разоў. Яна глядзела на яго шырока адкрытымі, даверлівымі вачыма.

- Першы раз вы прыходзілі да мяне ў дзяцінстве. Я сядзела адна ў пакоі. А потым – калі … калі я ўжо стала жанчынай … амаль. Калі … яна пачырванела. – Калі я вырасла, - працягнула яна.

- Я бачыла вас наяве. Вы … вы падобны на Яго, - раптам ціха вымавіла яна.

- Я і ёсьць Ён. Ён кіўнуў.

- Пайдзёмце ў пакой. Яна ўзьнялася. – Там … больш утульна. Там ёсьць канапа, і ... Яна пачырванела. І вялікае люстэрка. Я люблю глядзецца ў яго.

- Калі б я быў па-за люстэркам, я б любіў глядзецца ў цябе, - вымавіў ён, узьнімаючыся.

Яна ўстала, і прайшла перад ім у пакой – ціха, па мяккаму, пушыстаму дывану-дарожцы.

У пакоі, маленькім, было ўтульна. Стаяла вэлюравая канапа, ля сьцяны – вялікі ложак, а між імі – шыкоўнае старое трумо, у якім яны адлюстроўваліся ў таямнічых паўцёмных глыбінях.

Яна замёрла перад люстэркам, углядваючыся ў яго бездань. Ён палажыў ёй рукі на талію, і абняў. Яна адкінула яму галаву на плячо. Ён крануў вуснамі яе шыю. У вялікім люстэрку цемра цалавала сьвятло. Яго цёмны сілуэт, як гара, і белая галубка – на яго грудзі.

Яе шаўковае плацьце неяк незаўважна апынулася на падлозе. Пад ім нічога не было. Толькі нешта паўпразрыстае, што ледзь можна было назваць бялізнай.

Яго ўразіла прыгажосьць яе цела, дасканалага, і ў той жа час нявіннага, некранутага, юнага і тонкага, як у багіняў, якіх ён маляваў бяссоннымі начамі, а потым курыў цыгарэту за цыгарэтай, запіваючы чорным, як вугаль, кофе, каб неяк пераважыць яшчэ адзін самотны дзень.

Ён абышоў яе – стаў наперад між ёй, і люстэркам. Яго вусны накрылі яе вусны. Смак кавы і мёду салодкай спакусай уліўся ў яго цела. Яго рукі гладзілі яе сьпіну, сьцёгны. Яна ціха ўздрыгвала.

- Ты хочаш гэтага? – запытаў ён.

- Так, - адказала яна. – Я хачу цябе, каханы. Любы мой. Я марыла аб цябе ўсё маё жыцьце. Усё зьмяшалася, і болей ён нічога ня мог разьлічыць. Яе рукі, вусны, вочы, валасы, грудзі, яе пах, ап’яняючы яго, дакрананьне яе да яго гарачага цела. Ён падхапіў яе на рукі, і апусьціў на ложак, і ня мог утрымацца – хацеў рабіць гэта доўга, але ж увайшоў у яе адразу – яна ўскрыкнула, але ж не адштурхнула яго, а, наадварот, прыціснулася. Яе ўлоньне было вузкім, такое ён яшчэ не сустракаў у жанчыны. Ці гэта было так даўно, што ён ня памятаваў. Так адбылося, што яго жанчыны былі старэйшымі, ці яго аднагодкамі, але ж вопытнымі, умелымі. Зь ёй жа ён

адчуваў, што ў яго руках ляжыць нявіннае дзіця. Яна даверліва абдымала яго, яе вочы былі закрытыя. Ён жа шалеў ад жарсьці і жаданьня. Яе цела, цела мармуровай багіні перад ім, нарэшце было жывым. Ён валодаў ёй так, як мужчына павінны валодаць жанчынай – поўнасьцю. Тут было не да нейкіх там складаных фокусаў і позаў, і гэта былі ня жарты, не эратычныя гульні і не спаборніцтва дзьвух вопытных у асалодах каханкаў. Яго розум быў недзе далёка, так далёка, што ён яго поўнасьцю згубіў. Яна ціха ўскрыквала, ад асалоды ці болю, яму было невядома. Тое, што ён адчуваў, ён ня мог апісаць словамі. Яго быццам бы калыхалі вялікія хвалі, якія залівалі яго з галавою, і пазбаўлялі подыху. Ніз жывату быццам бы праціналі маланкі, яго зводзіла сутаргай. Яго жаданьне было такім моцным, што ён не спыніўся б, нават калі б гэты дом абваліўся яму на плечы. Ён і ня ведаў, што можна кахаць так. Яго ўзрушвала яе тонкае, маладое, амаль дзіцячае цела, яе няўпэўненыя слабыя рухі, яе запракінуты твар, зблытаныя валасы, закрытыя вочы, стогны, нагадваючыя плач. І ён адчуваў, як яшчэ больш сьціскваецца яе ўлоньне, як яно ахоплівае яго, шчыльна, быццам бы зацягваючы некуды ў бездань, дзе існавала толькі насалоджаньне ёю, яе дасканалым целам, ёю ўсёй, поўнасьцю, разам, і целам і душой. Ён выліваўся ў яе так доўга, што здаецца, гэта ніколі ня сконьчыцца. Не падумаў ні аб якіх прэзерватывах. Ён проста ўзяў яе, так, як яно і было запаведана Богам. Выліў у яе сваё семя, і быў гатовы ўзяць за гэта поўную адказнасьць, і за яе душу, і цела, і за ўсё, што будзе зь імі потым.

А потым яны ляжалі ў абдымках на ложку, доўга, вывучаючы адзін аднаго рукамі і вуснамі.

- Я нікуды цябе не адпушчу, - ціха вымавіў ён.

- Я нікуды не пайду ад цябе, - адказала яна, утыкаючыся ў яго плячо.

# VIP-party

Трапіць на мерапрыемства апынулася лёгка – яно не было закрытым. Да таго ж, Вольга мела журналісцкую акрэдытацыю, і званок менеджару зь лёгкасьцю здабыў для яе нават і ўдзел у прыватнай ВІП-вечарыне, якую ладзіў сам гаспадар франшызнай сеткі.

Яна накрэпка запомніла імя рэстарану – “Арсенал”, і яго месца знаходжаньня. Усё ж, паход на могілкі не прайшоў дарма. Варона была памехай – гэта Вольга цяпер разумела. А вось коцік, пэўна, быў добрым знакам, з’явіўшымся, каб дапамагчы.

- Мур-мур, - у думках вымавіла Вольга, і задаволена пачасала яго за вухам.

Яна стаяла насупраць галоўнага ўваходу, дзе гаспадар з адміністратарамі і кіраўніцтвам віталі гасьцей. Праз выставу маглі прайсьці ўсе жадаючыя, якія рабілі фота ў фотазоне, аднак столікі ў рэстаране былі зарэзерваваны, і ўваход з выставы быў закрыты.

Аднак Вольга ў прыватную зону не сьпяшалася, бо ж тыя, каго яна чакала, яшчэ не прыйшлі. З размовы на верандзе яна разумела, што на адкрыцьці адбудзецца нешта накшталт косплэй-вечарынкі, калі госьці былі вольныя прыйсьці ў касьцюмах, прысьвечаных таму ці іньшаму сярэднявечнаму перыяду. Той, хто меў найбольш падобны на сапраўдны строй і мог дасканала яго прадставіць, меўся атрымаць каштоўны прыз – які, гаспадар не казаў, але ж упэўніў, што гэта будзе багаты сярэднявечны скарб, які ня сорамна і нашчадкам пакінуць. Таму публіка прыходзіла розная – былі і такія, што апрануліся ў багатыя касьцюмы з атласу і аксаміту, ці, наадварот, сялянскія і гарадскія убраньні, пераўтварыўшыся ў кагосьці накшталт Робін Гуда, ці вясёлай карчмаркі. Але ж было шмат і такіх, хто апрануў дарагое сучаснае вячэрняе аддзеньне, жадаючы найперш паглядзець на другіх, але ж не забыць і паказаць сябе.

Аднак тых, каго яна намагалася ўбачыць, не было. Таму Вольга

ўсё чакала і чакала, пераступаючы нецярпліва з нагі на нагу, і машынальна робячы сьнімкі яркага натоўпу ў вялікім аб’ектыве прафесійнай камеры.

Раптам яе нібыта падкінула ад нечаканасьці. Калі ўжо яна пачала губляць увагу, і падумала, што наогул дарма прыйшла, памылілася, і тыя, каго яна так жадала ўбачыць, ня прыйдуць наогул, перад чырвонай дарожкай спынілася вялікая чорная машына, і зь яе выйшла пара. Ад нечаканасьці Вольга адкрыла рот. Яна дапускала магчымасьць, што дзеля такога выпадку пэўна ж госьці набудуць асаблівы выгляд, аднак тое, што яна ўбачыла, пераўзыйшло ўсе яе чаканьні.

Мужчына ў майстэрску зробленай тонкай, зьзяючай кірасе на чорны аксамітны жупан, у чорных нагавіцах і высокіх сапагах, зь кароткім мячом на баку, з ордэнскім знакам з выявай дракону на залатым ланцугу на шыі, працягнуў руку даме, у якой Вольга ледзь пазнала сваю былую аднаклясьніцу. Летыцыя лёгка спусьцілася з высокай ступенькі машыны, прытрымліваючы рукой шлейф чорнага, расшытага золатам шаўковага плацьця з пышнымі ўзьнятымі рукавамі, перацягнутымі парчовымі лентамі. Плацьце, адкрытае ў грудзях, мякка падкрэсьлівала талію, струменячыся па ёй тонкім покрывам цемры. На высокай прычоске са складаных косаў была закрэплена доўгая празрыстая вуаль, нагадваючая дымку. На яе шыі цяжкое раскошнае калье ляжала шчыльнай, зьзяючай зьмяёй, якая трымала ў роце яблыка.

- Bvlgary? – падумала Вольга. – Ня йнакш! Рукі панны ўпрыгожвалі таўстыя залатыя бранзалеты, ўсыпаныя каменьчыкамі. Праз натоўп да Вольгі, якая прабілася да самай дарожкі, каб зрабіць найлепшы сьнімак, пацягнула густым пахам штучнай парфюмы – цяжкім, салодкім, ружова-мядовым водарам. Расьпіхаўшы ўсіх, яна прыцэлілася камерай, каб пасьпець схапіць крупны плян у аб’ектыве.

Машынальна яе вока заўважыла на перадзе кірасы інкруставаную золатам выяву – выгнуты дракон з распоратай сьпіной, на якой быў зроблены знак крыжу. Такі ж знак быў і на ланцугу, які вісеў у чалавека на шыі.

- Ого, какой мужик! – вымавіў нехта збоч ад яе. – Прямо как настоящий! И не скажешь, что косплей.

- Будто из «Игры престолов», - адказаў нехта. – И девка тоже классная. На Лив Тайлер похожа.

- Да ну, модель какая-то. Худая, и рост. Наняли, скорее всего. Хотя у нас я таких не видел – я в городе всех красивых баб знаю. А эта какая-то новая. Нигде её не встречал.

- Загадочная незнакомка! – адказаў другі голас. – Вот и выясни, кто такая. Если получится, хорошие деньги заработаешь. Может, её можно будет ещё раз … нанять. Голас зьдзекліва зарагатаў.

Вольга павярнулася да іх.

- Не атрымаецца, - кпліва вымавіла яна. – Гэта птушка – ня вашага палёту.

- А ты адкуль ведаеш? – запытаў нечы голас.

- Ведаю, бо яна – мая старая знаёмая. За сходную плату прадам адрасок.

- Дамовіліся. Таўставаты чалавек у мятай белай кашулі і шэрым штроксавым піньжаку хлопнуў яе па прадплеччу. Вольга бліснула на яго вачыма, і працягнула шчолкаць камерай далей, але ўжо бяз доўжнага энтузіязму.

Цяпер трэба было прабрацца ўнутр, дзе зьбіраліся ВІП-госьці. Аднак, на жаль, журналістаў вольна туды не дапускалі. Вольга спадзявалася на дамоўленасьць і акрэдытацыю вядомага тэлеканалу, і насамрэч гэта зработала. Але ж прайсьці ім дазволілі толькі ў нешырокі калідор пры ўваходзе, і шопатам папярэдзілі, каб іх не было ні бачна, ні чутна, бо ж госьці сабраліся высокія.

Вольга засталася стаяць у дзьвярах, апранутая ў простую чорную кофту і джынсы, увешаная камерай, сумкай з дакументамі, дыктафонам і мікрафонам. З болем яна зразумела, што яна тут – на працы, і сьвята гэтае наогул не яе.

Аднак не пайсьці сюды яна не магла, бо ж яе цягнула да гэтага чалавека, як магнітам.

У мяккім сьвятле прыглушаных лямпаў таямніча зьзялі золата і рознакаляровыя камяні, якія упрыгожвалі нарады. Сьвятло струменілася па шоўку і карункам, разьлівалася лужынамі на атласе і расьцякалася па аксаміту. Было яшчэ некалькі параў, апранутых так жа прыгожа, як і яе знаёмыя, але ж гэтая пара засланіла сабой ўсіх.

Цікавае відовішча з'яўляў сабой гаспадар франшызы, апрануты ў касьцюм рыцара ў доўгай кальчужнай кашулі і белым плашчы з алым крыжом на ім.

Калі ўсе госьці ўладкаваліся, гаспадар устаў, і ўзьняў зацягнутую ў пальчатку руку, патрабуючы ўвагі.

- Уважаемые господа! – вымавіў ён.

- Прошу вашего внимания!

Госьці павярнуліся да яго і запляскалі ў далоні. Калі гукі апладысьментаў сьціхлі, ён вольна махнуў далоньню, і працягнуў:

- Мне, как старому рыцарю, потрёпанному в боях и невзгодах, очень приятно видеть реализацию планов, которые я вынашивал много лет. Можно сказать, что сбылась моя мечта – открыть не только ресторан, но и музей. Амбициозное задание стоило многих усилий. Сначала я пытался найти мастеров, которые бы мне сделали на заказ то, что я хотел. Однако оказалось так, что среди желающих, имя которым было легион, не нашлось ни одного достойного, чтобы сделать оружие музейного качества – такое, как я хотел, и как я хотел. Если катаны и ятаганы мне удалось заказать в Японии и у местных мастеров – спасибо, Дагестан! – з гэтымі яго словамі запляскалі ў далоні і зашумелі некалькі барадатых мужчынаў за столікам ля барнай стойкі, - то средневековое европейское оружие оказалось не просто решаемой задачей. Местные мастера его сделать не могли – эти тонкости не были доступны нашим умельцам, да и желания у них особого не было. Мне

предложили несколько традиционных русских мечей, которые я также включил в экспозицию, однако ни клеймор, ни цвайхендер, ни фламберг, ни эспадон мне заказать не удалось. Мастеров отпугивала длина и сложность ковки, особенности стали, а также необходимость богатого украшения, так как этими мечами традиционно владела аристократия. Сказывалось и отсутствие опыта в подобной работе. Та же участь постигла и готические рыцарские доспехи. Тут уже меня просто, говоря по-нашему, пытались кинуть, предлагая разнородные лубочные поделки смешанных исторических периодов. Я же поставил себе планку – качество экспонатов должно было быть музейным. Но кто же мог знать тонкости и тайны изготовления сложного оружия типа фламберг? Или итальянского готического доспеха? И кто при этом мог бы оказать мне ещё и консультацию историка, и помочь оформить неоформленное облако образов, которые роились у меня в голове, в нечто, что могло бы в разумные сроки воплотиться в жизнь, при этом выдерживая уровень качества, достойный итальянских графов и немецких баронов?

Пры гэтых словах Фёдар вытрымаў даўгаватую павузу. За столікамі пачалі зацікаўлена шаптацца і круціць галовамі.

Нехта незаўважна паказваў туды, дзе сядзеў высокі чорнавалосы мужчына з прыгожай дзяўчынай-мадэльлю ў тэатральным сярэднявечным строі.

- Так, я вижу, вы догадываетесь! – Фёдар паблажліва ўсьміхнуўся. – Этот человек сделал мне честь появиться на этом открытии, хоть сначала мне пришлось приложить усилия, его упрашивая. Пан Михаил соблаговолил явиться к нам в собственноручно выкованном доспехе и костюме, точно отражающем эпоху позднего средневековья, а также привести сюда к нам прекрасную даму, которую он до этого скрывал от чужих глаз в своем замке, как и подобает настоящему рыцарю.

Михаил, прошу вас! Фёдар адыйшоў убок, і зрабіў запрашаючы знак рукамі. Публіка ізноў запляскала ў далоні.

- Любезно просим вас и вашу даму! Расскажите нам немного о том, как проходил процесс изготовления, и о вдохновении,

которое позволило вам реализовать такой смелый и амбициозный проект так блестяще, и в срок!

Міхась устаў з-за сталу, і працягнуў Летыцыі руку. Яна лёгка ўклала далоньку ў яго вялікую далонь, і прайшла за ім да ўзвышаньня, нагадваючага маленькую сцэну. Фёдар працягнуў яму мікрафон, але ж Міхась усьміхнуўся, і пакачаў галавой.

- Ня трэба, - вымавіў ён. І нечакана зал замёр. Яго гучны голас, які ён зусім не ўзвышаў, рэхам адбіўся ад сьценаў паўцёмнага абліцаванага камянём залу, так, што нават полымя ў бутафорскіх факелах, здаецца, ўздрыгнула.

Раптам усе пачулі сябе і сапраўды быццам бы ў сярэдзіне пятнаццатага стагоддзя, восеньскі вецер за сьцянамі дзіка і драпежна наляцеў, грукаючы ў вокны і дзьверы, і халодны яго подых ледзь не затушыў кволае сьвятло электрычных сьвячэй.

Маленькімі і самотнымі адчуў сябе шэраг гасьцей, аточанымі варожым сьветам, які пагражаў рабаўніцтвамі, гвалтам, войнамі і хваробамі, але ж і прыцягваў і палохаў адначасова сваёй непаспытанай дагэтуль сапраўднасьцю жыцьця. Тут кожны быў сам за сябе, сам насам з сабой, і адначасова залежыў ад усіх, пазіраючы ў вочы варожае цемры, якая махала за сьцянамі карчмы яловымі лапамі. І дарогі наперадзе ляжалі такія благія і закінутыя, што стыла ў жылах кроў, і сагрэць яе магло толькі цяпло вялікага агменю, ды кружка добрага віна, зваранага з карэньнем.

- Шаноўнае панства! Дарагія госьці! – вымавіў ён голасам нізкім, глыбокім, чутным у самым далёкім кутку залы. – Перш за ўсё, хачу падзякваць за запрашэньне спадару Фёдару, які даверыў мне такую складаную і сапраўды адказную працу. Але ж, калі маеш вопыт і веды, няма нічога складанага ў тым, каб зрабіць тое, што рабіў ужо шмат разоў. Так адбылося, што зброя лёгка лажыцца ў маю руку, і рабіць яе мне таксама і лёгка, і прыемна. Такі ўжо, напэўна, у мяне лёс, на блага ці на дабро – хто ведае. Аднак меч для мяне і сапраўды азначае шмат. Найперш, меч ваяра – гэта працяг яго душы. Як душа павінна быць і прыгожай, і дасканалай, моцнай у веры і закалённай у духу, так і меч павінен быць яе адлюстраваньнем – вострым,

справядлівым і годным свайго ўладальніка, здольным хутка вырашаць, дзе дабро, а дзе зло, дзе праўда, а дзе – няпраўда, і так жа хутка адсякаць усё шкоднае і амярцьвелае, каб даць места росту новага і жывога.

Таму рабіць гэтыя мячы было для мяне і вялікай радасьцю, і адказнасьцю. І цяпер я з задавальненьнем назіраю плады сваёй працы, якія, я спадзяюся, доўга будуць радаваць вока і дух наведвальнікаў.

Да таго ж, па просьбе гападара гэтага месца я зрабіў і гэты дасьпех – парадны панцыр у італьянскім стыле, упрыгожаны выявай дракона, які ўпершыню быў выкарыстаны Сігізмундам Люксембургам як сымбаль перамогі сьвятла над цемрай, Сьвятога Юр'я - над д'яблам у тыя цяжкія часы, калі сарацыны палівалі крывёю землі нашых братоў па веры. Угоршчына стагнала пад іх націскам, і небясьпека пагражала нават і землям Польскае Кароны. У тыя страшныя часы, калі зямля зрабілася мокрай ад крыві хрысьціянскіх ваяроў і сьлёзаў іх жанок і дзяцей, якіх многімі тысячамі гналі ў сарацынскае рабства, лепшыя ваяры суседніх с Угоршчынай краінаў – Польшчы, Харватыі, Сербіі, Італіі, Германіі вырашылі сабрацца разам, каб з'яднаць сваю моц войскаў і духу, і спыніць драпежны націск ворага. Абраныя дваццаць два рыцара адной ноччу правялі страшны і небясьпечны абрад, які ледзь ня каштаваў ім жыцьця, але ж дракон ночы быў зьвязан, і ўкінут у назад у цемру. Знакам гэтай перамогі стала выява яго разрубленага ўздоўж цела, якое было запячатана крыжом Сьвятого Юр'я. Гэты знак і членства ў Ордэне Дракона атрымаў таксама і славуты князь Вітаўт, і кароль Ягайла.

Але ж я яшчэ ня ўсім падзякваў за тое, што здолеў зрабіць. Бо мяне натхняла прыгажосьць, безь якой бы нічога гэтага наогул не было. З гэтымі словамі ён павярнуўся да Летыцыі, і яна зь мяккай, зьзяючай вусьмешкай глянула на яго.

Натоўп затаіў подых, зь цікавасьцю аглядаючы цяпер ужо панну ў шыкоўным італьянскім строі.

- Мая жонка зрабіла мне ўсе ўмовы, каб я мог працаваць, не задумваючыся ні аб чым, што магло б абцяжарыць маё сэрца, -

вымавіў Міхась, і, нахінуўшыся, крануў вуснамі маленькую белую кісьць, прыкрытую карункамі.

Жанчына насупраць яго выглядала настолькі аўтэнтычна, быццам бы перад гасьцямі ажыў стары партрэт. Прыгажуня з чорнымі густымі косамі, складана ўложанымі вакол скроняў, выйшла зь цемры стагоддзяў, і стала, спыненая патокам залатога сьвятла, якое лілося на яе зь вялікай крышталёвай люстры ўверсе.

- Я магу толькі падзякваць пану ў адказ, - нягромка вымавіла яна, голасам аксамітным і пяшчотным, чараўнічым, як шэпт маладога лісьця ў вясновым садзе.

- Бо ж пан увесь час быў добрым са мной, і дзякуючы яго мячу я заўсёды магу адчуваць сябе ў бясьпецы.

Міхась усьміхнуўся, і нахіліў галаву. Фёдар запляскаў у далоні, і зала ўзарвалася гучнымі апладысьментамі.

- Спасибо, дорогой друг! – вымавіў ён, падыходзячы, і праводзячы Міхася з Летыцыяй на іх месцы за столікам. Пад гукі апладысьментаў і гукі захапленьня яны прайшлі і селі, быццам бы нічога не адбылося. Кельнер падыйшоў да іх, і наліў у кубкі густога чырвонага віна. Госьці пачалі стукацца келіхамі, і хутка радасны гоман і гаворка запоўнілі пакой.

Нарэшце Вольга апусьціла затвор камеры. Яе рукі дрыжэлі ад напружаньня, і ад злосьці.

- Панна! Супруга! – вымавіла яна пра сябе – а адбылося ўслых.

Некалькі журналістаў зьдзіўлена глянулі на яе.

- Ты ж казала, што іх ведаеш? – запытаў таўсты хлопец у мятай кашулі, мокрай ад поту.

- Ведаю, але ж што яна супруга – гэта для мяне было сюрпрызам, тут хавацца ня буду. Яна зморшчылася.

- Лепш сабе не знайшоў, - быццам бы пра сябе вымавіла яна. – Ня думала, што на ёй нехта калісьці жэніцца, пасьля таго, што

было.

- А што было? – зацікаўлена запытаў малады чалавек, разшпільваючы ворат кашулі.

- Лепш сказаць, чаго толькі не было! – Вольга ўсьміхнулася. – І каго. А цяпер вось, дакацілася да нейкага вар'ята ў сярэднявечным строі. Пра яго я таксама магу расказаць шмат чаго цікавага. Толькі – за асобную плату. Чуеш? І каб выток інфармацыі не называў. Скажаш, што надзейны. Пяцьсот даляраў. За кожнага. І абяцаю, што ад гэтых фактаў будзе пахнуць смажаным. Пеклам. Раптам яна нечакана ашчэрылася, нагадваючы Ганну. Хлапец зьдзіўлена і напалохана глянуў на яе.

- Ты што, бітвы экстрасенсаў пераглядзела? Нейкая ты дужа злавесная, - вымавіў ён, змушана рассьмяяўшыся.

- А гэтае – за асобныя пяцьсот даляраў. Вольга глянула на яго – цяпер жартаўліва, і нават спакусьліва. – Я ўмею зьбіраць інфармацыю. І трапляць у прыгоды, - дадала яна пра сябе. – Але ж усё апынулася на яе карысьць, і найлешым чынам, падумалася ёй.

Яны разьвіталіся зь Фёдарам, які ўжо добра набраўся, і, хістаючыся і шырока ўсьміхаючыся, ціснуў Міхасю руку. Той ў адказ крэпка пацісннуў працягнутую далонь. Фёдар карцінна патрос рукой у паветры, быццам бы ахлаждаючы яе, і радасна вымавіў:

- Ну и рука у вас, Михал Михалыч. Как железная просто. Нет, ну вы ведь правда какой-то самородок, честно. Я так рад, что между нами завязалось знакомство.

- Михал. Михась сделал ударение на первом слоге. Альгердович.

- А? Да? Как интересно... Фёдар паправіў спадаючы на вочы капюшон плашчу, але ж потым адкінуў яго зусім, застаўшыся ў шчыльнай шапачцы-падшлемніку, з-пад якой выбіваліся ўспацелыя рудыя валасы.

- Ну, в общем, Михаил! Ён качнуўся, і схапіўся рукой Міхасю за плячо. Той акуратна падтрымаў яго, вярнуўшы на ранейшае месца.

- В общем, приезжайте к нам ещё! В смысле - ко мне. В Москву. Жду вас в гости со всей душой! Душевно приглашаю! ... От всей души!

- Шчыра запрашаеце. Міхась усьміхнуўся.

- Именно! Фёдор узяў яго руками за плечы, і пранікнёна глядзеў у вочы.

- Вы знаете, вы такой хороший человек, настоящий! Каких уж теперь мало. А может, продолжим? Посидим ещё где-нибудь? В номере можно у меня посидеть. Ён з надзеяй глянуў на Летыцыю.

- Шчыры дзякуй, але ж лепш сустрэнемся ў Маскве. Міхась асьцярожна зьняў з пляча яго руку. Другая рука Фёдара вяла матлялася ўздоўж тулава. Раптам ён выдаў горлам гук - нібыта ўсхрапнуў, ад чаго адразу абудзіўся, і шырока адкрыў вочы, асалавела гледзячы перад сабой.

Міхась незаўважна махнуў рукой ахове на ўваходзе. Высокі хлапец у чорным касьцюме зразумеў, і шпарка падыйшоў да іх, як цень вырасшы ў рыцара за плячом.

- Фёдор Борисович, ваша машина уже готова. Водитель ожидает у входа, - ветліва вымавіў ён.

- А куда я поеду? Фёдар даверліва ўзьняў на яго вочы.

- Вы? Ахоўнік на імгненьне задумаўся.

- Может быть, в отель?

- Отлично! - Фёдар узрадваўся. - Поедемте! Именно! В отель! Ён сьлізгануў вачыма вакол, яго позірк мінаваў твар Міхася, і спыніўся на Летыцыі.

Міхась у гэты час набіраў у вялікім мабільніку нумар.

- Алег? Дзе ты? Падыдзі ты сюды. Госьць твой тут да мяне прыліп. Што? Дзе?

- А каб яго. Абкурыўся нейкай дрэні. Такі ж, калі ня горш. Каб вас ліха... Ён вылаўся пра сябе ў прастору. Павярнуўся да ахоўніка.

- Слухай, дырэктар ваш кажа, каб вы яго ў гатэль адвезьлі, і дзяўчат яму якіх у кампанію. Каб яму сумна не было. Карацей, займайся. Ён рашуча ўзяў Летыцыю за руку, махнуў Фёдару, і пакрочыў да машыны.

Ахоўнік застаўся стаяць з адкрытым ртом, разгублена гледзячы яму ў сьлед.

- Девочки? Это хорошо! Поехали! Куда там нужно ехать? - пачуўся голас ззаду, але ж Міхась ужо закрыў дзьверы і павярнуў ключ запальваньня.

# Дрэва

Дзяўчына, стройная, як кажуць, мадэльнай зьнешнасьці, выбачыўшыся, зайшла на кухню. З доўгімі чорнымі валасамі да пояса, ў паўпразрыстым хатнім адзеньні – нешта амаль невясомае і нябачнае, нагадваючае чорны туман, які ахінаў яе дасканалае тонкае цела. Яна нібыта ня шла, а таньчыла, і Тор на імгненьне разгубіўся, захоплены яе хараством. Так блізка ад сябе ён яе яшчэ ніколі ня бачыў. Можа, пару разоў бачыў з Алексам здалёк, ды тады добра не разгледзеў. Цяпер жа ён мог сказаць, што паглядзець тут было на што.

Яна была зусім маладая, школьніца, толькі што не падлетак. Доўгія стройныя ногі, тонкія рукі ў шыракаватых рукавах паўпразрыстага халаціку, пад якім прасьвечвала нешта накшталт бялізны – карункавы топ і маленькія шорты. Праз якія – чорт! – было проста ўсё бачнае. Ад яе тонка пахла нечым, нагадваючым прахалоду, лёд, і прымятыя сакавітыя кветкі ці плады, якія шчодра вылівалі вонкі апошнія рэшткі свайго водару. Ад гэтага спакусьлівага паху кружылася галава.

- Классный у тебя парфюм, - вымавіў ён. Громка, нахабна, каб прыцянуць увагу. Яна павярнулася да яго. Яе твар, авальны, вузкі, з высокім як у лялькі ілбом і вялікімі шэрымі вачыма, пухлявымі невялікімі ружовымі вуснамі і чорнымі тонкімі бровамі быў быццам бы намаляваны. Як не бывае ў жыцьці. Раптам ён нагадаў яму мультфільмы анімэ, якія глядзела яго малодшая сястра. У іх такія ж дзяўчыны з доўгімі нагамі і вялікімі вачыма ў кароткіх шортах як феі з'яўляліся з глыбіняў прыдуманага некім сьвету.

- Кто тебя придумал? – хацелася запытать яму. Але ж замест гэтага ён паўтарыў: "Классный парфюм". І дадаў:

- Не скучаеш? А может, с нами посидишь?

- Не, дзякуй, - вымавіла яна. – Мне гісторыю вучыць трэба.

Ён усьміхнуўся.

Яна кіўнула. – Вывучыла. І кашу ела.

- Ну і добра. Маці cькінула паліто, павесіла на велашку.

- Мама, калі хочаш, я магу прыгатаваць сырнікі, - вымавіла яна. - І курыцу зварыць.

- Ну, калі хочаш, прыгатуй. Маці зьдзіўлена глянула на яе. – А што здарылася?

- Нічога. Проста я не хачу памерці. Я ведаю, што я буду шчасьлівая. Ён прыходзіў, і паабяцаў, - нягромка вымавіла яна.

- Хто – ён? – маці ўськінула на яе вочы.

- Бог, – проста адказала яна. – Які нас ніколі не пакідае. Ён сказаў, што ў мяне ўсё будзе добра. Толькі трэба крыху пачакаць, і за ноччу абавязкова надыдзе дзень.

Маці імгненьне глядзела на яе, а потым падышла, і абняла, прыціскаючы да сябе.

- Калі ён сказаў, то трэба верыць, - ціха адказала яна. – Трэба верыць, дачушка. І ўсё у нас будзе добра, сапраўды.

# Эліта

- Прывітаньне, мама. У мяне? Усё добра. А як у цябе справы? Не, нічога. У мяне ўсё добра, я ж кажу. Тут вельмі прыгожа, і я гатоўлюся, ты ж ведаеш. На наступны год. Так, пераклады. Не, ня шмат, але ж мне хапае. У мяне ўсё ёсьць, нічога ня трэба. Так, Міхась. Пакупае, што хачу. Не сяджу, мы часта ў горад езьдзім. На мерапрыемства хадзілі, у рэстаран, на адкрыцьцё. Там? Многа каго было. Эліта, і свае, і з Расеі былі. Шмат людзей, многа хто ў касьцюмах, гістарычных. Выставу адкрывалі. Мама, ну што ты кажаш. Ён наогул ня п’е. Толькі зусім нямнога. Мама, у цябе ўсе алкашы кругом. Не садзіцца ён п’яны за руль ніколі. Ну што ў цябе за ўяўленьне? Бацька гэта бацька, ня ўсе ж такія.

Не, ня крыўдзіць. У нас усё добра. Ён мяне кахае. Мама, я шчасьлівая, і большага мне ня трэба. Гэта не галоўнае. Галоўнае, які ён чалавек. Так, грошы ёсьць. Я не запытвала. Навошта мне. Я бачу, што ўсё добра. Я зь ім не з-за грошаў жыву. А Алекс лепшы быў? Хто лепшы? Хопіць табе. У цябе адное заўсёды. І тое да сябе прыцягваеш, аб чым думаеш. Я аб благім ня думаю. Ем. Канешне. Добра ем. Гатую ежу – як трэба, тры разы ў дзень. Мне ня цяжка, тут усё ёсьць, электрапечка, мульціварка, робат ёсьць, аэрагрыль ёсьць. Уся тэхніка. Ня печка, што ты кажаш.

Яна засьмяялася.

- Кур’ер прывозіць усё, што трэба. Ён усё мне пакупае. Адзеньне, касьметыку, ноўтбук новы купіў. Тэлефон дарагі. Салоны мне ня трэба, я не хажу. Захачу, у горад адвязе. Мы не ў тайзе жывем … мама… Гэта – ня вёска. Ну што ты сабе ўяўляеш? Ты калі прыедзеш? Ды хоць заўтра. Бяры таксі. Ён заплаціць, ён казаў. Што, за яго грошы не паедзеш? Свае ёсьць? У цябе заўсёды ўсё сваё. Таму бацька і піў, што ты яму ініцыятывы не давала. Не вучу я цябе.

Каб ты бачыла, як тут прыгожа … Вой, сьнег пайшоў! –

усклікнула яна, як дзіця – радасна. У яе голасе быццам бы зазьвінелі званочкі. – Сьнег! Так і новы год скора надыдзе! Сьвята хочацца. Тут так усё можна ўпрыгожыць – як у казцы.

Прыедзеш? Ну і добра. Хочаш, сёньня прыязджай. Як раз адпачнеш перад панядзелкам. Ну ўсё, пака. Да сустрэчы.

- Каханая, ну што камін затопім? Ён, шырока ўсьміхаючыся, узьнік на парозе зь вялікай грудай паленьняў у руках.

- Зіма надышла!

Кінуў дровы ў яшчык ля ўваходу, і павярнуўся да яе. Яна толькі што зрабіла сабе каву, якую трымала, удыхаючы пару. Мяккі белы пухнаты швэдар, белыя вузкія легінсы, тапкі з зайцамі, і доўгія пухнатыя шкарпэткі. Нос яе быў ружовы, ад цяпла, якое падымалася з кружкі. Побач гудзеў абагравальнік, дыхаў цёплым паветрам з-пад сталу.

- Давай! – яна кіўнула. – Як раз і надвор’е такое – прыгожае, сапраўдная зіма! Сьнег ужо пакрыў пялёнкай падворак, мокрыя галіны, і пясок на беразе возера, адкуль яго зьлізвалі шэрыя, марудныя хвалі.

- Ты хочаш Новы Год? – запытала яна яго. У яе голасе было нешта ад дзіця, якое чакае ёлкі і падарункаў, казкі і чараўніцтва.

- Я? Канешне хачу. А хто ж ня хоча Новы Год? Усе мы ў душы дзеці. Толькі я цяпер яшчэ і Дзед Мароз. Будзеш маёй сьнягуркай? Ён зьняў куртку, павесіў на кручок ля ўваходу, падыйшоў, і абняў яе. Ад яго пахла сьвежым парубленым дрэвам, дровамі і лесам.

- Пушыстая, як зайчык! Як воблачка. Анёлак ты мой любы. Ён пацалаваў яе у ружовы нос. Яна пахла нечым ярка-салодкім, фруктовым, кветкавым – як сьвята. Пах пасаваў да мяккага белага адзеньня, да яе чысьціні і маладосьці. Яна сама нагадвала сьвежы, некрануты сьняжок, які закрыў яркую восеньскую лістоту. Гэты сьняжок было боязна крануць,

парушыць яго цноту здавалася яму блюзьнерствам. Яго рукі пагладзілі яе талію, паднялі швэдар. Цела пад ім было зусім тонкім, як сьцебялёк кветкі. Нават косткі пад пальцамі адчуваліся.

- Ты што ела? – запытаў ён яе.

- Кашу. Яйцо, - адказала яна напалохана. – Канфету, - падумаўшы, дадала горда.

- Вой, вазьмуся я за цябе. Будзеш есьці, як сапраўдная вясковая дзяўчына. Бульбу з салам. Ён строга глянуў на яе.

- Ня трэба. Не хачу. Яна жалобна ўзьняла на яго вочы.

- Напалохалася? Куплю весы і буду цябе ўзьвешваць кожную раніцу. Толькі мне яшчэ пахудзей. Адразу на сальную дыету.

Ён строга ссунуў бровы, аднак яму самому хацелася сьмяяца.

- Мама прыязжае, - вымавіла яна. – Сёньня. Сказала, пасьля абеду будзе.

- Мама? Ну, хай прыязджае. Хоць паглядзіць, як ты жывеш. Што я цябе тут не катую і на ланцугу не трымаю. Ён пакачаў галавой.

У яго памяці яшчэ быў іх першы тэлефонны разгавор, калі Катаржына пагрозна крычэла, называючы яго старым чортам, педафілам і шэрагам розных іньшых прыемных імёнаў. На што ён ёй адказаў, што лепш такі стары чорт і педафіл, чым такая дурная маці, якая ня бачыла, зь кім дачка жыла дагэтуль, і што зь ёй рабілі, а таксама давяла дзяўчыну да такога стану, што той цяпер прафесійная рэабілітацыя трэба, і фізічная і псіхічная. І што бацькі павінны думаць ня толькі пра тое, каб надбаць грошы, а і размаўляць зь дзецьмі, і будаваць даверлівыя адносіны, і ведаць, чым дзіця жыве, а не абшчацца падзатыльнікамі і лаянкай, адкупаючыся дарагім шмацьцём і наяўнымі грашыма, якія ніколі бацькоў не заменяць. У адказ ён пачуў столькі, што ў яго проста вушы завялі. Ён адсунуў тэлефон далёка, і той на ўсю хату крычэў, як яна ўсё жыцьцё

гэтую няўдзячную гадавала, начэй не спала, усе рукі абарвала, з сумкамі езьдзячы па турцыям, і куды горш, каб гэтая недарэчная шалава сышлася са старым мужыком, не вучылася і таскалася па клюбах і рэстаранах, і што калі яна, Катаржына, памрэ, яна нікому ня будзе патрэбная, праз тое, што нарадзіла такую няўдзячную зьмяю, якая маці і кружкі вады не падасі. І што яна яму хутка надаесьць, і ён яе выкіне вон, і яна прыцягнецца да маці на яе галаву, а маці ўжо не маладая, пяты дзясятак на сыходзе, і колькі яна будзе гэтыя сумкі таскаць, а тут на яе гэтае недарэчнае дзіця звалілася, ад якой усё жыцьцё адны праблемы! І бацька яе быў дурань і яна ў яго пайшла, і зьнешне, і ўнутры. І навошта яна з гэтым жыдком ажанілася, думала, што інтэлегент, а ён нават і ў Ізраіль з’ехаць ня змог, і цяпер недзе ляжыць у канаве, і ў вус ня дуе, яна ўпэўнена.

Ён тады ня вытрымаў, і, адкіўшы ўсе каноны ветлівасьці, рашуча спыніў размову, сказаўшы, што ў яго шмат працы, і, нажаль, далей ён гэтую каштоўную з усіх бакоў гаворку падтрымліваць ня можа. Але ж ён заўсёды застаецца гасцінна адкрытым для візітаў, і калі шаноўная спадарыня-маці жадае, то яна можа прыехаць, і сваімі вачыма ўпэўніцца, што яе дзіця дагледжанае, апранутае і накормленае ня горш, чым у яе самой. І кніжкі чытае, і ў ВУЗ рыхтуецца, і ўсё, наогул, прыстойна.

І вось – не чакаў, ды дачакаўся. Маці прыязджае. Ну, што ж. Хай прыедзе. І Летыцыя, бачна, па ёй сумуе. Усё ж, гэта родная маці, адзіны сапраўды блізкі ў сьвеце чалавек. Ну, канешне, акрамя яго. Бо ж цяпер у ім прачыналася пачуцьцё спаборніцтва і нават рэўнасьці. Яшчэ пагледзем, хто будзе лепшым з бацькоў для яе – ён, ці гэтая звар’яцелая цётка.

- Ты ж, напэўна, сумуеш па бацькам, сонейка? Калі хочуць, хай прыязджаюць. Яны мне мяшаць ня будуць. Хочаш, я ім дом адбудую побач? Асобны?

- Ня трэба, каханы! – яна напалохана глянула на яго.

- Тады ты іх адсюль ня выганіш, а я з глудзу з’еду. Я не хачу. Яны мяне з’ядуць – і бацька, і маці – асабліва.

Ён рассьмяяўся, і абняў яе.

- Ну, тады займайся, сонейка. Пайшоў я камін распальваць. Ён прайшоў у пакой, акуратна склаў стопкай дровы, усярэдзіну палажыў паперу, і чыркнуў доўгай запалкай. Хутка ў каміне запалаў вясёлы агонь.

На верандзе загудзеў міксер – Летыцыя нешта вырабляла, можа які торт. Рыхтуецца. Ён усьміхнуўся. Яго сэрца затапіла цёплым, мяккім пачуцьцём – нібыта боская ласка кранула. Агонь узьняўся, і гучна патрэскваў, з жарала каміну вылівалася прыемная гарачыня.

Ён выйшаў на веранду.

- Ну што ты, мая ластаўка, там гатуеш? – запытаў ён яе, падыйшоўшы і ахапіўшы яе ззаду.

- Шарлотку паставіла, зь яблыкамі, карыцай і гарэхамі. І глінтвейн яшчэ хачу зрабіць. Яна павярнулася да яго, ён прыцягнуў яе да сябе, і накрыў вуснамі яе вусны.

Сьнег усё ішоў і ішоў, і хутка за вакном стала зусім белым-бела. Неба, шэрае, брухатае, апусьцілася на дом, на возера і лес, прыдавіла баваўнянай коўдрай.

На стале падскочыў і загудзеў тэлефон.

- Ужо еду, хутка буду! – пачуў ён у трубку словы. – Дзе там паварочваць, кіроўца пытае.

- Другі паварот ад указальніка. Ён назваў назву вёскі. І там зь дзясятак кілометраў па лесу, праз поле, і ізноў у лясок. За ляском адразу дарога выводзіць на паляну – тут мой дом адзіны, ля возера.

- А, ведаю, - пачуўся голас кіроўцы: яна ўключыла громкую сувязь. – Быў я там неяк. Людзей вёз. Там каваль жыве – добры каваль. Мне там забор кавалі. І вароты, і мангал. Ён адключыўся, ня чуючы, што там яшчэ і калі ён каму каваў. Дарэчы, ён і сам ужо ня памятаваў.

Цераз можа якіх дваццаць хвілінаў на двары загудзела машына.

- Шпарка вы даехалі!

Ён выйшаў вонкі, падыйшоў да таксі і адкрыў дзьверы, працягваючы даме руку. Рука жанчыны, пухлявая, у кольцах, з доўгім вострым манікюрам, у аточаньні чорнага футра норкавай куртачкі і з бліскучымі залатымі часамі, лягла ў яго далонь. З машыны гучна запахла яркай, салодкай парфюмай. Дарагі, але ж едкі, назойлівы пах. Як моцны ўдар па ненастроеных струнах. Жанчына, невысокая, паўнаватая, зусім не падобная на Летыцыю, выкацілася з машыны.

Сунулася на задняе сядзеньне, дастала торбы, адну, другую, трэцьцюю. Ён узяў абодзьве, трымаючы іх ў руках. Падумаў, і паставіў на траву.

Жанчына, учапіўшыся крэпка ў апошню торбу – вялікі паліэтыленавы пакет з лагатыпам, набіты рэчамі, зацікаўлена-востра глянула на яго, прыжмурыўшы вочы.

Мужчына, які стаў перад ёй, ні дзеда, ні педафіла не нагадваў. Высокі, шыракаплечы, атлетычны, доўгія чорныя валасы забраныя ў хвост, на вока спадае чорная пасма, бровы чорныя, вочы – карычнева-зеленаватыя, у зьнешнасьці ёсць нешта “няруская”, як бы яна сказала, ці, лепш – “не тутэйшае”. Кароткая падстрыжаная барада, вусы. Не малады, але ж выглядае добра. Бачна, што ня п’е, скура чыстая, мяшкоў пад вачыма няма. Можна б і меней даць, чым за пяцьдзесят. Аднак, калі прыгледзецца, то складкі ад носа да вуснаў і зморшчынкі вакол вачэй усё ж выдаюць узрост.

- Можа, інастранец? – падумалася ёй. – Ці ізноў габрэй?

Чым больш яна яго аглядала, тым больш ён нагадваў ёй нейкую мадэль з дарагога турэцкага моднага журналу. Альбо акцёра з гістарычнага серыялу пра асманскую імперыю. “Великолепный век” – султан Суляйман, - прыйшло ёй на на вум. Канешне, гэтая дурніца закахалася.

- Турак, пэўна, - нарэшце вырашыла яна.

Ну канешне, усе гэтыя маладыя дурніцы вядуцца на туркаў. У яго і жонка пэўна недзе сядзіць у Стамбуле, і дзяцей куча. А гэтая яму так, для забавы.

- Вы – турак? – прама запытала яна яго.

Ён раптам шчыра рассьмяяўся.

- Не, спадарыня. Я – ня турак. Чысты беларус. Можна сказаць, што тутэйшы. Маці мая – полька, бацька – кавалём быў, як і дзед. Я ж вясковы. Нарадзіўся тут, недалёка. А потым вось, вярнуўся да сваіх каранёў. Зямлю надбаў. А вы, шаноўная, адкуль. Па мове чую – Браслаў? Ці Наваградак?

- Іўе. Яна прыжмурылася. – Татары мы. Бацька мой – татарын, а маці – з Браслава.

Невысокая, паўнаватая, з шырокім тварам і сьветлымі вачыма, але ж з чорнымі густымі валасамі, падфарбаванымі ў краснаваты колер, пастрыжанымі ў пышную прычоску-карэ, густую, адкрываючую вушы зь вялікімі завушніцамі зь яркімі белымі камянямі, на норкавае футра падаюць вялікія сьняжынкі. Твар правільны, з прывабнымі рысамі, але ж паўната пакрала ўсю прыгажосьць. Выраз на твары непрывабны, запытлівы. Быццам бы ацэньваючы, як у прадаўшчыцы ў савецкай краме з дыфецытам. Але ж нешта ў ёй было ад Летыцыі, ці, наадварот, у Летыцыі ад яе – напэўна, вочы, падумалася яму. Прыгожыя, вялікія, пад чорнымі тонкімі бровамі-дугамі, гарашчыя, палохаючыя ўсходняй прыгажосьцю, падведзеныя тонка чорным, з густа нафарбаванымі вейкамі. Вусны ж, наадварот, тонкія, непрыемна падціснутыя, шчокі густа намазаны румянамі. Грудзі вялікія, ногі караткаватыя, але ж у цэлым – зграбная жанчына. Ёй толькі ў іспалкоме сядзець. Ён усьміхнуўся. Думаў, “пра сябе”, а выйшла – “услых”.

- Пайдзёмце, спадарыня Катаржына, у хату, - вымавіў ён. – Там дачка ваша вам ужо пірог сьпякла. Чаю пап’еце. Ён падхапіў пакеты. Катаржына, усьміхнуўшыся, неяк страннавата – калі б ня была маці Летыцыі і данная Богам тешча, то падумаў бы,

што распусна – руханулася за ім з пакетам.

У пакеце апынуліся зімнія рэчы Летыцы – пухавік, боты, яшчэ адзін пухавік, кароткая норкая куртачка з шырокімі рукавамі, з бліскучым гузікам са стразамі, швэдар, нейкія цёплыя штаны.

- Мама, навошта ты вязла. Я ж казала, у мяне ўсё ёсьць! Мне Міхась усё купіў. Летыцыя, пачырванеўшы, паклала назад рэчы, толькі шубку пакінула, і падхапіла пакет, каб аднесьці яго наверх.

- Купіў? Катаржына з усьмешкай агледзела іх. – І што ён табе купіў?

- Вось, пухавік купіў. Valentino. Летыцыя дастала з шафы доўгі чорны пухавік, бліснуўшы ў сьвятле.

- Ну да, ну да. Гэткіх Valentino ў Турцыі за сто даляраў вагон. Кітайшчына. Катаржына зморшчылася. Я табе футра прывезла.

Міхась, які сышоў праверыць камін, з’явіўся на парозе пакою.

- Пухавік мы ў ЦУМе заказвалі, з Масквы. Сябар мой прывёз, так што хай маці не хвалюецца. А шубу я б купіў - загаду не было.

- Самому думаць трэба. Катаржына сказала, як адрэзала.

- Куплю і шубу. Міхась паціснуў плячыма. – Як раз у Маскву зьбіраемся. Дацерпіш у пухавіке, сонейка?

- Яна ж пехам ня ходзіць, і машына ў мяне цёплая. Але ж, выбачайце, мама. Не падумаў пра футра. Ён разьвёў рукамі.

- Затое я падумала. Пра ўсё. Вітаміны ты якія п’еш?

- Я ем натуральную ежу. Здаровую. Летыцыя зморшчылася, як ад болю.

- Я табе прывезла. Вось, і вось. Амерыканскія. Ня ведаю, казалі – добрыя. Яна парылася ў сумцы.

Ён працягнуў руку, узяў бутэлечку.

Паглядзеў, пакачаў галавой.

– З аптэкі, ты ня думай. Не ў шарлатанаў купіла. У мяне знаёмыя, вось, параілі. Самыя дарагія. Катаржына замаўчала на імгненьне, успамінаючы нешта яшчэ.

- Мама, давай чай піць. Ці табе каву? – Летыцыя замітусілася па кухне.

- Кан’ячка маці налей. Раптам Катаржына ўсьміхнулася – прывабна. Глянула на яго.

- Пасядзім, зяцёк. А таксіст сказаў, мяне пачакае. Што яму, пустому назад ехаць?

- Ну, давайце за сустрэчу. Ён усьміхнуўся, дастаў з шафы бутэлку “Хенесі” – новая, неадкаркаваная. Для дамы дастаў “Бейліс”. Наліў у хрустальны фужэр. Катаржына адламіла кавалак ад вялікай пліткі шакаладу – швейцарскага. Выпіла лікёр, і прыжмурылася, аглядаючы ўсё вакол.

- Мама, у мяне для цябе сюрпрыз. У нас, - выправілася Летыцыя. – Мы зь Міхасём ажаніліся. Павянчаліся ў касьцёле.

- А расьпісаліся? – Катаржына адставіла рюмку зь лікёрам.

- Канешне. Бяз гэтага вянчацца нельга. Спачатку роспісь, потым – вянчаньне. Так што не хвалюйцеся. Вы думаеце, я злодзей нейкі? Дзяўчыну ашукаць зьбіраюся? Ён нават пакрыўдзіўся, і падумаў – ня ў першы раз.

- Мама, я магу паказаць паспарт.

Летыцыя ўстала.

- Ня трэба, веру я вам. Катаржына адмахнулася. – Каньячку ты мне налей, зяць. Расслабіцца хачу, - вымавіла яна. – Усю нядзелю на нагах – ралетаў зь дзясятак, і ўсюды прывязі, адвязі, правер, прымі грошы, раздай тавар. І так кожны дзень. З рынку на рынак.

- Ты б у якім гандлёвым цэнтры магазіны адкрыла. Навошта табе рынак, мама? Носішся па холаду. Летыцыя паціснула плячыма.

- Таму што ты – дурніца. І нічога не разумееш. Твае гандлёвыя цэнтры грошы дзяруць, і там канкурэнцыя. А на рынке я адна засталася з такім таварам. І мае кліенты мяне ведаюць.

Цэнтры твае сёньня ёсьць, заўтра няма – пагарэлі. А рынак – ён заўсёды будзе.

- Зяць, а ты чым займаешся? – запыла яна яго.

- Я – скульптурай займаўся. А цяпер – кавальская майстэрня. Раблю розныя складаныя рэчы па замове. Мячы, нажы, для кіно, для музеяў. Дасьпехі. Памочнікі розныя іньшыя рэчы вырабляюць – мангалы, рашоткі. У мяне вялікі цэх. І тут, і ў вёсцы. Тут я працую, а ў вёсцы больш шырпатрэб. Да таго ж, я выкладчык. Работаю онлайн з замежнымі вузамі. І яшчэ – кансультант. Кнігі пішу. Навуковыя працы рэдактую. Грошаў хапае. Ён паціснуў плячыма.

- Ого. Цікава. Катаржына пільна ўгледзелася ў яго. – І ўсё – сам?

- Сам, і сябры дапамаглі. Але ж цяпер я нікому нічога ня вінен. Усё аддаў, і працую сам на сябе. Ён глядзеў на яе – жанчына як жанчына. Цётка з дзевяностых. Вясковая, абжыўшаяся ў горадзе. Як ёй удалася нарадзіць і выхаваць такую кветку, як Летыцыя? Зусім жа непадобныя.

- І сапраўды, дзяцей пасылае Бог, - падумалася яму.

- Дарэчы, у мяне ж тут газета ёсьць! – Катаржына раптам успомніла нешта, і палезла ў сумку.

- Ніколі не чытала гэтае сьмецьце, а тут, бачна, памыліліся, ды мне ў пачтовы яшчык паклалі.

“Кур’ер .. такога-та раёну”. Яна працягнула яму зьмятую паперчыну.

- Вось, тут – пра вас. Пра ваш рэстаран, як я мяркую. Толькі нешта я не зразумела – ці хваляць, ці ругаюць. Вось, самі пачытайце.

Ён працягнуў руку, і асьцярожна ўзяў газету – як гідкага смаўжа. Летыцыя нахілілася над ім, выцягнула доўгую шыю. Яе валасы зьвесіліся яму праз плячо, і раптам Катаржына зьдзівілася, якія яны падобныя.

- Як бацька і дачка, - раптам прыйшло ёй на вум. Гэты мужчына мог бы быць яе мужам, па гадам яны як раз блізкія, ён толькі крыху старэйшы. Але ж такога інтэлігентнага, прыгожага мужчыны побач з сабой яна ўявіць не магла. Ім асабліва не пакамандуеш, падумалася ёй. Такі і слухаць яе крыкі ня будзе. І як бы гэта выглядала – ён – скульптар, выкладчык, а яна – з торбамі на рынке? І што б яны разам рабілі? Там і знаёмыя, пэўна, не раўня ёй. Сталічная багема. Вось дачцэ яе такі будзе ў самы раз. Яна ж заўсёды была нейкая не такая, як ня з гэтага сьвету.

- Вой, а што тут такое напісана? – Летыцыя зьдзіўлена ўзьняла на Міхася вочы.

- Мы ж такога нічога не рабілі! Гэта ж якаясьці хлусьня!

- А ты чаго чакала ў гэтым сьмецьці сустрэць, золатка? – Міхась пакачаў галавой. – Добра, што іх чытае паўтара чалавека – пеньсіянеры і бюджэтнікі па падпісцы. Ды і тыя і не чытаюць, насамрэч.

Раскрыўшы газетны аркуш, ён, узьняўшы бровы, вымавіў загаловак:

“Как развлекается Элита?” – апавяшчаў артыкул.

- Гучна! – ён усьміхнуўся.

- А што там напісана? – Катаржына пасунулася наперад. – Чытай, зяцёк, далей.

“В то время, как наша страна отчаянно сражается в битве за урожай, рабочие на заводах отдают всех себя, чтобы обеспечить

добавленную стоимость и вывести ВВП страны на достойный её уровень, чиновники, силовики и врачи, педагоги и все неравнодушные к настоящим проблемам общества люди, которые знают, как нелегко достается «кавалак хлебу», трудовые бойцы наших будней, неустанно обеспечивающие жизненно-важные блага для прошлых и будущих поколений, и смело глядящие в будущее, независимое и свободное от чуждых нам враждебных ценностей, защищая истинное, светлое, наше, неустанно трудятся на нивах и в цехах, и на своих рабочих местах, в это нелегкое время те, кто считает себя псевдоаристократией, развлекаются самым вульгарным образом, подвергая осмеянию нашу историю и культуру, которая является историей и культурой трудового народа, а не кучки оголтелой шляхты и иноземных захватчиков, которые заливали нашу святую землю кровью наших предков, тяжко гнувших спину на чужеземных угнетателей и очужеземившихся манкуртов. В ресторане под звучным названием «Арсенал» собрались рыцарствующие богатеи, которые и знать не хотели про истинные проблемы и ценности, и устроили средневековый дебош, напоминающий Вальпургиеву и ВарЛофомеевскую ночь … ”

Ён спыніўся, і выцер нечакана выступіўшы пот з ілбу.

Катаржына зьдзіўлена, а Летыцыя – з жахам глядзелі на яго.

- Нічога не разумею… якая ноч? – вымавіла Катаржына, працягнула руку, і ўзяла дольку лімону, машынальна паклаўшы яе ў рот.

- Варфаламееўская ноч. Калі каталікі забівалі гугенотаў. Гэта адбылося ў 16-м стагоддзі ў Парыжы. Загінула некалькі тысячаў чалавек, большасьць – з-за банальнага рабаўніцтва, - патлумачыў ён.

- Там што ў вас, кагосьці зарэзалі? – Катаржына з жахам узьняла на яго вочы.

- Не, мама. Гэта стыль у газеце такі. Высокі. Нікога там не зарэзалі. Гэта метафары, - патлумачыла Летыцыя.

- Нічога сабе такія метафары. Міхась усьміхнуўся. І працягнуў далей:

“Все мы знаем, какие ужасающие развратные оргии творились в глухих средневековых замках. Кто из нас не слышал про кровавую леди Батори, Синюю Бороду - Жиля де Ре, или не читал отвратительные пассажи так называемого маркиза де Сада – выродженца, выродившегося из зловонного чрева разложившейся аристократии? Всех этих, и даже более омерзительных персонажей, поскольку они маскировались под так называемую элиту, представителей современного развратного мира бездушных нуворишей, можно было встретить в этом отвратительном, пропахшем сатанизмом месте, где не побоялись даже вспомнить продавших свою душу дьяволу Бафомету проклятых рыцарей-тамплиеров, славных своими содомитскими подвигами… Среди присутствующих были известные в узких кругах рыцари и дамы полусвета …”

Ён спыніўся, наліў поўны кубак каньяку, і залпам выпіў, не закусвая. Падумаў, і наліў яшчэ другі, але ўсё ж працягнуў чытаць:

“… которые не погнушались … высмеивание традиционных … разврат и бесовщина … сатанизм … оргии … еретические обряды … безумцы… роскошь, достойная Содома и Гоморры …, идолопоклонство … забытые и проклятые культы … поругание чувств верующих … проституция, сибаритство, удовлетворение животных инстинктов … святое правое дело …”.

Ён адклаў газету ў бок. Узьняў другі стакан, і выпіў, ня гледзячы ні на кога.

- Каму ж вы так насалілі, зяцёк ты мой дарагі? – Катаржына цяпер ужо спачувальна – ня зьдзекліва глядзела на яго.

- Мама, гэта Вольга. Яна там была, рэпартаж яна напісала. Тут во і ўнізе яе імя. Летыцыя грэбліва глянула на аркуш, які ляжаў на краі сталу, і да якога ніхто не рашаўся дакрануцца, быццам бы ім нешта падцёрлі.

- Каханы, ты не расстрайвайся. Я яго выкіну! – яна ўзьнялася, і

асьцярожна ўзяла паперу.

- Палажы на месца, каханая. Я іх зьбіраю. Пра мяне і не такое пісалі. Ты думаеш, чаму я мастацтва кінуў, і выкладаю онлайн? Кнігі мае ты калісьці бачыла ў продажу?

- Не, ня бачыла, - яна жаласна глянула на яго.

- Таму што ім тут месца няма. Усюды ёсьць – у Еўропе, у Амерыцы, нават у Расеі, а тут – не. Тут нічому і нікому няма месца. Акрамя такіх. Ён кіўнуў на газету. Вось убачыш, яна далёка пойдзе. Мяркую, што нават і ў Мінску ня спыніцца. Даберыцца да Масквы. Там такіх прыхвасьней хапае. Фёдар мне распавядаў, што яны нясуць у думе, якія законы прасоўваюць. Пэўна, хочуць страну ў праваслаўны Іран пераўтварыць. І яшчэ нешта хочуць. Ня дай Бог гэтае зьдзейсьніцца. Ня дай Бог. Ён ахапіў рукамі галаву.

Катаржына ўзяла газету, і прачытала далей:

"… проститутки и наркоманы … не желающие работать и учиться паразитирующие куртизанки …."

- Ах яна, дрэнь! – раптам усклікнула яна, кінуўшы скамячанную паперу ў вугал.

- Сама ж, сама з усімі таскалася, спала з гэтымі наркаманамі-прыдуркамі, лезла на ўсіх хлопцаў, як жаба на корч, і яшчэ цябе абвінавачвае. Ды ў цябе ў школе толькі гэты твой пераростак і быў, які зьехаў. І Алекс гэты. І ўсё. А тое, што ты прыгожая, прыгажэй за яе, дык яна перанесьці не магла – са сьвету цябе намагалася зжыць. Цяпер сваю зайздрасьць на ўвесь сьвет распаўсюдзіла. Мяшае ёй усё, што ня ейнае. І блага ёй там, куды яе не пусьцілі, за стол не пасадзілі. Каб яна там у такім строі, як ты, - Катаржына ткнула пальцам у вугал, дзе ляжаў аркуш, - была, ды з такім мужыком, яна б іньшымі рэчамі займалася, а не пісала б дрэнь у газецёнках. Зяцёк, не сумуй! – суцішыла яна Міхася, і зразумела, што няўдала.

Той наліў сабе яшчэ адзін стакан, задуменна залпам выпіў, і глядзеў некуды праз вакно. Летыцыя асьцярожна села яму на

рукі, абняла яго за шыю. Пагладзіла па валасах. Ён ахапіў яе рукой, прыціснуў, крануў яе шчаку вуснамі, і другой рукой наліў яшчэ адзін кубак.

Катаржына спрытна схапіла і апусьціла пад стол бутэльку з астаткамі каньяку.

- Калі ж гэта сконьчыцца…, - разгублена вымавіў ён. – Цемра. Цемра, і, здаецца, болей нічога. Ніякага сьвятла наперадзе.

- Ня можа заўсёды быць толькі цемра, каханы. Яна з жалем глядзела на яго. – Яшчэ будзе сьвятло, і ўсё будзе добра. І болей такіх газетаў ня будзе. Будуць іншыя. Пра культуру, пра мастацтва. Сапраўдныя. Кнігі будуць цікавыя прадавацца, а не пампавацца. Я веру, што так і будзе. І ты яшчэ зробіш сваю выставу тут, а не ў Італіі. Каб усе, хто цябе дарагія, прыйшлі, і пабачылі. Я ведаю, так яно і будзе. Яна з жалем гладзіла яго твар рукамі. Катаржына, разчуліўшыся ад лікёру з каньяком, уцірала вочы сурвэткай – успаміналa сваю нешчасьлівую бабскую долю, сваё нялёгкае жыцьцё, калі яна стаяла і ў сьпякоту і ў мароз у палатцы, пакуль яе благаверны недзе басьцяўся па бабах і прытонах.

- Сонейка, там, дзе ты сьвеціш, там няма цемры. Бо ж ты прыносіш сваё сьвятло з сабой. І таму я адзінай табой толькі і жывы. Ён, нарэшце, узяў сябе ў рукі.

- Хопіць, паненкі, сумаваць. Гэта ўсяго толькі брудны кавалак паперы. Пойдзе на растопку ў печы. Ён устаў, пацягнуўся.

- Тешча, вы як, начаваць застаецеся?

- Не, зяцёк. Паеду. Толькі ты глядзі за ёй. І шубу ёй купі. Гэтыя пухавікі для еўропы, зусім халодныя. А яна хварэе кожную зіму на ўсё, што можна. Колькі я на яе лекаў перавяла. У яе і горла, і нос, і вушы, і пнеўманія цераз раз. Каб яна тут не хадзіла голая. Глядзі, каб апранaлася.

- Буду глядзець. Ён зьняў з плечыкаў норкавае футра. Летыцыя паклала ў кантэйнер амаль не пачатую шарлотку, дадала канфеты і шакаладку, злажыла ў пакет фрукты.

Яны праводзілі Катаржыну да машыны, і глядзелі, пакуль фары не зьніклі за елкамі.

- Добрая ў цябе маці, - вымавіў ён. – Яна цябе дужа любіць, золатка.

- Я ведаю, - кіўнула яна. – Тое, што яна ругалася, гэта я сама была вінаватая. Ён з сумненьнем пакачаў галавой.

- Пайшлі ў дом, красуня. Бо ж мне быў дан загад бараніць цябе ад холаду. А ты тут мерзьнеш. Ён ахінуў яе рукой, і яны накіраваліся да ганку, да прывабнага хатняга сьвятла.

Яе грудзі наліліся і балелі. Ён крануў іх вуснамі. Яна ўздрыгнула. Дакрананьне яго аддалося глыбока ў яе целе, быццам па яму прайшла сутарга.

- Ты становішся жанчынай, - ціха вымавіў ён. Яна ахапіла яго галаву рукамі.

Ён асьцярожна ўзяў у губы яе сасок. Сасок быў напружаны, грудзі цягнула, быццам бы іх расьпірала нешта. Ён прыпаў да яе грудзей, і яна прытуліла яго да сябе, гладзячы яго валасы.

Яго гарачы подых апаляў яе скуру, і яна адчувала мягкія дакрананьні яго языка, працінаючыя яе, як разрады тока.

Яе доўгія валасы закрылі яго твар - яна нахінулася, каб як мага поўна аддаць сябе яму, аддаць свае грудзі, сваё малако, свае душу і цела.

- Ты яшчэ зусім дзіця, - прашаптаў ён, узьнімая на яе вочы. - І адначасова ты - маці. Гэта таямніца, каханая. З тваіх грудзей цячэ нябёснае малако. Я адчуваю яго смак - яно мае смак і водар раю. Твой сок - гэта сок яблыка, Ева. Ён салодкі на маіх вуснах. Салодкі праз цябе, каханая.

Яго вусны ўбіралі яе цела, маленькія белыя грудзі, зацьвярдзеўшыя, з набухлымі саскамі, уздрыгвалі ад яго пацалункаў.

Яна ніколі не ўяўляла, што будзе даваць свае грудзі мужчыне, такому, як ён - мужнаму, сталаму, прыгожаму, з чорнымі як смоль валасамі, у якіх яна бачыла срэбныя пасмачкі. Такому прыгожаму, як Бог. І што ён будзе яе каханым, будзе абдымаць яе, ляжаць ля яе грудзей.

- Я хачу дзіця, - вымавіла яна, закрываючы вочы і запракідваючы галаву, аддаючыся яму як мага поўна, да такой паўнаты, якой яна ў сабе ня ведала. Ёй хацелася ўсю сябе аддаць яму - бяз рэштку.

- Ты - сама дзіця, - ціха вымавіў ён. - Маё дзіця, і мая нябёсная маці. Мая каханая. Яго вусны зрабіліся прагнымі і моцна сьціснулі яе сасок, прыпаўшы да яго. Яна застагнала ад асалоды, як ад болю.

Яго чэлес, напружаны, дакрануўся да яе сьцягна.

- Хачу цябе, - прашаптала яна ціха. Ён палажыў яе руку на сваю плоць, і яна адчула, якая яна цьвёрдая.

- Я хачу цябе болей, - ціха вымавіў ён, нахінаючыся над ёй. Яго вусны ўсьміхаліся, але ж яго вочы былі цёмнымі, і ў іх была жарсьць.

- Тваё цела - як вада. Я не магу ім напіцца, - вымавіў ён, нахінаючыся над ёй. Яна ляжала пад ім такая маленькая і тонкая, безабаронная, як ягня. Як зрэзаная белая кветка. Кожны раз яму здавалася, што ён бярэ яе ў сьне. Аб гэтым ён ня мог марыць ніколі ў жыцьці - што ў яго руках будзе выгінацца ад жарсьці такое дасканалае цела, юнае і прыўкраснае, як толькі

што расквітнеўшая ружа.

- Твае грудзі - як лілеі. Твае саскі як - суніцы, - вымавіў ён. Ты ўся - як гэты некрануты сьнег. Як вясновы сад. Кветачка мая. Мая квітнеючая яблынька. Мая дзяўчынка, белая мая галубка.

Яго рука рассунула яе сьцёгны, і яна выгнулася, прыціскаюыся вільготным улоньнем да яго далоні.

- Як ты хочаш мяне, - прашаптаў ён.

- Хочаш мяне, красуня мая?

- Хачу, - прастагнала яна.

- Як узяць цябе? Моцна, ці асьцярожна? - запытаў ён яе, кранаючы вуснамі яе шыю.

- Вазьмі мяне моцна, - прашаптала яна.

- Ад цябе і боль - салодкі.

Ён глыбока ўвайшоў у яе, і яна ўскрыкнула. Яго плоць, напружаная, проста разрывала яе, рассоўваючы.

- Пацярпі, пацярпі, анёлак мой, шаптаў ён. - Табе не балюча?

- Мне салодка, так салодка калі ты ўва мне, - прастагнала яна. Яго штуршкі аддаваліся хвалямі асалоды ў яе целе.

- Калі б ён яе пабіў і згвалціў, яна б цалавала яму рукі. Толькі цяпер яна зразумела, што такое жарсьць, і давер. Як бы сказаў

Алекс, ён яе трахаў, як шлёндру. Але ж яна ведала, што ён яе кахаў. Кахаў яе больш за жыцьцё, поўнасьцю валодаючы яе целам. І ён ніколі не дазволіў сабе нічога супрацьпрыроднага і зьняважлівага, што дазваляў сабе Алекс. Яго каханьне нагадвала сьвяшчэнны абрад. Яно ўзьнімала, а не прыніжала яе. Яна жадала яго, яго семені, яго рук і вуснаў, бо адчувала за гэтым усім нешта такое вялікае, сьвятое, чыстае, што магло быць толькі Богам.

Яго плоць уваходзіла ў яе рэзка і глыбока, яна ўскрыквала, і час згубіўся. Нічога болей вакол не было. Толькі яго цела ў ёй, і яго рухі. Яна расслабілася і аддалася зносячаму яе патоку, які ліўся ў яе гарачай ракою.

За вакном падаў сьнег - ціхі, прахалодны.

Яны ляжалі разам у абдымках.

Ён пацалаваў яе.

- Зводзіш мяне з розуму, - прашаптаў ён. - Жыцьцё маё.

Яна прыціснулася да яго.

- Ты змыў бруд з майго цела і душы, - прашаптала яна. - Я лічыла сябе апошняй, ня вартай і кропелькі каханьня. Я думала, я ненармальная, і ўсё, што я жадаю, вычварэньне. Са мной рабілі такое - я не магу расказаць. Яна ўздрыгнула. Усё, што нельга. І калі я плакала, гэта лічылася нібыта частка гульні.

Ён моўчкі гладзіў яе па валасах.

- Усё прайшло, каханая, - прашаптаў ён. - Цяпер я з табою, і нікому не аддам цябе. Ён нібыта глядзеў на самога себя ў чорнае люстэрка.

Ён нібыта глядзеў на самога себя ў чорнае люстэрка. Мужчына, высокі, шыракаплечы, з доўгімі хвалямі густых валасоў, смуглая скура паблісквае ў чырванаватых водблесках, падкрэсьліваючы пякельную цемру, якая паўстае вакол.

Яго вялікія рукі, перахвачаныя скуранымі наручамі, ляжаць на падлакотніках высокага дубовага крэслу. Далонь адной аперлася на дзяржальна вялікага мяча, цяжкога, шырокага ў лязе, з мудрагеліста выкаванай рукаяцьцю - кольца вялікай зьмяі, і галава грыфона. Ад мужчыны дыхае змрокам. Дыхае пеклам, моцай, бязьлітаснасьцю. Ён - закон, дух і яго літара, пакараньне і цяжкая рука, тое немінучае, што нельга спыніць, што чакае грэшніка ў пекле яго душы, меч вогненны, адсякаючы, бліскучае, нібыта маланка лязо, сполах у густой цемры буры.

Калі б на Алімп апусьціліся навальнічныя хмары, менавіта так выглядаў бы Зеўс, які, раз'юшаны чалавечымі блюзьнерствамі і дзёрзкасьцю, гатуецца, каб паўстаць са свайго трона суддзі і гаспадара сусьвету.

Гэтыя вочы многае назіралі, і цяпер яны бачаць усё. Вогненныя, гарашчыя, працінаючыя ня горш за меч, на якім уладна і спакойна ляжыць яго рука.

- Ты ведаеш мяне?

Ён кіўнуў.

Голас чалавека гучэў у непрагляднай начы, як густы звон набату.

Здаецца, прастора калыхнулася, калі ён вымавіў сваё слова.

- Я - гэта ты. Бо ж ты сябе яшчэ ня ведаеш. Я - ў табе, я той, хто стаіць за табой, хто твой змрок і цемра душы, у якую ты яшчэ маешь быць апусьціцца, каб узьняцца, як узьняўся я.

- Што мне трэба зрабіць, каб выканаць сваё наканаваньне? - запытаў ён. Яго голас адбіўся ад цемры, як ад вялікай скалы, і вярнуўся да яго прыўмножаным шматкрат.

- Гавары. Не маўчы. Ты павінен валодаць словам ня горш, чым гэтым лязом, якое я трымаю ў руках. Бо калі я ўзьнімаю яго, тады ўжо насамрэч не да словаў, і тады прыходзіць сьмерць.

Ня бойся прайсьці праз ноч, бо за ёй надыдзе раніца. Разьдзяліўшы сябе і цябе як ноч і дзень, я ахвяраваў сябе сусьвету. Цяпер я той, хто пракляты, асуджаны і зямлёй і небам, бо я выйшаў далёка па-за межы таго, што завуць гэтым сьветам. Там, дзе я, няма нікога вышэй за мяне, ні анёлаў нябёсных, ні зямных каралёў. Там нават няма і сьвятла, бо сьвятло - гэта ты. Сын мой. Цяпер ты бачыш мяне, і ведаеш мяне так, як мяне бачыць і ведае яна.

Раптам за яго сьпіной апынулася высокая постаць жанчыны, якая падыйшла, і палажыла на яго рукі. Апранутая ў чырвонае, барвовае, як кроў, яна ціха стаяла за ім, кранаючы яго плячо, і ў яе вачах стаялі крыштальныя сьлёзы, ад якіх яе вочы і скура паблісквалі дыямантамі.

- Чаму яна плача? - запытаў ён яго.

- Яна плача за сусьвет, і ўсіх, хто пакутуе ў ім.

Яго адказ, здаецца, срасянуў неба і зямлю.

- Ты пазнаешь яе? Голас абрынуўся грудай камянёў у бездань.

Жанчына, прыгожая, як чароўны сон, глянула на яго. Яе вусны прыадкрыліся, і ў вачах яе было каханьне, такое вялікае, што яно апаліла яго і адначасова авеяла анёльскім крылом прахалоды.

- Я зь ім, і цяпер я з табой. Сын мой. Ты - муж мой, каханы. Бо на тваіх грудзях біецца маё сэрца. Я - кроў пралітая за цябе, і таму я - чырвоная. Я - сьвет тваёй цемры, і таму я белая, як сьнег. Я - твая сьвятасьць і чысьціня і дух, які сыходзіць з тваіх вуснаў.

Я - тая хто ляжыць ля цябе на ложку. Не згубі мяне, каханы мой. Але ж я веру, што нават там, дзе ты ёсьць, маё сьвятло пераадолее цемру, якая паўстае вакол.

З гэтымі яе словамі мужчына ўстаў, і яны апынуліся твар у твар побач. Вялікая рука ўзяла яго кісьць і накрыла ёй дзяржальна, апусьціўшыся зьверху як сталёвая пальчатка, цяжар якой уціснуў яго далонь у метал.

Ён здзівіўся моцы гэтай рукі - нечалавечай, страшной, і таму, што ён мог вытрымліваць яе.

- Трымай, - пачуў ён голас побач. Жар ад мужчыны апаляў яго. А потым ён адкрыў вочы.

Яна ляжала побач, ціха і спакойна спала, прыціскаючыся да яго пляча. Яе чорныя валасы раськідаліся, закрыўшы яе шаўковым покрывам. Яго сэрца калацілася, і ён ахапіў яе рукамі, заключыўшы ў абдымкі, зь якіх не магла б вырваць яе і сама сьмерць.

# Ноч усіх сьвятых

Дні беглі хутка, так хутка, што ён іх зусім не заўважаў. Бо ж ён быў шчасьлівы. Кожны дзень ён прачынаўся побач зь ёй, і засынаў побач зь ёй, абдымаючы яе, слухаючы яе дыханьне, адчуваючы стук яе маленькага сэрца ля сваіх грудзей. Яна стала для яго ўсім – жыцьцём і подыхам, радасьцю і нябёсамі, запоўніўшы ўсё вакол яго і ў ім сабою так поўна, што часам яму здавалася, што ўвесь сусьвет ён бачыць яе вачамі. Калі б у яго былі дзеці, ён зразумеў бы, што яго пачуцьцё было пачуцьцём айца, які трымае ў руках сваё любае securitiesнованароджанае дзіця, толькі гэты момант, на дзіва, ніколі ня скончваўся, і радасьць у яго сэрцы рабілася ўсё большай і большай.

Яму здавалася, что напоўніць яго болей ужо нельга, але ж яна ўсё больш адкрывала яму яго самога, расшыраючы межы таго, што ён лічыў сабою, узьнімаючы яго на новыя высоты, недасяжныя для яго раней. Калі б ён меў глыбу самага дзівоснага мармура, ён выразаў бы яе, аднак не было таго мармура, годнага яе, не нарадзіла яго зямля. Годныя яе былі толькі нябёсы, на якія ён узносіў яе ў думках, і калі яго рукі craналі яе, ён адчуваў, што быццам бы здымае покрыў з таямніцы.

- Хто ты? – запытваў ён яе, ціха, пакуль яна спала, і сам сабе адказваў:

- Ты – дух сьвяты, радасьць, найвялікшая ў сьвеце, жыцьцё маё, душа мая, найлепае з маіх тварэньняў.

Разам з днямі шпарка праходзіла і залатая восень. Вось ужо і лісты амаль апалі, і адчувалася, што хутка надыдзе зіма.

- Будзем сьвяткаваць Хэлаўін? – неяк запытала яна.

- Калі хочаш, будзем, сонейка. Можа, каго запросім? Калі ты жадаеш, - прапанаваў ён.

Яна паціснула плячыма.

- Каханы, мне акрамя цябе ніхто ня трэба. Але ж можам зрабіць так: хто першы трапіцца сёньня на дарозе, ці пазвоніць, таго і запросім сьвяткаваць разам.

- Была б забаўна, але ж неяк рызыкова. Ён рассьмяяўся.

- А калі гэта будзе той, каго не зусім хочацца бачыць?

Яна ўсьміхнулася.

- Ну, тады мы палічым гэта за знак, што сьвяткаваць нам лепей у дваіх.

- Тады ты вартуй, і кажы мне, хто першы пастучыцца сёньня да нас у хату. Ён пагладзіў яе па плячы.

- Пайду я, каханая, наверх. Мне падрыхтавацца трэба, бо лекцыя хутка. Запрасілі прачытаць нешта пра раньняе хрысьціянства, для аматараў. Будзе нешта накшталт публічнай лекцыі для ўсіх жадаючых. Але ж засталася нейкая пара дзён, а я хачу прагледзець яшчэ шмат матэрыялу, ды і накідаць нешта ж трэба. Экспромты я люблю, толькі калі яны падрыхтаваныя.

- Ідзі, любы. Я тут прыбіру, а потым хачу паглядзець мадэлі, можа, зьвяжу нешта. Яна з захапленьнем глянула на кошык з пушыстымі маткамі малочна-белых нітак, на якія ўскараскаўся маленькі пушысты белы коцік.

- Кіса! Ты куды залез? Яна асьцярожна дастала яго з карзінкі. Коцік зажмурыў вочкі і замурчэў.

- Ты думаеш, калі ты белы, дык я цябе ня ўбачу? Сьняжок! Будзеш звацца Сьняжком! Яна прыціснулася носам да маленькай мордачкі.

- Васька ён, каханая. Ён усьміхнуўся. – Самы настаяшчы. Па яго паводзінах бачу.

Кацейку яны знайшлі ў горадзе ля сьметніку за рэстаранам, дзе той ціхенька прытуліўся да бачка. Ён яшчэ ругаўся – паставіць машыну было няма куды, ледзь заехалі аднекуль ззаду. І толькі яна выйшла, убачыла кацяня, якое ціхенька сідзела, і глядзела

на яе маленькімі блакітнымі вочкамі. Пасьля абеду паехалі да ветэрынара. Коцік апынуўся здаровы, атрымаў свае прышчэпкі, пакецік ежы і пушыстую лялечную мыш. Дамоў ехалі ўжо ўтраіх. Васька- Сьняжок мурчэў у яе на руках, прыгрэўся. І цяпер ад сваёй выратавальніцы не адыходзіў, асабліва ж любіў вялікі кошык, дзе яна трымала ніткі. Гарэзіў, бо ж – дзіця.

Але ж толькі ён павярнуўся у бок пакою, каб узьняцца на другі паверх, як на двары пачуліся крокі, і знаёмы голас громка запытаў:

- Сусед! У цябе бачка ня знойдзецца? Пластмасавага. Можа, ёсьць. Капусту хачу паставіць, мне капусты прывезьлі. Гэй, сусед? Ці ты жывы там?

З гэтымі словамі Ганна ўзьнялася па ступеньках, і пастучэла ў зачыненыя дзьверы. Праз шкло яна ня бачыла, што адбываецца ўнутры, але ж знутры яна была бачная, быццам бы ніякага шклу не было наогул.

Яна пераступала з нагі на нагу, трымаючы рукі за сьпіной – прыслухоўвалася. Нахіліла галаву, і нават вызваліла з-пад хусткі адно вуха, якое павярнула да веранды. Аднак праз шкло было ня толькі нічога ня бачна, але ж і ня чутна.

Ён імгненьне глядзеў на яе, а потым зарагатаў.

- Сонейка, Хэлаўін с Ганнай сьвяткаваць будзем? Ці асьцеражэмся? Як мяркуеш?

- Будзем! Яна таксама ўсьміхнулася.

- Бо ж нам яе, пэўна, нейкія сілы прыслалі, раз яна тут зьявілася адразу пасьля таго, як я загадала.

- Ну, калі так, то хай уваходзіць. Пусьці яе, каханая.

Яна падышла, і адчыніла дзьверы.

Ганна, не чакаўшая, што ў празрыстым шкле адкрыецца праём-праход унутр, уляцела, ледзь не паваліўшыся.

- Тьфу на вас! – вымавіла яна. – Напалохалі! Перахрысьцілася б, калі б не расхрысьцілася!

- А ты яшчэ і расхрысьціцца пасьпела? Калі? Ён узьняў бровы, намагаючыся схаваць вусьмешку.

- Нядаўна. Ганна надзьмулася.

- Мне для маіх справаў трэба.

- Крыж у пекла жыўцом не пускае. Міхась кіўнуў. – Разумею. А сьмерці ты чакаць ня хочаш, каб туды трапіць.

- Не сканаю – не дачакаесься. Ты першы туды пойдзеш! Ганна раззлавалася. – Сачы за языком. Я цяпер каранаваная лясной каронай. Мяне да запаведнага гаю правялі, і там пасьвяцілі – у вярхоўныя жрыцы!

- Ого. Ну тады маўчу. Куды мне. Міхась шырока ўсьміхнуўся.

- Хэлаўін з намі будзеш сьвяткаваць сёньня, жрыца? Не дарма ж ты расхрышчвалася.

Хацеў дадаць – з такімі гасьцямі і гарбузом пугаць ня трэба, але ж передумаў – не абярэшся крыку.

Летыцыя з коцікам на руках кіўнула.

- І праўда, Ганна. Мы будзем дужа радыя, калі вы зробіце нам кампанію. Запалім сьвечкі, выражам гарбуз.

- На галаву табе, Ганна, надзенем, - Міхась дадаў у думках, і прыціснуў да вуснаў кулак, робячы сур’ёзны выгляд.

- Ня трэба ніякіх гарбузоў. Я вам такое пакажу, што вы надоўга запомніце. Ганна прыасанілася. – Сапраўдны Хэлаўін – паганскі, а не гэты цырк з гарбузамі.

- Ну, тады прыходзь, калі сьцямнее. Можаш і раней. Пасядзім, павячэраем. Казкі нам свае раскажаш вядзьмарскія. Міхась кіўнуў. На том і дамовіліся, і ён пайшоў працаваць.

Цемра апусьцілася хутка. Летыцыя вычысьціла і выразала адзін вялікі гарбуз і тры маленькіх, парабіла страшныя рожыцы. Вялікі палажыла на ганак, уставіўшы ўнутр ліхтар. Сьвет з вачэй гарбуза сьвяціў, быццам бы жоўтыя дыёдныя фары. Гэта было сапраўды жудасна, нават лепш за сьвечы.

- Ганна напалохаецца. Ён прыжмурыўся.

Коцік падыйшоў да гарбуза, панюхаў яго, і прысеў побач.

- Сьняжок! Што ты робіш! У цябе туалет ёсьць. Яна акуратна выцерла ганак трапачкай, і пасадзіла кацяня ў латок ля ўваходу.

- У вёсцы кату – латок. Жах. Ён пакачаў галавой.

- Хутка там гэта Ганна з’явіцца? – запытаў нібыта сам сябе. – І ці з’явіцца наогул?

- Вой! Нехта едзе! – усклікнула яна. На двары загудзела машына, і спынілася, сьвецячы фарамі, быццам бы спаборнічаючы са злавесным мадэрнізаваным гарбузом.

З машыны выкараскаўся нехта. Пачуўся знаёмы голас:

- Гэй, панства. Што вы там, паснулі? Прымайце госьцей у хату!

Яны выйшлі на двор і аслупянелі. Перад імі стаяла машына Алега, які сам сядзеў за рулём.

- Вось, я сюрпрыз вам зрабіць вырашыў, - вымавіў ён. – Еду, а тут – жанчына па дарозе ідзе. Кульгае. Бачна, што не маладая. Я спыніўся, канешне, прапанаваў падвезьці. Яна як раз да вас крочыла. Сказала, што на сьвята. Паганскае. І што яна – пачэсны госьць.

- Прама як гарбуз. Міхась кіўнуў. – Самы пачэсны з усіх магчымых.

- Я не кульгала. Я ішла. Ганна надзьмулася. – Я што табе, старая? Ці ты ня бачыш? Яна вытарапіла на Алега злосныя вочы.

Той зьбянтэжыўся, і толькі разьвёў рукамі.

- Але ж дзякуй, што падвёз. Што ногі біць не прыйшлося. Хто ведзьму ўшанаваў, той удачу прыдбаў! Яна паблажліва глянула на яго.

- Так вы – ведзьма? – радасна-здзіўлена вымавіў Алег.

- Так. Яна самая. Расхрышчаная сапраўдная паганская ведзьма. Ганна важна кіўнула.

- Да вы ў дом праходзьце! – вымавіла Летыцыя. – Я ўжо і стол накрыла, з гарбузамі!

Яна павярнулася, і ўсе ўбачылі накрыты бялюткай скацерцю стол з бакаламі і дзьвумя маленькімі гарбузамі са сьвечкамі ўнутры. На стале стаялі фрукты ў вазе, талерка з нарэзаным сырам, вэндлінай і бутэрбродамі з ікрой.

Яшчэ клёцкі будуць! Як раз зварыліся! – Летыцыя горда паказала на плітку. – Бо ж Хэлаўін – гэта як дзяды?

- Тьфу, дурніца. Хэлаўін – гэта калі нечысьць па зямлі ходзіць. Ганна пагардліва скрывілася.

- А я клёцкі люблю. Алег шырока ўсьміхнуўся. – Я, наогул, галодны. Зь іх бы і пачаў.

- Ну дык праходзьце да сталу, дарагія госьці.

Міхась праводзіў іх унутр, і ўсе паселі за стол. Ён адкаркаваў бутэльку краснага віна – для жанчын, сабе з Алегам наліў каньку.

- Я таксама буду. А водачкі няма? – Ганна глянула ў бакал, залпам выпіла, і выцерла вусны.

- Піць хочацца, - патлумачыла яна. – А цяпер можна і выпіць.

- Водачкі няма. А вось джын ёсьць. На ядлоўцавых шышках. Міхась усьміхнуўся. – Будзеш?

- На шышках буду. Ганна пакруцілася задам на стуле, уладкоўваючыся. Летыцыя паставіла на стол вялікую міску з клёцкамі ў булёне, і падлівачнік са сьмятанай.

- Каму сколькі класьці? – запытала яна.

- Я сам, каханая. Адпачні. Ён узяў па чарзе талеркі, сабе і Алегу палажыў па дзьве, Ганна патрабавала чатыры. Летыцыя ўзяла адну. Ён разьліў па чарках каньяк, Ганьне па яе просьбе наліў джыну ў кубак з-пад віна.

- Да краёў лі. Ты што, сусед, краёў ня бачыш? Хопіць.

Яна важна спыніла яго, калі празрыстая вадкасьць зраўнялася з краем келіху.

- Ну, са сьвятам! Хоць і паганым, але ж вясёлым. Ён узьняў чарку, і ўсе далучыліся. Выпілі, і прыняліся за ежу.

- Клёцкі выдатныя! – вымавіў Алег. – Проста як у рэстаране!

- Вялікі дзякуй. Летыцыя засаромелася. – Я ня дужа добры повар.

- Сонейка, ты сабе кошту ня ведаеш. Ты лепшая ў сьвеце гаспадыня, - пахваліў Міхась яе.

Ганна ўторкнула відэлец ў бачыну клёцкі, узьняла, і цалкам засунула яе ў рот. Пажавала, і вымавіла:

- Смачныя, але ж малаватыя памерам. Праглынула, і палажыла сабе яшчэ пару. Міхась акуратна разрэзаў клёцку нажом напалам, ад палавіны – яшчэ палавіну.

Ганна з пагардай глянула на яго.

- Хто як ясі, той так і чаруе. Так у каўдуноў гавораць. А зь цябе чараўнік я бачу слабы. Яна зарагатала.

Міхась усьміхнуўся, і падліў ёй келіх.

- Зараз ты нам пакажаш масьцер-кляс, усьміхаючыся, вымавіў

ён.

- І пакажу! – Ганна надзьмулася. Яна папоркалася недзе пад спадніцай, і выцягнула таўстую чорную сьвечку, крываватую, як вузлаваты дравесны камель, апаленую зьверху, з тоўстым чорным фіцілём.

Алег вытарапіў на яе вочы. Міхась зь цікавасьцю нахінуўся праз стол. Летыцыя заплёскала ў далонькі.

- Вой, якая аўтэнтычная! – вымавіла яна радасна.

- Цыц, дура! – Ганна зыркнула на яе вокам.

Дастала з кішэню пацярушаны карабок з запалкамі, чыркнула, і пачала нешта злосна мармытаць над узьвіўшымся ў гару полымем.

Раптам сьвятло на вярандзе мірганула, і пагасла. Як і камін, і халадзільнік. Увесь дом пагрузіўся ў цемру. Коцік, які ляжаў ля каміну на коўрыке, падскочыў, выгнуў сьпіну, і громка зашыпеў.

- Пробкі выбіла! Каб табе трасца! Міхась устаў, дастаючы з кішэню ліхтарык. Але ж не пасьпеў уключыць яго, як пачуўся адчайны Алегаў ускрык.

- Там! Там! – вымавіў ён, паказваючы пальцам некуды ўбок шкла, за якім лясная цемра нібыта насунулася, падступіла да дому.

У адзіным застаўшымся вытоку сьвятла – чорнай сьвечцы, якая чмыхала сажай на белую скацерць, адбіўшымся ў глянцава-бліскучым шкле, не кранаючы зямлі, быццам бы лунаючы ў паветры, не зразумела, ці тут, ці звонку, над полам павіс Васіль.

Выгляд ён меў пакутніцкі, змораны і худы, але ж, на дзіва, жывы. Калматыя валасы тырчэлі дыбам, барада ж, наадварот, была больш-меньш прыглажаная.

- Ганна, Ганна, і тут табе няймецца! – сумна вымавіў ён, вагаючыся паміж небам і зямлёй, ці, дакладней, паміж стольлю

і полам. – Я ўжо думаў, ты мяне да сьвятак не патурбуеш. Чаго ты мяне выклікала? Пазьдзекавацца? Пасраміць мяне перад людзямі?

- Цыц, дурань! Ганна прыасанілася. – Я ім сваю ўладу дэманструю – над тым сьветам - як і над гэтым. Над сьветам памерлых. Павісі, павісі, кусок ад цябе не адваліцца. Бо ж ты – дух, ня цела.

- Што, бачылі? – горда вымавіла яна, аглядаючы прыціхлую кампанію.

Алег раптам пачаў дрыжэць – так, што не пападаў зуб на зуб. Летыцыя з жалем глядзела на Васілеў прывід.

- Што, Васька, дастала яна цябе? – Міхась спачувальна пакачаў галавой.

- Вой, дастала, пан Міхал. Зьмілуйся, літасьцівы пане! Век маліць цябе буду, спакойна буду ляжаць, не варухнуся! Васіль, вісячы ў паветры, паспрабаваў паўстаць на калені, але ж толькі падагнуў ногі, нагадваючы левітуючага ёга.

- Ідзі ты дамоў, за радзі Хрыста. Адпускаю я табе твае грахі, і прошлыя, і авансам. Міхась перахрысьціў яго, і нешта нягромка вымавіў на латыні. - Miserere Dei…, - пачула Летыцыя.

Васіль раптам шырока, радасна ўсьміхнуўся, і яго твар стаў расплывацца, пераўтвараючыся ў галубаваты туман.

Ганна павярнулася да яго, раскрыла рот, але ж не змагла нічога вымавіць – паддзела машынальна на відэлец клёцку, і пачала жаваць.

- Пайду, пробкі ўключу. Пачакайце крышачку. Міхась устаў, і з ліхтаром схаваўся ў калідоры. Праз хвіліну пакой заліла сьвятло.

- Перабой нейкі з токам. Выбіла ўсё. Ён прайшоў да сталу, сеў, і наліў усім па келіху.

Алег узьняў чарку з каньяком дрыжачай рукой, і паспрабаваў

паднесьці яе да вуснаў. Ганна наканец праглынула ўскочыўшую ёй у рот клёцку, і вытарапіла на Міхася вочы, намагаючыся нешта сказаць.

- Яшчэ раз напаскудзіш, пойдзеш дамоў пехам прама зараз, - сувора папярэдзіў ён.

Летыцыя засмучана глядзела на абрус, на якім чарнелі жырныя хлоп'і густой сажы. Сьвечка неяк хутка дагарэла, і проста сьмярдзела плоскім агаркам.

- Яна ў цябе што, з чалавечага тлушчу? – Міхась уцягнуў носам паветра.

- З кацінага! – вымавіла Ганна горда. Летыцыя ўскрыкнула.

- Я не сама, я іх купляю. Казалі, з кацінага, - патлумачыла Ганна.

- Пахне гарэлым сьвінным лоем. Нарэшце Алег прыйшоў у сябе.

- Прабачце, шаноўная, але ж цяпер дужа шмат ашуканцаў гандлюе тым, што яны ня маюць права і кранаць. Такія рэчы маг павінны рабіць сам. Я вось, напрыклад, раблю свае адмысловыя сьвечы, зьмешваючы серу, воск, які асьвячаю сам адпаведным чынам у імя Вялікага Зодчага Універсуму, і яшчэ сякія-такія смолы, і ў адпаведны планетарны час…

- Ого! Ты – каўдун? – Ганна з цікавасьцю глянула на яго.

- Ну, тое-сёе ведаю, але ж не каўдун. Я – маг. Займаюся гаэтыяй. Гэта мммаё хобі. Алег яшчэ ня мог у поўнай меры авалодаць сабой.

- Выклікаю дземанаў у вольны час, калі маю адпаведны настрой, і калі планетарная карта спрыяе такой актыўнасьці. Ды да вашага майстэрства мне вой як далёка. Яшчэ ніколі мне не ўдавалася зрабіць такую амаль поўную матэрыялізацыю. Здаецца, я мог яго крануць! Вы – шаноўная, проста майстар! Алег з павагай глядзеў на Ганну.

Яна прыасанілася.

- Ён у мяне прыкормлены, - вымавіла яна. – Як карась на сухары – я яму сколькі віна на магілу выліла, цыгарэтаў спаліла. Я цябе навучу! На могілках. Пойдзем, пакажу. А ты мне свае штукі пакажаш. Га-Э-Та-Ю, - старана вымавіла па складах яна.

- Канешне! Алег узрадваўся. – Мы з вамі пасябруем, я ўпэўнены.

- Сто даляраў у час за работу, пяцьдзесят кансультацыя, - горда вымавіла Ганна.

- Паважаючыя сябе дамы меней ста даляраў не бяруць. Алег галантна нахіліў галаву. Летыцыя прыкрыла рукой вочы.

Збоч раздаўся гучны рогат. Міхась сагнуўся папалам, быццам бы ў яго схапіла жывот.

- Мяркую, вы пасябруеце, - адсьмяяўшыся, вымавіў ён.

# Двое

Нарэшце, госьці сышлі, і яны засталіся ўдваіх. Як толькі дзьверы за Ганнай і Алегам, які галантна прытрымліваў сваю хістаючуюся даму, зачыніліся, яны пачалі сьмяцца.

- Гэткае сьвята я не забуду ніколі ў жыцьці! – вымавіў Міхась, выціраючы мокрыя ад сьмеху вочы.

- Мяркую, што працяг вечару для нашых гасьцей будзе цікавы, - адказала задумліва яна. – Нешта дужа пяшчотна ён яе прытрымліваў.

Міхась, які толькі супакоіўся, ізноў схапіўся за галаву.

- Мяркуеш, Ганна яго прываражыла? – як мага сур’ёзна вымавіў ён, глядзячы на яе.

- Мяркую, што яны знайшлі шмат агульнага, што іх аб’ядноўвае, каханы. А ад шчырага сяброўства да шчырага каханьня ня так ужо і далёка. Бо ж еднасьць душаў дужа істотная, каб паміж людзьмі загарэлася трывалае полымя пачуцьця.

- Ня ведаю, якая павінна быць еднасьць душаў, сонейка маё, каб хтосьці мог пажадаць Ганну. Да таго ж, тыя душы, якія маюць еднасьць зь яе душой, наогул ня надта здольныя на такое пачуцьцё, як каханьне. Зьнешнасьць жа адлюстроўвае ўнутранасьць. Калі б Ганна мела прыгожую душу і розум, яна б і выглядала іньшым чынам, а не так, як зараз. Ды справа ў тым, што ў гэты раз і воблік душы, і воблік цела поўнасьцю супадаюць. Алег жа і сапраўдны зачараваны, але ж зачараваны ён праз свае ўласныя заганы – гордасьць, прагу ўлады, жаданьне задаволіць сваё эга такім чынам, які як раз найбольш і прыцягвае дземанскія істоты. Бо яны прыйшлі ў гэты сьвет менавіта для таго, каб выпрабоўваць такіх сфакусаваных на сабе людзей. Нажаль, гэты чалавек нікога ніколі не кахаў, і не пакахае, акрамя сябе. Ён думае, што мае пачуцьці, ды насамрэч ён мае толькі інстынкты. Я яго добра бачу, наскрозь. І ведаю, што ён жадае цябе. Я ж бачыў, як ён на цябе глядзіць. Але ж

нават калі б яго мара зьдзейсьнілася, чаго ніколі не адбудзецца, бо я яму гэтага не дазволю, ён бы не атрымаў і самай малой кроплі радасьці і задавальненьня, якія ад нашага каханьня атрымоўваю я. Яго задавальненьне было б роўнае задавальненьню сабакі, якая дацягнулася да хазяйскай міскі і з’ела які-небудзь мудрагелісты дэсерт, якія ты любіш гатаваць, душа мая. Сабаку трэба карміць тым, што не прыгоднае на ежу людзям, бо яна і густы мае адпаведныя, і жывот набівае ня так, як чалавек. Есьць, пакуль не зблюе, а потым ізноў працягвае. Колькі ня дай, усё з’ясі, ды яшчэ і выкачаецца ў нейкай дрэні, каб давесьці сваю асалоду да максімуму – дасягнуць сабачых нябёсаў.

Яму і жанчыны патрэбны адпаведныя – як сабацы костка, каб шмат было, і жанчынаў, і ў жанчынаў. Аддаць такога анёлка як ты такому чалавеку, якога я чалавекам магу назваць з нацягам, бо ж ён яшчэ чалавечага ўзроўню не дасягнуў, гэта раўнаважна таму, як сьвіньню пусьціць поркацца ў сьвятых дарах. Што сьвіньня разумее ва ўшанаваньні боскага, у сьвятасьці, у маралі? І хто аддасі ёй сьвятыню, каб яна яе таптала? Толькі вораг, які жадае аблюзьнерыць чужы храм. Вораг роду чалавечага. Гэта ён насалоджваецца тым, што аддае нявіннасьць на зьдзекі, цноту на ганьбаваньне, чысьціню кідае ў бруд, а дзяцей чалавечых аадае псам.

Так, ён ніколі ня здолеў бы атрымаць ад каханьня з табой такую асалоду, якую атрымліваю я.

Ён пільна глядзеў на яе, не адводзячы вачэй. Яго позірк быццам бы кранаў яе цела, пяшчотна, мякка, але ж і дзёрзка і прагна, неадрыўна, так, як краналі яе яго рукі, калі яны абдымалі яе цела, падпарадкоўваючы яе яго жаданьню.

- Птушаня маё, якая ты прыгожая. Ты нават гэтага не ўяўляеш. Не жадаць цябе немагчыма. Не магу і ўявіць, што нехта дакранецца да цябе ня так, не з такой любоўю, як гэта раблю я, - ціха вымавіў ён. – Я б забіў любога, хто паўстаў бы паміж мною і табой, так, як вартаўнікі храму забіваюць ня маючага пашаны, жадаючага апаганіць яго сьвятая сьвятых. Бо ж ты – сьвятая сьвятых майго сэрца, любая. Можа, я б і саступіў таму, хто кахаў бы цябе болей за мяне, але ж гэта наогул не магчыма

– не магчыма кахаць болей, чым цябе кахаю я. Нічыя вусны ня будуць такімі ласкавымі, як мае. Ніхто ня дакранецца да цябе з такой пяшчотай, як я. Любое іньшае каханьне – проста блёклая цень майго каханьня, любая. Хадзі да мяне, - ціха вымавіў ён.

- Я проста хачу да цябе дакрануцца.

Яна падыйшла да яго, і апусьцілася яму на рукі. Ён зазіраў ёй у вочы вачыма глыбокімі і зьзяючымі, якія зачароўвалі яе сваёй прыгажосьцю, быццам бы яна глядзела ў зорнае неба, адкуль на яе глядзеў сам Бог – уладар сусьвету.

- Ты прабач мяне, я выпіў, каханая, - вымавіў ён, гледзячы на яе. Яго рука абняла яе плечы, пагладзіла, асьцярожна дакранулася да яе грудзей.

Яна разшпіліла гузік на яго кашулі, адзін, потым – яшчэ адзін. Ён глыбока дыхаў, і яго грудзі ледзь адчувальна ўздрыгвалі ад дакрананьня яе рук.

- Мне нравітся дакранацца да цябе, - ціха вымавіла яна.

Яе пальцы марудна прайшліся па яго скуры, адчуваючы яе рэльеф, моцныя цяглы, шырокую грудную клетку, апусьціліся ўніз, дакрануўшыся да жывату, які зрабіўся каменным пад яе лёгкай рукою. Яна асьцярожна дакранулася да яго джынсаў, да вялікай металёвай засьцежкі туга нацягнутага рэмня, палажыла рукі яму на талію, і пацягнулася да яго вуснаў.

Яе губы мякка дакрануліся да яго губ, і яна адчула, як вакол яе яго рукі сьціскваюцца як жалезнае кола, і ў той жа час яны не маглі быць больш далікатнымі, як рукі маці, якая пяшчотна абдымае сваё любае дзіця.

Яго далоні ляглі ёй на сьпіну, і ён прыцягнуў яе да сябе, нахінаючыся над ёй. Яе галава лягла яму на плячо, і яго вусны апынуліся на яе вуснах, кранаючы іх, рассоўваючы, націскаючы на іх, так, што яе рот прыадкрыўся, і яе подых зьмяшаўся зь яго подыхам. Праз паўзакрытыя павейкі яна бачыла яго твар. Яго вочы таксама былі прыкрытыя, і ён быў такім прыгожым, што ў яе закалацілася сэрца. У яе закружылася галава, быццам бы ўсё

яе цела раптам згубіла вагу, пазбавілася скуры, і засталіся толькі аголеныя нервы, тонкі эфірны двайнік, які прынікаў да вялікага, магутнага полымя, запаўняючага яго жарам.

Яна не магла растлумачыць, як гэта было. Адначасова яна адчувала яго цела, цяжкое, гарачае, крэпкае, салодка-смалісты пах яго парфюмы, пах яго скуры, дакрананьне яго твару да яе твару, яго вусоў і барады да яе шчокаў і вуснаў, такое неверагодна рэальнае, плоцкае, зямное, моцнае, яго подых, пах каньяку і табачнага дыму, цела мужчыны, які зараз трымаў яе на руках, дарослага, сталага, вялікага, не маладое, гібкае, стройнае цела, як у Алекса, а магутнае, важкое, з выступаючымі цяглямі, нагадваючае сваёй магутнасьцю скалу, і ў той жа час яна нібыта бачыла праз яго, праз тое вялікае, сільнае, цялеснае, да якога яна тулілася, забываючы самое сябе, бачыла гэтую яго зьзяючую, палымяную існасьць, тое, чаму і сапраўды не было мяжы, быццам бы душа зьлівалася ў абдымках з душою, быццам бы іх аголеныя сэрцы злучаліся адно з адным, прыціскаліся адно да другога, біліся разам, нібыта сышоўшыся ў танцы. Яго рука гладзіла яе сьцёгны, агаляючы яе тонкую скуру, і хутка яе адзеньне апынулася на падлозе – яе штаны і байка ляжалі, адкінутыя, і яна засталася ў адной бялізьне – паўпразрыстых майтках і станіку ў колер яе малочна-белага цела. Яго рука ўвайшла глыбока ў яе, а потым дакранулася да іх вуснаў, і яна адчула свой пах, зьмешаны з пахам яго скуры. Яго пальцы пахлі яе целам, лімонам і металам, тонкім водарам каньячнага сьпірту, і крышачку – фарбай. Яна закрыла вочы, і дакранулася вуснамі да коньчыкаў яго пальцаў. Не адрываючыся ад яе, ён разшпіліў рэмень і молнію джынсаў, вызваліўшы сваю плоць, якая ўзьнялася паміж яе сьцягном і яго жыватом.

- Хачу цябе, птушаня маё. Не магу болей. Ён рыўком сьцягнуў зь яе станік, агаліўшы яе маленькія грудзі, накрыўшы іх далонямі. Яе рука лягла на яго чэлес, гарачы, напружаны, з набухлымі пад яе пальцамі венамі. Яны былі так блізка, нібыта сталі адным чалавекам, і яна нават зь нейкім страхам, нагадваючым сьвяшчэнны, адчувала сваю ўладу над яго вялікім целам, якое адказвала жарсьцю на кожнае яе дакрананьне. Яна і сама не разумела, як яе тонкае, слабое, маленькае цела магло абудзіць такую віруючую моц, узьняць зь нетраў да паверхні

вулкан, які цяпер жадаў выбухнуць пад яе рукою.

Яна адкінулася, і яго вусны прыціснуліся да яе грудзей, сьціснулі саскі, пакрываючы іх пацалункамі. Ён сьцягнуў рэшткі яе бялізны, поўнасьцю агаліўшы яе, і паставіў перад сабой, гладзячы яе сьцёгны, уваходзячы ў яе глыбока рукою. Яна ўскрыквала, прыкрыўшы вочы, прыціскаючыся грудзямі да яго твару, адчуваючы яго гарачы подых.

- Садзіся, - хрыпла вымавіў ён, накіроўваўчы яе. Яна апусьцілася, і застагнала, адчуваючы, як яго плоць уваходзіць у яе ўлоньне, і адразу яго рукі пачалі рухаць яе, трымаючы за талію. Яго грудзі ўзьнімаліся, цяглы прэсу напружыліся, а потым ён лёгка ўстаў, трымаючы рукамі яе сьцёгны, рухаючы яе цела.

- Якая ты лёгкая, як пушынка, - вымавіў ён, прыціскаючы яе да сябе, аднёс у пакой, і апусьціў на ложак, сам апусьціўшыся на яе зверху.

- Мне здаецца, зараз сэрца выскачыць з грудзей. Яго голас абарваўся, калі ён ізноў накрыў яе вусны. А потым ужо словаў не было, толькі ўскрыкі і рух іх целаў у цемры. Яе ногі, прыціснутыя да грудзей, упіраліся яму ў жывот, ён уваходзіў у яе глыбока, хутка, працінаючы яе моцнымі ўдарамі, яго цела над ёй здавалася ёй небам, накрыўшым зямлю, нябёснай цьвердьдзю, якая была ў ёй і над ёй, працінаючы яе маланкай, выліваючыся дажджом семені. Яна адчувала, як уздрыгвае ў ёй яго плоць, упіраючыся глыбока ў яе ўлоньне, рассоўвае яго, напружаная, так, што асалода мяшаецца з болем, быццам бы разрываючы яе, і адначасова выклікаючы моцныя, глыбокія сутаргі-скарачэньні, ад якіх яна выгіналася і ўскрыквала, упускаючы яго ўсё далей у сябе.

- Пацярпі, пацярпі, птушаня маё. Анёлак мой, - шаптаў ён, разумеючы, што прычыняе ёй боль, але ж ня маючы магчымасьці спыніцца, рухаючыся ў ёй, разрываючы яе ўлоньне.

- Цішэй, цішэй, - шаптаў ён, пакуль яна ўскрыквала, пакуль ня выліўся ў яе моцна, бурна, поўна - выліваўся доўга, у некалькі глыбокіх штуршкоў, а потым замёр, нахінуўшыся, гледзячы ў яе

твар, мякка праступаючы праз цемру. Ён быў такім нечалавеча прыгожым, што на яго вачах выступілі сьлёзы.

Часам яму ня верылася, што ён робіць зь ёй гэта, і што яна трывае яго, церпіць яго, выносіць боль, якую, ён ведаў, ён прычыняе сваім каханьнем, і ён стараўся зрабіць усё, каб загладзіць гэтую сваю віну, залячыць яе раны, даставіць асалоду яе целу, агарнуць яго каханьнем і пяшчотай, бо ж кожны раз, калі ён браў яе, ён ня мог стрымаць напор сваёй жарсьці, якая здавалася яму грубай, жывёльнай у параўнаньні зь яе нябёснай прыгажосьцю, яе чысьцінёй, сьвятасьцю, нявіннасьцью, якую ніштo не магло парушыць, як немагчыма чалавеку дакрануцца рукой да неба. Яна была чыстай прыгажосьцю, нечым такім анёльскім, выклікаючым у яго бездань пачуцьцяў, ад якіх у яго кружылася галава. Гэта было значна больш вострае пачуцьцё, чым жаданьне жаночага целу, чым жаданьне мужчыны, які хоча выліць залішняе семя ў юную жаночую плоць. Кожны раз, калі ён дакранаўся да яе грудзей, да яе шыі, жывату, рук, сьцёгнаў, яе ружовай патаемнасьці, ён адчуваў, быццам бы кранае вуснамі Бога. Нешта незямное, не належачае гэтаму сьвету, нешта, што праз гэтыя дакрананьні яго вуснаў да яе ўзносіла яго высока, так высока, што ў яго кружылася галава, на вышыню, якой ён не дасягаў і ў самым глыбокім мастацкім захапленьні, гэтыя яго пацалункі яе цела стоілі мільярдаў словаў, незьлічонасьці сусьветаў, якія ўсе рассыпаліся ад іх у пыл, разьлятаючыся зорным зьзяньнем, узрываючыміся туманнасьцямі ў нябыце.

Яго сэрца ёкала, абрывалася, нібыта на арэлях, і ён бы мог паклясца, што чуе ў іх пакоі шэпт галубіных крылаў.

- Хто ты? – ціха запытаў ён яе, - бо ж я ня ведаю цябе. Ты – значна большае, чым жанчына. Нешта вялікае, сьвятое, бессьмяротнае, і ў той жа час такое маленькае, кволае і пяшчотнае ў маіх руках. Няўжо сапраўды я – Бог, а ты – мая Душа, галубка мая, Сьвяты дух мой і біеньне майго сэрца? Напэўна ж, гэта так, і якая гэта вялікая міласьць, што ён адкрыў нам сябе праз нас саміх, бо такое каханьне магчымае, толькі калі суцэльна знаходзішся ў ім, бо па-за межамі яго няма такога каханьня, такога сьвятла, якое зьзяе ў нас з табой.

- Каханы мой, ты – Бог, я заўсёды табе казала. І гэта ты ўзьняў мяне да сябе, запоўніўшы мяне сабой, - вымавіла яна, прыціскаючыся да яго. Ён трымаў яе ў абдымках, калыхаючы, як малое дзіця, і доўга шаптаў ёй нешта, нейкія пяшчотныя словы, расказваў казкі, якія яна так любіла, самыя чароўныя, самыя прыгожыя, у якіх дабро заўсёды перамагае зло, баронячы і захоўваючы яе чысьціню, паўстаючы рыцарам ля пакою яе душы, пакуль яе дыханьне ня стала ціхім, і яна не паснула ў яго абдымках. Ён жа яшчэ колькі часу ляжаў, проста гледзячы на яе, і слухаючы яе подых у цемры.

# Венера

- Ты ведаешь, што ў цябе самыя прыгожыя грудзі ў сьвеце? Як у Венеры - дасканалыя, нябёсныя прапорцыі. Ён мякка крануў яе сасок, пагладзіў пальцамі. Накрыў яе грудзі рукой, адчуваючы іх мяккую, як шоўк, скуру пад сваёй далоньню. Яна адкінула галаву, узьняўшы твар, быццам бы прасіла яго пацалунка, яе вочы, прыгожыя, як у Мадонны, глядзелі на яго, нібыта с палатна нябёснага майстра.

Ён нахінуўся, і прыпаў да яе шыі.

Пах яе скуры ап'яняў яго, ён адчуваў, як цьвярдзее яго чэлес. Між яе ног вузкая пруткая ракавінка з сакавітай ружовай плоцьцю ў ёй сачылася вільгацьцю, быццам бы запрашаючы ў сабе, як у патаемы марскі грот.

- Мне здавалася, я звычайная. Яна ўсьміхнулася. - Пакуль я не сустрэла цябе. А грудзі ў мяне маленькія. Я была самая тонкая ў клясе, і яны зусім не вылучаліся, я нават і станік не насіла.

- А навошта цябе ён? Ты калісьці бачыла Венеру ў станіку? Ён усьміхнуўся. Яго рука працягвала гладзіць яе грудзі, якія і сапраўды поўнасьцю хаваліся пад яго далоньню - маленкія акруглыя грудкі юнай дзяўчыны, якая яшчэ нібыта знаходзілася ў сьне, не абуджаная разуменьнем сваёй прыгажосьці. Ён уявіў яе ў школе - высокую, тонкую дзяўчынку-падлетка з доўгімі, цяжкімі чорнымі валасам і вялікімі сур'ёзнымі вачыма, у белай блюзке, з-пад тонкай тканіны якой праступаюць маленькія кнопачкі саскоў, якія ня можа схаваць тонкая бялізна. Дзяўчынку, якая ня ведае свайго хараства, быццам яшчэ сьпіць, зачараваная. І як на яе глядзяць вочы хлопцаў, якія ўжо адчуваюць сябе зусім дарослымі, і некаторыя ўжо пакаштавалі жаночага цела, ведаючы дастаткова, каб жадаць яе, жаданьнем цёмным і сьветлым, узьнёслым і грубым, плоцкім адначасова, жадаць апынуцца зь ёй сам-насам, разшпіліць блюзку, палажыць рукі ёй на скуру, адчуць яе мяккасьць і гладкасьць вуснамі і далонямі, прыціснуць яе да сябе, падпарадкаваць

сваёй уладзе, а потым узяць, увайсьці ў яе цела, не зважаючы на яе ўскрыкі, бачыць як яна закрывае вочы ад жарсьці, якая палохае і вабіць яе, як па яе нагам цячэ кроў цноты, і яна раскрываецца, квітнее, як ружа, ап'яняючы мускусна-салодкім, крыху металёвым водарам.

- У цябе, пэўна, былі закаханыя ўсе, - вымавіў ён.

- Не адгадаў. Яна ўсьміхнулася - усьмешкай прывабнай і чараўнічай, тым больш чароўнай, што яна ня думала аб яе моцы ўздзеяньня на яго.

- Ніхто асабліва не зважаў на мяне ўвагі. Толькі адзін хлопчык. Але ж я яму не падабалася так, як падабаецца жанчына. У нас нічога не было. Я думаю, ён лічыў мяне дзіця. У мяне тады было зусім дзіцячае цела, і я нічога не разумела ў тым, што ён жадаў ад мяне. І таму ён абраў больш дарослую дзяўчыну. У якой усё было. Вольгу абраў. Бо ў яе быў можа трэцці разьмер, і сьцёгны і попа, я ж важыла ледзь больш за сорак кіляграмаў, а грудзі ў мяне былі зусім плоскія - адны саскі.

- Сасочкі, - вымавіў ён, дакранаючыся вуснамі да ружовага бутончыка на яе скуры.

- Ён распрануў мяне, паспрабаваў трогаць. Але ж нічога не атрымалася. Мне было больна і страшна, і я не схацела.

Адштурхнула яго, ён пакрыўдзіўся і болей да мяне не заляцаўся.

Гуляў з Вольгай, а потым зьехаў. Вось і ўсё.

- Ён дурань. Яму - нажаль, мне - на шчасьце.

Ён абняў яе.

- Насамрэч гэта спалохаўся ён, а ня ты. Бо ж прыгажосьць твая не звычайная, не зямная. Не жаночая - анёльская. Калі б ты ведала, што адбываецца з тым, хто дакранаецца да цябе.

Я поўнасьцю згубіў галаву, але ж я не хлапец-падлетак, і ўжо бачыў прыгажосьць жаночага цела і ў жыцьці, і на палотнах, і ў

мармуры. Я ж вывучаў яе - можна сказаць, я маю дыплом у прыгажосьці. Хоць яе адчуваньню насамрэч нельга навучыць. Тут трэба мець вочы, і сэрца. Адкрытую боскаму сьвятлу душу, здольную ўспрыняць сьвятло найвышэйшага каханьня.

Ён нахінуўся над ёй, убіраючы вуснамі яе скуру. Яна ўздыхнула, і абняла яго, адчуваючы на сваіх грудзях яго твар, валасы і мяккую бараду. Ёй было прыемна і падабалася, як яна казыча яе, пакалвае ружовыя саскі.

- Кветачка мая, ягадка мая салодкая, - вымавіў ён, апускаючыся ніжэй. Яна адчула яго подых там, між яе сьцёгнаў. Серж таксама рабіў гэта, аднак ня так, як гэта рабіў ён. Яго нельга было параўнаць ні зь кім. Маланкі ізноў працінулі яе цела. Яна ціха ўскрыквала, і дасягнула піку ў яго руках, выліўшыся семенем на яго вусны. Ён узьняўся, і ўвайшоў у яе з гукам, нагадваючым рык, выдахам-стогнам, які ўдарыў у яе ўнізе.

Яго рух, глыбокі, запоўніў яе, і яна забілася, застагнала.

Як гэта адбылося, што яна – самая шчасьлівая ў сьвеце?

Венера. Яго голас ахінаў яе, такі ж магутны і пяшчотны, як і яго рукі. Ад яго словаў у яе быстра білася сэрца, і хацелася слухаць і слухаць іх бясконца.

Ён насалоджваўся яе целам, любіў яе такой, якая яна ёсьць, і не жадаў, каб яна стала іньшай. Побач зь ім яна адчувала сябе захінутай, абароненай ад усяго зла, што існавала ў сьвеце. А існавала яго ня мала. Ва ўсякім чыне, значна больш, чым дабра. Людзі думаюць, што зло – гэта нешта страшное, што закранае ўсіх, накшталт вайны, ці катастрофаў альбо эпідэмій. Аднак яны ня ведаюць, што ёсьць зло паўсядзённае, тое, што яны за зло ня лічаць наогул. Людзі ненавідзяць іньшых людзей, пагарджаюць імі, зьдзекваюцца, узносяць сябе вышэй за сваіх братоў, і злом гэта наогул ня лічаць. Яны бавяць час за нікчэмнымі заняткамі, пустымі, нічога карыснага не прыносячымі ні душы, ні целу, запаўняюць сябе звонкай і яркай пустатой, гледзячы розныя шоў і камедыйныя праграмы, глупыя серыялы, ад якіх канчаткова памірае і так ледзь дышачая на ладан душа. Калі хто зь іх у апошні раз знаходзіўся

ў цішыні, угледваючыся ў самога сябе? Маліўся Богу – шчыра. Не з нястачы, просячы аб нечым, а проста каб падзякваць яму, што ён ёсьць, і не забывае аб іх нават і ў такім нядасканалым месцы.

Але ж самае страшное, што можа адбыцца з чалавекам – гэты калі ён скажае сьвятое пачуцьцё каханьня, праз якое адзінае ён можа ўзьняцца да Айца і сапраўды ўзьняць да яго блізкага. Адмаўляецца ад яго, пераўтвараючы яго ў нешта накшталт анты-каханьня – сатанінскай антыматэрыі, якая забівае пачуцьця, разлагаючы іх мёртвую плоць на секс, задавальненьне эга ад падпарадкаваньня сабе другога эга, рэўнасьць, хцівасьць, гардыню, калі другі чалавек робіцца нечым накшталт дарагой лялькі, ці сродка, каб узьняць сябе ў вачах іньшых, зрабіць сваё жыцьцё больш камфортным, дадаць яму некалькі зорачак, як дарагому гатэлю, дзе спыняешся на пэўны час, пасьля якога цябе выпісваюць – у пустэчу. Каханьне пераўтварылася ў бізьнес, у забаву, у гульню, тое, перад чым паўставаў на калені сусьвет, набыло гідкае слова “адносіны”, “партнёрства”, “сувязь”. Каханьне перасталі называць каханьнем, і людзі забыліся, што гэта такое. Калі ты ня можаш жыць і дыхаць без другога чалавека, так, як немагчыма жыць і дыхаць бяз Бога. Калі ты бачыш у тым, каго кахаеш, нябёсны твар боскасьці, не належачай гэтаму сьвету. Бо ж гэты сьвет – зло, недасканаласьць, і цемра. І знайсьці сапраўднае шчасьце, радасьць і каханьне можна толькі па-за ім, там, дзе ёсьць Ён. Але ўсё ж, хоць чалавек і глупы, і слабы, і заганны, ды Бог літасьцівы, і знаходзіць яго нават і тут, у месцы такім плотным, што, здаецца, нічому духоўнаму тут зусім ня выжыць.

Яна так востра, балюча адчувала, які нядасканалы гэты сусьвет, які ён халодны і пусты – безь Яго. Каханьня ў ім было мала, так мала, што душы амаль немагчыма было дыхаць, аднак яна намагалася знаходзіць апошнія рэшткі гэтага боскага каханьня ў паветры вакол сябе, піць яго прагна з вобразаў прыгажосьці, і прымаць, як міласьціну, з рук тых, хто зь вялікае ласкі шчодра аддаваў яго ў сьвет.

Тое, што адбылося зь ёй, здаецца, паставіла кропку у яе жаданьні працягваць жыць далей. Яна разумела, што забіць сябе

нельга, што гэта грэх, і што яна прычыніць сваім бацькам вялікі боль. Да таго ж, тыя рэшткі надзеі і праблiскі абяцаньня любві, якія яна бачыла зьзяючымі па-за тканінай гэтага сусьвету, падтрымлівалі яе, не даючы канчаткова сыйсьці ў цемру. Таму яна выбрала дабравольна звар'яцець, адмовіцца ад таго, чым жылі яе равесьнікі, якія бавілі час у кампаніях, клюбах і дыскатэках, ці проста сланяліся па дварах, робячы невядома што, накідваючыся танным алкаголем. Яе сябрамі сталі кнігі і краскі, папера, на якой яна малявала вобразы, якія прыходзілі ў яе душу аднекуль з-за межаў гэтай рэчаіснасьці. І яшчэ было нешта, што падтрымлівала яе, становячыся магутнай сьцяною паміж ёй і драпежным сусьветам. Гэта быў Ён. Яго любоў. Ён прыходзіў да яе – часта, заўсёды, калі яна прасіла. Садзіўся з ёй побач, абдымаў і суцяшаў яе, прытуляючы да сябе, казаў, што яна самая прыгожая, самая цудоўная, і што ён яе кахае так, як у гэтым сьвеце кахаць не магчыма. Што яна хутка сустрэнецца зь ім, і тады ўсё павернецца да яе зусім іньшым бокам – бокам сьвятла. Яна думала, ён гаворыць аб тым, што будзе пасьля сьмерці, але ж ён качаў галавой, і адказваў, што яна сустрэне яго ў целе, у гэтым жыцьці, і гэта будзе хутка. Зусім хутка. Ёй трэба пацярпець зусім нямнога часу. Яна павінна скончыць школу, а потым усё адбудзецца.

Яна зусім перастала наведваць кампаніі, нікуды не хадзіла, проста чытала, ці гуляла па магазінах зь нямногімі сяброўкамі, а потым стала проста хадзіць усюды адна. Усе думалі, што яна пагарджае імі, што яны ёй ня роўня, бо ж у бацькоў былі грошы, і яна прыгожа апраналася, пахла дарагой парфюмай, выкарыстоўвала лепшую касьметыку. Аднак справа была зусім ня ў гэтым. Проста ў яе балела душа, і кожнае нялоўкае дакрананьне да яе прыносіла ёй страшны боль. Серж адмовіўся ад яе, а на пасьледак яшчэ і абразіў. Недзе глыбока яна разумела, што ён – проста не яе чалавек, аднак гэта было яе першае пачуцьцё, і ёй было дужа балюча. Да таго ж, ён першы зьвярнуў на яе ўвагу, і пачаў ярка і актыўна дэманстраваць сваю цікавасьць ёй перад усімі. Цяпер жа, калі ён так жа дэманстратыўна заляцаўся да Вольгі, зь яе пачалі сьмяяцца. Вольга распускала пра яе розныя дрэнныя плёткі – аб тым, што яна прадаецца мужчынам за грошы, таскаецца ў розныя закрытыя клюбы для любіцелей асаблівых уцех, што яна

галюцыніруе і чуе галасы, і наогул, нейкая дзівачка. Яе шчырая вера стала аб’ектам насьмешак, нежаданьне бавіць час у пустых кампаніях – прызнакам яе ненармальнасьці, “аўтычнасьці”, як цяпер модна казаць. Яна і да гэтуль мела праблемы зь ежай. Як толькі бацькі пачыналі гучна сварыцца, у яе прападаў апетыт, і яна не магла праглынуць ні кавалачка. А потым ёй было дужа цяжка вяртацца да нармальных страваў, большасьць зь якіх яна не магла ўжываць. Ад сьвініны яе ванітавала, пах гавядзіны яна не пераносіла, малако не любіла, і гэтак далей. Маці крычэла на яе, а бацька ругаўся на маці.

- У маёй сям’і ніколі сьвініну ня елі, што ты ў яе піхаеш! Хай есьць, што хоча.

- Яна нічога ня хоча, не дзяўчына, а нейкі прывід. Такая і замуж ніколі ня выйдзе, і нікому ня будзе патрэбная! Маці, маючая з дзяцінства акруглыя формы, здавалася сабе верхам прывабнасьці, і на ўсех жанчын, хто меў у станіку меней за метр абхвату, паглядала з пагардай. Яна ж пайшла ў бацьку – даволі высокая для дзяўчынкі яе ўзросту: амаль метр семдзясят ужо ў сярэдніх клясах, і тонкая, як галінка.

Ад усяго таго, што адбывалася і дома, і вакол, есьці ёй наогул не хацелася. Аднак яна ніколі не прытрымлівалася дыетаў – проста апетыт раптам губляўся сам па сабе, а потым узьнікаў ізноў.

Да таго ж, у моду як раз вярнуўся “гераінавы шык”, і яна са сваімі чорнымі валасамі і бледнай скурай і вагой у сорак пяць кілаграмаў пры яе росьце адразу зьвяртала на сябе ўвагу. Яна была добра складзеная, тонкая, гібкая, з доўгімі нагамі, пяшчотнымі ключыцамі, тонкімі лыткамі і запясьцямі і доўгай шыяй, вузкай, як у лялькі таліяй, і на яе пачалі заглядвацца. У асноўным чамусьці дарослыя мужчыны, але ж было ня мала і яе аднагодкаў, якія пасьля Сержа яе зусім не цікавілі, бо яе сэрца яшчэ моцна балела.

І па гэтай прычыне ежы ў яе талерцы станавілася ўсё меней і меней: лісьцік салаты, кавалачак курыцы ці сыру, крыху соку, крыху тварага ці ёгурту, ложка кашы. Паступова ёй стала ўсё роўна. Яна прызналася сабе, што ня можа болей, не жадае

несьці цяжар сусьвету. Яго ж, таго, хто адзіны яе кахаў, яна заўсёды адчувала побач, яго моцныя рукі вакол яе, на яе плячы, яго каханьне, вялікае, як сусьвет. Потым яна ўжо разумела, што сама яна не магла ісьці, і ён на руках пранёс яе праз гэты нялёгкі перыяд у яе жыцьці. Ды гэта было потым, калі ўсё скончылася. А тады ёй здавалася, што яна рухаецца сама – але ж марудна і павольна, быццам бы ў сьне. Быццам бы ўсё плыве перад ёй, хістаючыся, як у вагоне поезду, а яна назірае за праплываючымі краявідамі – раўнадушная да ўсяго, акрамя Яго, прытуліўшыся да яго грудзей.

А потым адбылося гэта. Вольга зусім звар'яцела. Серж яе кінуў, але ж і да яе, Летыцыі, не вярнуўся. Усім казаў, што зьбіраецца зьехаць некуды, за мяжу, дзе плацяць добрыя грошы.

Ва ўсім Вольга вініла саперніцу, якая, ня гледзячы на “анарэксію”, усё ж жыла сабе і квітнела, і выглядала ўсё лепей і лепей, хутка набываючы асаблівае, нават палохаючае хараство юнацтва. Нехта з парней назваў яе “венерай”, і гэта мянушка замацавалася за ёй, але ж Вольга тут жа перайначала яе на агідны лад, адмеціўшы, што ў дзяўчыны з такой рэпутацыяй і пэўных хваробаў павінна быць багата. Тое, што яна цнатлівая, Летыцыя нікому не казала, бо ж гэта быў бы яшчэ адзін повад для зьдзекаў.

Таму яна нічога не заўважала - даўно ўжо перастала зьвяртаць на зьдзекі ўвагу.

І таксама не заўважыла, як Вольга, пачакаўшы, калі яна адыдзе, на перамене асьцярожна кінула ў яе пачку з сокам некалькі снатворных таблетак. На шчасьце, атрутніца апынулася не экспертнай, і некалькі таблетак снатворнага толькі вымусілі яе згубіць прытомнасьць і паснуць прама на парце пасярод уроку матэматыкі. Як раз у ненавідзячай яе матэматычкі, якая зь цяжкасьцю выкладала прадмет на мове, якую ненавідзела таксама. Але ж скандал адбыўся страшны. Яе і на наркоцікі правяралі, сабраўшы ў кучу ўсе старанна распускаемые Вольгай плёткі, і ў бальніцу паклалі з падазрэньнем на суіцыдальныя сьхільнасьці. На шчасьце, маці здолела вызваліць яе праз некалькі дзён – за вялікія грошы. Усё спісалі на анарэксію і стому, хацелі яшчэ некалькі тыдняў пратрымаць, пакуль не

набярэ вагу, але ж яна паклялася, што будзе добра пітацца. Вольга, здаецца, напалохалася, але ж прабачэньня ў яе не прасіла. Пра таблеткі Летыцыі сказала адна зь сяброўак, азіраючыся, папрасіўшы нікому не казаць. Бо ж Вольгу ў гэты час ужо пачалі сапраўды баяцца. Яна тусавалася з байкерамі, і нікому не хацелася мець праблемы з бандай адмарозкаў.

Апошнія дні ў школе прайшлі ціха. Вольга яе пакінула ў пакоі, да таго ж, вясной яна сустрэла Алекса, а пры тым пакрыўдзіць яе стала сабе даражэй, бо ж ён быў проста шалёны. Некалькі разьбітых твараў вымусілі любіцелей паплявузгаць языкамі заткнуць рты, і ўсё пайшло неяк больш-меньш добра, як і ў астатніх. А потым, пасьля гвалту, усё раптам абарвалася, і яна зразумела, што – хопіць. Хопіць зь яе тусовак, Алекса, багемы, клюбаў, і ўсяго, што яе ніколі не прыцягвала ў жыцьці. А затым ёй прысьніўся сон – мужчына ў яе пакоі, у сярэднявечным аддзені, ласкава глядзячы на яе, асьцярожна накрыў яе пледам.

- Пачакай мяне, каханая. Я іду да цябе, - гэтыя словы яна будзе памятаць усё жыцьцё.

Яна пацягнулася, і абняла яго.

- Птушаня маё маленькае, - пачула яна яго голас. – Худзенькае, такое што і крануць страшна. Дзевачка мая пяшчотная. Ён прыціснуўся вуснамі да яе валасоў, да шыі. Нарэшце, гэты доўгі дзень скончыўся – ужо пад раніцу. Ды ім нікуды не хацелася сьпяшацца.

# Гаэтыя

Алег з Ганнай няўпэўнена ішлі па лясной дарозе. Ехаць Алег не рашыўся – нават і два кілометры, і праз лес. У галаве гудзела, але ж прыемна, так, што душа поўнілася весялосьцю. Нават і пагрозныя, цёмныя галіны елак над галовамі здаваліся ўтульным покрывам, праз які ізноў пачаў падаць лёгкі сьняжок. Цёмна, на дзіва, не было. Нападаўшы за дзень сьнег забяліў зямлю паміж дрэвамі, падкрэсьліў іх пухнатыя лапы, і ісьці было нават неяк радасна, быццам бы праз навагодні лес у казцы.

- … а за балотам чорт жыве! – пачуў ён аднекуль збоч і сьпераду Ганьнін голас, рыпучы і рэзкі, які цяпер не здаваўся яму непрыемным.

- Які чорт, шаноўная Ганна? – паважліва запытаў ён яе.

- У сэньсе, які? – Ганна павярнулася, спатыкнулася аб корань і ледзь не паляцела наперад, ці, дакладней – назад, да яго.

- Ну, у сэньсе вы маеце на ўвазе хрысьціянскага чорта, таго, які, згодна легендам і казкам, жыве ў пекле, ці вы маеце на ўвазе нейкага паганскага бога, ці, можа, нейкую іньшую істоту, накшталт лесуна ці балотніка? Алег спыніўся, каб даць Ганьне час перадыхнуць, яна так сама стала, і, не разумеючы пытаньня, глядзела на яго.

- Якія казкі? Чорт – гэта ня казкі, - нарэшце вымавіла яна катэгарычна, строга, аднак у голасе яе гучэла паблажлівасьць да недарэчнага вучня.

- Чорт – гэта чорт. Гэта – не анёл! Пякельнік. Яна звысока, але ж задраўшы галаву, глянула на доўгага Алега, які падыйшоў, і цяпер стаяў побач.

- Дык усё ж вы маеце на ўвазе хрысьціянскага чорта. Алег кіўнуў. – Разумею.

- Нічога ты не разумееш, - злосна выкрыкнула Ганна, так, што сьнег асыпаўся з галіны побач.

- Які табе чорт хрысьціянскі? Ён што, хрышчоны? Чэрці зь яіц курыных нараджаюцца, з брызгаў, калі мыешся неахайна, калі нагой качаеш. Многа з чаго можна нарадзіць чарцей. Вывесьці іх адмысловым чынам. Паклікаць іх можна. Бо ж па сьвету шмат ходзіць тых, якія бяздомныя, галодныя ды халодныя. Жыла, напрыклад, старая бабка-каўдуньня, і пры ней быў добры вывадак чарцей – моцных, працавітых, цягавітых, якія на любыя штукі ды шкоду былі здольныя. А потым бабка – апці! – яна чыхнула, - і памёрла. Бабка на мятлу, а чэрці – хто куды. Бо ж яна іх не пасьпела перадаць

- А яны ёй пасьля сьмерці служыць ня будуць? – удакладніў Алег.

- Яны яе пасьля сьмерці будуць смажыць, дурань, - нязлобна вымавіла Ганна. – Бо ж калі ведзьма сваіх чарцей не перадасьць, то яны яе прама пад рукі на тым сьвеце прымуць, і за ўсю іх працу яна ім адпрацуе. Павалакуць яе на скавараду. Калі яна раней вумней ня зробіць.

- А як вумней? – запытаў яе Алег.

- Усё табе скажы. Расхрысьціцца трэба, і дагавор зь д’яблам падпісаць. Чорту галоўнаму прадаць душу. Тады малыя чэрці ніякай улады пасьля сьмерці над табой мець ня будуць.

- А калі зь дземанамі дамовіцца? Адносіны завесьці? – запытаў Алег. Раптам яму стала халодна стаяць у сьнезе, ён адчуў, як прамоклі яго ногі, адусюль цяпер цягнула сырасьцю, і ўся сказачная прывабнасьць лесу зьнікла, як і ня быўшы.

- Зь дземанамі? – Ганна прыжмурылася.

- Паспрабуй, завядзі, - з пагардай вымавіла яна. - І не такія чараўнікі на іх зубы ламалі, ды галовы гублялі.

- А вы, Ганна, зь дземанамі справу мелі? – пацікавіўся ён.

- Я – не. Навошта яны мне. Я што, жыдоўка? Толькі жыды

могуць зь дземанамі і анёламі дамаўляцца. Нашым, тутэйшым, гэтакая справа не пад сілу. А мне і чарцей хапае. Ганна паціснула плячыма.

- А хто тут з тутэйшых моцныя чараўнікі? – Алег запытваў Ганну ўжо на хаду. Яны шпарка крочылі да яе хаціны, дах якой паказаўся праз поле за лесам.

- Хто? Ды нікога не засталося. Акрамя мяне, і яго. Бабкі перамёрлі, дзед апошні па журавіны пайшоў, ды ў балоце патануў. Толькі кіёк і знайшлі. Вой, і моцны быў кіёк! Ганна прыжмурылася. – Як і дзед – той, таксама, быў чараўнік хоць куды. Моцны. Кійком гэтым як ударыць, о! Толькі пыл ідзе.

- Па кім ударыць? – удакладніў Алег з прыдзірлівасьцю навукоўцы, які жадаў ведаць дакладныя факты.

- Па чым! – адказала Ганна. – Па зямлі як ударыць, толькі пыл ідзе.

- І ў чым тут чараўніцтва? – Алег паціснуў на хаду плячыма.

- Як у чым? – Ганна зьдзіўлена глянула на яго.

- Пыл – гэта віхор. Віхура. А ў ёй чорт сядзіць. Гэтую віхуру можна хоць куды паслаць. Сапсаваць каго, каб жывёліна захварэла. А тое і – здохла! Ганна злавесна ўсьміхнулася.

- А чалавек можа ад такой віхуры …, - Алег запытальна глянуў на Ганну, не дагаварыўшы.

- Здохнуць? – Ганна ўсьміхнулася – зусім злавесна.

- А чаго не? І лёгка!

- А дзед чаго патануў? – Алег не разумеў, як такі моцны чараўнік, валодаючы сіламі прыроды, раптам як прасты сьмяротны заблукаў, і зьгінуў у балоце.

- Чэрці паклікалі. Ганна паціснула плячыма. – А што яму на зямлі рабіць? Кіём трэсьці? Ён сваё ужо адтрос. А ў балоце ён будзе вялікі чалавек! Балотнікам стане, будзе людзей пугаць,

душы ў багну зацягваць, і з таго набірацца моцы, і пугаць яшчэ мацней.

- І што з таго? – Алег паціснуў плячыма.

- Навошта гэта трэба – пасьля сьмерці апынуцца ў балоце і палохаць народ?

- Дурань ты, і нічога не разумееш. Ганна з пагардай глянула на яго. – Чалавек – істота ніжэйшая за ўсіх. Слабая. Нават самы малы і кволы чорт значна мацней за чалавека. Ён кабылу падняць можа. Ты казку чытаў? Пушкіна?

- Чытаў, - Алег усьміхнуўся.

- Быць чалавекам для нас, чараўнікоў, каўдуноў ды ведзьмаў – гэта пагарда. Зьнявага. Людзі – нашая ежа. Запомні. Мы зь іх сілу бярэм, маладосьць сабе прадляем, і – весялімся. Калі шкоду робім, - удакладніла яна.

- А балотнік – істота моцная. Я ж табе казала. Ай, вучыць цябе і вучыць. Яна махнула рукой.

Алег вінавата кіўнуў – каб не злаваць самавітую бабку, якая выклікала ў яго ўсё больш і больш павагі.

Адно за адным яны прайшлі праз градкі, асьцярожна, ступаючы крок у крок у баразну. Алегавы дарагія бацінкі прамоклі ўжо зусім наскрозь.

- Напэўна, разваляцца, - вырашыў ён. І сапраўды, раптам зачапіўся за нешта – адарвалася падэшва сьпераду. Ён у думках вылаяўся.

- Хоць бы дайсьці, - падумаў.

- Што там? Чаго спыніўся? – Ганна стала між градак, нагадваючы вялікае, таўстое пудзіла.

- Падэшва адарвалася. Бацінкам хана. Алег сплюнуў у баразну.

- Ня плюй мне на зямлю, яна замоўленая, каб буракі радзілі!

Ганна штурханула яго ў бок. – А боты я табе дам – гумавыя. Добрыя боты. Да дому дабярэсься. Пайшлі, чаю пап'ем, адпачнем. Паразмаўляем, калі ты такі цікаўны. Яна шырока ўсьміхнулася, на ўсе свае дзесяць жывых зубоў, і хутка пакрочыла да прывабна набліжаючагася жытла.

Ніколі Алег ня бачыў такой убогай, нячыстай хаціны, як тая, што адкрылася перад яго вачыма.

Унутры было засьмечана, і густа пахла кацінай мачой. Па ўсіх вуглах нешта стаяла, вісела, ляжала, і проста валялася. Чыстым быў толькі стол на вярандзе, ды вялікі ложак з падушкамі, якія ненатуральна ярка бялелі праз цемру гэтага сьметніка.

На сьцянах віселі іконы – многа. Некаторыя – кверху нагамі. Быў і перавёрнуты крыж, і прамы, так што Алегу пачало здавацца, што яго самога круцяць з ног на галаву і назад. У куце за печкай вісела некалькі пукаў траваў, вялікіх, як банныя венікі. Ад іх непрыемна пахла – мо, віселі яны ўжо даўно.

- Ад чаго гэта травы? – запытаў Алег, азіраючыся.

- Травы – ад хваробаў. Ганна паціснула плячыма. – Ад паносу, ад жывату, ад чарвякоў.

- Мо, лепей было б прыбрацца? – падумалася Алегу. – Тады б і паноса не было. Аднак у слых ён нічога не сказаў.

- Сядай. Ганна кіўнула на стол. – У нагах праўды няма. Зараз печ затаплю. Лямпачка над галавой, прыкрытая абадраным старым абажурам, тускла асьвятляла пакой.

На стале стаяла вялікая чорная сьвяча ў падсьвечніку – такая ж, якую Ганна запальвала ў Міхася ў хаце.

- А гэта сьвяча – таксама для матэрыялізацыі? – пацікавіўся Алег.

- Не, гэта не пагостная, - адрэзала Ганна. – Пагостныя я на стол ня стаўлю. Яны схаваныя. Я іх у магільнай зямлі асьвячала, крывёю пеўня палівала, і ў хаце нават не дастаю. Вынашу каробку ў лазьню, там, са словам, адкрываю. І закрываю

таксама ня проста, а з замовай. У мяне тут усё замоўлена. Нават стул, на якім ты сядзіш.

Алег выгнуўся, аглядаючыся – на чым ён такім сядзіць. Стул быў пашкробаны катамі, вялікі, цяжкі. Трон, а ня стул.

- А ад чаго стул замоўлены? – пацікавіўся Алег.

- Не ад чаго, а на што. Каб яйца крэпкія былі. Ганна зарагатала.

- Якія? Курыныя? Алег не зразумеў. – Зь якіх чарцей выводзяць?

- Тьфу. Твае! Зачым мне курыныя яйкі замаўляць? На гэта ёсьць адна замова – робіцца раз у год. На курэй. Каб несьліся. І асобная – на чорную курыцу, якая чарцей высіжвае.

- У мяне на ўсё замова ёсьць. І капусту квасіць, і каб гарод сажаць, на буракі – свая, на агуркі – свая, на плот вакол дома – свая, каб чужыя праз яго не глядзелі.

- Ганна, а вы казалі, што засталося толькі два чараўніка моцных у навакольлі. Алегу пачала надакучваць тэма замоваў, капусты і куратніка.

- Казала. Так і ёсьць. Ганна кіўнула.

- А хто гэты другі чараўнік? – запытаў Алег.

- Хто? Ды ён. Сябар твой. Ганна глянула на яго, быццам бы не зразумела пытаньня.

- Які мой сябар? – не зразумеў Алег.

- Ну, той, да якога мы на госьці хадзілі. Міхась. Ці Міхал. Ён жа воўхв патомны. А ты што, ня ведаў? – Ганна зьдзіўлена глянула на яго.

- Ён жа стары, яму больш за семсот гадоў. Былі часы, ён такія штукі рабіў, о! Нават і ў ваўка перакідвацца мог. Але ж потым Бог яго сапсаваў. І гэтая дурніца. Як зь ёй зьвязаўся, дык зусім жыдом стаў. Яна ж жыдоўка, нейкая там Саламоніха. Бацька яе чараўніком быў, дземанаў выклікаў, і праз тое ў пекла жыўцом

трапіў. Казалі, вішчэў, калі яго цягнулі, як парсюк. А яна – прыгожая, тое праўда. Ды прыгажосьць яе не чалавечая, бо ж яна і не чалавек наогул. Казалі, нейкі дух. Толькі атруцілі яе, і атрута гэтая была не звычайная. Чалавечая атрута яе ня брала. Колькі разоў намагаліся, усё дарэмна. А вось калі знаючы чалавек з Сатаной з самога пекла дамовіўся, і адмысловае зельле зрабіў, то яно падзейнічала. Праўда, яна дзён з дзясятак пражыла. Ніхто б і дня не працягнуў. А ён зь ёй на паганскі касьцёр жыўцом узышоў. Так і гарэў, кажуць, нібыта грэшнік у пекле. Нават не пахіснуўся. Стаяў зь ёй на руках, і чытаў нешта. На мове сваёй праклятай. На лаціне. Ды тое ў акурат пасьля сьмерці Вітаўта было. На другі можа год, ці на трэці. Я ўжо ня памятаю. Старая стала.

Алег з жахам глядзеў на яе.

- Куды я трапіў? – раптам прыйшло яму ў галаву. – Нейкая вар’ятка. Вярзе, невядома што.

- Вы зараз пра Міхася і Летыцыю? - удакладніў ён.

- Ну да. А ў каго мы былі? Слухай, ты што ўсё перазапытваеш, быццам зьдзекваешся? Ганна абазьлілася.

- Я ж табе кажу – сябар твой і яго жонка-жыдоўка, праклятая.

Алег нахінуў галаву.

- Разумею, - вымавіў ён. – Вы гаворыце пра нейкія прошлыя жыцьці. Калі, як вы мяркуеце, вы сустракаліся зь Міхасём і Летыцыяй. Вы ведаеце, такія тэорыі зараз дужа папулярныя. І шмат хто ўспамінае падобныя рэчы. Нават і я … ведаеце, і ў мяне быў эпізод.

- І ведаць не хачу, - адрэзала Ганна. – Гэта для цябе ўсё – прошлыя жыцьці. А для мяне і яго – сучаснае. Яно ніколі ня сконьчвалася, і ня сконьчыцца. А цяпер ён Богам сябе вазамніў. Праз яе. Бо ж яна – невядома хто, ці што. Мяркую, што ў ёй і ёсьць цяпер уся яго моц. Бо ж тое, што ён творыў, тое чалавеку, нават і чараўніку, наогул тварыць не пад сілу. Там такая была – Га-Э-Та-Я, што табе б і ў страшным сьне не прысьнілася.

- Ладна, расслабся. Чай гатовы ўжо. Ганна выцягнула зь печы вялікі брудны пачарнелы чайнік, закопчаны, як з самога пекла. Сдула з носіка сажу, і наліла нечакана духмяны густы настой у парэпаныя чашкі. У хаце запахла лугам, летам і сенавалам.

- Вып’еш, і ніякая хвор цябе ня возьме. А потым – на печ, і спаць. Як прасьпісься – тады дамоў. Мне мужыка ня трэба. У мяне чарцей хапае. Ганна зарагатала.

Алег з асалодай пацягнуў духмяны настой, і хутка адчуў, як яго павейкі зьмежвае няўхільна наступаючы сон.

# Слова

Прачнуліся яны пазнавата, але ж яму не дужа хацелася адразу выбірацца з ложку. За вакном было волгла, і шкло пакрылася густымі кроплямі – подыхам туману. Яна ляжала побач зь ім, прыгожая, як заўсёды, быццам бы яе намалявалі на белай халсьціне ложку, ці нейкі чараўнічы пражэктар раптам высьвятліў і адлюстраваў яго мару – вобраз, які даўно ўжо адзіны жыў у яго ўяўленьні, валодаў сэрцам і розумам.

Ён глядзеў на яе з усьмешкай, і яна сонна ўсьміхалася яму ў адказ.

- Як? Якім чынам яна тут зь ім, на гэтым ложку, аперлася дасканалай антычнай галоўкай на яго руку, і яе чорныя, як ноч, валасы, кранаюць яго танчайшым шоўкам, ад якога па яго целу бягуць мурашкі. Адкуль у яго ложку багіня? Венера, якой ня месца сярод сьмяротных, чыё цела такое дасканалае, што яго страшна кранаць рукамі.

Хіба толькі так:

- Добрай раніцы, каханая. Ён нахінуўся, і асьцярожна прыпаў вуснамі да яе тонкай малочнай скуры там, дзе скончваліся бялюткія карункі бялізны. Гэта белае на белым, мноства адценьняў белага - пярлінавага, пудравага, лілейнага, сьнежнага, яблыневага, і нябёсна-празрыстага, проста прасіліся на палатно. Ці – адкрыць сябе ў мармуры, вызваліць тонкае цела з-пад цяжару грубага камяню.

Замест Венеры ён бы выразаў танюткую дзяўчыну, якая адкінулася на ложку, ледзь прыкрытая празрыстымі карункамі сарочкі, што больш агаляе, чым прыкрывае яе цела. Праз павуціньне шаўкавістых вузораў праступаюць маленькія саскі, яе грудзі гладкія, ледзь заўважныя, як павольныя хвалі на спакойнай вадзяной паверхні. Як плаўны ход рукі майстра па гладкаму целу мармура. Ледзь прыкметнае ўзвышэньне з мяккім бугарком на ім. Якая яна прыгожая, якая маладая. Дзіця, якое даверліва прынікла да яго грудзей, адкінуўшыся ў

яго абдымках. Гэтае яе цела не было жаночым, яно было для яго сьвятым. Яго вусны асьцярожна дакрануліся да яе мяккай скуры, пакуль не сустрэліся з карункамі-перапонай. Ён крануў яе сасок праз тканіну, пасунуў яе і сьцягнуў сарочку з плечаў. Яна падалася да яго, і ціха ўздыхнула. Ён апусьціў твар, так, што ўвесь сусьвет пераўтварыўся у мяккую, атласную бялюткую плоць, ад якой пахла востра - мускусам і тонка – кветкамі. Як ашалелы, ён пакрываў яе цела пацалункамі, спачатку – марудна, асьцярожна, а потым – усё больш і больш прагна, абдымаючы яе, прыціскаючы да сябе далонямі, узносячы яе плоць да свайго твару, так, каб ня бачыць і не адчуваць нічога ў гэтым сьвеце, акрамя яе. Яго вусны прыціскаліся і адрываліся ад яе скуры, каб ізноў прыціснуцца, носам ён убіраў яе пах, губамі – гладкасць і цяплыню, языком ён адчуваў яе смак, якому ня меў назвы – смак вады, смак пялёсткаў, смак анёла. Яму хацелася не прапусьціць ні кавалачка яе цела, аблізваць яе, як кошка аблізвае кацяня, прыціскацца да яе губамі, шчокамі, ілбом, падбародкам, крэпка трымаючы яе, наносячы на сябе яе водар, як драгаценны бальзам, пакрываючы ёю усё сваё цела, быццам бы яна памазвала яго сабой, і духмяны алей зь нябёсаў цёк па яго ілбу, вачам, носу і скулам, бег па губам і барадзе, падаў кроплямі на грудзі, быццам бы ён стаяў пад вадападам гэтай духмянасьці, які лашчыў яго скуру і кружыў галаву, насалоджваючы ўсе органы пачуцьцяў. Яе пальцы гладзілі яго валасы, шыю, плечы, і ён апускаўся ўсё далей і ніжэй, туды, дзе да цень ля яе сьціснутых ног, да якога ён прыпаў вуснамі.

- Ты хочаш мяне? – ціха запытаў ён.

- Так, я хачу цябе. Яе вусны прашапталі гэта ледзь чутна, быццам бы здалёк, ці гэта сэрца яго так білася, што праз кроў у вушах ён згубіў слых, і гукі даносіліся да яго быццам бы праз ваду ці аднекуль з-за межаў гебдамады – з восьмага неба.

Але ж гэтага было дастаткова, каб яго быццам бы кінула туды – у бездань, зь якой даносіўся голас, каб, увайшоўшы ў яе, ён узарваўся адразу праз некалькі глыбокіх рухаў – туды, у бясконцасьць, амаль імгненна дасягнуўшы такога экстазу, што стрымаць яго было немачыма. Яна выгнулася і ўскрыквала пад ім – сонца задавальненьня апаліла і яе сваімі праменямі, а

потым апусьцілася ноч. Ён трымаў рукамі яе ўздрыгваючае цела, нацягваючы, насоўваючы яго на сябе, быццам бы зьмяя жадала ўлезьці назад у скуру. Яго мышцы ўздуліся, і семя выцекала зь яго – у бездань ці ў нябёсы, ён не разумеў. Яе тонкае дзявочае цела здавалася яму амаль пагрозным, целам Афіны, караючай рукі Бога, выклікаючы ў яго моцнае пачуцьцё сакральнага, захапленьня яе веліччу ў яе сьціпласьці, і яе цішыня для яго была як гром, які сатрасае сусьветы.

- Ты – як Бог, - прашаптала яна яму ціха. – Бог мой, які ўвайшоў у мяне, каб не выходзіць, каб застацца навек у маіх душы і целе.

Яна выгнулася ў яго цёмных руках, ахапіўшы сьцёгнамі яго сьцёгны, аплёўшыся вакол яго, як дыянісійскі плюшч, сама нагадваючы Менаду, ці Саламею, якая закрывала вочы, чакаючы пацалунка вуснаў мёртвага прарока. Яго цёмная скура, буйныя доўгія пасмы, цёмныя вочы пад чорнымі бровамі, барада, шырокія мышцы грудзей, цьвёрды жывот, пакрыты густымі чорнымі валасамі, усё было зямным, цялесным, кантрастуючым зь яе мяккай белай скурай, тонкімі членамі яе пяшчотнага цела, быццам бы яна была Шэкінай, Сафіяй, сышоўшай у абдымкі прарока, які забыўся на абет цнатлівасьці, бо ап'янеў ад яе віна, разумеючы, што там, дзе ён зараз, няма разьлічэньня паміж сьвятой і блудніцай, дземанам і анёлам, грэхом і цнотай, дзе існуе толькі праўда і Бог, і ўсё – сьвятое per se, бо ж зямля зь яе разьмежаваньнямі засталася далёка ўнізе, так далёка, што нават ногі яго яе не кранаюць, прыпадаючага вуснамі да завесы, якая болей не хавае ад яго тое, чаго ён так прагнуў.

- Сонейка маё, - ён нахінуўся, і пацалаваў яе. – Ні зь кім і ніколі я ня меў такой асалоды ад каханьня, як з табой. Я адчуваю сябе, як пустэльнік, які ўпершыню пазнаў прыгажосьць жаночага цела. І кожны раз мае пачуцьці не мяняюцца – колькі б я табой не валодаў, кожны раз я бяру цябе, як у першы. Але ж адгадка гэтай загадкі простая – проста я кахаю цябе, кахаю па-сапраўднаму, як ніколі ў жыцьці не кахаў.

Яна абняла яго, і забралася на яго зьверху. Семя зь яе ўлоньня пацякло яму на жывот, гарачае, зьмешанае зь яе сокамі. Ён ахапіў яе рукамі, і яна прыціснулася тварам да яго шчакі.

- Ты праўда кахаеш мяне? – ціха запытала яна.

- Сонейка, я цябе ня проста кахаю. Я цябе абагаўляю. Ён пацалаваў яе.

- Колькі б я не кахаў цябе, я ведаю, што гэтаму пачуцьцю няма межаў, яно толькі расьце, расьце бясконца, маё сэрца ўжо даўно разарвалася і зьнікла ў гэтай бязьмежнасьці каханьня. Ён перавярнуў яе на бок, і нахінуўся над ёй, ізноў цалуючы яе.

Яе мяккія вусны раскрыліся, і адказалі яму – даверліва, падзіцячы. І ў той жа час яе вочы былі вачамі спакусьніцы-ламіі, чорныя валасы закрывалі яе плечы покрывам цноты, які казаў аб радасьцях ночы. Ён пакачаў галавой:

- Ты - тое, чаму няма назвы. Ты – сьвятасьць і спакуса, Шэкіна і меч, які паражае ў самае сэрца.

- А ты – самы прыгожы, - вымавіла яна, і правяла рукой па яго шчацэ. – Самы прыгожы на ўсім сьвеце. Я ніколі ня бачыла такіх прыгожых мужчын, як ты.

- Я – звычайны. Да прыгажосьці мне далёка. Ён усьміхнуўся. – Апалона я зусім не нагадваю, сонейка. Можна сказаць, што я – антытэза прыгажосьці.

- Ты – прыгожы, як Бог. Бо ж ты – ён і ёсьць. Я ведаю. Яна глядзела на яго неадрыўна сваімі чароўнымі вачыма. – Толькі глядзець на цябе мне дастакова, каб адчуваць сябе шчасьлівай. Яна абняла яго за шыю, і прыцягнула да сябе, ці, наадварот, сама ўзьнялася да яго. У гэты момант ля ложку гучна зазвінеў тэлефон.

- Як заўсёды! Болей часу не абралі. І каму ня сьпіцца ў раніцу ў нядзелю? Ён асьцярожна вызваліўся, і ўстаў, каб адказаць.

Нумар быў нейкі новы, незнаёмы.

- Слухаю! – вымавіў ён строга, голасам, які мог бы напалохаць і найбольш дзёрзкага парушальніка яго персанальнай прасторы.

- Михаил? Міхась, прабачце што я вас турбую. Гэта я – Алег. Я

тут у Ганны, і, нажаль, не змагу дайсьці да вас, а ў вас на двары мая машына. Боты мае развалілiся, і галава баліць, проста не магу паварухнуцца. Войййй… раздалося ў трубцы. … чорт…Чорт ведае, што такое. Я ж шмат ня піў… Так?

- Па мне – ня шмат, але ж для цябе пэўна – зашмат. Забраць цябе трэба? Ён хутка здагадаўся, у чым справа.

- Ці ты ў Ганны яшчэ хочаш пабыць? Я магу і заўтра заехаць. Раніцой. Сёньня вечарам у мяне лекцыя.

- Міхась, заедзьце калі ласка зараз. Я болей тут не магу. Алег пачаў шаптаць у трубку.

- Тут каты нейкія паўсюль. Пах такі, горш за мой перагар. Ванітуе проста. І сорамна, усё ж такі, абцяжарваю жанчыну.

- Ну во, абцяжарваеш. А кажаш, што табе блага. Ён зарагатаў.

- Я ня ў гэтым сэньсе, і Ганна для мяне – гэта …

- … сьвятое, - вочы Міхася звузіліся ад сьмеху.

- Я яе сапраўды паважаю, яна шмат ведае, і гасьцінна прапанавала мне крышу над галавой. Толькі я тут знаходзіцца болей не магу. Мне і так блага, і, адчуваю, будзе яшчэ горш. Прашу цябе! – у голасе Алега гучэў сапраўдны адчай.

- Да забяру я цябе. Зараз прыеду. Паляжыш, а вечарам паедзеш дамоў. Машына ж твая тут. Толькі забаўляць цябе ня буду, прабач. Мне да лекцыі яшчэ рыхтавацца. Тое-сёе накідаць трэба.

- Золатка, я зараз за Алегам, а ты тут не сумуй. Я туды, і назад. Хвілін дваццаць. Ён нацягнуў джынсы, накінуў кашулю, пацалаваў яе, і выйшаў на двор.

Яна пацягнулася, і ўткнулася носам ў яго падушку – удыхнула яго пах, цела, валасоў, такі родны і любы ёй, што ёй хацелася размазаць яго па сябе. Яна і сама пахла ім – яго потам, семенем, церпкім і горка-салодкім водарам яго парфюмы. Azzaro Homme. У сучасных хлопцаў яна такіх пахаў ніколі не сустракала, сярод саладкавата-акватычных сьвежакоў, яркіх

карычных сьпецый накшталт “Мільянера” Paco Rabanne, і іньшых карэктных модных водараў, якія пахлі клюбам і грошамі, ды і чым заўгодна – толькі ні тым, чым трэба.

Яго пах, прамы, рэзкаваты, можна сказаць што і грубы, і ў той жа час расслабляючы, ахутваючы водарам моцнага, сталага мужчыны, які толькі што прыняў душ, пагаліўся, і выйшаў з ваннай у белым палаценцы на сьцёгнах, ці апрануты ў строгі клясычны касьцюм, не метрасексуала, які сочыць за модай ня горш за дзяўчыну, араматычны і скураны, быццам бы парыпваючы, і грышачку гразнаваты, нібыта праз сьвежы лавандавы верх прабіваецца нота крэпкага цела, заводзіў яе, і вымушаў падгібацца калені. Яна гатова была апасьць бязвольнай лялькай ў яго руках, і ад гэтага водара ў яе пачынала ціхенька калаціцца сэрца.

Некалькі імгненьняў яна нюхала яго падушку, а потым прыціснула да грудзей, абняла, і замёрла. Ёй проста было хораша. Шчасьце ад таго, што яна тут, зь ім, і ён будзе зь ёй заўсёды, нікуды ад яе ня сыйдзе, ня кіне яе, запаўняла яе ўсю, бяз рэштку.

Нарэшце, яна адарвалася ад падушкі, устала, і пайшла ў душ. Настроіла ваду, і аддалася пругкім цёплым струям, якія пруцікамі сьцягалі па яе целу. Наліла шампуня зь вялікай бутэлькі – водар ружы запоўніў усё вакол, нанесла на валасы. Капнула геля на мачалку, ўзьбіла густую пену, і з асалодай пачала церціся. Нарэшце, вымылася, выйшла, закруціла доўгія валасы ў жгут, абматала палаценцам, нанесла на скуру масла з залацінкамі, апранула белы пушысты халат, пайшла на вяранду, і зрабіла сабе чашку кавы. Востры, густы пах зьмяшаўся з водарам масла для цела і шампуня. Яна з асалодай уздыхнула, убіраючы ў сябе букет пахаў. Пахі былі яе слабасьцю, ад пахаў парфюмы, касьметыкі і ўходу да водараў, якія дарыла прырода, асабліва ж яе зачароўвалі і вабілі пахі духмяных рэчываў і сьпецый, араматычных масел, якіх у яе сабралася немалая калецыя, а таксама – пахі салодкай ежы, шакаладу, ванілі, дэсертаў. Яна наогул любіла салодкае, толькі амаль ня ела яго. Дужа любіла, каб есьці шмат. Шакаладкі, мармеладкі, дарагія канфеты. Ён заўсёды спакушаў яе: “Ну з’еш

шакаладку, мая красуня. Што ты яе баішся? Быццам бы яна цябе зараз з'есьць", і пакупаў ёй дарагія штучныя вырабы, швейцарскі і нямецкі шакалад, ці нейкія аўтарскія рэчы, зробленыя па замове. Яму даставўляла асалоду балаваць яе, прыносіць ёй радасьць, і ён усьміхаўся, гледзячы, як яна зачаравана гладзіць бліскучую абгортку, удыхае духмяны шакаладны водар, як радасна блішчаць яе вочы. "Вочкі", - сказаў бы ён. "Вачаняты". Яна падумала, і адламіла кавалачак шакаладкі – зь міндалём і нейкімі ружовымі пялёсткамі. І ў гэты час на двары загудзела машына. Яна дапіла чашку, і схавалася ў пакоі – высушыць валасы, прыбрацца, і апрануцца ў нешта прыстойнае.

Калі яна спусьцілася зь верхняга паверху, на вярандзе ужо сядзеў Алег. Ён зусім не нагадваў таго моднага сталічнага франта, які завітаў да іх вечарам. Касьцюм яго быў памяты, на нагах – гумавыя боты, пакрытыя зямлёй і глінай.

- Бацінкі разваліліся, - разьвёў ён рукамі. – Прабачце за мой такі выгляд.

- Нічога, я памыю, - суцешыла яго Летыцыя. – Вы як сябе адчуваеце?

- Блага, павінен шчыра прызнацца. Як быццам зараз памру. Алег крануў рукой патыліцу.

- Я зараз зраблю вам каву, нічога страшнага. Можа, таблетку асьпірыну даць? Яна адкрыла шкапік, дастала карзіначку з таблеткамі.

- Дайце, калі ласка. І кавы, калі вам ня цяжка. Алег ахапіў галаву рукамі, і застагнаў.

Яна працягнула яму стакан з вадой – італьянскай мінералкай, куды ўкінула шыпучую таблетку. Ён прагна выпіў – толькі кадык захадзіў на шыі. Пакуль піў, яна зрабіла яшчэ чашку кавы, і паставіла перад ім.

- Можа, есьці хаціце? – прапанавала. – Клёцкі яшчэ ёсьць, плов, і бутэрброды. І салата, мясная.

- Ня трэба, дзякуй вялікі! Мне здаецца, што я цяпер тыдзень есьці не змагу. Ён ізноў ахапіў галаву рукамі. – Што ж такое? Чаго так блага? Яна спачувальна глядзела на яго.

- Як вам падабалася ў Ганны? – запытала, ветліва, каб проста не маўчаць.

- Як? Жудасна! – вымавіў ён, узьнімаючы на яе чырвоныя вочы. – Проста жах! Каты нейкія паўсюль, брыдота, гразь. Спаў на печы, нешта калолася ў бок, венікі нейкія. Там матрас быў, брудны, як з памойкі. Накрываўся кажухом. Авечым. Ці спаў, ці ня спаў, не разумею – быццам бы поркаўся па мне нехта. Я думаў, каты, але ж Ганна потым сказала, што чэрці. Вывяліся ў яе на печы, у цяпле. У яе там яйкі яшчэ наверсе стаялі, я ледзь не пабіў. А тое б і чарцей на сабе да вас прынёс, а ня толькі гліну. Ён крыва ўсьміхнуўся.

- Ты і прынёс, і нямала. Густы голас запоўніў веранду – Міхась вырас на парозе.

- Ты мне і гразі прынёс. Хто тут мыць усё будзе? Вандроўнік, паляўнічы за чараўнічым шчасьцем. Міхась хлопнуў яго па плячу.

- Што? Блага?

- Блага, - прастагнаў Алег.

- Ну, пацярпі. Зараз палягчэе. Ён незаўважна правёў вялікай рукой над яго галавой – раз, другі, быццам бы ськідваючы нешта. Летыцыі паказалася, што кожны раз ён страсаў з далоні чорнае бруднае павуціньне. У трэці раз павуціньня ўжо не было, але ж з далоні на Алега палілося мяккае залатое сьвятло.

- І праўда, палягчэла. Алег зьдзіўлена агледзеўся. Міхась стаяў, быццам бы нічога не было, і глядзеў на яго, усьміхаючыся.

- Калі наступны раз да Ганны паедзеш, крыж нацельны апрані, і не здымай, што б яна табе не казала. Не адкрывайся ёй. Малітву прачытай – Pater. І чытай кожны раз, калі нешта благое пачуеш. Гэтага будзе дастаткова. А потым, калі дамоў

прыедзеш, абавязкова душ прымі – поўнасьцю.

- Гэта першае, што я зраблю. Алег пакачаў галавой. – Там такая ў яе брыдота, жах.

- Жах ня жах, а гразі ў яе хапае, - пагадзіўся Міхась. – Здымай боты свае, - вымавіў ён, дастаючы з полкі дамашнія тапкі. – Там паспаць можна – ложак засланы. Ці – на канапе. Ён махнуў рукой у бок пакою.

- Ведаеце, я сябе ўжо лепш адчуваю. Думаю, што магу ехаць. Усё ж ужо амаль абед.

- Ну, калі можаш, то едзь. Красоўкі табе магу даць. Ты ж ня ў гумавых ботах на офіс з’явішся?

- І праўда, мне ж яшчэ на работу заехаць трэба. Бумагі забраць, пачытаць дома. Алег дапіў каву, і ўстаў, разьвітваючыся.

- А што табе Ганна наогул казала? – Міхась зь цікавасьцю глядзеў на яго.

- Так, нічога асаблівага. Казкі розныя расказвала, мясцовы фальклор. Алег пацiснуў плячыма. – Але ж яна мне спадабалася, наогул. Цікавая жанчына.

- Ты з гэтай жанчынай асьцярожней. І ня думай, што я жартую. Міхась хлопнуў яго па плячы.

- Ну, бывай, вучанік ведзьмы. Добрай табе дарогі! Чарцей я ад цябе адагнаў, яны ўжо да Ганны крочуць.

Алег пацiснуў яму руку, выйшаў на двор, і сеў за руль чорнай спартыўнай машыны. Хутка гудзеньне заціхла за дрэвамі.

- Пайду я, сонейка, папрацую. Ён крануў вуснамі яе лоб, і ўзьняўся на другі паверх. Сеў за ноўтбук на стале насупраць вакна, і адкрыў кнігу. Адну, потым другую. Потым набраў у гугле некалькі запытаў: “есеі”, “хрышчэньне”, і накшталт. Прагледзеў заметкі, задумаўся, і адкрыў новы, некрануты дакумент-ліст. Электронная папера бялела перад ім, запрашаючы пачаць выліваць на яе свае думкі. Ён падумаў, і

набраў на лісьце: “Слова”. А потым дадаў: “Логас”. І яшчэ далей – “Бог”. Задумаўся, адкінуўся на сьпінку стулу, гледзячы на тое, што сказаў лісту. Перад яго вачыма раптам паўстаў жаночы твар – яна. Прыгожы, але ж разгублены. На ім адбіваліся адчай і пакуты. Сафія сышла ў матэрыю, і сьвет набыў існаваньне. Сьцяна архонтаў стала паміж ім і ёю, праз іх цяжка калышучыяся крылы ён убачыў яе – падаючую ў адчай. Драпежны, з кручкаватым носам твар Дэміурга, які пасылае уніз маланкі пакараньняў, шум анёльскіх галасоў, і яе громкі плач там, унізе, дзе болей для яе не было сьвятла. Сьвет адбыўся, адбіўся ў рэчаіснасьці. І тады ён увайшоў у яго, і працягнуў ёй руку. Тонкая жаночая постаць прыпала да яго – не адарваць. Ён крэпка ахапіў яе, і адчуў апаляючы агонь на сваёй скуры. Ён і яна былі праклятыя – праклятыя гэтым сьветам, бо ж яны яму не належылі. І тады ён узьняўся, вырваў яе зь таго, што той творца лічыў сьвятлом, і што для іх было суцэльнай цемрай. Пачуў, як ад напору яго плечаў трашчыць цьвердзь пабудаванага Іеговай сусьвету. Ніхто і ніштo не маглі яго спыніць - ён быў разбуральнікам храму і зьнішчальнікам закону, д’яблам і ворагам, Мешыахам і Лючыпарам, апошнім сярод апошніх, узьняўшымся на дрэве, праклятым самымі страшнымі праклёнамі, на якія толькі быў здольны Творца, помсьцячы яму за разбурэньне. Тое, што ён зрабіў, было найвялікшым блюзьнерствам ў гэтым сатвораным бязглузда сусьвеце. Ён вырваўся па-за яго межы, і ўзьняў яе – блудніцу, паўшую, дзеву, цнатлівую і зганьбаваную, сьвятую і грэшную, і так прагнучую яго, што яна яго ад яго нарадзіла. Узьняў з сабой, у сьвятло сапраўднае, якое для тых было цемрай, бо ж яно адразу выпаліла ім вочы. Ён сышоў, і цемры стала нават болей. Яна стала зусім густой, непраглязднай, але ж у ёй раптам адна за адной сталі хутка загарацца іскры, якія ўзьнімаліся праз пралом ў гебдамадзе – туды, на восьмае неба, якое і небам не было, а было Нічым, Каханьнем, Сьвятлом, і Пустэчай, - узьнімацца да яго. Хутка вакол іх палала цэлае яркае воблака чыстых, палымяных душаў. І чым больш іх узьнімалася, тым чарней рабіўся сусьвет пад ім, тым больш сканцэнтраванай станавілася цемра. Хутка яму прыйдзецца апусьціцца туды ізноў – разам зь ёю, каб выратаваць апошнія жывыя душы, якім не стае моцы прабіцца праз такі плотны покрыў.

Яго вочы ізноў заслала цемра. А потым надыйшоў дзень. Ён прыходзіў у сябе, седзячы перад ноўтбукам. Ён бачыў, наяўна, і наяўна адчуваў гэта. Ён сам быў ім – Хрыстом, і тым, да каго ён узьняўся – Богам. Што ён зараз ім скажа? Ці можа ён ім схлусіць? Ён ня меў права гуляць па правілах цемры, бо ж ня быў дурнем, які падпарадкоўваецца Закону. Таму прыйдзецца казаць праўду. Усё – як ёсьць. Напэўна, адбудзецца скандал. І можа, яму забароняць выкладаць. Перастануць запрашаць у суполку, ня будзе болей заказаў, але ж будзе нешта іньшае. Праўда, якая сама сабе праб'е дарогу. Той чалавек у сьне, чорны і страшны, казаў яму – не маўчы! І яна таксама прасіла яго аб гэтым. Ён глянуў на часы. Да лекцыі заставалася можа, якая пара гадзінаў. Ён адкрыў кнігу, і стаў чытаць – проста каб заняць свой розум, і настроіцца на патрэбную хвалю.

Народ падцягнуўся ў чат, высьвятліліся нікі прысутнічаючых на канферэнцыі. Ён уключыў камеру, націснуў на значок мікрафона ўнізе.

Трансьляцыя пачалася.

- Дзень добры, дарагія сябры, - вымавіў ён. – Я дужа рады вас усіх тут бачыць. Вас шмат, а гэта азначае, што шмат людзей цікавяць такія дарэчы не цікавыя тэмы, як хрысьціянства і яго гісторыя, і менавіта – раньняе хрысьціянства, тэма наогул туманная нават і для навукоўцаў, якія так і ня выстраілі трывалую сістэму меркаваньняў на гэты конт. Так, ня гледзячы на зьнешную зразумеласьць і прастату пытаньня, пра якое мы ўсе ўсё, здаецца, ведаем, тэма гэтая насамрэч складаная і ня маючая ў сабе ні трывалага грунту, ні шмат гістарычных арыентыраў. Аднак тое і добра, бо ж нішто пэўным чынам не абмяжоўвае нас, каб правесьці свой уласны research. Ён на імгненьне замаўчаў.

- Што вы ведаеце пра хрысьціянства і яго з'ўленьне? – раптам запытаў ён.

- Я хачу пачаць зь дыялога, бо мне важна бачыць вашыя ўяўленьні на гэты конт, - патлумачыў ён.

Нарэшце, нехта сьмелы націснуў на значок камеры, і ён убачыў

на маніторы твар. Мужчына сярэдніх лет, у акулярах. Твар не знаёмы – пэўна, нейкі аматар, з тых, хто цікавіцца гісторыяй.

- Слухаю вас уважліва, - вымавіў ён.

- Хрысьціянства – гэта, як мы ўсе ведаем, рэлігія Хрыста. Ісус Хрыстос быў расьпяты пры Понцкім Пілаце … “закатаваны, памёр, і быў пахаваны, на трэці дзень уваскрос, сышоў да Адхлані, і ўзьняўся, каб судзіць жывых і памерлых” пачулася яму. Сымбаль веры. А вера – гэта толькі палова, Pistis, якая ня мае ведаў Сафіі, тое, што вядзе сьляпцоў у бездань, бо ж яны вераць усім і кожнаму, таму што ня маюць зроку. Толькі відушчы можа весьці сьляпых, але ж як ім вылучыць, хто сапраўды бачыць, бо такіх, аб’яўляючых сябе відушчымі, дужа шмат. Імя ім легіён. І каб ведаць, куды ісьці, трэба набыць вочы самім. Ці, як варыянт, можна ісьці на голас, за Словам, якое і ёсьць увасобленыя веды. Аднак ізноў жа трэба нешта, каб вылучыць гэты голас з мноства другіх галасоў, зазываючых назад, у нябыт.

- Хрыстос пакінуў нам добрую вестку – Евангельлі. Усяго іх чатыры. Усе асноўныя прынцыпы хрысьціянскага вучэньня знаходзяцца ў іх. У гэтым – суць хрысьціянства. Прабачце, але ж мне здаецца, што пра гэта ведае кожны, ад школьніка да старой бабулі. Што ж тут наогул складанага, і аб чым можна наогул размаўляць?

- Але ж вы не адказалі на пытаньне, як зьявілася хрысьціянства. Ён усьміхнуўся.

- Чаму? – зьдзівіўся суразмоўца. – Я ж казаў …

- Вы рассказалі тое, што вывучылі напамяць, што вам прапанавалі, як гатовую страву, лёгкую для ўжываньня, прыгатаваную на агульны густ. Але ж нічога з таго, што вы працытавалі, не адказвае на пытаньне аб тым, якім чынам адбылося такое дзіва, што Слова нейкага не дужа вядомага, выпадкова расьпятага філязофа-праціборцы рэлігійнага мэйнстрыма раптам стала Словам, якога прагнуў і чакаў увесь сусьвет, і вось ужо дзьве тысячы год гэтае слова, прабачце, ніхто ня можа заткнуць. А намагаліся, насамрэч, шмат разоў.

Так, з пазіцыі рэлігійнага чалавека думаць мы наогул не павінны. Чым меней мы думаем і ведаем, тым лепей. Трэба верыць – пажадана ўсяму, што табе скажуць “вумныя людзі”. А людзі гэтыя сядзець недзе высока і далёка. Пётр на небе, папеж – у Рыме, а патрыярх – у Канстантынопале. Але ж раней, да таго, як Пётр трапіў на неба, папеж пасеў на яго магіле, а Канстантынопаль стаў сталіцай Рымскай імперыі і цэнтрам яе новай рэлігіі, для хрысьціянства ўсё было не так проста і лёгка, як для нас зараз. Наогул, гэта рэлігія зусім магла не адбыцца, і адзінае, што яе трымала, і несла далей, ад чалавека да чалавека, была ня вера, а ўласны вопыт. Веды, ці Гнозіс, а не вера ляжаць у аснове хрысьціянства. Хрыстос ведаў, і яго вучні ведалі. Павел – Саўл – бачыў сьвет такі яркі, што той выпаліў яму вочы. Веды, ці Гнозіс, мелі і Ян, і Сьвяты Аўгусьцін. Але ж якія веды, і аб чым? Гэтае пытаньне дужа складанае, і на яго, разам з наведваньнем вытокаў, мы і паспрабуем знайсьці адказ.

Як вы Ведаеце, падкрэсьліў ён, Хрыстос існаваў. Ці – вы ўсё ж верыце, а ня ведаеце?

- Ведаем, - адказаў нехта, не ўключая камеру. – У Тацыта ёсть дакладнае ўпамінаньне казьні Ісуса. А потым пра яго дзеяньні распавядалі яго вучні, якія і напісалі Евангельлі – сьведчаньне з прамых рук.

- Каб усё было так проста… На жаль ці не, але ж навука гісторыя ня можа прыняць Евангельлі за надзейныя дакументы. Безумоўна, пытаньняў веры гэта не датычыцца. Адзінымі дакладнымі згадваньнямі Хрыста і хрысьціян з’яўляюцца тэксты Ёсіфа Флавія і Тацыта, дзе гаворыцца аб укрыжаваньні пры Понціі Пілаце некага чалавека, іўдэя, якога лічылі мешыахам, і аб казьнях хрысьціян пры імператары Нероне па абвінавачваньню у падпальваньні Рыма. Ёсьць даволі шмат гістарычных дакументаў, якія гавораць аб судовых працэсах над хрысьціянамі і потым, але ж асноўная большасьць іх пазваляе толькі даведацца, што хрысьціяне былі сектай, адкалоўшайся ад іўдаізма і ўступіўшай зь ім у канфрантацыю, члены якой адмаўляліся прыносіць ахвяры рымскім багам і імператару, і па гэтай прычыне іх каралі за праяўленьне грамадзянскага непадпарадкаваньня, але ж не за саму “веру” і “Хрыста” per se.

Такім чынам адбываецца парадаксальная сітуацыя. Аграменная колькасьць людзей, якія палымяна верацць, і гатовыя ісьці за сваю веру на сьмерць, аднак чаму яны верацць, амаль нікім не зафіксавана і быццам бы прайшло бокам па-за мяжой поля бачаньня цывілізаваных людзей таго часу, якія вялі фіксацыю гістарычных падзеяў. Аднак, калі падумаць, у гэтым нічога незвычайнага няма. Бо ж хрысьціянства доўгі час не цікавіла пануючую тады цывілізацыю Рыма, бо яно да яе не адносілася. Раньняе хрысьціянства, аб якім мы сёньня сабраліся гаварыць, было суцэльна іўдэйскай з’явай, а іўдэі рымлянамі за цывілізаваны народ не лічыліся. Гэта была адсталая мяжа імперыі, якая прычыняла дужа шмат клопату – прыкладна як Брытанія і Галлія. Край Айкумены, населены адсталымі дзікунамі, пакланяючыміся нейкаму свайму племяннному Богу, ня маючы ні філязофскіх школаў, ні навук, як у грэкаў, пастухамі і рыбакамі, сялянамі, якія нічым не вылучаюцца з шэрагу іньшых качавых і паўкачавых народаў аравійскага паўвострава.

Таму, калі мы кажам аб раньніх хрысьціянах, мы перш за ўсё маем на ўвазе іўдэяў, бо ж менавіта ў іўдэйскім асяроддзі і з’явілася гэтая плыня. І каб ведаць, як, калі і чаму яна з’явілася, трэба глыбока пагрузіцца ў падводны мір іўдэйскіх рэлігійных сектаў – галінаў дрэва іўдаізма, якіх было нямала. Безумоўна, усе яны мэйнстрымам – лідэрамі культа, маючымі ў руках уладу над грамадствам – а грамадства іўдэйскае можна ў поўнай меры назваць тэакратычным, бо ж Бог і яго прадстаўнікі стаяць вышэй за цара – прама асуджаліся, і часта бязьлітасна вынішчаліся. У гісторыі Ізраэля было шмат рэлігійных войнаў, бо раньняму Іўдаізму вядома і шматбожжа, і нешта накшталт двубожжа, калі Яхве ўшаноўваўся разам зь яго жонкай, якая потам прыняла воблік Шэкіны, ці сьвятога духа.

Аднак з хрысьцінамі справа пайшла ня так, як гэта адбывалася звычайна. Зь нейкай нагоды вынішчыць іх усё не ўдавалася, а секта пашыралася і расла, актыўна ўключаючы ў сабе прадстаўнікоў не іўдэйскага сьвету. Дарэчы, іўдаізму таксама ўласна празеліцтва. Гэта не рэлігія абраных для абраных, і ўвесь час у гісторыі іўдэі далучалі да сваёй веры і акаляючыя плямёны, і нават высакародных прадстаўнікоў рыскай эліты.

Згодна Ёсіфу Флавію іўдаізм прыняла жонка Нерона Паппея, а таксама і сам Нерон, аб чым гаворыць Вавілонскі Талмуд. Аднак хрысьціянам і ў празеліцтве і ў праве на існаваньне іўдэямі было адмоўлена. Справакаваныя ганеньні на хрысьціян пасьля вялікага рымскага пажару былі сродкам вынішчэньня ненавісных ерэтыкаў рукамі рымскае ўлады. Не ведаю, наколькі Нерон знаходзіўся пад іўдэйскім уплывам, і ці наогул слухаў сваю жонку, якая вылучалася добрымі адносінамі да габрэйскай абшчыны, аднак яму было дужа зручна абвінаваціць невіноўных, і адначасова адцягнуць увагу народу ад трагічнай падзеі. Аднак тое, што высьвятлілі казьні, актыўна распачатыя Неронам, прывяло ў жах усіх, акрамя толькі можа яго самога. Хрысьцінаў у Рыме апынуліся многія тысячы – значна больш, чым было ў Рыме саміх іўдэяў. Маштабы пакараньняў і іх жорсткасьць пераўзышлі ўсе магчымыя для ўяўленьня памеры. І калі мы ўявім, што ад казьні Ісуса да пажару прайшло недзе трыццаць год, то за гэты перыяд колькаць хрысьціян вырасла надзвычайна. Мне давялося знайсьці такія лічбы, як 1 400 хрысьціян ў 50 годзе нашай эры і ужо 7 530 ў сотым годдзе, пры Нероне ж, у 64 годзе, было вынішчана каля тысячы хрысьціянаў, але ж маючы на ўвазе маштабы пакараньняў, якія ўразілі нават звыклых да жорсткасьці рымлян, бясконцыя гульні і перапоўненыя вязьніцы, а таксама цэлыя сады жывых факелаў, я б сказаў, што гэтая лічба павінна быць больш у некалькі, ці не ў дзесяткі разоў. Да таго ж, ужо ў 300 годзе нашай эры хрысьціян у рымскай імперыі было болей за шэсьць мільёнаў – так і хочацца сказаць, хто іх лічыў дагэтуль, бо ж раней, ня гледзячы на ганеньні і вынішчэньні, хрысьціянства ня толькі не спыняла росту, але ж расло актыўна, тэмпамі, сапраўды здзіўляючымі, і, як вынік, пры Канстанціне хрысьціянінам быў амаль кожны другі. Безумоўна, пры такім хуткім росьце гэтая плыня не магла быць аднароднай. Насамрэч, раньніх хрысьціянаў яднала толькі тое, што яны верылі ў адбыўшыйся прыход Хрыста – месіі. Астатняе ж было настолькі разнастайным шэрагам поглядаў і ўяўленьняў, што ў далейшым стала прычынай найбольш жорсткай палемікі. Палемікі, у якой канцэпт веры сутыкнуўся з канцэптам гнозісу, і перамог яго. Тое хрысьціянства, якое мы ведаем цяпер, з'яўляецца рэлігіяй веры. Але ж так было не заўсёды. Бо ж ранейшае хрысьціянства, тое, якое забясьпечыла неверагодны

ўзрыўны рост і падпарадкавала сабе Рымскую імперыю, мела тое, што называюць Гнозісам. Хрыстос, насамрэч, перадаў сваім пасьлядоўнікам прамыя веды, а ня веру аб Богу - Богу, які не належыў гэтаму сусьвету, сусьвет жа быў для Хрыста суцэльна варожым для ўсяго, што датычылася духа. За гэтага Бога тыя, хто даведаўся яго, не баючыся ішлі на агонь і пакуты, і так было не аднойчы і не толькі пры Нероне. Бо ж канцэпт гнозіса і прамога веданьня Бога кожным адмяняе патрэбнасьць у царкве як у прамежкавым інстытуце паміж Богам і чалавекам. Бог Хрыста ня ведаў пасрэднікаў. Ён гаварыў з кожным напрамую, і гэта было рэвалюцыйна. Хрыстос сапраўды разбурыў храм - храм веры, і пабудаваў на яго месцы храм гнозісу. І тыя хрысьціяне, якія распаўсюдзіліся ў Імперыі да Нікейскага сабору 325 года, былі ў большасьці сваёй тымі, каго называлі гностыкамі, тымі, хто Ведаў Бога. Тое, што адбылося ў Нікеі, было насамрэч страшной для духоўнасьці падзеяй. Я б сказаў, на Нікейскім саборы хрысьціянства спыніла існаваньне. Іегова перамог таго, каго ён укрыжаваў, і на дзьве тысячы лет чалавецтва пагрузілася ў цемру. Лічыце гэта Апакаліпсісам ці канцом сьвету, аднак з тых часоў ганеньні на хрысьціян набылі такія маштабы, што іх на сьвеце і сапраўды амаль не засталося, за выключэньнем некалькіх усходніх сектаў, якія, тым ня меньш, здолелі данесьці ледзь цеплячаеся полымя да Еўропы часоў Рэнесансу. Аднак полымя гэта ізноў пераўтварылася ў тлеючыя вуглі, якія ляжалі пад спудам гісторыі да тых часоў, калі на прыканцы дзевятнаццатага і пачатку дваццатага стагоддзя не былі адкрытыя сьвіткі, захаваныя з Александрыйскай бібліятэкі перад яе зьнішчэньнем. Сьвіткі Наг-Хамадзі і Кумранскія рукапісы ляглі ў аснову таго, што мы ведаем зараз з поглядаў і філязофіі першых хрысьціянаў. Ранейшыя прамыя крыніцы ведаў можна атрымаць з сачыненій ерэсіархаў, якія, асуджаючы, дакладна аналізавалі тое, што яны асуджалі.

І што ж атрымалася? Перад зьдзіўленымі вачыма навукоўцаў паўстала нейкая незразумелая карціна, якая поўнасьцю ўкладаецца ў лёгіку хрысьціянства як рэлігіі і як ідыялёгіі.

Хрысьціяне не прызнавалі бога Старага Завету за Бога, які паслаў мешыаха. Насамрэч, згодна гнастычнаму вучэньню,

сьветам кіраваў злы бог, аб чым адкрыта абʼяўляў Хрыстос. Заклік не ўліваць віно маладое ў мяхі старыя – гэта толькі маленькая рэштка таго, аб чым шматслоўна і аргументавана казалі знойдзеныя пісаньні, якія ўзарвалі мозг і вучоным, і тэолагам. Храм, як і праказаў Ісус, рухнуў – ізноў. І тады было прынята азначыць гностыцызм не як менавіта хрысьціянскае, найбольш раньняе і чыстае вучэньне, перададанае самім Ісусам, аб чым мы яшчэ пагаворым, а як нейкае агульна-філязофскае вучэньне, якое было ўласнае і антычным еўрапейскім, і ўсходнім народам. Зрабіўшы трапіўшыя праз Ветхі Завет у Новы, і потым – у шэраг гнастычных тэкстаў паняцьці высновай для больш раньняй датыроўкі ўзьнікненьня гнастыцызма, чым тое было насамрэч, некаторыя маючыя ўплыў персоны вырашылі, што ізноў аднавілі разарваную завесу, закрываючую сьвятая сьвятых ад прафанаў. Насамрэч, яны ня толькі не ўвайшлі ў сьвятая сьвятых хрысьціянства, яны нават і не стаялі ў яго прытворы.

Бо ж Хрыстос адкрыта размаўляў, і перадаваў прамыя веды аб Богу, трэбуючы персанальнага гнозісу. Усё гэта прама гаворыцца ў шэрагу мноства Евангельляў, якія дапаўняюць кананічныя, а не супярэчаць ім, насамрэч выхалашчаным і пазбаўленым мноства з таго, што было прызнана няўгодным. А цяпер падумайце, як тое адбылося, што менавіта ў наш час праз адкрыцьцё таго, што даўно лічылася зьнішчаным, нам ізноў былі адкрытыя веды, якія і былі першаначальным, ісьцінным хрысьціянствам? Сапраўды, калі пачаць аналізаваць напісанае, то зьнікаюць і многія супярэчнасьці і тое, што адштурхвае ад хрысьціянства людзей мадэрну і постмадэрну, погляды якога патрабуюць самага высокага ўзроўню гуманізму, роўнага таму, аб якім менавіта і казаў Хрыстос. Адкрыцьцё і выкарыстаньне атамнай зброі і апошнія страшныя войны падштурхнулі многія працэсы, і сапраўды абазначыўшы мяжу Апакаліпсісу. Цяпер жа болей у нас няма часу – мы павінны задумацца.

Я разумею, што сказаў вам шмат чаго, і не сказаў нічога канкрэтнага, што патрабуецца ад навукоўцы. Аднак я абазначыў вам шырокае кола для самастойнага дасьледваньня, а таксама акрэсьліў круг далейшых лекцый, на якіх мы будзем падрабязна разьбіраць тое, аб чым гаварылася сёньня – з лічбамі, фактамі і

крыніцамі, і так глыбока, наколькі я змагу гэта прадставіць. Цяпер жа я жадаю пачуць вашыя пытаньні, асабліва ж – аб тым, што я павінен першым асьвятліць у наступных семінарах.

- Іўдэйскія секты. Іўдаізм. Рукапісы і іх зьмест. Што казаў насамрэч Хрыстос? Пра гностыкаў-ерэтыкаў, якіх перасьледвала царква. За што асуждалі гностыкаў? Чаму іх позіркі лічыліся ерэтычнымі? Пытаньняў было так шмат, што ён згубіў ім лік.

- А вы даёте, коллега, - прыляцела яму ў адказ. – Нажили себе врагов сразу и в Ватикане, и в РПЦ.

- Ватыкан мяне не баіцца. Ён усьміхнуўся. - А вось РПЦ – гэта ўжо сур’ёзна. Нехта зарагатаў смайлікамі.

- Скажите, а вы случайно – не из свидетелей Иеговы? – пытаньне высьвятлілася, калі ўжо ён амаль быў гатовы разьвітацца з аўдыторыяй.

- Не. Я – не зь сьведак Іеговы. Бо ж Іегова – гэта Сатана.

- Дзякуй усім за ўвагу, я абяцаю, што дасканала дасьледую, і адкажу на ўсе вашыя пытаньні. Падпісвайцеся на мой канал на Patreon, каб атрымаць доступ да эксклюзіўнага кантэнту.

З гэтымі словамі ён націснуў іконку выхаду. За вакном ужо стаяла глухая ноч. Ён пацягнуўся, устаў. Лекцыя стаміла яго. Ён разумеў, што яна атрымалася ў нечым скамячаная, павярхоўная. Аднак такую ўжо тэму ён для сябе абазначыў, якую патрэбна было акрэсьліць шырокімі мазкамі. Дэталі ж ён будзе дапрацоўваць потым з тымі, хто гэтага пажадае. Ён спусьціўся па лесьвіцы, зайшоў у спальню. Яна не спала, глядзела кіно на ноўтбуку.

- Што глядзіш, сонейка? – запытаў ён яе.

- Жюсьціна. Яна ўзьняла на яго вочы.

- Якая? Тая, пра якую пісаў дэ Сад? Ён нахінуўся над ёй, заглянуўшы праз плячо. На маніторы маркіз задуменна разглядаў пяро, пакуль перад яго ўнутраным позіркам паўставалі прыгожыя і пагрозныя, як анёлы, дзевы.

- Табе нравіцца? – запытаў ён яе.

- Мне нравіцца, як зьнята. І гераіня такая, як і павінна быць. Як я ўяўляла. Толькі гэта ўсё дужа журботна. Чаму сьвет такі недасканалы? І прыгажосьць і чысьціня заўсёды павінны пакутваць? Яна ўзьняла на яго вялікія, сумныя вочы, бліскучыя ад сьлёзаў.

- Таму што сьвет і душа чужыя адно аднаму. Дух пакутуе ў сьвеце, і прагне Бога. А душа прагне з'яднацца з духам, і ўзьняцца да яго, сонейка. Толькі Бог лістасьцівы, і ён ніколі не пакідае нават і такі грэшны, недасканалы сусьвет. І калі ён яўляе сваю магутную волю, нічога ня можа параўнацца зь ім ні ў веліччы, ні ў моцы. Як бы Сафія не пакутвала ў сьвеце, яна заўсёды памятае пра Айца, які знаходзіцца зь ёй побач. Не пакутваць жа яна ня можа, бо Жюсьціна ніколі не апусьціцца да Жульеты - цела. Жюсьціна належыць толькі Айцу, і яна гэта ведае. І прыйдзе час, калі яго рука забярэ яе.

- Як мяне забраў ты? – вымавіла яна, абдымаючы яго за плечы.

- Як цябе забраў я, каханая. Ён прыцісньуў яе да сябе, убіраючы пах яе валасоў.

# Зло

Час ляцеў хутка. Ён заўсёды ляціць наўскач, калі ты шчасьлівы. Нейк незаўважна надышоў, і прайшоў новы год, і каляды. Зіма прыйшла, ахутаўшы ўсё бялюткім сьнежным футрам, і так жа хутка сышла, зьбегла прэч, разьліўшыся крыніцамі. Праз глебу прабілася зелёная пругкая трава, і на дрэвах разгарнуліся маленькія клейкія лісьцікі, якія густой шапкай пакрылі сады і ляса вакол. Белае яблыневае квітненьне пралілася малаком, а потым нейк незаўважна ізноў надышло лета. Увесь гэты час ён знаходзіўся нібы ў казцы, нібы ў сьне. Маляваў, ізноў заняўся скульптурай. Адлюстроўваў яе, у розных выглядах і тварах, постацях – венеры, жусьціны, саламеі, і сваёй анёльскай душы – Шэкіны. Але прадаваць гэтыя карціны і фігуры ён ня мог. Гэта здавалася яму блюзьнерствам. Толькі яму павінна была належаць гэтая прыгажосьць. Падсьвядома ён рыхтаваўся да вялікай выставы – уласнай. Але ж дзе і калі яна адбудзецца, яшчэ ня ведаў.

Некалькі разоў з Масквы прыязжаў Фёдар – сядзеў на верандзе, гуляў па лесу, назіраў за працай у кузьні. Яны разам наведвалі горад, хадзілі па царквах і касьцёлах, музеях. Фёдару ўсё падабалася, ён захапляўся прыгажосьцю чужой краіны, як дзіця. Аднойчы ён нейк сказаў яму, паміж іньшым:

- Слухай, я разумею, што гэта мая справа, але ж я хачу, каб ты захаваў частку сваіх работ у мяне. Не аддаў, проста захаваў. Не хачу, каб такая прыгажосьць загінула.

- Чаму? – ён зьдзіўлена ўзьняў на яго вочы.

- Не запытвай. Фёдар глядзеў некуды ўбок, на возера. Смурны, такі, якім ён яго ніколі ня бачыў. – Проста паслухай мяне. Зробіш мне дакументы, накладныя. На перавозку. Быццам бы я ў цябе купіў. І я адвязу іх у свой загарадны дом. Там месца глухое, і ахова. А потым, калі ўсё будзе добра, ты іх забярэш.

- Што будзе добра? – ён узьняў на яго вочы. – А што зараз блага? Слухай, ты проста з гэтай хваробай зусім засумаваў. Ня

трэба так усё успрымаць. Ну, колькі разоў гэта ўжо было. Звычайны грып.

- Не звычайны. Фёдар нахіліў галаву, разглядаў свае рукі – вялікія, з дарагімі часамі і пярсьцёнкамі.

- І не ў хваробе справа. Яна і сапраўды, як прыйшла, так і сыйдзе. Ну, канешне, людзі паміраюць, хварэюць. Аднак колькі разоў ужо гэта паўтаралася? Сфармуецца імунітэт, і ўсё будзе як раней. Але мяне турбуюць іньшыя рэчы. Прабач, я не магу пра іх казаць. Ды будзьце асьцярожнымі. Гэтым летам. Ты ж мяне разумееш?

- Я даўно ўжо не цікаўлюся палітыкай, можаш быць спакойны. Адбегаў сваё у студэнцкія гады. Ад мянтоў. Чаго толькі не было. Ён усьміхнуўся. – Ды гэта ж усё глупства. Кожны стварае свой, уласны сусьвет, у сабе, для сваёй душы. А што там робіцца ў іх наверсе, хай яны вар'яцеюць, як жадаюць. Як і з гэтай хваробай, мы нічога тут ня зробім. Ды і сапраўды, я б не сказаў бы, што тут блага. Вось, жыву ж, як хачу, і ніхто мяне не кранае. Ну, налогі, канешне, паперы. Аднак нічога складанага ў гэтым няма. Я ўладу не кранаю, а яна – мяне. Тое, што тут ня пройдзе, я заўсёды прадам у Еўропе.

- Міхась, я не пра вас. Ад вас тут нічога не залежыць. На жаль, ці на шчасьце, вы – малая краіна. І тут маюць быць адбыцца пэўныя падзеі. Але ж ты правы – ніхто ня ведае, як вырашыць Бог. Толькі прашу цябе, не хачу, каб гэтая прыгажосьць загінула. І яе берагі. З гэтымі словамі ён узьняўся, і яны разьвіталіся. Праз некалькі дзён Фёдар і сапраўды прыслаў машыну – вялікую фуру. Грузчыкі пагрузілі туды скульптуры, паставілі крэпка, зафіксавалі ў яшчыках. Некалькі вялікіх палоцен, некалькі каробак з малюнкамі. Усё, канешне ж, ня ўлезла, і ў майстэрні засталося яшчэ даволі і яе мармуровых вобразаў, і намаляваных.

Машына паехала, і ён доўга стаяў, і глядзеў ёй у сьлед.

А потым надыйшлі падзеі. Тыя, аб якіх лепей не размаўляць услых. Яны нікуды не выязжалі, і толькі чулі весткі ад сяброў. З'ехаў з краіны Алег – амаль адразу. Ён даволі глыбока

замараўся ва ўсёй гэтай бязглузьдзіцы, хоць ён яму і казаў колькі разоў – ня лезь, гэта табе ня трэба. Сідзі ціха ў сваім клюбе. Не, віно волі ап’яніла галаву. Кінуў месца менеджера, вывеў грошы, і праз кароткі час адкрыў свой уласны рэстаран – ужо ў Вільне. Астатнія падзяліліся на сваіх і чужых. Яго ж жыцьцё ішло так, як ішло. Лекцыі, заказы. Праўда, ад рэканструктараў амаль нічога болей не паступала. Гэты бок бізьнесу прасеў. Аднак Фёдар знайшоў яму шмат кліентаў з Расеі, якія былі рады ўпрыгожыць свае маёнткі старажытнымі рарытетамі, выкаваннымі рукой прафесійнага каваля-гісторыка.

Калі ўсё заціхла, яна ўпрасіла яго выехаць у сталіцу. Ёй даўно хацелася пагуляць, наведаць салон, прайсьціся па магазінах, ды і ён засядзеўся, зусім запрацаваўся, шчыра кажучы. Яна сдала тэстыраваньне і прайшла на завочнае ў ВУЗ. У верасьні адбылася першая, установачная сесія, на якую яна пасялілася ў кватэры ля Кальварыі, дзе ізноў трапіла пад пільны дагляд Катаржыны, ды тут ён ужо ня ўмешваўся – махнуў на тешчу рукой.

Яны накупілі кніжак, тэтрадак, усялякай канцэляршчыны, некалькі прыгожых строгіх касьцюмаў, і яна старана гатавалася, чытала, выпісвала ў вялікія блакноты даты і імёны, як ён ёй раіў.

Сёньня ўсё было, як заўсёды. Яны зайшлі на квартэру, забралі частку кніг, якія ёй былі патрэбныя, адзеньне, і шэраг іньшых рэчаў. Яна яшчэ хацела наведаць хлебную краму ў центры – дужа яе любіла. Яе вабіў стары інтэр’ер, лепніна на паталках, высокія вітрыны з тортамі і прыгожымі караваямі. Кожны раз яна рвалася туды, як на сьвята. Ды і хлеба такога смачнага сапраўды нідзе не купіш, як толькі там. Ён і сам любіў гэтае месца – прыгожае, настальгічнае. Успамінаў сябе юнаком, свае студэнцкія гады, калі заходзіў сюды зь сябрамі і, калі-некалі, зь дзяўчынамі. Толькі іх твары сьцерліся з памяці, ні воднага не засталося. Усё закрыла сабой яна.

Яна пацалавала яго, і выскачыла з машыны.

- Я хутка, толькі торцік куплю! – пачуў ён. – Торцік. Ён усьміхнуўся.

- Бяры ўжо два, адзін замарозім, для тваёй мамкі, - вымавіў ён. Яна кіўнула, узяла яго картку, і схавалася за дзьвярыма.

Ён дастаў цыгарэту, і закурыў у акно. - Якая ж прыгожая восень! – падумаў. Як у раі. Ізноў залатыя анёлы-дрэвы калышуць крыламі, ізноў вакол ціха і спакойна. Як жа добра жыць, калі цябе кахаюць, і калі кахаеш ты.

Ён задумліва зацягнуўся, і раптам апусьціў руку, угледваючыся. Па вуліцы бег натоўп. Яму здалося - не вялікі. Нейкія жанчыны, у белым. Некалькі старых кабет, некалькі маладых дзяўчат, падлеткі. За імі е’хала вялікая цёмная машына, зь якой раптам высыпалася група мужчынаў у цёмных шлемах і форменным адзеньні. Кабеты з крыкамі кінулі ў магазін, адкуль выходзілі зьдзіўленыя пакупацелі, якіх моц натоўпа штурхала назад, унутр. Усё адбылося хутка, і быццам бы ў нейкім жудасным сьне. Ён выскачыў з машыны, нават дзьверы не закрыў, і кінуўся . Яе твар ён пабачыў у натоўпе на ўваходзе, расштурхаў целы, і схапіў яе за руку. У другой руцэ яна крэпка трымала дзьве картонныя каробкі. Торцікі, у якія ўчапілася крэпка, ня вырваць. Яе твар быў белы, вочы вялікія. Рассоўваючы людзей плячом, ён прабіўся на крыльцо, і спусьціўся па ступеньках. Да машыны заставалася толькі некалькі метраў, як раптам адбылося нешта, чаго ніхто не чакаў. Жанчыны сталі ля ганку, шчапіўшыся рукамі, і пачалі крычэць. Адчайныя громкія крыкі запоўнілі паветра, быццам бы кабеты стаялі на краі растрэльнай ямы. Людзі ў форме нерашуча спыніліся, напалоханыя істошным жаночым лямантам, які ірваўся пад самае неба.

Нехта зь іх спрабаваў нешта жанчынам казаць, ды яны ня чулі. Чорнае цела машыны на дарозе выглядала пагрозным монстрам з іньшага, пякельнага сьвету. І пашча гэтага монстра была раскрытая, гатовая праглынуць першую недарэчную ахвяру. Нерашуча адзін з мужчынаў пацягнуў жанчыну за руку. Яна закрычэла яшчэ грамчэй. Чаму ён тады спыніўся? Ён ня ведаў. Можа, жаночыя крыкі, і гэтыя, у чорным, якія раптам нагадалі яму нешта страшное, з дзяцінства, што ён бачыў у кіно. Жанчыны ў белым і мужчыны ў чорным, нібыта закопчаным адзеньні. І чорнае жэрла печкі-душагубкі, раскрытае, прагнае,

глыбокае.

Напэўна, у яго тады спрацаваў нейкі інстынкт. Жанчына крычыць, просіць дапамогі. Яна прыціснулася да яго з жахам.

У вачах чалавека, гледзячага на яго праз вузкую прорэзь шлема, ён прачытаў:

- Сыходзь. Зразумеў, і рухануўся ў бок.

Раптам з-за сьпінаў натоўпу ў форме выскачыў чалавек – невысокі, таўставаты, ў чорнае не апрануты.

- Стой, куда! Всех, всех взять! Не отпускать никого! – пачуўся візглівы голас. Мужчына проста кінуўся яму пад ногі, напярэймы, і нечакана выхапіў з кабуры пісталет. Яго рука трэслася.

- Стой, стой, стреляць буду, кому я сказал! Руки вверх! Яго твар дзёргаўся, рукі дрыжэлі, але ж ён быў ахоплены нейкай вар’яцкай рашучасьцю. Па яго вачах ён зразумеў – гэты стрэліць. І нават і думаць ня будзе. Ён адпусьціў яе руку, і зрабіў крок у бок і наперад. Хутка, так, што той нават не пасьпеў і адрэагаваць. Рука з пісталетам апынулася ззаду, на сьпіне, чалавек нагнуўся, і вохнуў. Ён пачуў, як хрустнуў сустав. Пальцы расціснуліся, і пісталет быццам бы сам лёг з рукі, якая яго не магла болей трымаць, у яго далонь. Машынальна ён сунуў яго сабе за пояс, адштурхнуў чалавека ад сябе, падхваціў яе, і кінуўся да машыны. Тая стаяла збоч, прыкрытая дрэвамі, і на іх ніхто не зьвярнуў увагі.

Яны ўскочылі на сядзеньні, і ён ударыў па газам. Яна раптам сагнулася над каробкамі, і заплакала. Спачатку – ціха, а потым, так, як і жанчыны там, ля крамы. Громка і адчайна, у голас. Ён моўчкі гнаў машыну па дарозе, ня гледзячы па баках. Хутка горад апынуўся ззаду, і яны паехалі больш павольна. На павароце ён зьехаў у бок, і абняў яе. Яна доўга плакала, громка, наўзрыд, захлінаючыся сьлязамі. Ён суцяшаў яе, як мог. Праз некалькі хвілінаў яна супакоілася, і яны паехалі дамоў. Пісталет ён па дарозе кінуў у балота. Багна ляніва праглынула маленькую чорную рэч, нават і бурбалкі не пайшлі.

Дома яны выйшлі з машыны, стаялі, і глядзелі адно на аднаго.

- Трэба ехаць, сонейка. Зьбірай рэчы. Яго голас быў спакойны, як у мёртвага.

- Як? Куды? – прашаптала яна. – А мама? А інстытут?

- Усё будзе добра, анёлак мой. Але ж тут заставацца нельга. Ты ж бачыш, што я зрабіў. Мы, мяркую, ужо на ўсіх камерах. Але ж пакуль яны спахвацяцца, мы будзем далёка. Да Фёдара паедзем.

Яна кіўнула. Узяла дарожную сумку, паклала туды ноўтбук, пакідала рэчы, кароткую норкавую шубку, касьметыку. Ён таксама склаў руказак. Ды і што яму было трэба? Грошы на картке, ды яшчэ ён дастаў зь сейфу невялікі плотна набіты чамаданчык, злажыў у яшчык, і накрыў малюнкамі. Падумаў, можа ўзяць зброю? Але ж карабін пакінуў, толькі дастаў пнеўматычны пісталет. Праз якую гадзіну яны ўжо выехалі на трасу. Калёса лёгка несьлі іх, шапацелі па асфальту.

- Фёдар? Мы да цябе на госьці, - вымавіў ён, набіраючы нумар па Вацапу.

- Нечакана, ты прабач. Але ж так адбылося. Да раніцы будзем.

- Жду. Голас у тэлефоне адказаў суха, коратка. – Ты же знаешь, куда ехать? – запытаў.

- Так, канешне. Тэлефон адключыўся, прапала сувязь. Яна задрамала, седзячы побач – стамілася. Ён моўчкі гнаў машыну праз цемру. Гнаў і гнаў, ехаў і думаў. Як усё хутка адбылося – быццам бы гэта вырашаў ня ён. І яшчэ ён разумеў, што так будзе правільна, так трэба, і лепей для ўсіх, і для яго, і для яе. Нейкі іньшы лёс чакаў іх, той, які цяпер быў найбольш істотным. Той, што ляжаў, схаваны ад яго, наперадзе.

- Якая там наступная лекцыя намячаецца? Сімон Воўхв, - падумаў ён, каб адцягнуць увагу ад трывожных думак. Паступова яго галава пачала працаваць ясна і спакойна. Ён ужо накідаў у вуме амаль поўны канспект, калі наперадзе замаячылі вагні вялікага гораду.